# Маладосць

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(727) ЧЭРВЕНЬ, 2014**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА**



**6**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда» г. Мінск**

## У НУМАРЫ:





*Вясковы двор у Гродзенскай губерні, зняты Тэафілам Пыхам у 1915-м. І Вільня, Вострая брама, паштоўка 1905-га, рэдактар Д. Вісун. Беларусь XIX — пачатку XX стагоддзя была, як бачым, вясковым краем. Моцныя аграрныя карэнні мае не толькі традыцыйная сялянская, але і шляхецкая культура. Прыкладна ад такіх вось краявідаў выпраўлялася моладзь пакалення Яна Чачота, Антона Адынца і Эдварда Масальскага за навукай у Полацк ды Вільню.*

*Наша рубрыка «ГістфакТ» пачынае друкаваць успаміны філарэта Эдварда Тамаша Масальскага ў перакладзе гісторыка Сяргея Шыдлоўскага, што, між іншым, досыць сімвалічна: першы — вучыўся ў Полацкай езуіцкай акадэміі, другі — выкладае ў Полацкім дзяржаўным універсітэце. Дзякуем спадару Шыдлоўскаму за прадастаўленыя фотаздымкі.*

# Час адчыняць жалюзі

**«Каждый охотник желает знать, где сидит фазан» — гэта, канешне, гучыць файна, але не па-нашаму. Так мы напісалі ў сакавіцкім нумары ў тэксце зноскі, што суправаджае апавяданне Кацярыны Захарэвіч «Вясёлка ў цемры». А як па-нашаму? Звяртаемся да сяброў «Маладосці» з прапановай стварыць беларускамоўны адпаведнік знакамітай запаміналцы — і атрымліваем стос лістоў.**



**Ч, А, Ж, З, Б, С, Ф** — чырвоны, аранжавы, жоўты, зялёны…
Вось што атрымалася назбіраць.

*Чапля Агапка з'ела жабку, балерон — селянін Філімон (буслік Сымон — феналгон)* — без імя аўтара.

*Чарадзей апрануў жупан з зіхоткімі, бліскучымі, сакавітымі фалдамі* — **даслала Вольга ГРАДЗІНАР.**

*Чаму адзінокія жанчыны заўсёды бываюць самыя файныя?* — **прыдумала Амбіка СІНГХ.**

*Частаваўся апельсінам жыраф з Баку. Сказаў: «Фу!»* — **ідэя Сяргея САМАХВАЛА.**

*Чэмпіёны ажыццявілі жаданае: залаты біятлон, супер-фрыстайл* — **прапанавала пад уплывам алімпіяды Наталля БЕЛАЗЁРАВА (якая пажадала назвацца НЯСВІЖСКАЙ).**

**Вось што даслаў Аляксандр АДАМАЎ:**
*Чатыры аднакаляровыя жукі збіралі бэз сваім фрау.*
*Чараўнік, адданы жарту, зорцы бліскучай сказаў «фырк».*

**Варыянты Светы ГРЫШКЕВІЧ:**
*Чароўная арфа жалобна звінела, балюча спявала фальклор.*
*Чытала аўтара жыццё закаханая балерына, спісваючы факты.*
*Чагосьці аднойчы жабрак засмуціўся, бо стаў фанабэрыстым.*
*Човен агінаў жывапісную завадзь, багатую сваёй фаўнай.*
*Чалавек ажаніўся — жыццё задалося: багаты стаў франт.*

**Кірыл АЗІМКА з Брэста:**
*Чалавек ахвяраваў жыццём за Беларусь сваю файную.*

**Таццяна ПРАТАСЕВІЧ:**
*Чытаю акварэлі журавінавыя, задажджовых берагоў спелыя фарбы.*
*Чырвоныя ажыны жменямі збіраю, баючыся сапсаваць фізіяномію.*



*Часам ахвярамі жартаўнікоў з'яўляюцца бязмежна сытыя фігуры.*
*Часта арбіта жабянят знаходзіць Беларусь самай файнай.*
*Чаму акварыум жыцця збірае боль сваіх фанатаў?*
*Чарнобыль. Адчужэння жудасная зона. Баліць сэрца фантомна.*
*Чарговае азарэнне: жыве Зямля, Богам створаная фіктыўна.*
*Чакае астролаг жаданага зарападу. Будзе сёння фартуна.*
*Чарговы алхімік жадае золата. Банк сцеражэ фінансы.*
*Час адлятае журботнай зязюляй, болем салодкім, фальшывым.*
*Чарапкі ад жыцця засталіся. Будзем ствараць філасофію.*
*Час адчыняць жалюзі. Зараз будзе сонца фінішаваць.*



**Таня ДЗЯНІСКАВЕЦ:**
*Чалавек адзінокі жадае знайсці, безумоўна, сяброў фотаздымак.*

**Васіль МЯЛЕШКА:**
*Чым аслу жаніцца, здаў бы спачатку фізмат.*
*Чалавек аслеплены жмурыцца, злуецца, брывамі сціскае фіранку.*
*Чым аздабляць жывапіс знакамі, больш спрабуй фактурай.*
*Чытаючы, аздобіш жыццё значна больш сапраўднай формай.*

***Па вялікім рахунку, «Каждый охотник…» — таксама лухта. Але ж прыжылося. Цікава, што б з прапанаванага тут укаранілі ў нашу свядомасць асабіста вы?***

• • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • •

Патухаюць, цямнеюць высі!
Зоркі ўспыхваюць над сінявой.
Да пляча майго прыхініся
Залатою сваёй галавой.

Чуеш вецер і чуеш вечар?
Чуеш, ціха шапоча сад?
На твае худзенькія плечы
Асыпае звон зорапад.

Гэта я з табою вечарую,
Туманам неба я чарую,
Васільковай шапатлівай мовай
Зачароўваю, зачароўваю,
Роснай сцежкаю, рачной ціхаю
Закалыхваю, закалыхваю...

І ад рук пяшчотных, нясмелых
Не схаваешся ты нідзе.
Потым белая яблыкам спелым
На далоні тваёй ўпадзе.

Ты шапнеш мне адвечныя словы,
Што шапнуў табе ўчора я,
Вечаровая,
Зачараваная,
Закалыханая
Мая.

Генадзь Бураўкін

Патухаюць, цямнеюць высі. Зоркі ўспыхваюць над сінявой…
*Генадзь Бураўкін. Самы летні, самы ўзнёслы, самы рамантычны верш.*

# Такія розныя «але». Методыка і маркетынг: акалічнасці (не)спалучэнняў

***Калі цябе, чытач, цікавяць дасягненні айчыннай навукі (у прыватнасці, медыцыны і хіміі), заставайся на гэтай старонцы. А не — то ёсць тут шмат іншых цікавых рэчаў.***

— Костка, як вядома, складаецца з арганічнай і неарганічнай частак. Калі мы выкінем з яе арганіку, застанецца неарганіка. Па сутнасці — гідраксіапатыт. Яго мы і атрымліваем у сваёй лабараторыі. Сінтэтычным шляхам. У выглядзе гелю.

Старэйшы навуковы супрацоўнік лабараторыі фота- і электрахіміі Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі НАН Беларусі Валянціна Круцько дэманструе прабірку з бялявым паўвадкім рэчывам.

— Дзякуючы адмысловай методыцы атрымання гідраксіапатыту ў водным растворы, выкарыстанне гэтага рэчыва ў лячэбных мэтах не выклікае ніякіх пабочных рэакцый генетычнага кшталту.

Маецца на ўвазе, што не трэба чакаць непрыняцця прэпарата чалавечым арганізмам — гэта не адбываецца таму, што методыка адпрацавана супрацоўнікамі лабараторыі да такой ступені, што вынікам яе зрабілася найчысцейшае рэчыва.

— Гэта рэчыва ўжо ў шпрыцах, у стэрыльным стане (выпускаецца на заводзе РУП «Белмедпрэпараты»), і можна ўносіць яго наўпрост у месца пералому косці. Даклінічныя выпрабаванні прадэманстравалі эфектыўнасць нашага прадукту ў лячэнні асабліва складаных пераломаў, якія дагэтуль не зрасталіся.

**— А які прынцып дзеяння гелю? Ён пасля палімерызуецца, каб замяніць сабой косную тканку?**



*Вольга Муская і Валянціна Круцько.*

— Не, хутчэй наадварот, — цярпліва тлумачыць Валянціна Круцько, — гель разыходзіцца на іоны кальцыя і фасфат-іоны. Клеткі коснай тканкі — астэабласты і астэакласты — выкарыстоўваюць гэтыя іоны як будаўнічы матэрыял, і тканка ўзнаўляецца, пашкоджаныя паверхні прыжыўляюцца адна да адной. Прычым, даследаванні паказалі, што косная тканка ў дадзеным выпадку — пры выкарыстанні геля — расце ў тым кірунку, які ўласцівы яе прыродзе.

Ён, іншымі словамі, остэарэдуктыўны і остэакандуктыўны. Акрамя геля можна

выкарыстоўваць і парашок ліафільнай сушкі (гэта калі рэчыва, якое трэба высушыць — ператварыць з вадкага стану ў парашок, — спачатку замарожваюць, а пасля пазбаўляюць растваральніка ва ўмовах вакуума). Ён таксама біяактыўны, але ж…

— Парашок, які не прайшоў высокатэмпературную апрацоўку, таксама можна ўносіць у косны дэфект і ён, даказана, паслужыць будматэрыялам, але рост тканкі не будзе адбывацца ў натуральным, прыродна «правільным» кірунку, як у выпадку з гелем. Калі ж мы гэты парашок апрацуем тэрмічна (каля 800—1000 ºС), ён зробіцца біясумяшчальным, але адначасова і біяінертным. То бок, нейкая частка яго будзе захопліваецца клеткамі, але ён усё ж пры гэтым застанецца ў арганізме, калі можна так сказаць, без справы. Мы, такім чынам, як бачыце, атрымліваем наша рэчыва ў самых розных формах.

Пра розныя формы гэтага рэчыва мы яшчэ пагаворым. Пакуль жа хочацца задаць пытанне наконт эксклюзіўнасці ідэі.

Справа ў тым, што сёння рэальны вынік прароблена́й працы — заяўка на конкурс БРСМ «100 ідэй для Беларусі». Трэба ўдакладніць: не выкарыстанне прадукцыі згаданай лабараторыі траўматалагічнымі аддзяленнямі клінік краіны, вядучых і шараговых, не спіс прапаноў па супрацоўніцтве ад фармацэўтычных кампаній, нашых ці замежных, не разгляданне ідэі і яе вынікаў Нобелеўскім камітэтам, а ўсяго толькі заяўка на конкурс БРСМ «100 ідэй для Беларусі», хоць і падведзеная пад вельмі сур'ёзную назву — «Нанакампазіцыйныя матэрыялы на аснове біяактыўных ксерагеляў фасфатаў кальцыя». Заяўка зроблена Вольгай Мускай, другім навуковым супрацоўнікам згаданай лабараторыі, самым, бадай, маладым у камандзе, у склад якой уваходзіць яшчэ вядучы навуковы супрацоўнік Ларыса Лесніковіч, і якой у якасці загадчыка лабараторыі кіруе доктар хімічных навук Анатоль Кулак.

Можа быць, нешта не так у эксклюзіўнасці ідэі? Зададзім і такое пытанне.

**— А як даўно распрацавана методыка атрымання біяактыўных ксерагеляў фасфатаў кальцыя і наколькі яна наша, айчынная?**

— Мы пачыналі ўводзіць гэту методыку ў 1999-м, — гучыць у адказ. — І гэта цалкам беларуская ідэя, гэта менавіта наша вынаходніцтва. У нашай лабараторыі на гэты сінтэз ёсць адразу некалькі патэнтаў. Менавіта мы працавалі ў кірунку атрымання аднафазнага прадукту. Бо ўвогуле методык атрымання гідраксіапатытаў існуе процьма — цвёрдафазных, вадкафазных… Ёсць гідратэрмальныя метады… Але пры іх выкарыстанні ўтвараюцца розныя пабочныя прадукты вытворчасці. Яны таксама патрэбны — і такія прадукты, і такія методыкі, але мы дзякуючы сваёй тэхналогіі атрымліваем аднафазны прадукт — 100 %-ны гідраксіапатыт без усялякіх прымешкаў. І на «Медпрэпаратах» мы яго, між іншым, укаранялі. Першая партыя была выпушчана ў 2006 годзе.

Што гэта павінна азначаць? Што з той пары гель выкарыстоўваецца ў звычайнай медыцынскай практыцы. Павінна. Але…

— Ён выкарыстоўваецца, але не вельмі актыўна. Выпусцілі з таго часу тры партыі.

**— Выходзіць, не так часта гэта рэчыва патрэбна ў практыцы медыцыны ці…**

— Разумееце, гэта не той прэпарат, які купляецца ў аптэцы простымі наведвальнікамі, як гематаген ці вітаміны, — уключаецца ў размову Ларыса Лесніковіч. — Гэта тое, што патрэбна выключна ў клінічных умовах. Па-першае. А другая праблема: яно патрэбна часта. Але нашы клінікі маюць спіс прэпаратаў, «рэкамендаваных да выкарыстання». Гэта тое, што, скажам так, раскручана, тое, на што існуюць дамоўленасці аб пастаўках. Вось гэта і закупляецца. А наш прэпарат тым часам ігнаруецца — застаецца без справы. Амаль без справы. Медыкі, якія з намі супрацоўнічаюць, вынікамі вельмі задаволены, але для таго, каб яны карысталіся нашым гелем, мы выкупляем яго ў завода. Вось такая схема раскруткі.

**— Значыць, нашы медыцынскія чыноўнікі не звярнулі належнай увагі на ваш прэпарат. То бок, няма рэкламы. Так трэба разумець?**

— «Медпрэпараты» таксама тлумачаць сітуацыю тым, што мала рэкламы, але ў іх няма на гэту рэкламу рэсурсаў. Няма такога

фінансавання, каб мець магчымасць наша дасягненне прасоўваць.

Час вярнуцца да размовы пра розныя формы. Акрамя гелю ў шпрыцах, якому не хапае рэкламы, распрацаваны іншыя варыянты выкарыстання атрыманага рэчыва.

— Мы маем яшчэ і афтальмалагічныя імплантаты, — працягвае дзяліцца дасягнутым Валянціна Круцько. — Порыстыя матрыцы з алюмааксіднай пеннай керамікі, прапітанай нашым гелем, — выдатная аснова для стварэння пратэза вока. Афтальмолагі 10-й Мінскай клінікі спрабавалі іх выкарыстоўваць. Вынік — не проста вельмі хуткае прыжыўленне за кошт слоя гідраксіапатыту, але дае магчымасць пратэзу рухацца. Калі потым у Расіі на нашы пратэзы ставілі каронкі – імітацыі лінз, то вельмі здзіўляліся: дзе ўзялі, маўляў, дзе зрабілі аперацыю?

І гэта распрацоўка засталася на ўзроўні распрацоўкі.

— Мы так і не ўкаранілі гэтыя імплантаты вока з нашым біяактыўным пакрыццём. Так ніхто іх і не выпускае.

**— Прычына — тая ж?**

— Тут з’яўляюцца іншыя пытанні. Порыстыя матрыцы атрымлівае Інстытут парашковай металургіі, біяктыўнае пакрыццё наносіцца намі ва ўмовах лабараторыі, далей матэрыял трэба аддаваць некаму на стэрылізацыю і толькі пасля накіроўваць да медыкаў. Хто возьмецца ад пачатку да канца самастойна правесці ўсе этапы? Хто ўлічыць арганізацыйныя пытанні і чалавечы фактар?

Вось і атрымліваецца, што хоць пацыенты і былі б шчаслівыя, але не знайшлося нікога, каму было б цікава ажыццяўляць прапанаванае нашымі навукоўцамі дзеля іх, пацыентаў, шчасця. Выпуск так і не наладжаны.

**— Вам трэба хіба што адкрываць уласную вытворчасць поўнага цыкла.**

— Каб адкрыць у нас лабараторыю медыцынскага назначэння, нават такую маленькую, як гэты пакой, а нам хапіла б гэтай плошчы, трэба не проста абсталяваць яе, а каб абсталяванне адпавядала стандартам вытворчасці медыцынскіх вырабаў, на што ў нашага інстытута сродкаў няма. Хто іх прадаставіць? Трэба чакаць нейкай эканоміі. Але самая вялікая праблема не ў абсталяванні, а ў сертыфіцыраванні і адпавяданні ГОСТам. Ведаеце, нават пачатак з нуля любой звычайнай вытворчасці — гэта цалкам іншая, нашмат лягчэйшая справа, чым давядзенне да толку працэсаў, распачатых намі.

Не, яны дакладна нейкія незвычайныя. Толькі што гаварылі аб праблемах — і ўжо зноў гараць вочы натхненнем на новыя праблемы! Неўміручасць іх настроенасці на свежыя выбітныя ідэі прываблівае, натхняе і захапляе. Шкада толькі, што (па задуме Стваральніка, не іначай) здольнасці вынаходнікаў і маркетолагаў (тэарэтыкаў і практыкаў, лірыкаў і фізікаў) не спалучаюцца ў адных і тых жа людзях.

— А яшчэ ў нас новая, апошняя распрацоўка вельмі цікавая! — кажуць апантаныя навукоўцы ледзь не наперабой. — Датычыцца краніяпластыкі. Ёсць такое навукова-практычнае аб’яднанне — «Медбіятэх», яны выпускаюць тытанавыя пласціны для закрыцця вялікіх прагалін у чэрапе і іншых месцах пашкоджання коснай тканкі. Было цікава супрацоўнічаць з імі і Інстытутам неўралогіі і нейрахірургіі. Наш гель змешвалі з парашком і атрымлівалі пластычную цэментную масу, якая наносілася пасля на тытанавую пласціну-імплантат з тым, каб арганізм мог выкарыстоўваць яе як будматэрыял і каб пласціна магла лягчэй прыжыўляцца. І ўсё сапраўды вельмі хутка зажыўлялася! Але вынік…

Удакладнім: такі самы, як і з афтальмалагічнымі імплантамі.

* * *

— А мы ж яшчэ распрацоўваем цікавую ідэю для пластыкі носа. Задзейнічаем у распрацоўцы той самы гідраксіапатыт і дадаткова — вадкасці арганізма чалавека. Дарэчы, атрымаць косць — самая цікавая на сёння задача. Замежныя навукоўцы задзейнічаюць тут самыя розныя складнікі — арганічныя або палімерныя, ферметны ці фактары росту. Але ніхто ў свеце яшчэ не атрымаў косць. Нам можна працаваць і працаваць…

***Гутарыла Святлана ДЗЯНІСАВА***

# Скаўтынг. Сур'ёзная гульня

***Я даўно сябрую са скаўтамі. Нават калісьці сама ледзь не стала скаўткай. Выношу на ўсенароднае чытанне сваю размову з васямнаццацігадовым скаўтам Яўгенам Мельнікам, што адбылася ў адной утульнай мінскай кавярні, — з надзеяй, што вы таксама захочаце з імі пасябраваць.***

Спачатку лікбез: што такое скаўтынг? Вы бачылі скаўтаў у амерыканскіх фільмах і мульціках — хлопчыкаў і дзяўчынак у адмысловай форме, якія ходзяць па хатах і прапануюць купіць пячэнне. Наша ж гісторыя зусім іншая. Скаўтынг — справа вельмі сур'ёзная. Гэта адначасова гульня і методыка выхавання. У аснове ляжаць пэўныя правілы, якія забяспечваюць удзельнікам скаўцкага руху няспыннае духоўнае і фізічнае развіццё. Адным з такіх правіл з'яўляюцца перыядычныя выезды на прыроду, падчас якіх аддаленыя ад цывілізацыйных выгод скаўты павінны ўласнаручна арганізаваць



свой побыт. Іншымі словамі, скаўт — гэта такі ўзброены сякерай чалавек, які, у ідэале, здолее зрабіць усё з нічога.

Каштоўнасны фундамент скаўтаў, пра якіх я збіраюся вам распавесці, — хрысціянства. Скаўцкія суполкі існуюць пры каталіцкіх парафіях, а таму ўсе падобныя да Яўгена скаўты — практыкуючыя вернікі. За больш канкрэтнай інфармацыяй звернемся да самога Яўгена.

**— Раскажы, што такое скаўтынг. Паводле якіх прынцыпаў ён арганізаваны?**

— Скаўтынг — гэта рух пры касцёле, які выхоўвае ў маладым недасведчаным хлопчыку мужчыну. У аснове скаўтынгу педагогіка Федэрацыі скаўтаў Еўропы. Ёсць пяць асноўных прынцыпаў скаўтынгу. Першы — гэта Бог: духоўнае развіццё чалавека. Другі — тэхніка: мы займаемся развіццём практычных уменняў, тэхнічнай падрыхтоўкай (вучымся вязаць вузлы, выжываць у прыродзе). Трэцяе — характар: мы выхоўваем чалавека адказнага, ініцыятыўнага, жыццярадаснага, які любіць працаваць. Чацвёрты — здароўе і фізічнае развіццё. Пяты — служэнне бліжняму: кожны дзень скаўт мусіць дапамагаць людзям вакол.

Беларускі скаўт-хлопец праходзіць тры асноўныя этапы: спачатку ён належыць да ваўчанят, потым да скаўтаў і ўрэшце становіцца вандроўнікам. Ваўчаняты не дзеляцца на суполкі і жывуць так званай «зграяй». Гэты этап грунтуецца на «Кнізе Джунгляў» Кіплінга. У ваўчанят ёсць кіраўнік — Акела. Методыка навучання ваўчанят і скаўтаў грунтуецца на гульні. Усё павінна спасцігацца ў гульні, нават у выпадку пакаранняў за правіны. Другі этап — скаўты (13—17 год). Скаўты ўжо больш самастойныя: яны дзе-

ляцца на невялікія суполкі і самі арганізуюць сваё жыццё. Трэці этап — вандроўнікі (ад 18 год і да канца жыцця), якія спасцігаюць свет у вандроўцы. Спачатку за кожным маладым вандроўнікам замацоўваецца чалавек, які займаецца яго развіццём на працягу года. Пасля вандроўнік робіцца самастойным і павінен самаразвівацца. Ён павінен прымаць нейкае служэнне на тры гады. Напрыклад, я цяпер выконваю служэнне звязовага.

**— І чым жа займаецца звязовы?**

— Звязовы — гэта кіраўнік скаўтаў (тых, што знаходзяцца на 2 этапе) нейкага канкрэтнага звяза. Звяз — гэта аб'яднанне некалькіх коп'яў, якія, як правіла, знаходзяцца ў адным горадзе ці пры адным прыходзе. Я кіраўнік усіх скаўтаў горада Барысава.

**— Як ты даведаўся пра скаўтынг?**

— Вельмі проста. Я хадзіў у касцёл, а мой стрыечны брат быў намеснікам звязовага ў Барысаве. Мама пачула пра гэта і «загнала» мяне туды. Я не хацеў, упіраўся рукамі і нагамі. Але мама хацела, каб я меней сядзеў у камп'ютары, неяк фізічна развіваўся.

**— Не шкадуеш?**

— Не, не шкадую. Я не забіў сем год свайго жыцця.

**— Скаўтынг для цябе гульня ці штосьці большае? Прынцыпы, пакладзеныя ў аснову скаўтынгу, гучаць пераканаўча, але ці працуюць яны на практыцы? Ці верыш ты ў рэалізацыю высокіх скаўцкіх ідэалаў?**

— У наш час складана ў нешта верыць. Але я веру, што скаўтынг — не проста гульня.

**— Што даў табе скаўтынг, акрамя таго, што табе было весела?**

— Перадусім я шмат чаму навучыўся. Напрыклад, жыццю ў супольнасці, сяброўству. Праз скаўтынг я займеў сапраўды шмат сяброў. Цяпер я маю да каго папрасіцца пераначаваць у Мінску. Адказнасці. Асабліва ёй вучышся падчас жыцця ў кап'і. Напрыклад, у кап'і шэсць чалавек, і кожны за нешта адказвае. Уявім, што кап'ё некуды выязджае, а чалавек, адказны за каструлю і сякеру, не





паехаў. Атрымліваецца, церпіць усё кап'ё: як яны будуць есці без сякеры і каструлі? Адзін нехта не паехаў — стрэс для ўсяго кап'я, якому прыходзіцца неяк выкручвацца. Кап'ё — адзінае цэлае, дзе кожны чалавек незаменны. Да таго ж яно павінна быць рознаўзроставым, каб старэйшыя вучылі малодшых, а малодшыя — старэйшых. Праз скаўтынг я навучыўся быць пунктуальным. Таксама я цяпер больш востра адчуваю сваю віну.

**— Што для цябе самае цяжкае ў скаўтынгу?**

— Як звязоваму, мне складана прыцягнуць новых скаўтаў. Раней іх было куды больш. Вельмі цяжка сучаснага дзіцёнка зацягнуць у лес невядома навошта, адарваўшы ад любімай камп'ютарнай гульні. Вялікую ролю адыгрываюць таксама бацькі. Яны мусяць удзельнічаць у скаўцкім жыцці свайго дзіцяці, у яго развіцці, павінны





яго падштурхоўваць. Бо часам здараецца, што скаўта «заклініць», і ён хоча адысці ад руху. Ці мала: пераходны ўзрост, дзяўчаты… А бацькі павінны цікавіцца сваім скаўтам, яго поспехамі, заняткамі. Тады ён адкрываецца і заахвочваецца.

**— Ці скаўтынг змяняе людзей?**

— Часта праз скаўтынг людзі прыходзяць да веры, становяцца актыўнымі практыкуючымі католікамі. Сустракаюць на скаўцкім шляху Бога.

**— Распавядзі, калі ласка, колькі паказальных гісторый са свайго досведу. Штонебудзь натхняльнае ці смешнае...**

— Успамінаюцца найперш не асабліва гераічныя гісторыі пра тое, як нявопытныя скаўты наядуцца чагосьці не таго ці нап'юцца вады з рэчкі, а потым усім кап'ём у кустах сядзяць… Распавяду пра тое, як скаўтынг вучыць суроваму жыццю і пазбаўляе залішняй пераборлівасці. Ёсць у нас адзін хлопец, які, калі перайшоў з ваўчанят у скаўты, еў толькі гарачае. А на летніку ж мы супы ды кашы зазвычай непадагрэтымі ямо. Спачатку на сваім першым у жыцці летніку гэты хлопец ныў: «Не хачу халоднае, пагрэйце». А пад канец летніка еў усё: і халоднае, і сырое, і з пяском… І ўсё мала было.

**— Як і навошта вы праводзіце летнікі?**

— Скаўцкі год разбіты на чатыры этапы, адпаведныя порам года. Падчас кожнага этапу мы вучымся нечаму канкрэтнаму, а ў канцы адбываецца выезд у лес. А летнік — гэта падвядзенне вынікаў цэлага года. Падчас яго яшчэ раз рэалізуецца ўсё, чаму мы навучыліся за год. Напрыклад, на першым этапе мы вучыліся пэўны вузел вязаць, на другім — стол майстраваць, на трэцім — спяваць, на чацвёртым — сцэнкі паказваць. А на летніку, які заўсёды праходзіць у лесе, мы дэманструем усе набытыя ўменні.

**— Ці трымаеце сувязь з іншымі еўрапейскімі скаўтамі?**

— Так. Раз на дзесяць год праходзіць так званы Еўраджэм, які збірае ўсю федэрацыю скаўтаў Еўропы. У Еўропе сёння больш за 15 тысяч скаўтаў, і калі яны збіраюцца разам на шыхтаванні (скаўцкім пастраенні), то выглядае гэта вельмі эфектна.

**— Каталіцкія скаўты ёсць толькі ў Еўропе?**

— У асноўным гэта Еўропа, але адзін беларус заснаваў скаўцкі звяз у Канадзе. А адзін швед, натхніўшыся беларускім вопытам, разгарнуў скаўцкую дзейнасць на сваёй радзіме.

**— Ты зможаш застацца скаўтам да канца жыцця?**

— Так, я збіраюся заставацца актыўным вандроўнікам, мне гэта няцяжка. Мы спасцігаем усё праз шлях: выпраўляемся ў вандроўкі, падчас якіх праходзім пешкі

даволі доўгія дыстанцыі. Рэчы нясём з сабой і бяром толькі тое, што патрэбна. У прынцыпе, гэта ежа і палатка. Ідучы, мы разглядаем прыгожыя месцы, вучымся ў дарозе перадольваць боль і страх. Мы ідзём групамі — коламі. Кола — сукупнасць вандроўнікаў аднаго горада. Адметнасць скаўта ў тым, што ён павінен зрабіць тое, што яму скажа кап'явы, а вандроўнік павінен сам прапанаваць і сам зрабіць, добраахвотна. Мэта вандроўкі — адкрыць для сябе і пра сябе нешта новае. Напрыклад, ты думаў, што ты невынослівы і не зможаш прайсці 15 км. А ў вандроўцы адкрываеш, што гэта дробязь. У вандроўцы ты пра нешта просіш у Бога. Апошняя наша вандроўка — шлях з Солаў у Гудагай. Там чароўныя мясціны.

**— Ці ёсць сярод вас дарослыя вандроўнікі?**

— Так, ёсць старэйшыя. Нават ёсць вандроўнік, чый сын таксама ўжо вандроўнік.

**— Якія краіны найбольш актыўныя ў плане скаўтынгу?**

— Францыя, Польшча, Германія. Ёсць скаўты ў Італіі.

**— У Беларусі якія асяродкі скаўтынгу найбуйнейшыя?**

— Барысаў, Івянец, Гродна, Гомель — асноўныя. Ёсць скаўты ў Мінску, Віцебску, Лынтупах, Паставах...

**— Ці ёсць у вас нейкія адмысловыя традыцыі?**

— У барысаўскіх скаўтаў ёсць традыцыя, якая толькі зарадзілася. Мы вырашылі, што кожную першую нядзелю чэрвеня ўсе збіраемся ў лесе: вандроўнікі, скаўты, ваўчаняты і бацькі — і весела бавім час.

**— Раскажы пра вашыя адмысловыя атрыбуты.**

— Існуе скаўцкі сцяг, які называецца басан. Ён падзелены на дзве часткі, чорную і белую. У сярэдзіне знаходзіцца крыж, галоўны сімвал хрысціянства, а ў крыжы — лілея, скаўцкі сімвал. Белая частка сцяга дзесьці на сантыметр большая, чым чорная. Гэта сімвал таго, што дабро заўсёды перамагае зло. Гэта складана заўважыць, але так ёсць.



Апранаемся мы ў простую, але стыльную скаўцкую форму. Яна складаецца з кашулі — бежавай для ваўчанят і вандроўнікаў і сіняй для скаўтаў, — гальштука, берэта. Гальштук патрэбны не проста для прыгажосці. Гэта адметны знак — кожны звяз мае свой колер гальштука. Таксама гальштук з'яўляецца ўніверсальным інструментам, яго можна выкарыстоўваць у сцэнках, напрыклад. Французскія скаўты выкарыстоўваюць свой берэт, калі здымаюць гарачую катрулю з агню. Таму ён у іх часта прапалены, але яны яго носяць і гэта лічыцца нармальным. А мы такім жа чынам выкарыстоўваем гальштук. А кашуля — гэта твар скаўта: яна павінна быць ідэальна выпрасаванай і чыстай. У нас заўсёды расшпілены верхні гузік. Гэта паказвае нашу адкрытасць да іншых людзей. Закасаныя рукавы — знак таго, што мы заўсёды гатовыя для працы. Нам таксама нельга трымаць рукі ў кішэнях — нельга гультайнічаць.

**— З якімі праблемамі сутыкаюцца беларускія скаўты?**

— Не скажу нічога новага: з фінансавымі. Таму мы заклікаем рабіць інвестыцыі ў наш рух. Грошы не прападуць дарэмна! А насамрэч скаўт праблем не баіцца, асабліва калі ўспрымаць іх як частку скаўцкай гульні. І давяраць Богу.

*Гутарыла Тамара САРАЧЫНСКАЯ*

# Іншаземка



***Мы стаміліся ад холаду, ці не так? Холаду доўгай беларускай зімы, холаду адносін, пачуццяў, грамадскіх праблем... Ад холаду стамілася мова, якую мы ніяк не можам адагрэць. І раптам на дапамогу нясмеламу беларускаму чэрвеньскаму сонцу прыходзіць дзейснае сонца Іспаніі...***

***Шмат хто ўжо чуў пра неверагодную Ангелу Эспінозу — іспанку, якая піша па-беларуску. Калі вы чуеце гэтае імя ўпершыню, то наперадзе ў вас надзвычай прыемнае знаёмства. У любым выпадку, чытайце і грэйцеся. Ангела адказала на некалькі нашых пытанняў і падзялілася сваімі самымі новымі беларускамоўнымі вершамі, спецыяльна для «Маладосці» напісанымі.***

**— Распавядзіце пра сябе. Што беларусам цікава было б ведаць пра Ангелу Эспінозу?**

— Думаю, ужо шмат ведаюць! Мама заўсёды мне казала, што я магу стаць тым, кім хачу. І я стала беларускамоўнай пісьменніцай. Я пішу артыкулы, вершы, казкі, нават раман рыхтую. Жыву пакуль у Гранадзе (я там вучуся на філолага), а нарадзілася ў Малазе. Люблю спяваць ды граць на піяніна, чытаць, шпацыраваць, падарожнічаць і вывучаць розныя мовы і культуры. Цікаўлюся міжнароднымі адносінамі ды сацыяльнай дзейнасцю.

**— Адкуль узялася цікавасць да Беларусі і беларускай мовы?**

— Гэта доўгая гісторыя. Я атрымала стыпендыю з ЗША. Там былі маладыя людзі з Еўропы, Еўразіі і Амерыкі. Там я першы раз сустрэла студэнтаў з Беларусі. Мае беларускія сябры паступова пазнаёмілі мяне з культурай сваёй краіны — музыкай, літаратурай. Я зацікавілася беларускай мовай і пачала вывучаць яе.

**— Ці можаце вылучыць 5 рэчаў, якімі, на вашую думку, прыцягальная Беларусь?**

— Толькі 5? Літаратура, музыка (асабліва рок), прырода, людзі і... мова, вядома!

**— Якое месца ў Беларусі вы б наведалі ў першую чаргу?**

— Напэўна, Мінск, бо там жыве шмат маіх сяброў ды знаёмых. Усё ж такі я хацела б зрабіць поўны тур па вашай краіне!

**— Вы ведаеце шмат моў. Як бы ахарактарызывалі беларускую? Якая яна ў параўнанні з іншымі? Якія пачуцці і асацыяцыі выклікае асабіста ў вас?**

— Беларуская мова — меладычная, прыгожая ды багатая. Граматыка цяжкая, але вельмі цікавая. Яна ў мяне выклікае вельмі добрыя ўспаміны ды асацыяцыі. Гэта для мяне мова паэзіі і сяброў... Вельмі люблю размаўляць па-беларуску!

**— Падзяліцеся, калі ласка, сакрэтам, як вы так дасканала вывучылі нашу мову. Гэта будзе карысна многім сучасным беларусам, што баяцца пераадолець сваё няведанне роднай мовы.**

— На жаль, сакрэтаў няма. Трэба проста вельмі цікавіцца культурай, жыць «у мове». Слухаць беларускамоўную музыку, чытаць кнігі (паэзія вельмі дапамагае), глядзець ТБ... І самае важнае — камунікацыя. Трэба пастаянна размаўляць па-беларуску, нават калі не ведаеш мову дасканала. Асабліва калі не ведаеш мову дасканала! Майце на ўвазе, што тут, у Іспаніі, заўсёды будзе менш практыкі, чым у вас. А я навучылася размаўляць, думаю, нават няблага.

P. S. Мы наўмысна амаль не папраўлялі напісанае Ангелай. Каб вы здзівіліся, наколькі «няблага» яна ведае беларускую мову.

P. P. S. Каб болей даведацца пра Ангелу, Іншаземку, якая піша па-беларуску, чытайце яе блог у інтэрнэце.

*Ангела ЭСПІНОЗА*

## УВЕРЦЮРА

Твае вочы — чорныя, як камяні доўгага ды звілістага шляху,
Праніклівыя, як апошні патрон паміраючага партызана.
Твая скура — загарэлая, як пясок далёкага пляжа,
Чыю назву я ўжо не памятаю і не хачу памятаць.
Светлая ды нявінная, як поле сланечнікаў, мая паненка,
Твае грудзі — мілыя, як пагоркі травы,
Твой голас — вячэрняя летняя песня салаўя.
Твой жывот — залатое поле пшаніцы
З каранямі ў цэнтры Зямлі.
Твой розум — адказ на мае пытанні.
Тваё сэрца з расталага лёду
Усталёўвае рытм маіх крокаў.
Твае ногі — крылы маіх мараў.
Твае мяккія рукі і мае, грубыя ды шурпатыя,
Створаць новы свет.

Гэта ён мне сказаў, мяне абдымаючы,
А цяпер, перад маім адлюстраваннем у халодным люстэрку,
Жадаю, каб, толькі на імгненне,
Казаў бы пра мяне,
Пра сваю каханую.

## РАМАНС БЕЗ СЛОЎ

Ты прыйшоў да мяне ў гасцёўню
У гэтую дажджлівую ноч
(Першую ноч восені).

Я ніколі не забуду ні святло ў тваіх вачах,
Ні цень у тваім паглядзе.

Я глядзела на цябе, як на Бога,
Зашмат кранутая табой, каб загаварыць.
А ты, напэўна, не хацеў заплакаць.
Мужыкі такія.

Ты абняў мяне, моцна і пяшчотна,
Платанічна і сексуальна,
У цішыні.

А ліст з маімі нязграбнымі словамі
Ляжаў на тваім ложку.

**НАВОШТА Я ТАК?**

Дзясятага верасня. Чакаю яго, усё ж такі.
Вяселле сястры заўтра.
А я набыла такую прыгожую сукенку.
Яго няма.

Каляды. Ён патэлэфанаваў.
Сказаў, што сумуе.
І я таксама. Шкада,
Яго няма.

Дваццатага ліпеня. Ён яшчэ далей.
Я баюся крыху. Думаю пра яго.
Ён шмат працуе. Можна сказаць,
Яго няма.

Трыццатага лістапада. Я яшчэ яго кахаю.
Так, магчыма ў наступным годзе,
Я паеду да яго. Цяжка, калі
Яго няма.

Шостага снежня. Навошта ён так?
Навошта так пакрыўдзіў?
Я плачу. Добра, што
Яго няма.

Дзевятнаццатага снежня.
Навошта я так? Навошта я так?
Шукаю яго. Малюся. Шукаю.
Яго няма. Яго няма. Яго больш няма.

## СТАРЫ ЗДЫМАК

Знайшоўся ў скрыні стары-стары здымак:
Прыгожыя, такія прыгожыя падлеткі,
Хлопчык старэйшы і дзяўчынка,
Вячэраюць разам.

Бачу цябе, усмешлівага, як тады,
І сябе амаль пазнаю.
«Хутка! — я думаю. Трэба набыць рамку!
Трэба захаваць гэты ўспамін
Ад ненасытных зубоў часу!»

Так, я гатовая павесіць здымак на сцяну,
Глядзець на яго моўчкі,
Стрымліваць слёзы, рабіць выгляд,
Што яшчэ не страцілі гэтую частку нашага жыцця.

## ДА КАХАНКА

Каханку мой! Твае рукі належаць будучыні,
І я належу цяпер тваім рукам.
Я адчуваю твае ласкі і адраджаюся
У табе. Ты — маё жыццё.
Твае рукі — мой першы кантакт са смерцю.

## КАЛІ МЯНЕ НЕ БУДЗЕ

Адчыняй усе вокны, хай будзе свежае паветра,
Хай сонца пабудзе з табой, каханку,
Калі мяне не будзе!

Апрані лепшы касцюм і завяжы чырвоны гальштук,
Купі вялікі торт, адразу пазаві сяброў!
Не будзь адзін, калі мяне не будзе.

Смейся шчыра, танцуй, трошкі пі,
Не здавайся толькі і не плач,
Калі мяне не будзе!

Шукай новую дзяўчынку,
Прыгажэй, разумней, я раўнаваць ня буду,
Калі мяне не будзе.

Шпацыруй з ёй, еш з ёй
Займайся з ёй каханнем.
Жыві з ёй, калі трэба.

Пра мяне думай толькі,
Калі яе не будзе.

Андрусь ДАНІЛЕВІЧ

# КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ



***Андрусь Данілевіч (Андрэй Якушаў) нарадзіўся 7 чэрвеня 1990 года ў Мінску. Студэнт 4-га курса БДАМ. Працуе ў Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы і балета артыстам хора. Займаецца кампазіцыяй у акадэмічным накірунку.***

## МАРА ПРА ПРЫГОЖАЕ КАХАННЕ

Мабільны тэлефон ляжаў на тумбачцы. Алена глядзелася ў люстэрка, прычэсвала пафарбаваныя ў светлы колер валасы і ўважліва разглядала сябе.

Гучны шчоўк парушыў ідылічную цішыню і адарваў дзяўчыну ад вельмі важнай і, бадай, самай галоўнай справы — самалюбавання. Гэта было паведамленне «Вконтакте»:

— Прывітанне, Алена, што робіш?

Дзяўчына хутка прачытала, зірнула ў люстэрка, зноўку зразумела, што яна самая прыгожая, і з раздражненнем, што хлопец адарваў яе ад любімай справы, адказала:

— Нічога… збіраюся гуляць…

Тэлефон апынуўся ў руках, а сама яна стаяла насупраць люстэрка. Дзяўчына зрабіла дзясятак-другі фотаздымкаў, і адзін з іх адразу ж выклала ў інтэрнэт.

— Дык давай разам! Пагуляем удваіх…

— Ну... не ведаю…

— Давай… Сонейка!

— Добра... згодная…

— У колькі ты можаш?

— Калі з табой, то мне трэба шмат часу яшчэ...

— На што, Алена?

— Ну як? Каб сабрацца…

Узрадаваная дзяўчына легла ў ложак і пачала пісаць далей.

— Вольга, ты тут?

— А дзе ж яшчэ?

— Слухай!

— Што?

— Хлопец з'явіўся адзін, клёвы такі, пагуляць хоча. Пойдзем з намі.

— Навошта?

— Ну як… Я мала ведаю яго, затое паглядзіш, ацэніш… І гэта, блін… Пакліч Яню з Кірылам, каб кампанія была.

— Алена, ну дзе ты? У колькі?

— Зміцер, пад'язджай а дваццаць другой гадзіне да крамы «Бусел».

— Добра.
— Толькі гэта…
— Што? Усё, што хочаш!
— Я з сябрамі буду. Ты не супраць?
— Не… Канешне ж, не…
— Ну і добра…
— Хаця… Можа, мы лепш толькі ўдваіх? Навошта яны?
— Не… Магчыма, потым, калі…

Зміцер прыйшоў трошкі раней і чакаў. Ён быў моцна закаханы, таму хваляваўся і саромеўся яе сяброў. Пільна адсочваў усе бакі вуліцы. І ўсё ж яны з'явіліся нечакана.

— Вітаю! Што будзем рабіць? — запыталася Алена, якая спынілася за два крокі ад яго. — Куды пойдзем?
— Давайце ў парк, — уважліва разглядаючы Зміцера, уставіла Вольга.
— Добра! — радасна сказаў ён.
— Толькі з півам! — уставіў Кірыл.
— Канешне! Не з пустымі ж рукамі ісці, — дадала Вольга.

На твары Зміцера з'явіўся выраз агіды і прыкрасці.

— Зміцер, ты ж будзеш піва? — трошкі заклапочана запыталася Алена.
— Так… вядома ж… Пойдзем выбіраць…

Хлопец не рашыўся выказаць нязгоду, каб не рызыкаваць каханнем.

Ад хвалявання ён вельмі баяўся дакрануцца да Алены, сказаць нешта не тое, таму трымаўся трошкі воддаль. І яна не спяшалася набліжацца, бо ведала, што пакуль Зміцер хвалюецца, пакуль нічога не дазволена, ён будзе выконваць усе яе капрызы.

Хоць хлопец і лётаў вакол Алены, аднак Вольга пачала праяўляць да яго цікавасць. Шматлікія позіркі, размовы, прапановы. Вользе таксама спадабаўся новы знаёмы і яна паводзіла сябе больш адкрыта, не была такой непадступнай, як Алена. На нейкае імгненне Зміцер пачаў рэагаваць на ўвагу дзяўчыны. І тут жа Алена хутка адышлася ад яго і прытворна засумавала. Зміцер падбег да яе:

— Што здарылася? Чаго ты такая сумная?
— Я?.. Не… Усё добра.
— Я ж бачу, што нешта не так. Мо адыдземся, пагутарым?
— Усё добра! Ідзі балаболь з Вольгай.
— Ну што ты, мне толькі з табой цікава, сонейка!
— Мне так не здаецца…

Зміцер наважыўся на рызыковы крок. Ён абняў дзяўчыну, і яна вельмі нечакана прыціснулася да яго. Дарэчы, увесь вечар спрабаваў хоць неяк дакрануцца да яе, абняць. Гэта атрымалася. «Лічы, першая перамога за сёння!» Алена непрыкметна ўсміхнулася. Яна таксама атрымала перамогу. «Не, Вольга, — думала дзяўчына. — Сёння мой вечар. Глядзі на яго, мар пра яго, усе глядзіце! Толькі хлопец мой, нават не спрабуйце прыцягнуць яго ўвагу!»

Зміцер не мог зразумець, чаму раней Алена ніяк не падпускала да сябе, была строгая і трымалася за некалькі крокаў, а цяпер ён нават абняў яе. «Божа, колькі радасці трымаць у руках тую, якую кахаеш!»

Вольга таксама была прыгажуняй, паводзіла сябе адкрыта, праяўляла цікаўнасць да Зміцера. Аднак, хоць у нейкі момант яго гэта прывабіла, усё роўна цягнула да Алены.

Праз хвілін трыццаць кампанія пайшла назад, да метро. Алена зноўку не дазваляла сябе абдымаць, гучна гутарыла з сяброўкамі і Кірылам, цешылася закаханымі вачыма Зміцера.

— Давай, Зміцер. Пакуль.

— Што, ужо?

— Так, мы ўсе ідзём дадому, позна ўжо.

— А можа, яшчэ паходзім? Давай я цябе правяду!

— Не, — адрэзала Алена. — Мне тут зусім блізка. Ідзі…

Гуляла кампанія больш за дзве гадзіны і, безумоўна, закаханаму сэрцу Зміцера гэтага было мала, яму карцела пабыць з Аленай яшчэ.

Калі спусціўся ў метро, адразу пачаў пісаць паведамленні. Шмат паведамленняў Алене, якая ведала, што першае спатканне не павінна быць доўгім, каб хлопцу хацелася як мага хутчэй яго паўтарыць. І маніпуляванне праз «пугу ды пернік», і чароўнае авансаванне мілым позіркам, і наіўнае «лыпанне» вейкамі было добра выпрацавана…

Як усё пройдзе, яна прадумала яшчэ тады, калі расчэсвала валасы, бо ведала, што Зміцер пакліча яе. І каб не сумаваць ноччу пасля спаткання, дамовілася сустрэцца са сваім «мінулым» хлопцам, які ўжо чакаў каля «Старога кафэ». Адна задача, маленькае хваляванне: каб ён не заўважыў іх са Зміцерам. Таму, відавочна, і выбрала парк, далёкі ад шашы.

«Мінулы» хлопец трымаўся ганарліва, але ласкава. І не кахаў, таму кіраваў ёю. Усю ноч Алена правяла ў ягоным ложку. А раніцай, калі вярталася дамоў і марыла пра прыгожае каханне, рамантыку, рэзка спынілася насупраць «Старога кафэ», паглядзела на афіцыянта і ціха, нечакана для сябе, прамовіла: «На жаль, усе мужыкі — казлы!»

**ЗНІЧКА**

Алесь стаяў зачараваны і быццам у паўсвядомасці. Ён глядзеў, як прырода адваёўвае забранае: трава паглынала ў сябе каменку, пабудаваную праз лес немцамі яшчэ падчас Першай сусветнай вайны.

А цяпер 2007 год і восем гадзін раніцы. Заняткі пачаліся, а да школы яшчэ паўтара кіламетра, і так лянота туды ісці! Тут, у лесе, калі глядзець на незвычайную прыгажосць, створаную без чалавека, спыняецца час — і ты нібы зліваешся з Прыродай, з Богам, з Сусветам…

Ногі зрушыліся з месца… Спачатку хада была павольнай, няспешнай, пасля стала шпарчэй. Не час і не з’едлівы настаўнік прымушалі ісці, а…

Яе завуць Маша. Яна трымаецца ганарыста, бо добра вучыцца і прыгожая. «Хоць бы пабачыць яе хутчэй!»

— А!.. Вось і наш выдатнік, які столькі ведае, што можа дазволіць сабе прыйсці пад канец урока!

Усе зарагаталі, а ён апусціў вочы долу.

— Алесь, калі ты самы разумны, то скажы мне, ды і ўсім, што ты ведаеш пра зоры?

— Яны прыгожыя, — сорам не перашкаджаў кідаць хуткія позіркі на Машу. — Яшчэ яны падаюць, знічкі… Хто іх зловіць — таму пашанцуе, ён будзе шчаслівы….

— Ну і што? Злавіў хоць адну, пакажы?!

— Мм… — і зноўку клас выбухнуў рогатам.

— Тады я табе раскажу…

Алесю было ўсё роўна: ён не слухаў іх, не звяртаў увагі, у галаве спяваў любімы рок-хіт, толькі ўсё ж пачуваўся няважна... З-за яе… Бо Маша таксама смяялася.

Яна ніколі не адказвала на прывітанні. Нават не глядзела на яго! Алесь добра разумеў, што ён ёй нецікавы, «не пара». Але чаму б не павітацца, чаму яна цалкам заўсёды ігнаруе яго, навошта быць такой жорсткай?! Сэрца раздзірае грудзі, і яму б вельмі дапамог хоць адзін ветлівы неабыякавы ейны позірк…

Алесь жыў з бацькамі на хутары каля самага лесу. Уночы выйшаў на двор. Глядзеў у неба на зоры, лавіў вачыма знічкі і марыў… Жадаў, каб Маша з ім павіталася. Каб можна было бясконца глядзець на прыгажосць нябёсаў, лесу, усяго наваколля… Алесь не ведаў нічога з таго, што казаў пра знічкі настаўнік. Затое ведаў самае галоўнае: яны прыгожыя і прыносяць людзям шчасце…

## АПОШНЯЯ ВЯСНА

Сёння, як і кожную раніцу, дзед Антось сядзеў на лаве каля свайго старога пяціпавярховага дома. Жыў ён адзін: жонка памерла сем год таму, дзеці параз’ехаліся, пераженіліся. І ўнукі, ужо дарослыя, былі занятыя ўласным жыццём.

Кажуць, што час бяжыць з кожным годам усё шпарчэй ды шпарчэй, забірае шчасце, маладосць, разам з ёй сілы, любоў. І часам — надзею. Стары ўжо не мог мыць адзенне, прыбіраць у кватэры, мала хадзіў, таму ў хаце засталася толькі адзіная чыстая вопратка, якую ён не мог і нават баяўся крануць, — на пахаванне.

Штодзень дзед Антось выходзіў на вуліцу, сядзеў на лаве ў старым, крыху запэцканым і пацёртым касцюмчыку з медалямі на грудзях. Засталіся цяпер толькі гэтыя, больш танныя, юбілейныя ўзнагароды, бо астатнія забралі ўнукі, мабыць, каб прадаць. Пасля доўгага сядзення, падчас якога ён марыў з кімсьці загаварыць, стары прагульваўся вакол дома, зноўку сядаў на лаву, а потым вяртаўся ў кватэру. Так і міналі дні…

Але сёння выдаўся такі харошы майскі дзянёк! Прырода перараджалася, набірала моц, усё сведчыла пра неадольную прагу жыцця. Дзядуля захапіўся ранішняй прыгажосцю і зусім забыўся пра свае маленні аб хуткай смерці. Сёння яму, як ніколі, хацелася жыць! Кожную хвіліну, кожнае імгненне быць шчаслівым, цярпець пакуты, перажываць усё, што можна, «дыхаць» усімі колерамі вясёлкі і, канешне ж, быць маладым. Ён успомніў гераічныя ваенныя гады, успомніў стойкасць, мужнасць, цярпенне, якіх яны вымагалі ад кожнага… Таму і наважыўся прагуляцца па парку, куды апошні раз выходзіў гадоў пяць таму.

Ісці было цяжка. Адной рукой абапіраўся на кульбу, другой чапляўся за тое, што пад яе траплялася: дрэва, спінку лаўкі, вугал дома. Стары змагаўся, і праз гэта змаганне са старасцю адчуваў жыццё. Сёння Антось быў шчаслівы, як ніколі ў жыцці. На твары ззяла ўсмешка: «Божа! Дзякуй за гэты дзень! Як буяе прырода, як пахне трава!» Ён паваліўся на ўзбочыну…

Цела не слухалася, дыхаць было немагчыма, нейкая сіла тысячамі ланцугоў абхапіла яго, сквала. Толькі вочы засталіся прыадкрытымі. Стары не мог рухацца, не мог гаварыць, аднак бачыў, дыхаў і чуў.

Дзед зусім не спалохаўся. Стараўся разарваць ланцугі, прымушаў сябе дыхаць глыбей, не здаваўся. Змагаўся са сваім целам, верыў у перамогу.

— Мама, мама! Глядзі, гэтаму дзядулю трэба дапамагчы, давай паклічам доктара! — аднекуль падбег і прысеў каля яго хлопчык гадоў васьмі.

На твары малога было хваляванне, а вочы выпраменьвалі цнатлівасць, наіўнасць і дабрыню.

— Хутка хадзі да мяне!

— Матуля…

— Хутка! Я чакаю! — адрывіста крычала маці.

Хлопчык паслухмяна падбег.

— Мікалай, я табе што казала?! Га? Не падыходзь да гэтай алкашні! Нават не глядзі!

— Дык, можа, яму дрэнна, матуля?

— Што?! Ды напіўся і ляжыць! А калі і дрэнна, то не наша справа! Ты яшчэ дзіцё і нічога не разумееш! Вось прыйдзем дадому, я бацьку ўсё раскажу. Усыпле ён табе дзягай!

— Не трэба!

— Заўсёды цябе да бруду цягне, бамжоў розных, бядноты ўсялякай…

Антось не крыўдзіўся на іх, толькі горычна пасміхнуўся дзесьці ў душы. І працягваў змаганне. У нейкі момант ён здолеў пaverушыць рукой, павярнуцца…

Быццам бы жахнула маланка, выбухнуў гром унутры цела. І пасля выбуху стары пачаў дыхаць поўнымі грудзьмі, нагбом заглынаючы паветра і дождж, які ліў як з вядра…

Зноўку ахапіла шчасце, радасць, гучны смех. Ён ЖЫВЫ!!!

Моцны удар быў у жывот, потым па назе. Стары застагнаў ад болю і перавярнуўся.

— Глядзіце хлопцы, бамжовая пачвара. Біце гэта гніллё! Ачысцім нашу нацыю ад бруду.

Пасыпаліся ўдары, з кожнай хвілінай іх было ўсё больш. Чуліся юнацкія выкрыкі: «За вялікую і чыстую нацыю! Знішчым паразітаў!»

Літаральна праз некалькі хвілін дзед ужо не адчуваў фізічнага і, чамусьці, душэўнага болю. Неяк яму ўдалося павярнуцца набок. Тут жа ўбачыў: дождж скончыўся, а ў вышыні заззяла вясёлка. Здавалася, яна так блізка, што да яе можна дакрануцца рукой.

Стары ляжаў і ўсміхаўся, а добрыя, як у таго хлопчыка, вочы глядзелі ў вышыню і захапляліся небам. «Божа, прабач гэтых дурняў! Яны яшчэ маладыя, зусім нічога не разумеюць, даруй ім! Яны не вінаватыя ў сваіх злачынствах… Божа, даруй ім! Малю цябе, Божа Магутны! Няхай яны прыйдуць да розуму, няхай прыйдуць да Цябе, Магутны Божа! Калі Ты ёсць, малю Цябе! Зрабі гэта… І дзякуй табе за сённяшні дзянёк, за мой апошні дзянёк, за маю апошнюю вясну. Марыля, каханая, я іду да цябе, мая жоначка, я іду… Зусім трошачкі засталося, выходзь сустракаць мяне. Я прыйшоў…»

## УПЕРШЫНЮ…

Маладзенькая, вельмі прыгожая настаўніца ўзяла ў рукі званочак і страсянула тры разы. Пачаўся перапынак.

Верас, сямігадовы вучань другога класа, званок пачуў не адразу. Два ўрокі перад тым ён сядзеў у глыбокім задуменні і не мог выконваць аніякіх патрабаванняў настаўніцы. Толькі бясконца глядзеў на яе…

У грудзях нешта гучна грукала. Як толькі ягоны позірк сустракаўся з яе вачыма, хлопчыка чамусьці ахоплівала моцнае хваляванне, а незразумелы сорам прымушаў адводзіць вочы. Першы раз у жыцці Верас адчуваў такое, для яго зусім не знаёмае пачуццё. І матулі, на жаль, не было побач, каб папытацца, што з ім.

Так і сядзеў увесь дзень…

Чамусьці Верасу захацелася вылучыцца сярод сваіх аднакласнікаў. Паказаць што ён асаблівы, што лепшы за ўсіх, і, канешне ж, апраўдаць свае дрэнныя адзнакі.

Верасу мроілася, як ён ідзе ноччу па вуліцы і чуе жаночы крык: «Дапамажыце, дапамажыце!» Бяжыць і ратуе «сваю Настаўніцу» ад злодзеяў. А яна цалуе яго ў шчаку, бярэ дзённік і ставіць «выдатна». І цяпер Верас ужо зусім іншы: не хуліган ды двоечнік, а герой!

Потым яны плывуць на караблі, які сутыкаецца з айсбергам: усе піхаюцца, змагаюцца за месцы ў шлюпцы, тонуць, крычаць… А Верас аддае сваё месца «Ёй». Наталля Алегаўна цалуе хлопчыка ў шчокі, плача, адмаўляецца, але зноў ставіць у дзённік «выдатна» і сядае ў шлюпку.

Потым Верас пад’язджае да школы на новым «мерседэсе» з адкідным верхам! Усе вучні і настаўнікі вельмі здзіўлены. Уражана і нават захоплена ім Наталля Алегаўна. «Круты пацан» кліча «сваю Настаўніцу», якая сядае ў машыну, цалуе «Героя», зноў ставіць «выдатна», і яны едуць кудысьці вельмі далёка…

А потым у самалёце…

І тут пачаўся перапынак.

Сёння быў апошні дзень вучобы. «Ён скончыцца і я не хутка пабачу сваю Настаўніцу!» — хваляваўся хлопчык. Трэба было нешта рабіць! Але што?

Верасу карцела ўсё расказаць Наталлі Алегаўне: пра свае мары, невядомае пачуццё, пра тое, што ён можа глядзець толькі на яе… І хлопчык цвёрда вырашыў, што зробіць гэта!

У нейкі момант настаўніца пайшла яму насустрач — ад дошкі між радамі парт да кніжнай шафы. Іх позіркі сустрэліся. Верас ад хвалявання не мог рухацца, паварушыць вуснамі, толькі глядзеў ёй у вочы і маўчаў. Але разумеў, што іншага шансу не выпадзе.

— Верас, ты хацеў нешта сказаць?

— Не… Не… Наталля Алегаўна.

— Мне, мабыць, падалося.

Яна пайшла далей. Хлопчык моцна сціснуў кулакі, насупіўся, сказаў пра сябе: «Эх… Будзь што будзе!», падбег да настаўніцы і пракрычаў: «ВЫ… ВЫ… ВЕЛЬМІ ПРЫГОЖАЯ!»

— Дзякуй, — адказала з усмешкай Наталля Алегаўна і ўзяла тоўсты сшытак з паліцы.



Сяргей МАХНАЧ

# ТУДЫ, ДЗЕ АЖЫВАЮЦЬ МІРАЖЫ



***Сяргей Махнач нарадзіўся 20 студзеня 1976 года ў Архангельску. Скончыў БДПА, працуе інжынерам. Вершы піша з 14 гадоў, аднак да беларускай мовы звярнуўся толькі тры гады таму. Член Народнага клуба кампазітараў і паэтаў «Жывіца».***

## ПЫТАННІ

Ці чуеш, як крочыць удалеч таропка час?
Адлічвае крокі гадзіннік бесперапынна.
Куды б ён ні йшоў — пастаянна ідзе ад нас.
Такая, не надта вясёлая, брат, карціна.

Ці ведаеш ты, а пад ноч абяцалі снег,
Ад сораму горад схавае свой твар пад пудрай.
А снег будзе падаць так ціха, нібыта ў сне,
Здзяйсняючы кругаварот задуменна, мудра.

А памятаеш, як наранку гамоніць сад,
У матчынай хаце як пахне патэльня шкварак?
А што аддасі ты, каб час павярнуць назад,
Ступіць басанож на бацькоўскі стары фальварак?

Пытанні, пытанні... А час, паміж тым, бяжыць,
І круцяцца стрэлкі, і дзеці сталеюць рана.
І падае снег. Гэта значыць, што трэба жыць —
Назло ўсяму — час загоіць любыя раны.

## Я ВЯРНУСЯ

Мяне не клічуць, я прыходжу так,
Складаю словы, адымаю смутак.
Я дум, табой народжаных, мастак,
Я спрэчка ад любой гадзіны сутак.

Я першы шпак, што ўзняўся на крыло,
Я музыка, якая грае гучна,
Я сонечнае цёплае святло —
Са мною лёгка, весела і зручна.

Шукай мяне ва ўласных каранях,
У вёсках, дзе бацькі хадзілі ў школу.
Я — твой надзейны шчыт, твая браня,
Я — паравоз, што захапіў Міколу.

Я нешта тое, што заўжды з табой,
Але чаго табе так не хапала:
Я — голас, што не знаецца з журбой,
Я — мова, на якой пісаў Купала.

## АСОБНА

Згасае дня святло ў акне...
Не дадавай пачуццям кошту.
Чаму сустрэла ты мяне?
Навошта?
Нашто пад гукі палкіх фраз
Глядзела ў вочы мне таемна?
Дарма патрацілі мы час.
Дарэмна.
Цяпер кахання пачуццё
Спектаклю дрэннаму падобна.
Відаць, працягваць нам жыццё
Асобна.

## ЗВЫЧАЙНЫ ДЗЕНЬ

Звычайны дзень — нішто не замінае.
І думкі, як павольная рака.
Заплюшчыў вочы і плыву ў трамваі
Туды, дзе я ў мінулым сустракаў
Апошнюю надзею, лёс, каханне?
У кожнага адказ, вядома, свой
На гэтае няпростае пытанне.
Не знойдзе болей сэрца супакой...
Бліскучыя, бягуць, бягуць палосы,
І колы мерна грукаюць па іх...
Ля могілак сыду, прыставалосы,
З букетам руж — пад колер мар тваіх.

## КАРОТКІ ДЗЕНЬ

Кароткі дзень падняўся на крыло,
Яго палёт святочны быў і чысты.
Ад раніцы мяло, мяло, мяло...
Кружыўся снег — празрысты і іскрысты.

Спыніўся рух машын на ўсёй зямлі —
Палеглі гурбы снегу ім на дахі.
І хуткія зямныя караблі
Цяпер паўзлі, як тыя чарапахі.

Але ад снегу лёгка на душы,
І я лячу — хутчэй машын маркотных
Туды, дзе ажываюць міражы
Пад полымем вачэй тваіх пяшчотных.

## КОЖНЫ САМ ЗА СЯБЕ

Кожны сам за сябе. Не чытай мае вершы, не трэба.
У гадзіну цяжкую я мушу застацца адзін.
У нябёсаў прашу я не грошай, гарэлкі і хлеба,
А спакою навечна пакінутых сонцам ільдзін.

Хутка сам, нібы лёд, ад усмешак гарачых растану,
Пабягу ручаямі скрозь Свіслач да бацькі Дняпра.
Прыйдзе час, я ад гэтага «хутка» хавацца не стану,
Не шкада мне жыцця: шмат паспеў я пакінуць дабра.

Гэта добрыя словы, што льюцца павольнай ракою,
Гэта дзеці дзяцей, што аднойчы падымуць мяне,
Гэта мова — падмурак дзяржавы, крыніца спакою,
Гэта шлях, на якім падарожніка слова кране.

Кожны сам за сябе перад небам трымае экзамен.
Не чытай мае вершы, згубіўшы сябе ў мітусні.
А калі прачытаў, то бязмоўя дакорлівы камень
Кінь далей, вызваляючы сэрца сваё ад хлусні.

## БЕЗ ВЕРЫ

Калі няма чаго сказаць — маўчы,
Не парушай нясмелай цішы роздум.
Застанься лепей хатнім і цвярозым,
Ды мову па падручніках вучы.
Калі няма куды ісці — ляжы,
Не пэцкай ногі ў брудзе прыдарожным.
Галоўны шлях прайсці паспее кожны
Да самае апошняе мяжы.
Калі не верыш анікому — вер
У Бога, ён цябе не расчаруе.
Ён маўчунам і гультаям даруе,
Бо чалавек без веры — гэта звер.

## ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

Я страціў смак, я страціў сэнс жыцця,
І больш мяне нічога не хвалюе.
Цяпер вясновы дождж цябе цалуе,
А я ніяк не выйду з забыцця.

Запамятаваў словы, што казаў,
Калі цябе сустрэў нечспадзявана.
Забыўся, як кахаў усхвалявана.
Цяпер маё становішча «па-за».

Па-за тваім жыццём, па-за гульнёй,
Па-за мяжой, што ўзнікла паміж намі.
Па памяці маёй прайшло цунамі.
Не памятаю болей вобраз твой.

Ад слёз не дапаможа парасон.
Цябе цалуе дождж. Не я. І кропка.
Я горыч крыўды праглыну таропка —
Хутчэй пра ўсё забыць, як дрэнны сон.

## ТЫ ЧАКАЙ, Я ІДУ ДА ЦЯБЕ

Мы сустрэліся невыпадкова —
Нібы з возерам звонкі ручай.
Дастаткова адзінага слова,
Каб прыйшло пачуццё праз адчай.

Дастаткова адзінага жэсту,
Каб навечна згубіць галаву.
Я пабачыў тады не нявесту,
А святло, да якога плыву.

Мы сустрэліся, разам зліліся,
Кожны момант хвалюючым быў.
Нёс цябе я скрозь зорныя высі,
І трымаў, і жадаў, і любіў.

Ты кахала мяне так бясконца,
Як я нават не мог уявіць...
О, багіня, о, яснае сонца!
Без цябе маё сэрца баліць.

Без цябе звар'яцеў, страціў мову,
І штодзённа блукаю ў журбе.
Мы сустрэліся невыпадкова…
Ты чакай, я іду да цябе.

## ПРАЗ ВОСЕНЬСКІ АЖУР

У ажурным харастве восень залатая,
Парк такі прыгожы стаў, што зайздросціць Бог.
На таполю адпачыць села птушак зграя,
Пад якой складаю я словы ў слупок.

Я складаю словы так, як шапоча вецер.
Водзіць за руку мяне сонечны прамень.
Я шчаслівы, далібог, бо на гэтым свеце
Станаўлюся сведкам я толькі лепшых змен.

Я інакш гляджу на свет — вывучаю мову,
Ад якой калісьці збег (быў такі дурны!).
Я згубіў свайго жыцця лепшую палову,
«Жил по правилам чужим сын своей страны».

Хутка прыйдуць па мяне. Час для эпілогу.
Я гляджу гадам у твар, скінуўшы каптур.
На маім плячы анёл нешта шэпча Богу —
Ён чытае вершы скрозь восеньскі ажур.

## МЛЕЧНЫ ШЛЯХ

Як хочацца ў тваіх тануць вачах —
Бяздонным моры светлага блакіту!
Кранацца рук, хавацца ў валасах,
Пакуль тваёй усмешкай не забіты.
То вейкамі далоні казытаць,
То вуснамі схіляць маўкліва шыю.
Быць думкамі з табою і лятаць
Туды, дзе неба нам працціны шые.
Мне трэба пастаянна быць з табой
(Расстання дзень — і я такі няўзнёслы),
Шукаць твой водар, адчуваць прыбой
Сардэчных хваль тваіх, узмахам вёслаў
Забраць цябе ў абдымкаў цесны круг,
Зліваючыся разам і навечна.
Табою жыць, табою быць і рук
Не размыкать — ісці па Шляху Млечным!



Стася КАЦЮРГІНА

# ЧУЖОЕ ЖЫЦЦЁ

Як кожнаму, каго заспела нерухомасць на некалькі месяцаў, ёй да крыку, да глыбокага адчаю хацелася варушыцца. А яшчэ не хапала маленькай Люсі, яе незаконнанароджанага шчасця. Чаму не з ёю гэтая рухавая шчабятуха? Але чамусьці прадчуванні не турбавалі. Дзіця, як Анёл, недакранальнае.

Ужо ў самотныя пятнаццаць ёй хацелася стаць маці. А ў дваццаць два яна ўпершыню зацяжарыла. Яе каханы стаў бацькам трэці раз, і ён гэтага не хацеў.

У калідоры заспявала Лібертанга. Яго дачка ад першага, і што ўжо зробіш, адзінага шлюбу. Яна добрасумленна танчыла ўсю лацінскую праграму. Перад вачыма замільгалі апошнія месяцы трэніровак іх рознаўзроставай групы. І яна — яго старэйшая, ужо сямейная, асоба меланхалічная ды дзейсная. Бацькавы рысы твару падкрэслілі нежаночую жорсткасць. А што яшчэ ў ёй было? А Люся — іншая... Плоць ад плоці Марыі... Дзіця, народжанае «для сябе», ці магло яно быць падобнае да кагосьці яшчэ? Думкі віравалі, безнадзейна чапляліся за рэальнасць, за словы, сказаныя незнаёмцамі каля палаты.

Медыцынскі персанал «за жыццё» не размаўляў, таму трызненне было адзіным вартым заняткам для яе, пакінутай у адзіноце ў палаце на дваіх.

Яе «вяртанне» разразалі глыбокія сны. Ніколі не спалася так далёка ад рэчаіснасці, так блізка да сябе. Там, унутры, усё яшчэ гучала амерыканская мелодыя іх беларускай восені...

*Зрабіце трошкі цішэй... — уласны голас здаўся незнаёмым. Ян паслабіў гальштук. Другая рука легла на руль. Першы раз яна зразумела, што яны ехалі ў ноч. У ноч, якая памірала чырвоным. Насустрач прамільгнулі два аўто з адзінай фарай. На палескім возеры калыхаўся нежыццяздольны човен. У самых розных абставінах, ужо з дзяцінства, ёй здаваліся такімі нерэальнымі пейзажы і людзі, што суіснавалі за акном. На аркушы, побач з сённяшнім недапісаным канспектам, занатавалася:*



***Стася Кацюргіна нарадзілася 8 красавіка 1992 года ў Гомелі. Студэнтка 5-га курса філалагічнага аддзялення ГДУ імя Францыска Скарыны. Друкавалася ў рэспубліканскім перыядычным друку, аўтар паэтычных кніг: «Пад ветразем ранку» і «Парасон».***

Аўтамабілі аднавокія...
Закалыханая ў ладдзі.
Краніся памяццю далёкаю,
Маёй самотаю сыдзі...
Налью я поўны келіх полымя
І намалюю ў восень шлях.
і засмяюся, бы зняволена
Сваёй пяшчотаю ў грудзях...

...Кожным ранкам у палаце адчынялася акно. Сённяшні дзень падаўся зімнім.

— Чацвёртага студзеня, — строга адказала санітарка.

*Студзень таго года адпавядаў найменню — на сустрэчу давялося ехаць у валёнках. Прабіраліся па снегу да дому. Сусед махнуў яму рукою, маўляў, нягоднік. Абодва засмяяліся. Але ў хату Ян зайшоў сумны. Здымаць верхняе было страшна. Потым, праз год, яна прачытае ў лісце, што перадалі ў радзільню, верш пра гэтую яе «нясмеласць» і сумныя пацалункі. І дасць яму адказ, напісаны той жа зімою:*

*Я хачу зацяжарыць уласным шчасцем.*

*Нарадзілася Люся...*

*У палаце іх было пяцёра, і толькі ў яе — дзяўчынка. Праз шэсць гадзін паднялася з гарачага ложка — пайшла па калідоры да тэлефона. Дарагі мабільнік, яго падарунак, застаўся дома. Не... Яна стала недакранальнай для ўсіх гэтых дробязей. Слухаўка кранулася шчакі, маці засмяялася. Праз дзве сцяны спала ЯЕ дзяўчынка. Крыжыкам ахінула яе, і гэты светлы да болю дзень. А што яшчэ яна памятае? У яе цёзкі, Марыі, пасляродавая дэпрэсія (яны ў адной палаце). Той, дарослай жанчыне, не патрэбна ні дзіця, ні будучае, ні сонца восеньскае. Яна плача. Доўга, шчымліва. Адным вечарам расказвае пра старэйшага, пра жыццё без мужа. А пасля ўжо на шчаслівыя галовы маладых матуль ляцяць усе непатрэбныя звесткі. Хлопец на біялагічным. Сёння, зноў не здаў экзамен. Дацэнт у іх кабета строгая... І прозвішча ў яе... Кандрашова. «Жонка Люсінага бацькі!»... Галава пачала балець, не так, каб ужо моцна, але...*

...Люсю ён убачыў праз два тыдні. Доўга прыціскаў да сябе дзіця, нешта шаптаў. Пасля раптоўна з’ехаў. Яе нічога ўжо не здзіўляла ў іх нязменлівым свеце. Пад пільным поглядам суседзей гэтае «нешта» паміж імі цягнулася.

Аўтамабіль у Яна, паспяховага бізнесоўца, быў прадметам асаблівага гонару. «Ніколі на ім не разаб’юся — танк!» Але яны разбіліся... Фура выехала на сустрэчную. Яна памятае гэты металічны гук. Калі б магла, зараз бы падскочыла б на ложку — у той жа момант расчыніліся дзверы, маці падышла да тумбачкі. Следам з’явілася ўрач.

— Мама, дзе Люся? — вырвалася з такой жахлівай глыбіні.

Жанчына, не звяртаючы ўвагі на дачку, распакоўвалася.

— Александрына Сцяпанаўна, ды што ж гэта такое? Што ж ёй уцяльмешылася гэтая дрэнь у галаву? Дзіця ў яе, разбілася яна, разумееш! Выдумляе такую дурноту! Ды адкуль яно бярэцца! Ну адмовіў ёй гэты стары донжуан. Не кахае. Ды таму, што атрафіравалася ў яго ўсё! Трэба было сябе даводзіць? Дурная ты, Маша! Такіх яшчэ пашукаць! Сорамна мне да цябе сюды прыходзіць! Лепей бы ты разбілася!

Доктарка маўчала. Маці нервова кінула трывіяльныя для шпіталя апельсіны. Яны разбягаліся па падлозе, некаторыя яшчэ падалі. Маша адчула, што можа іх спыніць. Паварушыла рукою. Але падняць не змагла — яна была моцна прывязана да ложка.

*Аляксандр ЦАГЕЛЬНЫ*

# ДУШОЙ СКЛАДАЮЧЫ РАДКІ



***Аляксандр Цагельны нарадзіўся 23 лістапада 1979 года ў Любані. Працуе ў Тэхнацэнтры Слуцка. Вершы друкаваліся ў газеце «Голас Любаншчыны» і ў выданні серыі «Любаншчына літаратурная» — «Галасы роднай зямлі».***

**ВЯСНА**

Ізноў вясна дзіцячым звонкім смехам
Імкнецца ў вокны. Кожны новы дзень
Нясе з сабой на жаль ці на пацеху,
Цень дзён мінулых — іх юнацтва цень.

І ўспамін успорхвае над дахам,
Нясецца прэч. Яго мне не злавіць.
Узрост Хрыста, нацельны крыж, рубаха —
Мой лёгкі скарб, з якім нялёгка жыць!

Мой лёгкі скарб, мой лёс, мая дарога…
Я — гаер смешны, розглас пляткара.
Іду наперад з вераю ў Бога,
І не шукаю іншага цара!

Іду наперад. Зор не заўважаю
У лужах, поўных мутнае вады,
Пішу радкі, душою іх складаю
У босых ног чарнільныя сляды.

А па вясне дзіцячым звонкім смехам
Ка мне імкнецца кожны новы дзень,
Каб несці зноў паэту ў пацеху
Цень дзён мінулых — іх юнацтва цень.

**ХОД КАНЁМ**

Між няздзейсненых мар,
Паміж ноччу і днём
Чырванее пажар
Дум… Драўляным канём
Ход зрабіў я не той,
Што чакаў ад сябе.

Праз жыцця сухастой,
Ды ў самотнай журбе,
Прадзіраюся прэч
Ад асінавых нар…
Між няздзейсненых мар
Чырванее пажар.

## НЕЗНАЁМЦЫ

Як чорны прывід, здань,
Як ціхі шкодны кот,
Я прагну адшукаць
Цябе ў небыцці.
Ты — светлы мой анёл!
Грахоўны карагод
Мяне не вабіць… Ты —
Той сцяг, з якім ісці!

Ты — ветразь для душы!
Ты — храм сярод хацін!
Ты дзесьці ёсць! Твой смех
Пачуць хутчэй дазволь!
Дазволь! Смяротна ўжо
Стаміўся быць адзін;
І чэрствы есці хлеб —
Журботны мой юдоль!

Не дай жыццё згубіць,
Пайшоўшы да пары
У той край, дзе смела смерць
Шыкоўны правіць баль!
Натхненнем стань маім!
У яловым гушчары
Сябе мне выпіць дай,
Святы грааль!

## МАТУЛІ

Вось і дом твой, матуля!
Доўга йшоў да яго я.
Усе навокал паснулі
У абдымках спакою.

Я стаміўся ў дарозе!
Дай напіцца вадзіцы,
І да гонкай бярозы
Пад акном прытуліцца!

Жыў я доўга чужынцам,
Быў цвярозым, быў п’яным.
Не прывёз я гасцінцаў,
Не здабыў я пашаны!

А мінулага цені
Мне атруцілі сэрца…
І ў парваным адзенні,
На каленях у сенцах

Я малю: «Ты даруй мне
Усе памылкі, усе слёзы!»
Твае рукі цалую
Каля гонкай бярозы…

## ПА КАМЕННЯХ

Любіць адзіноту ў абдымках сусвету,
Жыць днём, што пазычыў у Бога —
Ці лёгка? Ці цяжка?
Па розных прыкметах
Я ведаю — хутка дарога!

Уверх па каменнях, палітых атрутай, —
Каменнях памылак маіх.
Я доўга збіраў іх (бы ў казцы славутай),
Складаў на вачах у чужых.

Спяваў, калі песня была непатрэбнай,
І піў, калі нельга было…
Гады праляцелі ў танцы ганебным,
А зло ў нябыт адышло!

Што мне засталося? Уверх па каменнях!
Да зор, што лічыў у ручаях,
Калі галавы не ўздымаў у сумненні:
«Ці мой мною выбраны шлях?»

**МЕЧ**

На ўзбярэжжы рачулкі Арэсы,
Што адгэтуль нясе воды прэч,
Недалёка ад рэдкага лесу
Закапаю іржавы свой меч.

Закапаю, і крыжык пастаўлю,
І асінавы колік ўваткну;
Пад гітару песеньку спраўлю,
Абарваўшы тугую струну.

Спі, мой меч. Адпачынак бясконцы
Нам з табою на долю лёг.
Ваявалі з табою за сонца,
Але сонца не даў нам бог.

Спі. А я кавалю загадаю
Табе добрую змену каваць,
Каб, як прыйдзецца, з чорнаю зграяй
У руках было б з чым ваяваць…

* * *

Перакрэслі імя маё смела —
Крэйдай лёсу, артэфактам містычным!
Адышло, адгуло, адбалела
Што было майму сэрцу нязвычным.

Не кранаюць больш горкія слёзы
(Ды й няма ўжо чым увогуле плакаць).
Папіліў на бярвенне бярозы —
Памяць дзён — у трухлявую мякаць.

Перакрэслі імя маё смела,
мая любая, воля, надзея!
Я не стаў ні пухнатым, ні белым,
але веру ў цябе, мая фея!



Віталія БАГУН

# ГІГАНТЫК

*Аповесць*



***Віталія Багун (Джорджэвіч) нарадзілася 12 лютага 1979 года ў Мінску. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Маладая маці. Увесь час прысвячае сыну, таму яе трохі не хапае на літаратуру. Любіць сонца, вясну і прагулкі на ўлонні прыроды. Лічыць, што ўсе з'явы ў жыцці і лёсы людзей звязаны між сабою. Знаходзіць пацвярджэнне гэтаму ў творах Павіча і Маркеса.***

## I

— Гігантык — суперсучаснейшы касмічны лайнер! Гігантык — гэта сіла і моц чалавечага розуму! Гігантык — гэта машына, што падпарадкоўвае час і прастору! Калі вы стаміліся ад самоты непраглядных дзён! Калі вам надакучылі ўсе забавы Трох Планет! Калі вы жадаеце ўбачыць Юпітэр! Гігантык — гэта тое, што вам трэба! Гэта тое, пра што вы марылі! Гэта вашы летуценні, якія зрабіліся рэчаіснасцю! Тут, і толькі тут вы знойдзіце ўсё, што вам нават не мроілася! Тут камфорт і выгода! Тут бяспечнасць касмічных падарожжаў! Вы атрымаеце асалоду ад шляху да Юпітэра! Вы здзівіцеся, якім кароткім вам падасца падарожжа! Толькі Гігантык увасабляе хуткасць, камфорт і надзейнасць! Кампанія Сялена Лайнз шчыра вітае вас на борце найхутчэйшага карабля ва ўсёй Сонечнай сістэме, — раўла неонавая рэклама на вуліцах Лунабурга і ў кожным рэкламным выпуску навін. Ад выявы рэльефнага сілуэта вялікага карабля, які быў прыкаваны магнітным ланцугом у доках Лунабурга, ішла рабізна ў вачах.

— Я не ведаю, што такога надзвычайнага яны знайшлі ў гэтым караблі, — незадаволена чмыхнуў Рафаэль Кліментавіч, кіназорка, кумір дзяўчатак-падлеткаў і тых, хто недалёка пазбег гэтага ўзросту. — Зразумела, яго памеры здольныя ўразіць, але не больш за тое. Мы мелі магчымасць паляцець яшчэ ўчора на Вяхіры.

— Але, Флой, — запярэчыла Саламея Таліба, сакратар-рэферэнт і па сумяшчальніцтве целаахоўнік, — Гігантык мае больш моцны рухавік, і з гэтай нагоды большую хуткасць. Калі ад Луны да Дэймаса на караблі такога тыпу як Вяхір даводзіцца вандраваць два тыдні, то Гігантык пакрые тую адлегласць за сем дзён.

— Я еду на Ганімед адпачываць, — перапыніў яе Флой, — і развейвацца. І для мяне зусім не істотна, на які тэрмін зацягнецца адпачынак з-за ціхаходнасці карабля.

— Флой, гэта шыкоўны лайнер, — Талія Страказа хітравата паглядзела на яго і ўтрымалася, каб ушчыкнуць трохі ніжэй спіны толькі таму, што ў яе галаву прыйшла геніяльная думка, што ўсюдыісныя папарацы змогуць

увасобіць для нашчадкаў і гэты момант іхняга ўзыходжання на Гігантык, — а мы заслугоўваем усяго самага найлепшага.

Ён не здолеў стрымаць усмешку, калі сутыкнуўся з аптымізмам гэтай дзяўчынкі, свайго візажыста.

— Флой, пасля… — Зорана Клад, таксама целаахоўнік, якая па сумяшчальніцтве займалася ягонай вопраткай, схамянулася. Кожная з іх намагалася не нагадваць яму пра перажыты боль, звязаны са стратай жонкі. Яна выправілася, — пасля здымкаў табе вельмі патрэбны адпачынак.

— Так, гэта былі цяжкія месяцы. Шкада, Аўроры са мной не было, — абмовіўся ён пра жонку, якая загінула. — Прадзюсар будзе незадаволены, што я не з’яўлюся на прэм’еры.

— Мы вырашым гэта пытанне, — уступіла ў размову Мейбл Тоўн, прэс-сакратар Рафаэля Кліментавіча, — я гутарыла з Эмілем. Мы прыйшлі да думкі, што ў дзень прэм’еры ты перадасі прывітанне з Гігантыка. Спадзяюся, пазней мы дамовімся з капітанам Славінскім.

— Я ўсё жыццё працую на шоу-бізнес, магу я калі-небудзь адпачыць, — прабурчаў акцёр і спахмурнеў.

— Флой, гэтыя зморшчыны робяць цябе зусім старым, — выявіла незадаволенасць Саламея. Яна лічыла, што паказваць слабасць у час, калі яго здымаюць тысячы камер пры ўзыходжанні да Гігантыка, згубна для кар’еры артыста.

Ад Лунабурга, які быў больш портам, чым горадам, да вялізнага, утрымліваемага ў беспаветранай прасторы магнітным ланцугом Гігантыка падымалася празрыстая пластмасавая трубка пераходніка. Над галавой і пад нагамі, справа і злева мігцелі зоркі, сыходзіла-знікала Зямля, але Флой не заўважаў касмічнай прыгажосці. Ён глядзеў уніз, дзе, як мурашы, спрытна рухаліся перасяленцы, тыя, хто меркаваў, што іх рукі і галовы, якія недаацанілі на Трох Планетах, знойдуць прымяненне там, за поясам астэроідаў. Юпітэр, дакладней ягоная сістэма, толькі пачынала каланізавацца.

— Капітан, мне здаецца, што яшчэ небяспечна пачынаць палёт, — звярнуўся штурман да кіраўніка. — Касмічныя промні найбольш актыўныя ў гэтую пару года. Сістэма арыентавання можа быць перагружана.

— Корбут, калі мы пакінем Лунабург пазней, Юпітэр выйдзе з супрацьстаяння, і мы маем магчымасць праскочыць міма арбіты. Да планеты значна лягчэй набліжацца, калі знаходзішся ў зоне прыцягнення яе электрамагнітнага поля. Калі наш карабель аддаліцца ад планеты, нам давядзецца выкарыстоўваць рухавікі для набліжэння. Гэта, вядома, не выклікае асаблівых цяжкасцей, але я аддаю перавагу дакладна вылічанаму курсу, каб дасягнуць порта своечасова, а не ганяцца за планетай, якая ўцякае, і губіць час.

— Так, капітан, — згадзіўся памочнік.

— Мы выпраўляемся дакладна апоўдні паводле стандартнага зямнога часу, — загадаў Георг Славінскі.

— Усе сістэмы прыведзены да пяціхвіліннай гатоўнасці, капітан, — адрапартаваў Браніслаў Корбут.

Гігантык пахіснуўся ў беспаветранай прасторы — адключылі магнітны прамень. Карабель заззяў элементамі сонечных батарэй і павольна накіраваўся ў глыбокі космас.

Натоўп праважатых зачаравана назіраў за тым, як гігант зямной караблебудоўлі пакрысе раставаў у чорнай пустэчы космасу і ператвараўся ў маленькую, бліскучую кропку, падобную да адной з зорак у Сусвеце.



*Малюнак* ***В. І. ПУЗАНКЕВІЧА.***

## II

— Гэта вы пабудавалі такі выдатны карабель? — усюдыісная Рабіна Тук сядзела побач з Усяславам Зорычам.

— Так, у маю галаву прыйшла ідэя стварыць такі вялікі, сучасны і камфортны лайнер, як Гігантык, але без майго паважанага сябра Яна Прымака я наўрад ці здолеў бы ператварыць ідэю ў рэчаіснасць. Я фінансаваў гэты надзвычайны праект, але менавіта Ян начарціў планы і сканструяваў мадэль Гігантыка.

— Кажуць, што Гігантык не толькі самы вялікі…

— Самы аб'ёмны і самы ўмяшчальны, — выправіў канструктар Астру Пырнік.

— Не толькі самы аб'ёмны, — схамянулася Астра, — але і самы хуткасны карабель.

— Так, спадарыня Пырнік, — самазадаволена пацвердзіў Ян, — гэта самае хуткаснае судна ва ўсёй Сонечнай сістэме. Пры стварэнні Гігантыка мы разлічвалі, што маса карабля пры спецыфіцы крыніцы энергіі спрацуе на паскарэнне. З аднаго боку — зусім новы рацыянальны падыход да паліва, з іншага — чым большая маса цела, тым з большай сілай прыцягвае яго планета, што будзе відавочна пры падыходзе спачатку да Марса, а потым да Юпітэра. Тады маса… Але мяркую, вам не цікавыя ўсе гэтыя формулы, — спыніў ён плынь уласнага красамоўства, калі заўважыў, як Зорыч спахмурнеў.

— Паводле нашых разлікаў, — працягнуў ягоную прамову Усяслаў, — мы будзем на Дэймасе праз тыдзень, хаця звычайна гэтая адлегласць займае чатырнаццаць дзён на менш моцным і сучасным лайнеры. І мы спадзяемся дасягнуць Ганімеда ўжо праз месяц, хаця гэты шлях праходзяць за два месяцы, калі казаць пра адбыццё з Дэймаса.

— Усяслаў, вы абяцаеце даставіць нас на Юпітэр ужо праз месяц? — завішчала Антуанэта Цюль, вядомая оперная спявачка, якая мела дабрачынныя мэты здзяйснення вояжу на Ганімед. — Усяслаў, вы чараўнік.

Яе твар паружавеў. Вочы ўзбуджана заблішчалі. Яна кінула ласкавы позірк у бок Рафаэля Кліментавіча, нібыта прасіла прабачэнне за хвілінную слабасць. І Флой, і Менахем Грын, спадчынны фінансіст, без памяці закаханы ў Антуанэту, спахмурнелі.

— Дакладна, спадарыня Цюль, — падтрымаў яе Тэадор Пырнік. — Я часта наведваю Ганімед па справах, але гэта першы карабель, на якім я лячу з такім камфортам. Тут цяжка заўважыць звычайны гул рухавікоў, і тут амаль нармальнае зямное прыцягненне. Ні на Вяхіры, ні на Берасцянцы, ні на Сітаўцы я не бачыў такіх выгод.

— Але прыцягненне тут меншае за стандартнае зямное, — заўважыў Зорыч. Пахвала прымусіла яга сармліва пасміхацца.

— Так, але як мы мякка адышлі ад Месяца, — уступіў у размову Ілья Трэф, сябар Менахема Грына, і адначасова падміргнуў аднім вокам Саламеі.

— Нам пашанцавала, што ў Зямлі ёсць Месяц, — падтакнула Рабіна Тук.

— Калі б не было Месяца, яго неабходна было б стварыць, толькі каб нам ямчэй здзяйсняць міжпланетныя падарожжы, — кпліва падтрымаў яе Кліментавіч.

— З-за адсутнасці спадарожнікаў вельмі цяжка набліжацца да Венеры, — паскардзілася Астра. Яна намагалася прывабіць увагу Рафаэля. — Да таго ж там страшэнная туманнасць.

— Але выгодна падлятаць да Марса, — чмыхнуў яе муж. Ён імкнуўся не заўважаць, як ягоная спадарыня Пырнік надае кінаакцёру больш увагі, чым дазваляюць правілы прыстойнасці. — У яго нават дзве спадарожніцы.

— Юпітэр выйграе ў параўнанні з імі ўсімі колькасцю месяцаў, — падхапіў тэму Менахем Грын.

— Але вы забываецеся, што на яго нельга прызямліцца, — запярэчыў Ян Прымак.

— Хутчэй, прыюпітэрыцца, — пажартаваў Ілья Трэф.

Размова прымала ўсё больш і больш спецыфічны кірунак. Мужчыны падняліся, каб прайсці ў іншы пакой, дзе яны мелі намер працягваць размову. Ян Прымак ужо падрыхтаўся вызначыцца ведамі ў больш вузкім і, як ён лічыў, дасведчаным коле.

Рафаэль Кліментавіч таксама падняўся, троху пакланіўся прысутным жанчынам, адначасова прылашчыў маленькага йоркшыртэр’ера, які захаваўся адзіным успамінам пра каханую жонку. Мейбл, Крылля, Саламея, Зорана і Талія ўзняліся разам з ім.

— Прашу прабачыць мяне, — ён чароўна пасміхнуўся, — але, здаецца, у мяне з-за адсутнасці звычкі здарылася касмічная хвароба, — развітаўшыся адразу з абедзвюма прыемнымі кампаніямі, Рафаэль прапанаваў руку Мейбл, і яны ўдвух павольна пакінулі гасцёўню. За імі паспяшаліся Крылля Жабіна, Саламея Таліба і Зорана Клад. Усе жанчыны, акрамя Рабіны Тук, праводзілі яго зачараванымі позіркамі.

— Ён такі элегантны, — уздыхнула Астра Пырнік. Адсутнасць мужа здымала ўсялякія абмежаванні яе захапленню.

— У яго такі прыемны барытон, — ледзь ні прапела Антуанэта, якая таяла ад замілавання.

— Няўжо ён і ў жыцці такі ж, як у кіно? — звярнулася да Рабіны Тук зусім маладзенькая графіня Луіза Дэлавэрская, уладанні якой знаходзіліся на спадарожніку Юпітэра Іа. Яна вярталася дамой пасля заканчэння прыстыжнай прыватнай школы на Зямлі.

— Акцёры ніколі не бываюць у жыцці такімі, як у кіно, — аўтарытэтна абвясціла Рабіна Тук.

— І ўсё ж ён такі душачка, — уздыхнула Антуанэта.

— Але ягоная спадарожніца… — шматзначна зірнула Астра.

— Чорт яго не возьме, — вылаяўся Тэадор Пырнік. — Гэта немагчыма! Мала таго, што яна цэлымі днямі круціць фільмы з ягоным удзелам…

— Ваша жонка вачэй з яго не зводзіла падчас абеду, — падтакнуў Ілья Трэф. Ягоны сябар пахмурна пасміхнуўся, але змаўчаў, док абмяркоўваў свае справы. Яго перапаўняла каханне да Антуанэты Цюль. Ён не любіў оперу, але быў гатовы ледзь не кожны дзень прыходзіць у тэатр, каб бачыць яе і лашчыць сваё самалюбства думкамі, што партыі пра каханне, якія яна выконвала па-італьянску, прызначаліся толькі яму, а не нейкаму нікчэмнаму тэнару ці барытону, які адыграваў ролю героя-каханка, але і фінансаваць яе падарожжы, гастролі і дабрачынныя канцэрты. Ён быў гатовы прынесці ўсю сваю спадчыну да яе ног, але гэтая няўдзячная жанчына не паспела яшчэ ўзысці на карабель, як пачала какетліва паглядваць на акцёрышку, калі ён, Менахем Грын, у сваіх заляцаннях амаль наблізіўся да мэты.

— Мяркую, вы не першы і не апошні, хто пакутуе з-за гэтага хлопца, — Зорыч быў настроены міралюбіва.

— Ён усім жанчынам тут галаву закруціў, — скрыўджана ўсклікнуў Трэф. Яму ўсё больш і больш падабалася Саламея Таліба. І вырваць прыгожую жанчыну з лап пачвары ягоная фантазія малявала рыцарскім подзвігам.

— А трэба ж хоць нешта зрабіць, — азваўся Ян.

— Давайце правучым яго, — павольна прамовіў Грын, — згуляем з ім у дрэнныя жартачкі.

Пачуліся станоўчыя выгукі.

**III**

— Мне дапамагчы ў лячэнні касмічнай ліхаманкі? — усміхнулася Мейбл, прылашчыла йоркі і нібы знянацку правяла далонню па руцэ Флоя.

— Можаш застацца, калі хочаш, — ён не адмаўляў, але і не запрашаў. Рафаэль спусціў Арэса з рук. Сабачка паважна пакрочыў да спальнай падушачкі.

— Ты песціш яго, корміш са стала, — Мейбл абвіла ягоную шыю рукамі.

— Так заўсёды рабіла Аўрора, — ён не супраціўляўся пяшчотным дотыкам рук і вуснаў. Прэс-сакратарка спахмурнела. Яе кіраўнік зноў згадаў жонку, але ўспамін пра страту не засмуціў ягоны твар. Позірк застаўся чыстым і пяшчотным. Далонь Мейбл саслізнула пад тканіну кашулі. Яна адчула дотык цёплай скуры. Яе сэрца раптам здрыганулася і шалёна закалацілася. Яна адчула, як нерат жарсці з неадольнай сілай абхапіў яе і пацягнуў у вір ягоных абдымкаў.

…Быў перапынак. Талія скакала вакол яго, падпраўляла грым. Раптам у палатцы з’явілася маці. Прыбраная ў чорнае. Ён нават не зразумеў адразу, што гэта была яна. Аліна ніколі не прысутнічала на здымках сына. Больш таго, ён нават сумняваўся, што яна бачыла фільмы, у якіх ён здымаўся.

— Рафаэль, — па голасе акцёр зразумеў, што здарылася нешта жахлівае.

— Дзе Аўрора? — запытаўся Флой. — Няўжо яна не прыляцела з табой? Яна тэлефанавала ды казала, што адчувае сябе дрэнна і жадае мяне бачыць, як мага хутчэй…

— Аўрора не прыляцела, — Аліна паважліва сачыла за рухамі сына. — І ўжо больш ніколі не прыляціць.

— Што з ёй? — нечакана, нібы іголка, наскрозь працяла ягонае сэрца. Рафаэль нават скалануўся.

— Яе больш няма. Пахаванне заўтра. Бацька дамовіцца з рэжысёрам, каб той спыніў здымкі на некаторы час, пакуль ты не ачуняеш і не здолееш працаваць далей.

— Не, мы скончым працу, — павольна, але выразна запярэчыў сын, калі да яго дайшоў сэнс апошніх слоў. Флой сканцэнтраваўся на выяве маці, як на нечым блізкім і зразумелым. Цяпер яму здавалася, што яна нават больш за жонку і бабулю была падобная да чарнагоркі. І ён засяродзіўся на гэтай думцы, таму што думаць пра іншае было нязвыкла і нават страшна. Ён ні хвіліны не сумняваўся ў словах маці, але не быў здольны паверыць, што ягоная жонка…

У той дзень яго апанавала нясцерпная цішыня. Час нібы перастаў існаваць. Ягоныя імкненні ў прасторы, рухі іншых людзей дасягалі свядомасці, быццам праз туман. Ён ведаў, што іграў, але што — не памятаў. Толькі чуў, як Ігнацій Барсук, рэжысёр і добры сябра, крычаў «матор!» і потым «добра, знята».

— Ты сёння проста непараўнальны, — пахваліў яго Ігнацій, калі ўсё было знята. — Мы рабілі няшмат дубляў.

…Адным вечарам Флой узяў свой рэактыўны «ягуар» і паімчаўся на выспы. Там былі вясёлыя забягалаўкі, таннае пітво, дзяўчаткі…

Здымкі працягваліся. Кліментавіч гуляў па начах, пакуль аднойчы вечарам, калі пакідаў сваю палатку, не натрапіў на Саламею…

…Ранкам ён прачнуўся ў яе абдымках. Другую ноч у акцёра была Зорана. Наступную — кіназорку пільнавала Мейбл…

Здымкі скончыліся, і бацька адвёз яго дадому, дзе ўсё, нават паветра, нагадвала пра Аўрору. Дзень пры дні Рафаэль валэндаўся па ваколіцах, а кожную ноч ягоны ложак грэла адна з целаахоўніц…

Маці запэўніла, што ён павінен здейсніць падарожжа на Гігантыку, развеяцца…

…Нанава ўсплыў туманны і абрывачны вобраз Аўроры. Яна ўцякала, паварочвалася, смяялася. Зноў бегла наперад. Рафаэль кідаўся наўздагон ёй, спатыкаўся, валіўся, узнімаўся, хацеў крычаць, але нешта прыціскала грудзі.

— Аўрора, — нарэшце выгукнуў Флой, калі сабраў сілы, але голас быў ледзь чутны.

— Аўрора, — зноў напружыў ён звязкі і … прачнуўся. На ягоных грудзях ляжала галава Мейбл. Яна пацягнулася і расплюшчыла вочы.

— Ты першы з кім я і працую, і сплю, — яна цмокнула яго ў вусны, саслізнула з ложка і накінула халацік.

— Нешта было не так? — акцёр злавіў яе за руку і прыцягнуў да сябе.

— Флой, — млява правуркатала яна. Яе голас выявіў усю непаўторнасць ночы, што яны правялі разам. Ён прыціснуў яе руку да вуснаў. Мейбл паваліласа ў яго абдымкі.

— Мне, напэўна, час падымацца, — Рафаэль цмокнуў яе ў шчаку.

— Але…

— Інакш мы спознімся на сняданне, — прамовіў ён, сеў і спусціў ногі на падлогу. — Ты хочаш, каб я памёр з голаду?

— Зразумела, не, — яна ўскудлаціла ягоныя віхры і паднялася, каб пайсці з пакоя.

**IV**

Арэс, як звар’яцелы, загаўкаў, саскочыў з рук і з усяе хуткасці, на якую здольныя кароценькія ножкі, паімчаў уздоўж тэрасы. Па адным баку якой меліся выхады да адсекаў, дзе знаходзіліся выратавальныя боты. Рафаэль кінуўся за ім наўздагон. Ён дзякаваў Богу, што ў ранні пасля абеду час на палубе яшчэ нікога не было. Знянацку

Флой заўважыў, як бегляк спыніўся ля аднаго з адчыненных люкаў і забрахаў. Чаму люк адчынены, хто яго адчыніў, Флой не разважаў. Рафаэль памкнуўся ў адсек, дзе ўбачыў шасцігадовага хлопчыка, які садзіўся ў выратавальны бот. Ён таксама кінуўся ў бот, схапіў малога, які дрыжаў ці то ад абурэння, ці то ад сораму, і вярнуўся на тэрасу. Электронны мозг бота не атрымаў загад і зноў загерметызаваў люкі.

— Што ты тут рабіў? — Флой цяжка дыхаў. Адным вокам назіраў, як з няўмольнай хуткасцю апускаюцца шчыткі, і ліхаманкава кеміў, у якой ступені бартавы камп'ютар быў здольны прымаць загады ад шасцігадовай малечы.

— Хлопцы з ніжняй палубы кажуць, што я мамчын сын і ні на што не варты, — малы размазваў слёзы і соплі кулачкамі па твары, каб паказаць, што не плача. — Вось я і вырашыў даказаць, што нічога не баюся. Патрапіў сюды, — ціха скончыў ён і схаваў твар у плячук выратавальніка. Вострая іголка працяла сэрца Рафаэля Кліментавіча.

— Як цябе клічуць, герой? — ён ускудлаціў валасы хлапчука, чым сапсаваў рупліва ўкладзеную прычоску, і падумаў, што ў яго таксама мог быць сын.

— Даніл Пырнік, але мама з татам клічуць мяне Данькам, — хлопчык больш не хаваўся. Ён з цікавасцю разглядаў Арэса, які незадаволена сачыў за дзіцём, што заняло яго месца на руках гаспадара.

— А мяне клічуць Рафаэль Кліментавіч, але для сяброў я Флой, — пасміхнуўся ён і падняўся з каленяў. — Ты таксама можаш зваць мяне Флоем.

— А што гэта такое маленькае з хвастом ды вушамі і мноствам валасоў? — Данька ўжо ачуняў пасля перажытага.

— Гэта сабака. Яго клічуць Арэс, — йоркшыртэр'ер ганарыста завіхляў хвастом, калі пачуў сваё імя. — Ты раней не бачыў сабаку?

— Ніколі, — адказаў хлапчаня. Ён з захапленнем разглядаў чатырохногага монстра, і вырашыў: я таксама хачу такога.

Флой сыходзіў па лесвіцы і намагаўся не пакалечыць шыю, якую сутаргава сціскаў Данька. Арэс круціўся пад нагамі. І за ім паварочвалася галава, а то і ўвесь корпус хлопчыка, што не рабіла транспартыроўку лягчэйшай.

— Дзе ты быў? — Тэадор Пырнік абвясціў правы на сына, калі Рафаэль дасягнуў апошняй прыступкі.

— Данька, — Астра абняла дзіця, але не прапусціла выпадак прыціснуцца да кіназоркі, — дарагі, мы шукалі цябе ўсюды…

Тэадор забраў сына.

— Тата, глядзі, які ў Флоя сабака, — і хоць хлапчука абдымалі ды цалавалі маці і бацька, але яго гэта мала займала. — Тата, я хачу такога сабаку.

— Добра, добра, — адказаў Тэадор, — але спачатку, што з табой здарылася? Дзе ты быў?

— Так, — мякка падтакнуў капітан, — мабыць, спадар Кліментавіч дапаможа нам зразумець, што адбылося з гэтым маладым чалавекам.

Рафаэль узяў на рукі Арэса, які вантробна забурчаў. Гэтым ён выяўляў задавальненне, што зноў апынуўся на законным месцы і паказаў моцныя белыя зубы ўсім, хто мог мець намер пакрыўдзіць гаспадара.

— Я ўвесь да вашых паслуг, капітан Георг, — усміхнуўся Флой.

На шчасце, сярод слухачоў не было Рабіны Тук, якая абавязкова выкупіла б гісторыю для якой-небудзь кінакампаніі. У сярэдзіне апавядання ва ўтульную гасцёўню прыляцела адна з дзяўчатак. Калі ўладкавалася каля яго, Крылля Жабіна млявымі позіркамі і працяглымі ўздыхамі пачала выяўляць, як моцна яна хвалявалася за кіраўніка.

Па меркаванні жанчын, гэтае здарэнне яшчэ больш узняло рэйтынг Рафаэля Кліментавіча. Погляды мужчын падзяліліся.

**V**

— З-за цябе я кінула хлопца, — усхліпнула Крылля. Флой уздыхнуў, апрануў халат і накіраваўся ў ванную. Ён разумеў, што яна будзе вінаваціць яго, потым сябе і калі пачуе прабачэнне, то зробіцца пяшчотнай, ласкавай…

— Ведаеш, Крылля, — прамовіў акцёр, калі выйшаў з ваннай. — Гэтыя касмічныя падарожжы такія стамляльныя, што ў мяне да шаленства разбалелася паясніца.

Рафаэль выцягнуўся на ложку, падставіў ёй спіну.

— Можа, ты скінеш халат… — спытала яна, калі ўціpала вочы доўгімі пальцамі з паабразанымі пазногцямі.

— Алей у ніжняй шуфлядцы, — Флой нехаця агаліў спіну да пояса. — Калі жадаеш, вяртайся на Зямлю да таго хлопца, — працягнуў ён размову, перарваную ягоным знікненнем. — Павіншую вас са шчаслівым шлюбам. Мне, зразумела, не хацелася б губляць такога цудоўнага масажыста як ты… — ён з-пад рукі зірнуў на Крыллю. На яе твары адбівалася барацьба пачуццяў. Яна была такая прывабная…

— Ты не разумееш, Флой, — Жабіна адхінула халат значна больш, чым было неабходна для масажу паясніцы. — Я кахаю цябе, — яна ўсхліпнула.

— Чаму ж, Крылля? Не такі ўжо я і бессардэчны, — ён перакуліўся на спіну і паклаў яе рукі сабе на грудзі, як для масажу грудной клеткі.

— Але паясніца, — пралепятала Крылля. Яна не мела сілы супрацьстаяць яму.

— Пачакае, — шапнуў Флой і прыцягнуў яе да сябе.

…Таміслаў Нікаліч і ягоная жонка Славіца з’явіліся на парозе іх гасцёўні. На гэты раз Аўрора была ветлівей з бацькамі. Яна павіталася, усадзіла іх на канапу, прадставіла ім Аліну і Горану.

Таміслаў распавядаў, што калі ягоная дачка нарадзілася, ён абяцаў лепшаму сябру, што аддасць яе замуж за ягонага сына. І цяпер, калі Аўрора стала жонкай іншага супраць ягонай волі, вялікая пляма ганьбы запэцкала ягонае імя. Ён адчуваў сябе здраднікам, што абняславіў сапраўднасць свайго слова. Ніколі раней з ім не было, каб ад сораму не здольны ён быў глядзець сябру ў вочы. Аліна ўважліва слухала. Яна нарадзілася ў іншай краіне. І прынцыповасць у пытаннях гонару наўрад ці была здольна зразумець. Аўрора, першапрычына далікатнага становішча бацькі, зусім яго не слухала. Яна частавала гасцей то пірагамі, то віном з уласных вінаграднікаў. Рафаэль таксама не вельмі прыслухоўваўся да скаргаў і пагроз цесця. Ён паблажліва ўсміхаўся, замілаваны яе хадой, зграбнымі рухамі, выгінамі акруглых абрысаў цела і ўласцівым толькі ёй, калі яна сердавала, жэстам — яна ўскідвала галаву і трэсла валасамі.

Раніцай Флой знайшоў яе ля мальберта. Супраць звычайнага (Аўрора любіла маляваць партрэты, асабліва мужа) жонка працавала над пейзажам. Скрозь гушчу фарбаў на палатне праглядалі характэрныя для даліны Зэта вінаграднікі. Прыпол вельмі каштоўнай начной сарочкі быў запэцканы алейнымі фарбамі.

Яна павярнулася, калі адчула, што ён падышоў. Рафаэль заўважыў у яе паглядзе надзвычайнае ззянне. Ён цмокнуў жонку ў лоб. Яе рукі спавіліся вакол яго шыі. Аўрора зазірнула яму ў вочы.

— Рафаэль, — (яна заўсёды называла яго па імені, ніколі Флой), — мне прысніўся сёння цудоўны сон, — Аўрора казала так, нібыта асцярожна несла кволы

сасуд, напоўнены па самыя берагі чымсьці ціхамірным, і намагалася не расплюхаць яго. — Рафаэль, скажы, што ты шчаслівы.

— Бясконца шчаслівы, — ён прытуліў жонку да сябе. Яго ахінула ўсведамленне, што гэта хвіліна нясе нешта новае ў іх жыццё. Флой пяшчотна пацалаваў каханую.

— У нас будзе дзіця, — яна прыціснулася вуснамі да ягоных вуснаў, прымусіла змоўкнуць…

У той дзень, калі акцёр быў вымушаны ехаць на здымкі, Аўроры зрабілася дрэнна. Малое давала ведаць пра сябе.

— Беражы сябе, — Флой, падрыхтаваны, каб выходзіць, прысеў на ложак і цмокнуў яе ў лоб. Аўрора гартала часопіс. На вокладцы лашчыў позірк фотаздымак, што выяўляў Рафаэля Кліментавіча з жонкай на прэзентацыі нейкага фільма. Яны заўсёды з'яўляліся разам на свецкіх раўтах. Шмат жанчын неўзабаве ненавідзелі яе. Для мужчын Аўрора Кліментавіч была не толькі якарам, які зачапіў самага вядомага сэрцаеда. Яны дзівіліся яе адрознай ад «кіношных жонак» прывабнасці. Але ніводны ліслівец не здолеў дамагчыся прыхільнасці Аўроры. Паходжанне, выхаванне і адданае каханне паспяхова адгароджвалі яе ад натоўпу крывадушнікаў. У свеце гэты шлюб зайздроснікі абвясцілі трапным супадзеннем.

— Я хутка прыеду да цябе, — яна сумна і пяшчотна паглядзела на Рафаэля. Аўрора мела звычку заўсёды падарожнічаць з мужам. За два гады, што яны жылі разам, Флой ні разу не зірнуў на іншую жанчыну. Дасведчаныя спакусніцы толькі бурчэлі: «Калі міне гэтае захапленне?!» Яна нетаропка абняла каханага і прыціснулася шчакой да ягонай шчакі. Аўрора ўсведамляла, што ён пацалуе яе, потым падымецца, выйдзе, і яе свет апусцее…

— Рафаэль, калі я памру, што ты атрымаеш у спадчыну з майго пасагу? — раптам запыталася Аўрора.

— Дурноту ты кажаш, — ён пасміхнуўся, каб развесяліць жонку, і пацалаваў яе. — Буду цябе чакаць.

«У спадчыну з пасагу», — гэтыя словы не выходзілі з галавы, пакуль ён ляцеў у Сіднэй на здымкі.

«У спадчыну з пасагу», — калаціла ў скроні цяпер, як прысуд. Флой прачнуўся. Яму было цяжка дыхаць. Побач, супакоеная, з усмешкай на твары спала Крылля. Рафаэль пасунуў рукой уздоўж вільготнага ілба, закашляўся, папярхнуўся слінай.

Крылля перавярнулася на другі бок, падклала пад шчаку коўдру. Ён адчуў, як нешта яшчэ варушыцца пад падушкай. Адтуль выпаўз Арэс, адзінае, што засталося ў спадчыну ад Аўроры. Ён вінавата лізнуў гаспадару руку і вільнуў хвастом, нібы прасіў прабачэнне, што самавольна перамясціўся са свайго ложка ў пасцель знакамітага Рафаэля Кліментавіча.

— Ах ты, нягоднік, — жартаўліва пагразіў пальцам Флой. Сабака ўбачыў, што з ім гуляюць, весела забрахаў і кінуўся да гаспадара. Гаўканне Арэса абудзіла Крыллю.

## VI

Менахем Грын настойліва пагрукаў у дзверы адной з кают вышэйшага класа. Ён трымаў вялізны букет прыгожых кветак, якія толькі можна было адшукаць у аранжарэях Гігантыка. Кактэйль водараў і фарбаў прызначаўся прыгажэйшаму сапрана ў Сонечнай сістэме. Антуанэта Цюль сустрэла феерыю пахаў і адценняў золка, як і таго, хто іх паднёс.

— Антуанэта, — Менахем вырашыў, што некалькі дзён на адным караблі дастаткова зблізілі іх, каб наведаць оперную дзіву ў ранішні час. — Я жадаю пагутарыць з вамі.

— Садзіцеся, — яна не грэбавала багатымі прыхільнікамі, але цяпер яе думкі былі захоплены Рафаэлем Кліментавічам. — Вып’еце што-небудзь?

— Дзякуй, не, — яму здавалася, што яна дастаткова ветлівая ў межах свецкай пачцівасці, але недастаткова цёплая да блізкага сябра.

— Цудоўныя кветкі на цудоўным караблі, — заўважыла Антуанэта і пасміхнулася сваім мроям. — Ці не так? Усё гэта падобна да казкі!

— Так, — Менахема больш цікавіла, як не забыцца на мэту візіту. — Вы, Антуанэта, самі цудоўная кветка.

Яна ўсміхнулася і паглядзела на яго, нібыта выплыла з ружовага туману.

— Антуанэта, мы знаёмыя не першы год, — ён узяў яе маленькую ручку. — Я заўсёды падтрымліваў вас ва ўсім. Я заўсёды лічыў, што вы — прыгажэйшы голас у Галактыцы, і спадзяваўся, што не адмовіцеся ад маёй шчырай падтрымкі. Усе вашыя клопаты былі і маімі турботамі. Гэты грандыёзны дабрачынны праект, вашае дзецішча, я ўсведамляю, як сваё дзіця. Чаму б нам ні зрабіцца законнымі бацькамі?

— Я нешта не зусім разумею, што вы кажаце, Менахем, — пачала яна запінацца ад нечаканасці.

— Вы ведаеце, як я вас паважаю і кахаю, — Грын не быў здольны стрымліваць імпэт. Вочы гарэлі, ён перабіраў пальцы яе рукі, — Антуанэта, я згараю ад кахання да вас. Згадзіцеся быць маёй жонкой, — фінансіст сутаргава выняў з кішэні футаральчык і ўпрыгожыў яе палец далікатным залатым пярсцёнкам з вялікім дыяментам дзівоснай агранкі.

— Але, я не ведаю, — прыгожае сапрана трапіла ў становішча абсалютнай збянтэжанасці. Дыямент губляўся на паверхні рукі.

— Вы кажаце «згодна», і я раблюся самым шчаслівым чалавекам у свеце, — Грын горача прыпаў да яе рукі.

— А калі я скажу «не»? — спытала спадарыня Цюль дрыжачым голасам. Яна раптам успомніла, што ў яе ёсць свае інтарэсы, мары і каханне, якое яна намагалася заваяваць, калі не голасам, дык дзявоцкім целам.

Менахема Грына быццам перамкнула токам. Ён адсунуўся і выпусціў руку.

— Менахем, вы вельмі добры, вельмі разумны, — намагалася Антуанэта выправіць нетактоўнасць. — Вы самы лепшы, каго я ведаю, але, на жаль, я кахаю іншага.

— Рафаэля Кліментавіча, — сыкнуў спадчынны фінансіст.

— Я цяпер нічога не магу вам адказаць, — спявачка спалохалася, калі ўбачыла, як лютасць перакрывіла твар Грына. — Я падумаю, і можа быць…

— Прабачце, што патурбаваў, — Менахем зрабіўся абыякава-ветлівым, падняўся і развітаўся.

Правучыць выскачку было не толькі жорсткім жартам, але і спосабам ліквідаваць ненавіснага саперніка.

Док шыбаваў уздоўж калідора, Грын знянацку спыніўся. Да яго прышла думка, што пакалечыць Рафаэля было памылкай. Такім чынам можна толькі павялічыць лічбу прыхільніц, якія напоўняцца жалем і спачуваннем да акцёра. Кліментавіча трэба забіць. Фанаткі пабядуюць і забудуць. Ён павольна рушыў у бок тэрасы, каб абмазгаваць, як зладзіць справу і сухім выйсці з вады.

**VII**

— Ну, як, Крылля? — адразу з пытаннем кінулася да яе Талія, калі дзяўчына выйшла са свайго пакоя ў агульную гасцёўню нумара люкс. Яна працірала вочы пальцамі.

— Я ўсё сказала яму, — Крылля ўсхліпнула.

— І што ён? — Талія абняла яе і ўсадзіла на канапу. Мейбл прысела з іншага боку, каб выцерці ёй хустачкай слёзы. Зорана спачувальна ўздыхнула. Саламея нават не павярнулася ад люстэрка, перад якім наводзіла на сябе прыгажосць.

— Ён сказаў, што будзе шчаслівы, калі я вазьму шлюб, — слёзы зноў рынулі ўздоўж шчок. — А потым…

— Што потым? — Мейбл прылашчыла яе плячук.

— Потым ён папрасіў, каб я зрабіла масаж, — выпаліла на адным дыханні Крылля і зноў абмякла.

— І ўсё? — пагардліва працягнула ад люстэрка Таліба. Зорана, Талія і Мейбл асуджальна паглядзелі на яе.

— Ён нават не чуе, што я кахаю яго, — ледзь не заскавытала Жабіна.

— Будзь мужнай, — зноў прылашчыла яе Мейбл.

— Мы ўсе яго кахаем, — ласкава пацвердзіла Страказа. — Пакінь плакаць і супакойся. І я зраблю цябе прыгожай.

— Ты не можаш з'явіцца перад Флоем у такім раскудлачаным выглядзе, — падтрымала яе Мейбл. Яна падумала, што, як і з ёй, з Крылляй у Рафаэля Кліментавіча не было нічога сур'ёзнага. Ён спаў з ёй, але што з таго, калі нават не ўсе, хто жадаў, маглі ганарыцца такой пашанай, таму Крылля павінна разумець, як ёй пашанцавала. Але Крылля жадала большага, і Мейбл Тоўн зайздросціла ёй, таму што сама яна доўгі час не памятала, калі хацела большага, чым ёй прапаноўвалі на дамоўленай аснове.

— Добра, — скарылася Жабіна ўгаворам сяброўвак. Зорана паднесла чыстую хустачку замест скарыстанай. Талія перасадзіла Крыллю ў крэсла. Узяла ў адну руку набор, якім карысталіся грымёры, у другую — пэндзаль і пачала чараваць над Жабінай.

Калі дзяўчаты Рафаэля з'явіліся ў гасцёўні, свецкае кола ўжо падзялілася на групы. Рабіна Тук залучыла Флоя.

— Флой, любы, апошнім часам ты не вельмі добра ставішся да мяне, — прадзюсар шматзначна зірнула на яго.

— Але, Рабіна, — ён чароўна пасміхнуўся. Акцёр добра ведаў пра свае козыры ў гульні з прыгожым полам.

— Флой, не выкручвайся, — на Рабіну ягоная прывабнасць не мела ўздзеяння. — Мінулым разам ты адмовіўся прадаць мне гісторыю пра знаёмства з жонкай…

Рафаэль спахмурнеў. Рабіна была не тым чалавекам, ад якога ён жадаў пачуць пра Аўрору. І потым акцёру здавалася, што ён зусім забыўся на жонку, але хто ведаў, як часта яму даводзілася прыкусваць язык, каб не назваць тую, шта была побач з ім, Аўрорай.

— Але гэты гераічны аповед пра выратаванне хлопчыка. Чаму ты мне нічога не сказаў? — спыталася спадарыня Тук бацькоўскім тонам.

— Рабіна, ты ж ведаш, што я тут адпачываю…

— Здаецца, я ведаю адну жанчыну, якая не вар'яцее ад Рафаэля Кліментавіча, — нязмушана паведаміў Ілья Трэф свайму пахмурнаму сябру і Зорычу, пакуль кідаў захопленыя позіркі ў бок Саламеі, якая паспяхова рабіла выгляд, што не заўважае іх.

— Шчыра кажучы, яна стараватая для гэтага, — адказаў Усяслаў. Грын ізноў прамаўчаў. Сам выгляд Кліментавіча выводзіў яго з раўнавагі.

— Дык, што наконт нашага жарту? — Ілья звярнуўся да маўклівага сябра.

— Можа, давайце прычэпім да хваста сабакі вяроўку з бразготкамі, — азваўся Зорыч. — Я чытаў, што так рабілі, каб пажартаваць, але з кошкамі.

— Нядрэнны план, — змрочна адказаў Менахем так, нібыта жадаў паслаць усіх да чорта.

— Мама, мама, дзе Флой? — Данька ажывіў шумную кампанію, што прымусіла Грына яшчэ больш спахмурнець.

— Вось малады чалавек, якога я выратаваў, — пазнаёміў Рафаэль Даньку з дасведчаным прадзюсарам.

— Хлопчык, ты любіш кіно? — запыталася спадарыня Тук. Яна думала, якую карысць можна атрымаць з новага знаёмства.

— Не-а, — шчыра прызнаўся Даніл. — Я люблю сабак, — ён працягнуў руку да Арэса, які адразу бязгучна хапануў яго. Хлопчык не закрычаў і нават не спалохаўся. Ён колькі хвілін разглядаў руку.

— Баліць? — спытаў Кліментавіч і агледзеў руку малога.

— Не-а, — мужна адказаў Данька.

— Тады, хадзем, я адвяду цябе ў медыцынскі адсек, — Рафаэль узняўся. — Прабач, Рабіна. Ты сама разумееш, што такімі рэчамі не жартуюць.

— З гэтага не зробіш гісторыю, — прабурчала яна, пакуль сачыла, як кінаакцёр цягнуў хлопчыка ў медыцынскі адсек.

— Ён гуляе з маім сынам больш, чым Тэадор, — захоплена шаптала Астра, якая не ведала пра ўкус, графіне Дэлавэрскай.

— Напэўна, ён любіць дзяцей, — выказала меркаванне Луіза. Яе ўяўленне пра ідэальнага мужчыну не дапускала хлопца, які нянчыўся з дзецьмі.

— А тыя дзяўчаты, што з ім, — працягвала Астра. — Тая чорненькая дык увогулле дзіця.

— Яна прафесійны стыліст з міжпланетным сертыфікатам, — падсела да іх гуртка Рабіна. — А ваша дзіця, спадарыня Пырнік, толькі што атрымала траўму...

— Тэадор, — усклікнула Астра і ўскочыла з абурэннем. Рабіна з адчуваннем задаволенай прагі помсты праводзіла сямейную пару поглядам да дзвярэй гасціннага адсека. Ёй таксама давялося, але ўжо здзіўленым позіркам праводзіць туды спадарыню Таліба.

## VIII

— Я адказваю за тваю бяспеку, — Саламея кінула прэзерватыў на ложак.

— У тваім кейсе зашмат такіх штучак? — Флой незадаволена запхнуў яго ў кішэню халата, потым саўгануў ногі пад коўдру і накрыўся. Арэс застаўся на каранціне ў лабараторыі доктара Розана. Доктар мусіў праверыць, ці не хварэе йоркшыртэр'ер на нейкую пошасць, што магла перадацца хлопчыку праз укус. Бацькі ўзнялі крык з-за некалькіх кропак на руцэ — след укуса — большы, чым юны сабачнік. Аднак, Рафаэль давяраўся Розану, які паставіўся і да сабакі, і да гаспадара прыязна і з вялікім разуменнем. Гаспадар пакінуў Арэса на ноч у лабараторыі, хаця яму цяжка было ўсведамляць, што кудлаты камяк не пракрадзецца раніцай цішком у ягоны ложак, каб пасапці пад падушкай. Такім чынам, цяпер абараняць яго не было каму.

Саламея расчэсвала валасы ля люстэрка з адчуваннем асалоды ад выгляду сваіх шыкоўных залацістых кучароў, але яшчэ больш у прадчуванні асалоды.

Нарэшце яна павярнулася, какетліва прыспусціла з пляча халацік і пагуляла канцом пояса, але… Флой ціхамірна спаў на краю ложка. Саламея здзіўлена паглядзела на яго. Такое ў яе жыцці было ўпершыню, каб мужчына, з якім яна збіралася правесці ноч, не дачакаўся яе і заснуў. Жанчына незадаволена паморшчылася, але была вымушана зайсці з іншага боку, легчы ў халодны ложак і накрыцца іншай коўдрай. Яна памятала, што неслужбовыя адносіны не заахвочваліся, але яна сама прыйшла ў яго ложак, у той момант, калі ягоная галава не вельмі добра цяміла. Саламея чмыхнула. Яна так доўга чакала, яна так жадала яго… І вось цяпер яна нават не ведала, што рабіць.

Каб забыцца на непрыемныя думкі, яна схапіла плоскі паралелепіпед, які ляжаў каля начніка. Паралелепіпед аказаўся кнігай. Хаця кнігамі доўгі час ужо ніхто не карыстаўся, Флой, паводле нейкай дзіўнай прыхільнасці да калекцыяніравання, вельмі любіў збіраць іх і меў вялізную бібліятэку ў сутарэннях дома бацькі, спецыяльна абсталяваннага для гэтага. Там падтрымліваліся нязменныя тэмпература і вільготнасць. Нямногія ведалі пра гэты схаваны бок ягонага таленту, але часам нават знакамітыя прафесары наведвалі дом Кліментавічаў, каб скарыстацца бібліятэкай Рафаэля. Ён таксама меў звычку заўсёды, на здымкі ці ў падарожжа, узяць з сабой дзве-тры кнігі.

Саламея кінула колькі незадаволеных паглядаў на кіназорку, але ён не прачынаўся. Яна разгарнула кнігу бліжэй да пачатку і пачала вадзіць вачамі ўздоўж радкоў.

…Рафаэль трапна пасадзіў «Лебядзь» у прыватным сектары.

Аўрора капрызліва падціснула вусны.

— Нам давядзецца апрануць скафандры, каб прагуляцца да Лунабурга. У Клімянціне для нас забраніраваны люкс.

— Тут змрочна, — працягнула яна, калі разглядала панараму Месяца.

— Дык, не ўвесь час нам сядзець на арбіце, — Рафаэль абхапіў яе і пацалаваў.

Ён спадзяваўся, што пра іх прыбыццё не зведае аніводная жывая душа, але дарэмна. У холе Клімянціны іх злавіла Рабіна Тук.

— Добрай раніцы, — накіравалася яна ў бок маладых.

— Добрай раніцы, Рабіна, — Флой, як заўсёды, быў галантны, хаця ведаў, што старая ліса нездарма з'явілася на Месяцы. — Шчаслівы пазнаёміць цябе з маёй жонкай Аўрорай. Аўрора, знаёмся, калі ласка, са старадаўнім сябрам нашай сям'і Рабінай Тук.

— Добрай раніцы, — жонка была надзвычай стрыманая.

— Рафаэль, любы, пра цябе і Аўрору ходзяць нейкія рамантычныя чуткі, але калі я тут, то не супраць даведацца пра ўсё з першых рук, — яна вяла маладых да адной з канапаў у холе. Клімянціна быў першакласным гатэлем, і ўмовы там падтрымліваліся амаль зямныя, хаця гэта каштавала больш, чым тыя самыя выгоды на Зямлі.

— Як бачыш, я ажаніўся, — пасміхнуўся Рафаэль. — Вырашыў пачаць сямейнае жыццё.

— Флой, любы, — Рабіна таксама ўсміхалася. — Я ўсё разумею. Я не першы год у бізнесе. Колькі ты хочаш за экранізацыю гэтай рамантычнай гісторыі…

— Ведаеш, Рабіна, — Кліментавіч стомлена паглядзеў на яе. — Мы толькі што з арбіты. Мая жонка дужа стамілася. Давай пакінем гэтую размову. Добра?

— Так, пагутарым пазней, — ветліва пагадзілася спадарыня Тук. Яна засталася незадаволенай.

…Ужо трэці дзень Аўрора была млявай і апатычнай. Яна сядзела насупраць мальберта ў ягонай кашулі (вельмі любіла насіць ягоныя кашулі) і пад яе пэндзлем

з'яўляўся маркотны месяцовы пейзаж — бясконцая светла-шэрая раўніна з невялікімі расколінамі, якая гублялася ў глыбіні чорнага космасу.

Дзвярны званок паведаміў пра прыбыццё доктара і спадарыні Ніколіч. Гэта былі бацькі Аўроры. Рафаэль дазволіў ім увайсці. У пакоі з'явіліся паважны мужчына, вядомы чарнагорскі адвакат, і ягоная мажная жонка, у выглядзе якой ён не знайшоў аніводнай рысы падабенства з дачкой. Кліментавіч запрасіў іх сесці і прапанаваў выпіць. Аўрора не звярнула аніякай увагі на прысутнасць бацькоў. Яна працягвала млява вадзіць пэндзлем уздоўж палатна.

— Я не ведала, што Аўрора здольная да малявання, — уразілася Славіца.

— Я больш люблю, калі яна малюе партрэты, — ветліва ўсміхнуўся Рафаэль.

— Ведаеце, — пачаў адвакат, — я прыйшоў да вас па справах…

— Разумею, — кіўнуў галавой Флой. З'явіўся заказ.

— Вы ажаніліся з маёй дачкой без маёй згоды і благаславення, — працягваў Ніколіч, калі адпіў вады.

— Вы здольныя зразумець мае пачуцці да вашай дачкі, — мякка адказаў Рафаэль. Ён павольна памешваў цукар у чаі.

— Менавіта, да маёй дачкі, — павысіў голас бацька Аўроры. — І ў мае планы не ўваходзіў яе шлюб з нейкім акцёрам. У той дзень, калі яна нарадзілася, я паабяцаў майму лепшаму сябру Божыдару Лазавічу, што яна зробіцца жонкай яго паважанага сына Ураша. Недаравальны ўчынак гэтай нікчэмнай жанчыны зганьбаваў маё імя, зрабіў з мяне клятвапарушальніка.

— Вы забываецеся, што кажаце пра маю жонку, — далікатна нагадаў яму Кліментавіч. Аўрора падвяла яшчэ адзін штрых на цёмна-сінім небе, якое ў яе пакуль было без зорак, і пачала разбаўляць новую фарбу.

— Добра, — нечакана супакоіўся Ніколіч. — Я хацеў пагутарыць пра справу, — ён зірнуў на жонку, якая піла сок і з жахам разглядала адзіную дачушку. — Я мяркую, вы ведаеце, што ваш шлюб вам дарма не пройдзе.

— Калі я пазнаёміўся з Аўрорай, адзінае, што мяне цікавіла, — гэта яна сама, — адказаў насмешліва Флой. — І я рады, што магу клапаціцца пра яе і не адмаўляць ёй у капрызах.

Аўрора адклала пэндзаль і палітру і адкінулася, каб паглядзець на зробленае ў іншым ракурсе.

— Я разумею, — адвакат скрыжаваў пальцы, таму што намагаўся выявіць сваю думку больш дакладна, памаўчаў. — Справа ў тым, што ёсць такі далікатны момант, як клятвапарушэнне...

Яго перапыніў звонкі брэх Арэса. Сабака ўчапіўся гаспадыні ў валасы, і яны пакаціліся па падлозе. Кашуля на Аўроры задралася да грудзей і агаліла зграбную постаць. Адвакат сарамліва адвярнуўся. Славіца заплюшчыла вочы са словамі: «У што ён ператварыў маю дачку, гэты стары распуснік!»

Галава Аўроры апынулася ля ног мужа. Яна, як кошка, выгнулася і падняла галаву, падставіла шчаку для пацалунка. Флой узяў яе за падбародак і пацалаваў у вусны. Яны не звярталі ўвагі на гасцей.

— Мы, бадай, працягнем наступным разам, — Ніколіч падняўся. За ім следам памкнулася жонка. Дзверы за імі зачыніліся. Рафаэль занадта быў заняты каханай, каб яго цікавіла адсутнасць адваката і вынікі гэтага…

Калі Флой прачнуўся, ён яшчэ адчуваў блізкасць Аўроры і спрасонку ціхутка паклікаў яе. Побач, як бервяно, выцягнулася ў струнку і склала рукі па швах Саламея. На яе грудзях ён заўважыў разгорнутай адну са сваіх кніг. Акцёр пасміхнуўся, калі ўзгадаў пра ўчарашняе.

Рафаэль асцярожна, каб не пабудзіць целаахоўніцу, узяў кнігу. Яму было цікава, што Саламея чытала. Ён быў здзіўлены, што яна ўвогуле ўмела чытаць. Гэта была адна з тых гісторый, якія прыгожа апавядалі пра заблытаныя ўзаемаадносіны паміж мужчынам і жанчынай, але дзе заўсёды ўсё канчалася добра. Флой чмыхнуў. Такія гісторыі былі не па гусце Саламеі. Рафаэль кінуў кніжку на столік і адхінуўся на падушкі. Ад рэзкага гука сакратар-рэферэнт прачнулася.

— Гэта была незабыўная ноч, — ён павярнуўся да жанчыны, паднёс яе кісць да вуснаў, крануўся імі толькі пальцаў (паводле ўсіх правілаў этыкету). — Я цудоўна выспаўся.

Бязвінны погляд і пяшчотны дотык не далі ёй часу знайсці, што адказаць.

— Саломушка, зрабі мне чаю, — млява папрасіў Флой. — Дадай туды толькі тры кроплі кан'яку, а не пяць, як ты маеш звычку.

Адмовіць было немагчыма. Саламея з адчуваннем, што над ёй насміхаюцца, цяжка ўзнялася і павольна накіравалася ў бок бара. Яе душылі злосць і жаль да сябе.

Флой чмыхнуў ёй наўздагон, каб не зарагатаць, і зноў адкінуўся на падушкі ложка, з якога толькі што выправадзіў Саламею. Заплюшчыў вочы. Думкі памкнуліся да Аўроры, але не здолелі дасягнуць яе…

Саламея зазвінела шклянкамі. Пырскнула тры кроплі ў чай, сабе ў шклянку яна пляснула кан'яку.

Целаахоўніца паставіла паднос са шклянкамі на начны столік і ўладкавалася на каленях у Флоя, перамога над якім грэла самалюбства. Яна ўсведамляла, што сёння яе выгналі з ложка, і цяпер збіралася ўзяць рэванш.

— Вай-вай-вай, брэндзі ў такі ранні час. Гэта непрыгожа, — насмешліва прамовіў Флой, гуляючы поясам халаціка, і зірнуў ёй у вочы. Саламея, вырашыла, што ён заваблівае яе, і вокамгненна расхінула халат.

Акцёр абняў яе так, што ледзь не тры разы загарнуў ў халацік, узяў сваю шклянку.

— Ведаеш, Саломушка, — мякка прамовіў Рафаэль. Словы гіпнатызавалі яе, — баюся, мой чай астыне і згубіць свой надзвычайны смак, — ён чмокнуў аголены плячук дзяўчыны, дазволіў тым самым зразумець, што яна больш не патрэбная.

**IX**

Менахем Грын асцярожна спусціўся на палубу трэцяга класа. Ён хацеў ведаць, ці магчыма знайсці сярод каланістаў двух-трох чалавек, не вельмі прынцыповых у пытаннях здабывання хлеба надзённага і гатовых на выкананне бруднай працы для іншых людзей, якія жадалі шчодра аплаціць усе выдаткі нялёгкай работы. Грыну пашанцавала навесці даведкі пра прадстаўнікоў трэцяга класа ў журнале капітана Славінскага, і цяпер яго цікавіла магчымасць знаёмства з пасажырам па імені Кат Трум, чыё мінулае абнадзеіла фінансіста.

Менахем агледзеўся і пагрукаў у каюту 1124. Адказу не пачуў. Фінансіст націснуў на кнопку на панэлі кіравання. Незафіксаваныя дзверы ўзняліся самі. Пасярод маленькай каюты п'яны да непрытомнасці валяўся малады мужчына, чыя белая скура красамоўна сведчыла, што ён ніколі не пакідаў Месяц раней. Грын паморшчыўся і сабраўся рэціравацца, але перадумаў, вырашыў давесці справу да канца. Дзверы за ім зачыніліся. Гук удару (на ніжніх палубах дзверы не мелі амартызатараў) абудзіў гаспадара памяшкання. Менахем прысеў на адзіны ложак, каля якога адпачывала цела Трума.

Кат цяжка сеў, спрабуючы зразумець, што за незнаёмец знаходзіцца ў каюце.



*Малюнак* ***В. І. ПУЗАНКЕВІЧА.***

— Я вас не клікаў, — язык пасажыра трэцяга класа дужа заплятаўся. Прыхільнік оперы мужна напружваў слых, — але, калі вы прынеслі бутэльку якога-небудзь моцнага пойла, я не адмоўлюся ад сяброўства з вамі.

— Бутэлькі ў мяне няма, — Менахем прыкідваў, у якой ступені гэты чалавек здольны адпавядаць ажыццяўленню ягонай задумы. — Але я не адмоўлюся ад сяброўства.

Кат Трум драпежна хмыкнуў і цяжка ўзняўся на ногі ды пляснуўся на ложак побач з Менахемам.

— У якой колькасці грашовых адзінак вы ацэньваеце маё сяброўства, — ён цверазеў на вачах.

— У залежнасці ад таго, што вы здольны прынесці ў ахвяру сяброўству, — здаецца, у гэтага чалавека ў дастатковай ступені адсутнічала прынцыповасць, каб яны добра разумелі адзін аднаго.

— Скажам, шмат, — прыжмурыўся Кат. Ён меркаваў, колькі ж можна выцягнуць з чысценькага спадара.

— І нават чалавечае жыццё? — Менахем павольна адкрываў карты, хаця адчуванне, што ён гуляе навобмацак, не пакідала яго.

— Хочаце гарэлкі? — Трум дастаў з-пад ложка брудную бутэльку, на дне якой нешта яшчэ захавалася.

— Мне, напэўна, час ісці, — Грын падумаў, што ні да чаго вартага гэтая размова не прывядзе, але спяшацца было не трэба. — Мы яшчэ пагутарым, — ён падняўся, пакінуўшы на ложку буйную банкноту.

— Не турбуйцеся, — пачуў Менахем, калі выходзіў. Яму цяпер неабходна было спаткацца з Трэфам. Ён спяшаўся ў сталовую, дзе пачыналася сняданне.

За столікам Рафаэля Кліментавіча панавалі маўчанне і смутак. Саламея кідала зайздрослівыя позіркі на таварышак, якія сядзелі побач з Флоем, але ён быў занадта заняты ежай і кармленнем Арэса.

Пасля снядання да Саламеі Таліба наблізіўся з усмешкай Ілья Трэф.

— Вы сёння чароўная, як заўсёды.

— Дзякуй, — Таліба сапраўды чароўна пасміхнулася і павярнулася, каб паглядзець, дзе Кліментавіч, але ён знік разам з усёй кампаніяй.

— Ён вас зусім не шануе, Саламея, — яна мусіла вярнуць увагу прыхільніка.

— Калі б ён меня добра не шанаваў, я ў яго не працавала б, — парыравала Таліба.

— Вы не створаны, каб працаваць, Саламея, — Трэф прысеў з ёй на адной з канап. — Вы проста створаны, каб быць каханай…

— Няўжо? — яе доўгія вейкі ўспырхнулі, але вусны выгнуліся насмешліва.

— Вы мне не верыце? — пакрыўдзіўся ранцье і ўзяў яе руку.

— Чаму ж? — Таліба не адняла руку. Увага другога мужчыны злёгку палегчыла боль, які прынесла нячуласць першага.

— Як прыемна бачыць вас разам, — ублытаўся ў размову Менахем Грын, — але, спадарыня Таліба, мне неабходна ўкрасці ў вас майго сябра, калі вы не супраць.

— Я толькі рада дапамагчы, — у пяшчотны галасок убіўся яхідны тон. Яна павольна паднялася з канапы і зграбнай хадой накіравалася шукаць боса. У сэрцы спакуса паступова саступала месца расчараванню абражанага гонару.

— Якая жанчына, Менахем, — прашаптаў Трэф, паглядаючы ёй услед.

— Ты зноў закахаўся, — чмыхнуў Грын, нібыта нічога не здарылася. — І як надоўга?

— Да першага пацалунка, магчыма, хаця я здольны астыць пазней, — ранцье зноў павярнуўся да сябра. — Дык, ты хацеў са мною пагаманіць.

## X

Рафаэль Кліментавіч доўга расчэсваў поўсць йоркшыртэр’ера, якая надта скудлацілася за апошнія колькі дзён, каб укласці на бігудзі. Арэс разваліўся на начным століку і задаволена бурчаў. Зорана Клад падавала то бігудзі, то нажніцы і цярпліва чакала сваёй чаргі. Арэс вельмі любіў, калі яго завіваюць. Аднак, гэтая працэдура ніяк не перашкаджала сабаку ў звычайны час займаць месца пад падушкай гаспадара. Флой завіў апошнюю пасму на хвасце. Бурчанне перайшло ад вантробнага да пагражальнага. Акцёр вырашыў, што надышоў час займацца Зоранай.

— Ты прайшла школу целаахоўнікаў, — ён цмокнуў Зорану ў лоб і пасадзіў на калені.

— Так, тры гады, — яна пачала няспешна расшпількаваць гузікі касцюма халоднымі пальцамі.

— Чаму ты вырашыла пайсці ў целаахоўнікі? — ён заняўся гузікамі ўнізе.

— Мой бацька, браты, дзед, — Зорана ад прыроды была маўклівая і замкнёная. Іх пальцы сустрэліся. Ён паднёс яе кісць да вуснаў, як кубак, з якога збіраўся прыгубіць.

Зорана, высокая, шыкоўная брунетка з блакітнымі, як ільдзінкі, вачамі і смуглявай скурай растала ў ягоных руках, зрабілася мяккай і падатлівай. Яе рукі зазмяіліся ўздоўж цела. Усю лавіну бурлівай пажадлівасці, падобнай да горнай ракі ў паводку, якая змятае на сваім шляху плаціны, яна выліла на яго…

…Рафаэль вывеў «Лебядзь» на арбіту і паставіў на аўтапілот. Цяпер ніхто і нішто не магло перашкодзіць яму атрымліваць асалоду…

Ён прыняў Аўрору ў вялікі адсек. Вялізная колькасць спадніц, рушаў і валанаў рабілі яе падобнай да вясельнага каравая, які яму ўсё яшчэ не давялося паспытаць. Рукі патаналі ў тканіне, сярод якой не было намёка на цела. Маладая толькі падстаўляла шчыльна сціснутыя вусны для пацалункаў. Але і пакідаць яго Аўрора таксама не жадала, увесь час трымала за руку, як маленькая дзяўчынка, што баіцца згубіцца, і ўсміхалася міла, але хітравата.

Гэты каравай заварушыўся сам. Яна з выглядам уласніцы правяла ўказальным пальцам уздоўж ягоных броваў, носа, вуснаў. Флой клацнуў зубамі. Аўрора адхапіла палец і рассмяялася. Рафаэль засмяяўся разам з ёй. Яна абняла мужа так моцна, нібыта баялася зваліцца, і даверліва прыціснулася да ягоных вуснаў, намагаючыся глядзець у вочы. Рафаэль адчуў, як закалацілася ейнае сэрца.

У гэты момант нешта ўваткнулася ў ягоную шчыкалатку. Гэта быў загрыміраваны пад вясельны букет Арэс. Ён адскочыў ад нагі крыўдзіцеля гаспадыні і люта забрахаў. Потым распачаў новую атаку.

— Што будзем рабіць? — Флой узлез са сваёй ношай на ложак. Аўрора пасміхнулася і падміргнула яму.

— Арэс, ідзі на месца, — загадала маладая сабаку вельмі ціха. Йоркі паматляў хвастом і ўскочыў да іх. Рафаэль засмяяўся, калі зразумеў, дзе Арэс абраў сабе месца. Прылашчыў сабаку, які быў здольны на ўсё, каб яго куснуць. Паказытаў пад падбародкам. Йоркі, вядомы сваёй бескампраміснасцю, расслабіўся. Пальцы кінаспакушальніка павольна перайшлі на жывоцік Арэса. Адданы вартавы пачаў задаволена буркатаць. Галава гаспадыні ляжала на каленях Флоя, і другой рукой ён казытаў яе спачатку пад падбародкам, потым улонне — адпаведна таму, як першая рука рухалася ўздоўж цела маленькага целаахоўніка.

…Потым абедзве рукі апынуліся на плячах Аўроры…

Ён схіляўся над ёй, як трыснёг над вадой, павольна вызваляў ад цяскоў сукні, нібыта мятлушку ад кокана.

…Яе рукі ўзняліся да яго, і іх аголеныя грудзі сутыкнуліся. Аўрора адвяла з ягонага лба непаслухмяную пасмачку, працяла п’яным ад спакусы поглядам, і прыціснулася да вуснаў…

Флой прачнуўся, калі адчуў, што побач нікога няма. Дакладней, быў толькі Арэс. Колькі метраў ад ложка Аўрора нешта крэсліла алоўкам на паперы.

Ён нават не ведаў, якая таленавітая ў яго жонка! На малюнку быў выяўлены ён, аголены, сярод падушак і прасцін.

— Аўрора, што гэта? — здзіўлена спытаў Кліментавіч, калі нахіліўся да яе, каб цмокнуць у лоб.

— Ты, — яна пацерлася шчакой аб ягоныя грудзі. — Рафаэль, калі ты спаў, то быў такі прыгожы і пяшчотны, што мне захацелася намаляваць цябе такім, а потым я трошкі захапілася… — яна запытальна зірнула на мужа.

— А цяпер які? — яму было трохі няёмка, калі яна выяўляла замілаванне ягоным целам, але гэта і спакушала.

— Такі пажадлівы, — прамуркатала дзяўчына, калі Флой уздымаў яе на рукі. — Толькі паабяцай мне, — прасіла яна паміж пацалункамі.

— Што заўгодна, — вусны саладзейшыя за яе Рафаэль ніколі не спрабаваў.

— Я хачу, — Аўрора трохі адхінулася і глядзела больш сур’ёзна, — намаляваць цябе, — ён згаджаўся на ўсялякія дзівацтвы, — у маёй вясельнай сукенцы.

— Я з’еду з глузду, — стагнаў ашаломлены Флой, калі скрозь салодка-эфімерны арэол пажадлівасці да яго даходзіў сэнс прапановы.

— Пакрысе, — Аўрора злёгку адварочвала ягоны твар, які торкаўся ў ейныя грудзі, — але, Рафаэль, ты паўстанеш непараўнальным. Ты трошку высакаваты, і ў цябе панадная постаць, і далікатныя рукі, і вельмі прывабны твар…

— Меркаванне прафесіянала? — у захапленні Флой цалаваў яе скуру, і гэты смак выклікаў надзвычайную асалоду.

— Я добра малюю, — Аўрора падціскала вусны, пакуль муж не пачынаў цалаваць іх зноў.

— Няхай вясельная сукенка, — анёл з фантазіямі чарцяняці, які то даверліва прыціскаўся, то нецярпліва выпростваўся, вабіў яго да непрытомнасці…

…Полымя прагна ахапіла палатно і алей. Спачатку ў камін быў кінуты месяцовы пейзаж, потым вінаграднікі, якія яна так і не скончыла, вялізная колькасць партрэтаў…

Рафаэль доўга глядзеў на свой партрэт у ейнай вясельнай сукенцы. Яго сапраўды магчыма было пераблытаць з нявестай, пяшчотнай і цнатлівай. Аўрора прыгожа падшпіліла валасы і запхнула кашулю ў станік…

Флой не кінуў гэтае палатно, але акуратна паставіў у полымя разам з рамай. Языкі пачалі лізаць падол, асвятлілі твар на партрэце дзіўным, пагрозлівым святлом. Гэтая апошняя карціна была адзінай захаваўшайся нітачкай, што звязывала яго з жонкай, якая загінула. Рафаэль адчуваў, як з яго вырываюць сэрца.

— Аўрора, — дзіка закрычаў ён…

— Яна зноў снілася табе? — клапатліва запытала Зорана. Ён мутным позіркам агледзеў целаахоўніцу, выслізнуў з яе абдымкаў і паваліўся на падушкі. У той раз, дома, збегліся маці, бабка і ўся прыслуга і доўга адходжвалі яго, баяліся, што ён не апрытомнее.

— Ты колькі разоў клікаў яе, — занепакоена прамовіла Зорана.

— Прытрызнілася, — адмахнуўся Флой. Арэса не было пад падушкай. Да вялікага здзіўлення Рафаэля сабачка пасопваў на ўласнай падушачцы. Нават не накідваючы халат, ён накіраваўся да ўлюбёнца Аўроры.

— Прышлі да мяне Талію, — кінуў акцёр Зоране, калі займаўся бігудзямі і йоркі, замест звычайных слоў развітання.

## XI

— Капітан кажа, што мы хутка будзем каля Марса, — Рабіна Тук звярнулася да Яна і Усяслава. — Вы пабудавалі сапраўды вельмі спрытны карабель.

— Ён не толькі хуткасны, але і надзейны, — Прымак ніколі не стамляўся слухаць пахвалы ў адрас свайго тварэння. — З Гігантыка вы таксама маеце магчымасць звязацца з любым караблём паміж Зямлёй і Юпітэрам.

— Нешта Рафаэля Кліментавіча не бачна, — млява ўзняла вочы да столі Луіза Дэлавэрская, калі звярнулася да Астры Пырнік, з якой яны паспелі пасябраваць.

Антуанэта Цюль скаланулася. Менавіта на сённяшні дзень яна ўскладвала вялікія надзеі ў справе прыцягнення ягонай увагі да ўласнай асобы. Менахем Грын таксама спахмурнеў. У яго былі свае планы, якімі ён не падзяліўся нават з Трэфам.

Ягоныя роздумы перапынілі крыкі Данілы Пырніка. Ён разбіў кубак і парэзаў рэшткамі палец. Адразу падскочыў доктар Розан і пацягнуў малога ў медыцынскі адсек. Яму не далі спакойна паснедаць.

— Доктар, гэта сур’ёзна? — спытала Астра. Яна адчувала, што ад выгляду крыві прытомнасць здраджвае ёй.

— Ваша дзіця — гэта сур’ёзна, — адказаў доктар, якога пазбавілі магчымасці атрымаць асалоду ад снядання. — Мы ляцім не больш за тыдзень, а ён паспеў паўдзельнічаць у трох прыгодах.

— Ён такі жвавы, доктар, — бездапаможна апраўдвалася спадарыня Пырнік.

— Лепш трэба глядзець за дзецьмі, — адрэзаў доктар Розан. — Прашу пакінуць нас удвух, — ён зачыніў дзверы медыцынскага адсека. На гэты раз Астра згубіла прытомнасць. Яе паспеў падхапіць Ілья Трэф, які палічыў, што не мае нічога супраць інтрыжкі з замужняй жанчынай з дзіцём.

Пад агульны гоман Менахем Грын адлучыўся ад кампаніі. Ён вырашыў выправіцца да палубы трэцяга класа і наведаць знаёмага з каюты 1124.

На гэты раз Кат Трум быў цвярозы.

— Хто? — спытаў ён праз інтэрком, калі Грын націснуў кнопку, каб увайсці.

— Сябар, — абыякава адказаў Менахем. Дзверы адчыніліся. Кат Трум ляжаў на ложку, але, калі ўбачыў госця, ускочыў і прапанаваў яму сесці.

— Я чакаў вас, — ён дагодліва ўсміхнуўся, але ў яго атрымалася дрэнна. — Мабыць, вы прынеслі бутэльку?

— Я прынёс нешта больш значнае, чым бутэлька, — Менахем уладкаваўся на ложку і закінуў нагу на нагу.

— Магу даведацца што? — Кат Трум разваліўся побач. Ён не зводзіў з госця драпежных вочак.

— Прапаную папрацаваць, — адказаў Грын. Ён усё больш упэўніваўся, што гэты чалавек падыходзіць для здзяйснення справы.

— Чаго вы жадаеце? — асцярожна спытаў Кат.

— Спаскудзіць жыццё аднаму вельмі дрэннаму чалавеку, — ледзь не па складах прамовіў Менахем.

— Скалечыць? — перапытаў Трум і сціснуў рукі.

— Магчыма, — ухіліста адказаў субяседнік. Ён пільна сачыў за рэакцыяй Трума.

— Забіць, — больш сцвярджальна прамовіў Кат.

— Я гэтага не казаў, — Менахем адвёў пагляд.

— Я заўсёды рад дапамагчы, — прадстаўнік трэцяй палубы заўважыў, як на ложку з’явіўся значны пачак банкнот.

— Калі выканаеш працу, атрымаеш удвая больш, — Грын перадаў новаму сябру картку з выявай вядомай асобы і ўзняўся.

— У тры разы больш, — Трум дагодліва ўсміхаўся.

— Добра, — фінансіст выйшаў, але не развітаўся.

Ягонай зларадаснасці не было межаў, калі сустрэў Антуанэту, якая шпацыравала ў адзіноце ўздоўж галерэі ў чаканні з’яўлення Рафаэля Кліментавіча.

— Антуанэта, вы? Тут? Адна? — ён накіраваўся да яе. Падсвядома Менахем разумеў, што яе ўпартасць толькі дадала алею ў полымя кахання.

— Шпацыр у адзіноце навявае роздумы, — яна ўдзячна абаперлася на прапанаваную руку.

— Што вас турбуе, сябар мой? — Грын быў вельмі ветлівы. Ён разумеў, што, калі назола хутка будзе знішчана, ён здолее дамагчыся не толькі прыхільнасці, але і згоды прыгажэйшага сапрана.

— Ах, у свеце мала шчасця, — спадарыні Цюль неабходна было, каб нехта падтрымаў яе. — Вы ведаеце, як жудасна безадказна кахаць?

— На жаль, — а пра сябе Грын дадаў: — «Каб жа я не ведаў».

— Калі кахаеш чалавека і смуткуеш без яго, гатовая на любыя ахвяры дзеля яго, а ён… — яна цяжка ўздыхнула, не здольная працягваць далей.

— Што зрабіў з вамі гэты паскуднік! — ускіпеў Грын.

— Што з вамі! — Антуанэта адхіснулася, калі ўбачыла, як перакрывіўся ад лютасці твар спадарожніка.

— Прабачце, Антуанэта, але адна думка, што вам могуць пашкодзіць, прыводзіць мяне ў вышэйшую ступень абурэння, — ён ізноў прапанаваў руку.

— О, вы так добра ставіцеся да мяне, — яны пакрочылі ўздоўж палубы. — Вы так добра мяне разумееце…

Менахем разумеў, што галоўнае для яго — гэта ейны давер.

## XII

Талія ўпырхнула ў памяшканне і адразу скіравала да Рафаэля.

— Прывітанне, — ён цмокнуў яе ў шчаку. — Я ўчора накручваў Арэса, але ты ў нас прафесіянал, і я давяраю табе зрабіць яго прыгожым.

Арэс вільнуў хвастом і прадэманстраваў зубы.

— Флой, скажы, што ты просіш мяне гэта зрабіць, — яна абняла яго плечы і зазірнула ў вочы.

— Я вельмі прашу цябе зрабіць гэта, — у тон ёй адказаў Рафаэль, абняў і пацалаваў.

— Добра, — Талія гулліва засмяялася, — але мне патрэбна твая дапамога.

Кліментавіч перанёс йоркі на туалетны столік і паставіў. Арэс пляснуўся і расцягнуўся, пазяхнуў, як быццам сказаў, рабіце ўсё, што жадаеце, але не забывайце, якія ў мяне вострыя зубы. Дзяўчына прысела ля століка. Рафаэль абняў яе і паклаў падбародак на плячо.

— Чым яго расчасаць? — запыталася Талія, калі разблытвала бігудзі, што захаваліся.

— А нельга пакінуць так, у завітушку? — ён пакудлаціў поўсць Арэса. Завіткі парассыпаліся, але кончыкі захавалі завіты выгляд — поўсць распушылася.

— Чаго ты яшчэ хочаш? — яна правяла пальцамі ўздоўж ягонай шчакі і засмяялася.

— Якую-небудзь заколачку ці стужачку, — Арэс дэманстратыўна страсянуўся і саскочыў на падлогу.

— Дзе ты бачыў хлопцаў са стужачкамі ці заколачкамі, Флой? — забыўшыся, для чаго ён яе клікаў, Талія пажадліва цалавала яго вусны...

…Каб выратавацца ад неадчэпнага папарацы ў Котары, Рафаэль Кліментавіч хаваўся ў царкве святога Мікалая, дзе шла імша. Ён імкнуўся зашыцца за плячыма вернікаў ад надакучлівага журналіста, таму пасоўваўся бліжэй да алтара і адначасова разглядаў стракаты натоўп. Флой рэдка трапляў у асяроддзе звычайных прыморцаў, таму заўсёды было цікава назіраць за людзьмі, чыёю плоццю і крывёю ён сябе ўсведамляў. Дарэчы, чарнагорскія дзяўчыны, для якіх набажэнства было адной з магчымасцей выйсці ў людзі, нездарма славіліся прыгажосцю. Рафаэль вышукаў адну чараўніцу ў даволі змрочным куце, дзе яго цяжка было заўважыць, і стаў поруч. Кінуў некалькі прыхільных поглядаў на стварэнне з тварам анёла. Шырокая спадніца і мехаватая кашуля, у якія яна была апранута, не здолелі схаваць ваблівыя выгіны цела. Прыгожыя вусны старанна вымаўлялі словы малітвы, але ўся постаць,

нібы імкнулася далей і вышэй, выходзіла па-за межы набажэнства, навявала думкі пра вырай, дзе ён бачыў маладую гарэзу поўнаўладнай Евай. Нечакана дзяўчына спыніла яго абражана-ганарлівым поглядам, ад якога ў Флоя працяла сэрца. Пад яе кплівым позіркам Кліментавіч пакорліва схіліў галаву. З-пад крыху прыплюшчаных павекаў пад старадаўнія спевы, якія нагадвалі яму пра дзяцінства, Рафаэль працягваў з асалодай разглядаць ганарліўку…

Раптам імша скончылася. Натоўп з палёгкай памкнуўся да святла і сонца. Рафаэль паспяшаўся наўздагон прыгажуні. Але яе суправаджалі дзве суровыя жанчыны, захутаныя ў жалобнае адзенне, якіх Кліментавіч спачатку не прыкмеціў. Ён ведаў мясцовыя звычаі. Значыцца, маладая спакусніца не мела магчымасці выправіцца ў горад без нагляду сваячніц. Флой не збіраўся сумаваць. Акцёр затаіўся і назіраў, як гарэза з годнасцю пакрочыла ў дзівоснае, яскравае, сонечнае святло і растала ў ім, нібы анёл. Аніводным рухам не выявіла, што ведае — зух пасунуўся за ёй і пільнуе кожны крок. Рафаэль на імгненне спалохаўся, што можа згубіць след дзяўчыны. Ён хутка памкнуўся за маладой чарнагоркай. Забыўшыся на небяспеку, акцёр ледзь не трапіў у абдымкі журналіста, які няспешна піў каву на другім баку пляца, упэўнены, што Рафаэлю Кліментавічу няма дзе ад яго схавацца. Папарацы прымусіў акцёра мяняць планы і самому ратавацца ўцёкамі, замест таго каб іграць звычайную ролю драпежніка ў пушчах кахання.

Наступнай раніцай Флой папярэдне пазбавіўся ад нагляду, пайшоў у царкву святога Мікалая, калі імша была ўжо напрыканцы. Ён разглядаў людзей, якія маліліся, але чараўніцы сярод іх не было. Не без цяжкасці Кліментавіч наведаў месца набажэнства і ў наступны дзень. Ён шчыра прымаў удзел у імшы, але аб’ект летуценняў не жадаў матэрыялізоўвацца. Рафаэлю заставалася толькі горача маліцца пра новую сустрэчу з прыгожай чарнагоркай.

Адказ на ўсхваляваныя малітвы Флой атрымаў толькі ў нядзелю. Спакусніца, чыё дзіўнае аблічча стаяла перад вачыма акцёра ўдзень і з’яўлялася ў мроях ноччу, зноў увайшла ў царкву. Ён не быў упэўнены, ці заўважыла яго чараўніца. Годная постаць лёгка крочыла, ледзь кранаючыся нагамі старажытных пліт. Кожны рух яе быў замілаваннем уласнай прыгажосцю. Рафаэль з асалодай сачыў за яе ўваходжаннем у царкву. Услед за ёй паважна пасоўваліся змрочныя спадарожніцы, нібы заслона, што нечакана ападала пасля інтэрмедыі. Натоўп захваляваўся. Ён зноў выкінуў Кліментавіча ў поле ўздзеяння прыморскай прыгажуні. Ад водару ейных валасоў ён ледзь не губляў прытомнасць. Пакуль святар бубніў рэчытатыў, Рафаэль кідаў замілаваныя погляды ў бок ганарліўкі. І часам, калі прыхаджане адказвалі словамі, якія быццам пасівелі ад пылу стагоддзяў, гарэза адцягвала прамяністы погляд ад малітоўніка, нібы прасякалася веліччу набажэнства, і ўзрушана ўтаропвала яго ў скрыжаванне сонечных промняў пад купалам. На гэтым шляху яе позірк сутыкаўся з тварам спакушальніка, і на вуснах дзяўчыны затрымлівалася бездапаможная ўсмешка, якая хутка гублялася ў паўзмроку. Яе амаль дзіцячыя хітрыкі яшчэ больш хвалявалі мужчыну.

Пасля імшы Кліментавічу пашчасціла прасачыць гарэзлівую чараўніцу да дзвярэй хаты. У той самы вечар у гэтыя дзверы пагрукаў ягоны бацька, які дзеля шчасця адзінага спадчынніка, быў вымушаны перапыніць важныя перамовы і пакінуць пад пагрозай многамільённы кантракт. Гамонка з Таміславам Нікалічам, гаспадаром дома, прайшла значна горш, чым звычайныя дзелавыя сустрэчы. Адвакат катэгарычна адмовіў дачцэ ў шлюбе з сынам Стэфана Кліментавіча, але не знайшоў неабходным растлумачыць прычыну.

Нечаканыя перашкоды дадалі алею ў полымя кахання. Кожны дзень сэрцаед падпільноўваў сваю каханую каля хаты, калі яна накіроўвалася ў школу ці краму.

Яе заўсёды суправаджалі дзве змрочныя постаці ўдоў. Флой з'яўляўся то ў абліччы таксіста, то афіцыянта, а то прадаўца сувеніраў. Ганарліўка рабіла выгляд, што не заўважае яго.

У нядзелю, апанаваны яе прыгажосцю і недасягальнасцю, Рафаэль чакаў моманту для рашучых дзеянняў. Калі ягоны анёл асвятліў царкву святога Мікалая сваёй прыгажосцю, у Флоя сэрца заныла ад жалю. Прыморская кветка нізка трымала галаву, якую ахутвала вялізная хуста, і хавала вочы. Спадарожніцы з пагардай шыбавалі ўслед за ёй. Справы пагаршаліся. Падчас набажэнства дзяўчына ніводнага разу не адцягнула ўвагі ад малітоўніка, абыякава прамаўляла словы спеваў, нібы скарылася, што Усемагутны адмовіўся ад яе. Сваячніцы раз-пораз аглядалі наваколле ў надзеі высачыць небяспеку. Даводзілася хавацца ад іх пільных вачэй. Набажэнства ішло да заканчэння. У адчаі Рафаэль пасунуўся да дзяўчыны, неспадзявана штурхануў прыгажуню, ды так, што яна згубіла раўнавагу. Малітоўнік паляцеў да старых камянёў, але не здолеў дакрануцца падлогі. Флой зграбна падхапіў кніжачку і вярнуў яе ўжо з цыдулькай. Ён мармытаў прабачэнні і з надзеяй зазіраў у дзівосныя чорныя вочы, дзе цяпер жыла вялікая крыўда. Прыморская краска са спагадай узяла малітоўнік, ледзь кранулася пальцамі яго скуры. Яму падалося, што ў гэты момант ён адчуў уздых роспачы. Флой растаў у натоўпе раней, чым зацікаўленыя ўдовы паспелі яго ўхапіць.

Усхваляваны Кліментавіч быў недасягальны для радараў яе спадарожніц, пакуль чакаў чараўніцу каля дзвярэй. Нарэшце і прыморская кветка дасягнула парога царквы. Вочы Рафаэля ўспыхнулі надзеяй. Хуста павольна слізнула ўніз з галавы прыгажуні. Дзяўчына спынілася, каб паправіць убор, і на імгненне апынулася па-за сваячніцамі. Закаханы малітоўна склаў далоні. Позіркам прасіў ганарліўку прыняць ягоныя руку і сэрца. Спакусніца павольна кіўнула галавой у бок спадарожніц і безнадзейна паціснула плячыма.

Наступных некалькі дзён акцёр пільнаваў сваю прыгажуню, шукаючы магчымасць пагутарыць з маладой чарнагоркай. Зручны выпадак не прымусіў сябе чакаць. Удовы збіраліся везці дзяўчыну ў іншы горад. Кліментавіч заплаціў сапраўднаму таксісту, каб заняць ягонае месца, і падаў шыкоўную машыну да дома свайго анёла. Дзяўчына няпэўна пакінула хату, марудна адчыніла дзверы і абыякава змясцілася на заднім сядзенні, не звярнуўшы ўвагі на вадзіцеля. Адна са сваячніц затрымлівалася, другая нецярпліва чакала яе каля выхаду.

— Кажы толькі, ці згодна? — Флой павярнуўся да каханай. Спачатку прыгажуня спалохалася, не зразумела, што ў яе пытае таксіст. Збянтэжана зірнула на хлопца. Калі зразумела, што бачыць перад сабой мужчыну, які колькі тыдняў дамагаўся яе кахання, летуценная ўсмешка асвятліла твар.

— Калі згодна, айцец Бенедыкт павянчае нас сёння, — патлумачыў Кліментавіч, не ўяўляючы, што змест папярэдніх слоў не дасягнуў розуму гарэзы.

— Згодна, — ледзь варухнуліся вусны. Яна яшчэ не здольная была паверыць, што гэты цуд адбываецца сапраўды, што гэта не мроі.

Машына заскавытала, набіраючы хуткасць. Адна з ахоўніц ледзь не загінула, намагаючыся спыніць аўто.

— Хлопцу ўжо час ажаніцца, — паведаміла Аліна свякрусе, пакуль падлічвала вочкі. У гэты момант у пакой зайшоў яе сын. За ягонай спінаю сарамліва чырванела дзяўчына.

— Мама, бабуля, хачу вас пазнаёміць з маёй жонкай, Аўрорай, народжанай Нікаліч, — ён падвёў да іх збянтэжаную гарэзу.

— Яна гожая, — выявіла меркаванне Горана, калі агледзела маладую з галавы да ног. — У майго ўнука добры густ.

— Як і ў вашага сына, — было не зусім зразумела, каму Аліна рабіла камплімент, але яна таксама ўважліва разглядала нявестку.

— Нас толькі што павянчаў айцец Бенедыкт, — Флой абняў жонку, што разгубіла яе яшчэ больш.

У пакой завітаў Стэфан Кліментавіч, які з'яўляўся дома нячаста. Маці і бабуля падняліся.

— Прывабная дзяўчынка, Рафаэліта, — бацька акінуў яе постаць поглядам прафесійнага прадзюсара. — Дзе ты знайшоў яе?

— Гэта мая жонка, тата, — адказаў, пасміхаючыся, Флой.

— Так-так-так, значыць, мой хлопчык пасталеў, — ён паціснуў сыну руку. — Віншую.

— Стэфан, я мяркую, неабходна выклікаць Мэйбл Тоўн і пракансультавацца з ёй, — прапанавала Аліна і цмокнула мужа ў шчаку.

— Ты наконт вяселля? — Стэфан даўно пакінуў бурчэць, што сямейным бізнесам кіравалі жанчыны, і пакідалі яму ролю адпаведнага фасаду. — Добра, Рафаэль, патэлефануй Саламеі Таліба…

— Стэфан, яна жыве тут, — перапыніў яго Флой.

— Заўсёды забываю, што ты трымаеш сакратарак каля сябе, — жарт атрымаўся двухсэнсоўны. Аўрора зачырванелася ад абурэння і сораму. — Добра, знайдзі яе, няхай патэлефануе ўсім і запросіць на тваё вяселле. Дарагая, — ён звярнуўся да жонкі, — трэба дамовіцца з Зоранай Клад пра належныя касцюмы для маладых, — Стэфан падмацаваў просьбу пацалункам.

— Добра, — Аліна адразу адгукнулася на ягоныя словы.

— Мама, я прашу цябе звязацца з Таліяй Страказой, на якую ўскладаю надзеі ў навядзенні бляску на нашу пару, — ён падміргнуў сыну.

— Мне заўсёды прыемна клапаціцца пра ўнука, — Горана кінула вязанне на крэсла, — але гэтая Страказа недзе тут сама лятала. — Лепш я прыгледжу на кухні.

— Мама, ты ў мяне найлепшая, — Стэфан цмокнуў яе ў шчаку і адчуў змоўніцкі поціск маршчыністай рукі.

…Ніколі раней Аўрора не бачыла такой раскошы. Сотні людзей, апранутых у самыя элегантныя і каштоўныя строі, некалькі тузінаў журналістаў, якім была адведзена спецыяльная зала, сталы, якія прагіналіся пад каштоўнымі вінамі і натуральнымі стравамі, — і ў цэнтры ўсяго гэтага — яна ў вялізнай белай сукенцы з вельмі доўгім шлейфам і вэлюмам, і побач толькі Рафаэль, такі спакойны і ўпэўнены сярод людскога мора. Яна жадала, каб ён абняў яе і абараніў ад зацікаўленых, пажадлівых і зайздрослівых поглядаў. Людзі падыходзілі, віталіся, віншавалі, цалавалі ёй руку. Рафаэль ім нешта адказваў, а яна цьмяна адчувала, што ўсміхаецца ім усмешкай, якая нічога не значыць.

— Рафаэль, што вы збіраецеся рабіць далей? — калі пачаўся феерверк, да іх падышоў Стэфан. — Спектакль для грамады мы ўжо адыгралі.

— Таліба кісне, — кпліва адказаў Флой. Пачуўшы ў другі раз гэтае імя, Аўрора скаланулася.

— Можаш узяць «Лебядзь» і знікнуць на месяц ці два, — Стэфан абняў іх, і Аўрора ўнутрана сціснулася. — Я бяру на сябе гэты зброд.

— Дзякуй, — Флой абняў бацьку.

— Добра, — Кліментавіч старэйшы паляпаў яго па плячы. — Бяжыце, дзеці — маму і бабулю я папярэджу…

…Яе вейкі то трымцелі, то ўспырхвалі. То яна нібыта прыслухоўвалася да музыкі сэрцаў, якія біліся ў такт, то раптам зноў абуджалася ад анямення. Яна была нібыта дакладна адладжаны музычны інструмент, які адгукаўся на кожны ягоны дотык…

Рафаэль здрыгануўся і расплюшчыў вочы. На грудзях ляжала галава Таліі. Напаўраскрытыя вусны нешта шапталі. Часам яна праводзіла ўздоўж іх языком. Аб плячо цёрся Арэс. Рафаэль прылашчыў сабаку і перавёў погляд на Страказу. Яна была самай малодшай з тых, хто яго суправаджаў. Дзяўчо пасміхнулася і прашаптала колькі слоў па-польску. Гэтая мова был яму трохі знаёмая, бо Флой добра валодаў беларускай, роднай мовай маці.

Талія пацягнулася і таксама расплюшчыла вочы. Рукі зноў абхапілі ягоныя шыю і вусны прыціснуліся да ягоных вуснаў. Яна жадала яшчэ…

Талія лёгка аддавалася яму, але яго самалюбства абражалі думкі, што таксама лёгка яна магла адчуваць сябе і з кім-небудзь іншым.

## XIII

У цэнтры вялізнага ілюмінатара з'яўляўся буйны крывава-чырвоны шар, ушпілены разнастайнымі правільнымі (этнічна марсіянскія збудаванні) і няправільнымі (ландшафт і паселішчы зямных каланістаў) рысамі. Рафаэль не ўпершыню бачыў Марс, але выява планеты і нават навіна адчування, што ён ляціць не на здымкі, не цешылі яго. Па выглядзе Марс быў змрочным і маркотным у параўнанні з Зямлёй. Два спадарожнікі, астэроідападобныя рэшткі, якія выразна вылучаліся на фоне дыска, таксама не выклікалі прыемнага ўражання.

— Капітан прасіў нікому не пакідаць карабель, — падышла Мейбл і абняла яго. Ён цмокнуў яе ў шчаку і прылашчыў Арэса.

— Ён сказаў, як толькі скончым пасадку, адразу адчальваем, — яна прысела перад ім на невялікі выступ перад ілюмінатарам.

— Ты калі-небудзь была на Марсе? — Флой перакінуў позірк на дзяўчыну.

— Я працавала з адной знакамітай паэтэсай з Марса, — паціснула плячыма Мейбл, — але максімум, дзе я была — гэта Дэймас. Яна больш не пажадала вярнуцца ў радавое гняздо.

— Чаму ты рассталася з ёю? — пасміхнуўся Кліментавіч, які лічыў, што ведае адказ.

— Яна была занадта капрызлівая, — спадарыня Тоўн перагнулася праз плячук, каб зірнуць на зоркі.

— Больш капрызлівая, чым я? — перапытаў яе працадаўца.

— Больш, — Мейбл павярнулася да яго. — Я атрымала касмаграму ад Эміля. Ён вызначыў дзень прэм'еры.

— Добра, — гуллівы тон Флоя знік.

— Цяпер мне засталося толькі дамовіцца з капітанам, — прэс-сакратар уважліва сачыла за тым, як пахмурнее твар акцёра. — Флой, не дурэй, — пасміхнулася яна і абняла яго.

— Дэймас-порт, Гігантык просіць дазволу на стыкоўку, — прагучала ў вушах сувязістаў.

— Паведамце вашыя параметры, — афіцыйна-дзелавым тонам прапанаваў Дэймас, пасля атрымання інфармацыі здзівіўся. — Гігантык? Мы чакалі вас толькі заўтра пасля палудня па стандартным часе.

— Прымак пабудаваў занадта добры карабель, каб прымусіць вас так доўга чакаць, — аджартаваліся з Гігантыка.

— Мы прымаем вас. Падыходзьце на мінімальнай хуткасці. Прамень захопу падрыхтаваны.

Гігантык запаволіў хаду. Пасажыры заўважылі, як Марс перастаў набліжацца. Карабель мякка падставіў борт Дэймасу, павярнуўся носам у бок Юпітэра і пачаў бортам рухацца да чацвёртай планеты Сонечнай сістэмы.

— Пяць, чатыры, тры, дзве, адна секунда да збліжэння, — лічыў Корбут. Рухавікі, якімі карысталіся, каб падысці да арбіты, былі стабілізаваны. У тое самае імгненне бартавы камп'ютар паведаміў, што карабель зафіксаваны магнітным промнем.

— Выдатная праца, хлопцы, — паляцела з Гігантыка, які здзейсніў першы стыковачны манеўр.

Адчыніліся шлюзы. Выгінаючыся быццам змеі, папаўзлі трубкі пераходных трапаў і накіраваліся да купала Дэймас-порта. Праз ілюмінатары было відаць, як нецярплівa заварушыўся натоўп. Адзін з трапаў адразу прысмактаўся да купала, другі колькі разоў зачапіў яго, але каманда з Дэймаса падала большы ціск на паверхню, з якой павінен быў састыкавацца трап. Трубка выгнулася, узняла канец, як змяя галаву, секунды тры або чатыры падумала і ўваткнулася ў пластык.

Электратэхнікі Гігантыка далі паветра ўнутр трапаў. Ціск павольна стабілізаваўся. Моцныя магнітныя промні, якімі даводзілася карыстацца для ўтрымання карабля, раскрадалі часціцы для падтрымання ўласнай жыццяздольнасці.

— Гатова, ціск у парадку.

Люкі купала адышлі. Пачалося прыняцце пасажыраў першага і бізнес-класаў. Эканом-класам адсюль ніхто не ляцеў. Каланісты Марса былі дастаткова нешматлікія, каб думаць пра засяленне сістэмы Юпітэра.

— Жасмін, ты маеш права на адпачынак, — бацька прылашчыў яе валасы.

— Тата, ты ж ведаеш пра сур'ёзную аварыю. Гінуць людзі. Усё паселішча знаходзіцца ў небяспецы. Калі б я не была адзіным экспертам, які можа вырашыць праблему, Скакун не патурбаваў бы мяне, — яна намагалася ўсцешыць старога.

— Мы з маці цябе амаль не бачым, — пахітаў ён сівой галавой.

— Тата, як толькі адолею галаваломку, адразу вярнуся — я абяцаю, — Жасмін цмокнула бацьку ў шчаку. — У цябе на ферме застаюцца Язэп, Мацей ды Якуб і ты заўсёды маеш магчымасць даверыцца Каралю, — яна пералічыла малодшых братоў.

— Але дачка ў мяне адна, — стары таксама пацалаваў яе. — Ну, з Богам, будзем чакаць цябе.

Жасмін пабегла да трапа. Службай кантролю міграцыі плынь людзей прафесійна накіроўвалася ў два штучныя рукавы. Цяпер каля кантрольна-прапускнога пункта чаргі ўжо не было. Яна азірнулася на бацьку і рашуча кінулася ў пластыкавую трубу.

Карабель ціснуў сваёй магутнасцю, але парассыпаныя вакол зоркі давалі адчуванне бясконцасці абсягу. Жасмін уздыхнула, падумала, што не магла не паехаць і не прапанаваць дапамогу для ліквідацыі… Гэта нават нельга было назваць аварыяй. Нешта дзіўнае адбывалася ў чалавечым паселішчы на Гебі, спадарожніку Юпітэра. Юра Скакун нават не здолеў дакладна растлумачыць, да чаго зводзіцца праблема. Выглядала, што сістэма паветразабеспячэння працуе спраўна. Праверка на ўцечкі не дала станоўчых вынікаў. Вось толькі на прасторах паселішча рэгулярна траплялiся каланісты, якія паміралі ад асфіксіі. Жасмін не магла ўявіць, з чым гэта было звяза-

на, але падчас падарожжа яна магла падумаць, як разгадаць таямніцу. Гігантык быў першы карабель, які накіроўваўся на Юпітэр у бліжэйшы час. Жасмін здолела разгледзець пад купалам адзінокую фігуру бацькі. Ёй раптам зрабілася вельмі шкада.

Бацька назіраў, як радзее плынь пасажыраў. Спачатку люкі купала, а потым шлюзы на Гігантыку былі загерметызаваны. Трапы-змеі ўцягнуліся ў чэрава вялізнага карабля, што зіхацеў аблямоўкай на Сонцы, якое выйшла з-за Марса.

— Гігантык, пяціхвілінная падрыхтаванасць да расстыкоўкі, — паведамілі з Дэймаса.

Здавалася, што карабель дужа прымацаваны да Дэймаса, павольна дрэйфаваў, хаця для назіральніка з купала ён нерухома вісеў над галавой.

Магнітны промень знік. Адначасова запрацавалі рухавікі. Гігантык пачаў павольна аддаляцца.

## XIV

Даніл Пырнік вырваўся з рук маці і памкнуўся да Рафаэля, што ўважліва, як і Мейбл, слухаў Рабіну Тук, жанчыну, якой ён часткова быў абавязаны поспехам.

— Прывітанне, Флой, — Данька працягнуў перавязаную руку.

— Прывітанне, герой, — Рафаэль злёгку паціснуў яе. — Што здарылася? — спытаўся ён.

— О, вы ведаеце, Рафаэль, мой сын такі няўрымслівы, — далучылася да размовы маці, — ён парэзаў руку, але парэз аказаўся небяспечным.

— Доктар Розан кажа, што праз тыдзень не знойдзеш і сляда, — далучыўся да іх Тэадор, якога не вабіла перспектыва зрабіцца раганосцам. Данька лашчыў Арэса.

— Вельмі рады, — адказаў акцёр, назіраючы за хлопчыкам, які гуляў з сабакам, — што ўсё абышлося.

— Мне здаецца, цябе шукала Луіза, — шматзначна прамовіла Рабіна. — Яна нібыта сустрэла даўнюю сяброўку…

У гэты момант уплыла графіня Дэлавэрская. Яна трымала за руку экстравагантна апранутую, яркую, як калібры, жанчыну. Астра адчувала, што пакуль узнікла вялікае мноства перашкод, і сэрца Кліментавіча штурмам узяць не атрымаецца.

Няўважлівы позірк Жасмін, якая на другім баку гасцёўні цярпліва выслухоўвала меркаванне калегі, што апынуўся на Гігантыку па той жа прычыне, што і яна, спыніўся на дзіцяці, потым узняўся вышэй.

Неспадзявана позіркі мужчыны і жанчыны сустрэліся. Абодва на імгненне зазірнулі адно аднаму ў вочы і збянтэжана адвялі пагляды.

— Хто гэта? — бестурботна запытаў Флой Рабіну, і паказаў позіркам на спадарыню Бетэльгейзэ. Большасць з новапрыбыўшых была яму знаёмая — кола арыстакратаў Трох Планет было дастаткова вузкім.

— Гэта Жасмін Бетэльгейзэ, — усёведная Рабіна Тук прасачыла за ягоным поглядам. Мейбл таксама мімаходам зірнула на тую, каго надзяліў увагай кіраўнік.

— Шырокавядомая ў досыць вузкіх колах. Каланісты ў большасці пазаземных паселішчаў здольныя дыхаць менавіта дзякуючы ёй, — спадарыня Тук, якая захаплялася ўсім, што магло зрабіцца фільмам або сенсацыяй, паціснула плячыма (гэта дзяўчына зрабіла сабе імя сама). — Яна лепшы спецыяліст у сваёй галіне. Яшчэ калі была ва ўніверсітэце, спраектавала паветраную сістэму для касмапорта на Венеры. З таго часу ніхто не перасягнуў яе, а Венера адна з самых няўтульных планет.

— Так. Здаецца, я штосьці чуў, — Рафаэль працягваў глядзець на інжынера, якая здавалася шэрай і непрыкметнай сярод яркага прыбранага натоўпу. Яна была невысокая, танюсенькая, хаця апранутая ў шырокі, шэры камбінезон з вышыўкай, якую рабілі на Марсе. Шэрыя вочы на бледным твары здаваліся вялізнымі. Вельмі маленькі нос, шчыльна сціснутыя, вузкія вусны, высокі лоб, які яна бесперапынна хмурыла, і бясколерныя, выгарэлыя пад сонцам на розных планетах вейкі і валасы, дбайна ўкладзеныя касой вакол галавы. Прыгажуняй яе было назваць цяжка.

— Цябе пазнаёміць з ёй? — злёгку кпліва спытала спадарыня Тук. Арэс ашчэрыўся, калі Мейбл паспрабавала дакрануцца да яго. Тэадор папрасіў прабачэння і вывеў Даньку.

— Не, дзякуй. Я не дастаткова разбіраюся ў такіх пытаннях, як паветраводы, — аджартаваўся акцёр і вярнуўся да перапыненай размовы пра запланаваную прэм’еру. Але Рафаэль не быў здольны ўтрымацца, каб часам не паглядзець на інжынера са змешаным адчуваннем сораму і захаплення. Жасмін жа жвава размаўляла з Янам і Усяславам.

— Якім бы гіганцкім не быў карабель, ён усё роўна не можа быць большы за Месяц, — пасміхнулася Жасмін, калі адказвала Прымаку. Ёй падабаўся Гігантык. Падарожнічаць на ім было значна зручней, чым на іншых караблях, якіх дастаткова бачыла за сваё нядоўгае жыццё — ад трэцяга класа, больш падобнага на грузавы трум, калі яна ляцела з роднага ўніверсітэта на Марсе ў Новасібірск абараняць дыплом, да шыкоўнай каюты на Гігантыку, куды білеты ёй браніраваў Скакун, які браў на сябе ўсе выдаткі вымушанага перапынку яе адпачынку. Але ёй увесь час хацелася пакпіць з фанабэрыстай саманадзейнасці канструктара.

— Добра, — пакрыўдзіўся Ян, — але ён, безумоўна, перасягае памерамі многія буйныя астэроіды. У адрозненні ад іншых караблёў, такіх як Вяхір, Чапля ці Драч, Гігантыку не страшныя астэроіды, якімі б яны ні былі паводле масы ці хуткасці, таму што карабель, які створаны намі, мае сістэму выяўлення, па-першае, і, па-другое, у Гігантыка самая моцная і ўдараўстойлівая аблямоўка ва ўсёй Сістэме. Сталявары Германіі стварылі яе спецыяльна для нас.

— Да таго ж Гігантык настолькі манеўраны, — падтрымаў яго Зорыч, — нягледзячы на свае памеры, што ён з лёгкасцю абыйдзе любы буйны астэроід, калі ўзнікне неабходнасць, так што вы нават не адчуеце гэтага, — ён прыемна ўсміхаўся Жасмін, хаця многія жанчыны заслухаліся апавяданнем пра непрабівальнасць карабля, на якім яны ляцелі.

— Але бываюць зоны маўчання, — прыдала новы кірунак размове Гвінівера Ківа-Тыцкая, якая ўзначальвала адну з міні-сістэм на якімсьці са спадарожнікаў Юпітэра. — Калі цяжка кіраваць караблём, але яшчэ цяжэй зафіксаваць астэроід, які набліжаецца на вялікай хуткасці.

— Мы прадугледзелі гэта, — кісла адказаў канструктар, незадаволены тым, што сумняваліся ў ягоным тварэнні. — На носе карабля знаходзіцца назіральная вежа, дзе заўсёды прысутнічаюць два члены каманды з механічнымі і аптычнымі прыборамі.

— Княгіня, вы крыўдзіце нашага стваральніка, — уцягнуўся ў спрэчку Менахем Грын, які быў сёння ў прыўзнятым настроі пасля зробленай падрыхтоўкі да трыумфу і прымірэння з Антуанэтай.

— О, Менахем, вы тут, — Гвінівера калісьці была закаханая ў яго, і іх узаемная любасць пышна квітнела ў цёплых і вільготных лясах Паазер’я. — Як прыемна сустрэць родны твар.

Гэтыя словы прымусілі спадарыню Цюль пачырванець. Яе рэакцыя выклікала ў яго імкненне раздзяліць жанчын. Фінансіста наведала адчуванне, што Антуанэта не пажадае сапернічаць з памылкай ягонай маладосці.

— Бачу, Кліментавіч тут, — какетліва пасміхнулася княгіня. — Я спадзяюся, ты мяне пазнаёміш з ім, Менахем? Як ён апынуўся тут?

— Я спадзяюся, што яго тут хутка не будзе, — прабурчаў Грын, ён заўважыў, як Антуанэта робіцца панурай.

— Пазнаём мяне з ёй, — шапнуў Ілья Трэф.

— Хачу табе прадставіць майго сябра, — не прамінуў скарыстацца становішчам фінансіст.

Саламея, якая насцярожана назірала за тым, што адбывалася, адчула, што абедзве рыбкі ўплывалі з яе нерату.

— Дзіўная ў яе аздоба, — Флою было цяжка стрымліваць сваё дастаткова непрыстойнае жаданне разглядаць дзяўчыну, вывучаць выгіны вуснаў, назіраць своеасаблівую марсіянскую зграбнасць, бо яна рухалася на караблі значна натуральней, чым тыя, хто нарадзіўся і пражыў вялікую частку жыцця на Зямлі.

— Нешта марсіянскае, мяркую, — спадарыня Тук пахітала галавой. — Флой, любы, яна ўжо мае ступень прафесара, хаця, мне здаецца, яна гады на два ці тры маладзейшая за цябе. Я не ўпэўнена, але пагляджу ў сваім даведніку.

— Ёсць нешта ў гэтым кулоне своеасаблівае, — Рафаэль перакінуў пагляд на дасведчаную ў шоу-бізнесе лісу.

— Мне здавалася, аздобы не з'яўляюцца тваім захапленнем, — Мейбл у адрозненні ад Рабіны, якая ўсё разумела, была разгублена. Акцёр скалануўся, але авалодаў сабой.

— У мяне ёсць іншае захапленне, — ён шматзначна зірнуў на спадарыню Тоўн.

**XV**

— Што адбываецца, Флой? — Мейбл села на ложак і счапіла рукі вакол каленяў. Калі забыцца на тое, што часам яны разам спалі пасля гібелі ягонай жонкі, яна лічыла кіраўніка добрым сябрам.

— Чаму ты не замужам, Мейбл? — ён сеў побач і абняў яе за плечы. Яму не хацелася сёння блізкасці з ёю, ды і з ніводнай з дзяўчатак, якія суправаджалі яго ў падарожжы.

— Усё няма калі, праца, — Мейбл прылашчыла ягоныя валасы.

— А калі пасля будзе позна? — ён зазірнуў ёй у твар.

— Я ніколі не думала пра гэта, — яна цяжка ўздыхнула.

Ён дапамог ёй зняць шыкоўнае вячэрняе адзенне, укруціў яе ў коўдру і ўлажыў.

— Ты чаго не кладзешся? — Мейбл пагладзіла ягоную руку. Рафаэль паднёс яе далонь да вуснаў і, перабіраючы, пацалаваў кожны палец.

— Ты дазволіш мне прагуляцца? — ён цмокнуў яе ў вусны. Яна самотна міргнула вейкамі ў знак згоды.

— Я пакіну табе Арэса, каб не было сумна, — Флой выслізнуў з каюты і растаў у паўзмроку калідора. Мейбл села. Потым скінула з плячэй коўдру і пачала апранацца. Яе турбаваў незразумелы непакой.

…Рафаэль Кліментавіч не пачуў шоргату за спінай, але ўсвядоміў рэзкі імпульс болю і, згубіўшы прытомнасць, апусціўся на падлогу. Кат Трум паспешліва схаваў у кішэню армейскі шокер сіл хуткага рэагавання, агледзеўся. Хаця на шпацырнай тэра-

се было светла, у адрозненне ад невялікага адсека, які вёў да сістэм вывядзення выратавальных ботаў з арбіты карабля, дзе ён заставаўся ў змроку апошнія некалькі гадзін у чаканні кліента, іх ніхто не заўважыў. Час быў позні, паводле зямнога адліку, і большасць пасажыраў мірна адпачывала. Цяпер, калі Кат адправіў Рафаэля Кліментавіча спаць вечным сном, неабходна было паклапаціцца, куды схаваць труп.

Нечакана Трум адчуў кволую вібрацыю. Усё вакол яго нібыта асвятліла яскравая, сляпучая ўспышка. Мужчына з адчуваннем незямной лёгкасці пачаў асядаць на падлогу, усведамляючы, што сілы пакідаюць яго.

Жасмін Бетэльгейзэ спалохана прыкрыла рукой кулон, крыніцу святла, які не ўпершыню выявіў магічнае дзеянне. Але раней, чым падумаць, што трэба будзе разабрацца з феноменам і пракансультавацца з новасібірскімі фізікамі, яна памкнулася да двух цел, якія ляжалі ніцма на падлозе. Дзяўчына пазнала ў адным з іх Рафаэля Кліментавіча. З дзіўным хваляваннем, якога не ведала ніколі раней, хаця часам ёй пагражала сур’ёзная небяспека, Жасмін нахілілася да яго. Інжынер машынальна ўзяла ягоную руку і прыклала пальцы да жылкі на запясці. Пульс быў рэдкі, згасаючы. Кат Трум дрэнна ведаў, як карыстацца шокерам, таму не здолеў дакладна разлічыць смяротную дозу плыні магнітных промняў. Жасмін прыціснула далонь да левага боку грудзей. Сэрца, ёй здалося, не білася. Яна паклала далоні крыжападобна на тую частку грудзей, дзе знаходзілася сэрца, і рэзка прыціснула, потым яшчэ раз, і яшчэ. Прыклала свае вусны да пахаладзелых вуснаў кіназоркі, каб удыхнуць у яго струмень жыцця. Ізноў прыціснула грудзі...

— Што вы робіце? — прагучаў над ёй рэзкі вокліч, калі яна адчула, як пацяплелыя вусны пацягнуліся да яе рота…

Жасмін адхіснулася і зірнула ўгору. Перад ёй стаяла Мейбл Тоўн. Рафаэль расплюшчыў вочы, паспрабаваў узняцца, але паваліўся, выцяўся галавой аб падлогу.

— Флой, што здарылася? — прэс-сакратар прысела побач з ім на калені, дапамагла яму прыўзняцца. У фокус ягоных вачэй трапіў твар спадарыні Бетэльгейзэ. Рафаэль зажмурыўся, не верачы сабе, зноў шырока расплюшчыў вочы. Побач з ім на каленях сядзела Жасмін, якая ўдыхнула ў яго жыццё. Акцёр аблізнуў вусны. Спадарыня Бетэльгейзэ глядзела на Ката Трума, які застыў з вылупленымі вачыма. Яна пашукала пульс, але нічога не адчула.

— Дзякуй, што выратавалі мяне, — Флой з цяжкасцю ўзняўся пры дапамозе Мейбл і падаў руку інжынеру, якая паціснула яе. Ад гэтага дотыка, нібы ток прайшоў скрозь ягонае цела. Ён адчуў, як вочы засціла заслона туману, які прасочваўся ў мозг і зацягваў яго знутры, пакідаючы адчуванне збянтэжанасці.

— Значыцца, яна ўратавала тваё жыццё, — удакладніла спадарыня Тоўн халодным, афіцыйным тонам. Яшчэ адчуваючы слабасць, Флой абняў яе, абапёрся і цмокнуў Мейбл у шчаку. Рафаэль усведамляў, што інжынер бачыць гэта, але не можа ведаць, што ў падмурак іх узаемаадносін пакладзена сяброўства.

На месцы здарэння «зусім выпадкова» з’явіліся доктар Розан і капітан Славінскі.

— Дзіўная форма паралюшу, — паведаміў доктар пасля агляду цела Ката Трума, — я ніколі раней не бачыў нічога падобнага, хаця, дайце веры, за сваё жыццё я пабачыў усялякае.

— Гэты пасажыр не першага класа, — заўважыў капітан Георг. — Як вы лічыце, доктар, што ён тут рабіў?

— Калі мы даведаемся, для чаго яму было патрэбна гэта, — Розан патрос у руцэ шокер. — Я ўпэўнены, мы будзем бліжэй да адказу.

Рафаэль зразумеў, чаму ён нечакана згубіў прытомнасць.

— Што вы мяркуеце, спадарыня Бетэльгейзэ? — Славінскі звярнуўся да адзінага сведкі падзеі. — Вы інжынер і здольны знаходзіць незвычайныя адказы.

— На шчасце, я змагла аказаць першую дапамогу спадару Кліментавічу, але нічым не здолела дапамагчы гэтаму нябозе, — яна разгублена пакруціла галавой.

Рафаэль, які не здолеў адвесці вачэй ад яе твару, зразумеў, што Жасмін ведае намнога больш, чым кажа. Ягоная ўпэўненасць перакінулася да прэс-сакратара. Арэс падбег да інжынера і пачаў ацірацца ля ног. Дзяўчына прылашчыла рукой шаўкавістую поўсць, на ўпарадкаванне якой за два апошнія дні Рафаэль змарнаваў шмат часу. Яна падхапіла сабачку на рукі і грозны Арэс не пажадаў агрызацца. Ён нават вільнуў хвастом і ўладкаваўся на яе руках зручней. У Флоя ад здзіўлення падкасіліся ногі, і ён спусціўся б на падлогу, калі б яго не падтрымаў капітан Славінскі.

— Ну, малады чалавек, я бачу, што вам давядзецца пайсці са мной, — учапіўся за другую руку доктар.

**XVI**

У медыцынскім адсеку, дзе Розан пакінуў Кліментавіча для канчатковага высвятлення акалічнасцей непрытомнасці, было ціха і светла. Закалыхвала гудзенне нейкага прыбора.

— З табой калі-небудзь падобнае здаралася? — доктар пачаў вымяраць ціск.

— Адзіны раз. Месяц таму, калі спаліў апошні малюнак жонкі, — Флой з прафесійнай цікавасцю назіраў за дзеяннямі доктара. Успаміны пра Аўрору ўжо не мелі былой вастрыні.

— Моцна кахаў? — Розан пачаў абмацваць і праслухоўваць галаву.

— Так, — абыякава адказаў Рафаэль. Слова «кахаў» не выклікала аніякіх вобразаў, якія маглі выплыць з туману і зноў схавацца за заслонай забабонаў.

— Баюся, што цяперашняя непрытомнасць больш фізічнага, чым эмацыянальнага паходжання, — прамармытаў доктар, але пацыент яго добра чуў.

— Гэта значыць? — Флой адразу думаў пра некалькі рэчаў.

— Табе пашанцавала, што шокер быў пастаўлены на некалькі дзяленняў ніжэй «неабходнай», як кажуць спецыялісты, адзнакі, — адказаў Розан, задаволены тым, што вызначыў паходжанне недамагання.

— Значыць, той хлопец…

— Мёртвыя ўжо нічога не здольныя распавесці, — перапыніў яго доктар.

— Ён не мёртвы, ён у шоку…

— Для нас усё адно, — Розан паправіў прасціну.

— Усё ўжо, — Флой ускочыў, але зноў самлеў.

— Табе яшчэ на нейкі час неабходна застацца тут, — доктар дапамог яму легчы.

— Тады паклічце прэс-сакратара, — прашаптаў Рафаэль раней, чым згубіў прытомнасць.

Першым, каго ён убачыў, калі зноў расплюшчыў вочы, была спадарыня Тоўн. Нечая рука клапатліва папраўіла прасціну, нехта прылашчыў яго руку. Дзяўчынкі, з якімі ён працаваў, абкружылі яго, але сярод іх не было той адзінай, якую ён прагнуў бачыць.

— Мейбл, ведаць пра гэта не павінна аніводная жывая душа, — незадаволена прабурчаў акцёр і заплюшчыў вочы.

— Я паклапацілася ўжо, — пяшчотна адказала прэс-сакратар і прылашчыла ягоныя валасы. — Док згадзіўся маўчаць і капітан…

— Што капітан? — уздыхнуў Кліментавіч з заплюшчанымі вачыма. Сёння дыхаць было лягчэй, чым учора.

— Капітан збіраецца правесці ўнутранае расследаванне, — Мейбл прылашчыла ягоную руку.

— А той чалавек? — яму надакучыла панібрацкае абыходжанне з ягонай персонай у афіцыйным памяшканні. Акцёр прыўзняўся на лакцях. Ложак адразу набыў форму цела. Цяпер ён быў здольны азіраць усіх дзяўчын за выключэннем Мейбл, якая перамясцілася за галаву. Таму, каб паглядзець на яе, даводзілася паварочвацца.

— Баюся, што ён безнадзейны. Прынамсі, гэта сцвярджае доктар Розан.

— Ясна, — Рафаэль адчуваў сябе значна лепш, але раптам ён ўсвядоміў, што некага не хапае. — Дзе Арэс? — звярнуўся Флой адначасова да ўсіх.

— Не ведаю, — хмыкнула ганарліва Таліба. Крылля і Талія збянтэжана паціснулі плячыма. Зорана абыякава хіснула галавой.

— Магчыма, — Мейбл памятала, дзе Арэс быў да пэўнага моманту, — ён застаўся ў тваёй каюце…

— Я бачыў яго перад... — у памяці ўзніклі ўспаміны пра абуджэнне. Цёплыя вусны, якія імкнуцца аддаліцца ад яго… Некалькі рэзкіх націсканняў на грудзі. — Я ведаю… — Флой ускочыў з ложка. Адразу з’явіўся доктар Розан, каб папярэдзіць рэзкія рухі кінаакцёра.

— Я лічу, вам трэба яшчэ адпачыць, — ён прымусіў мужчыну легчы і ўвёў заспакаяльнае. Флой зноў патануў у змроку без успамінаў і адчуванняў.

## XVII

Першым у каюце інжынера яго сустрэў Арэс. Йоркі голасна брахаў і шалёна матляў хвастом. Падскочыў да гаспадара, апынуўся на руках, абапёрся пярэднімі лапамі на грудзі, вылізаў цёплым, шурпатым языком твар. Жасмін з пяшчотай назірала за чалавекам і сабакам. Рафаэль намагаўся ўсміхацца.

— Прабачце, што перашкодзіў, — здолеў прамовіць Кліментавіч, калі Арэс супакоіўся і ўтульна ўладкаваўся на руках.

— Няма за што, — Жасмін падышла да іх і прылашчыла сабаку. Флой адчуў яе цеплыню і водар. Рафаэль адчуваў у інжынеры нейкую таямніцу, што вабіла яго, як вышыня цягне рынуцца ў бездань, але больш глыбокую і загадкавую. Жасмін можна было назваць звычайнай, але яна аднойчы ўвайшла ў ягоныя мроі, і Флой больш не быў здольны і нават не жадаў думаць ні пра кога іншага. Хаця, акцёр разумеў, што ніколі не даруе сабе, калі словам ці поглядам абразіць яе. Ён жадаў быць з ёю, размаўляць, глядзець на яе гадзінамі, лашчыць бледную скуру рук і распусціць, нібы пакараныя тугім сплячэннем у косы, валасы… Але Рафаэль Кліментавіч ведаў, што ён не быў адпаведным хлопцам, каб клапаціцца пра гэтае пяшчотнае і загадкавае стварэнне. Хаця б таму, што ён не ў стане паклапаціцца нават пра самога сябе… Глыбока ў падсвядомасці хавалася пачуццё віны ад таго, што ён не здолеў зберагчы іншую, якая была яму блізкая і родная…

— Рафаэль Кліментавіч, — назваўся ён.

— У вас прыгожае імя, — ветліва выгнуліся краёчкі вуснаў, уздоўж ілба зноў папаўзлі маршчынкі, яна назвала сябе. — Жасмін Бетэльгейзэ.

— Ваша імя можна назваць дзіўным, — суразмоўцы апынуліся на шпацырнай тэрасе.

— Звычайнае марсіянскае…

— Усіх дзяўчат на Марсе завуць так цудоўна? — Флой углядаўся ў рысы яе твару, нібы шукаў адказ на іншае пытанне.

— Мама захаплялася кветкамі, і бацька дазволіў даць мне імя ў гонар кветкі, — яна паважна і сур'ёзна паглядзела на яго, быццам правярала, ці варты ён даверу.

— Вы адзінае дзіця ў сям'і? — у Флоя злёгку кружылася галава ад жадання спадабацца жанчыне, у чыёй постаці і рухах было нешта невытлумачальнае, што вабіла яго да шаленства. Арэс дробненька тупаў перад імі і дазваляў інжынеру абапірацца на руку гаспадара.

— На фермах не бывае адзіных дзяцей, — яна дзівілася, што ён нічога не ведаў пра звычайныя ў яе жыцці рэчы. — У фермераў заўсёды шмат дзяцей. Вядома, значна лепш мець сыноў, бо ёсць каму пакінуць ферму. Дзяўчат часам выпісваюць з Зямлі на перасяленне. У мяне восем братоў. Тры дапамагаюць бацьку на ферме, два працуюць на рудніках і яшчэ тры ў адміністрацыйнай сістэме Марса. Бацька на іх, безумоўна, бурчыць, але на самай справе, ён імі ганарыцца.

— Як вы адтуль уцяклі, калі там недахоп дзяўчат? — Рафаэль слухаў мяккі, невысокі голас (яна прамаўляла з акцэнтам паўночных каланістаў, якому была ўласціва вялікая колькасць сярэднеязычных зычных) і ў думках наведваў мясціны, пра якія яна распавядала.

— Усё пачалося ў школе, — хваля ўспамінаў нечакана ахінула Жасмін, і яна раптам зразумела, што дзяцінства даўно скончылася, а пасля яго ўсё жыццё запоўніла толькі праца. — На Марсе дагэтуль існуе праблема з ачышчэннем паветра, а калі я вучылася, да Крызіса, Зямля кожны год дасылала некалькі экспедыцый, каб дапамагчы каланістам адолець навалу. Я добра ведала не толькі мясцовасць, але і жыхароў. Настаўнік прапанаваў быць праваднікам для зямных вучоных. Я са школы працавала з зямнымі камандамі, потым здала ўсе экзамены на вышэйшыя адзнакі і паступіла ў агульнамарсіянскі ўніверсітэт у Гранд Канале. Дыплом абараняць запрасілі ў Новасібірск. Я да гэтага дзіўлюся цуду, які адбыўся са мной. Цяпер я прафесар. Але мяне рэдка можна знайсці ў Новасібірску. Вандрую ці на будаўніцтве новых паветраачышчальных установак ці ў інспекцыях праектаў маладых спецыялістаў. Вось і цяпер, пасля чатырох год бесперапыннай працы, з законнага адпачынка мяне паклікалі, каб дапамагчы выявіць праблему з ачышчэннем паветра на Гебі. Хаця Скакун, кіраўнік паселішча, нічога пэўнага не паведаміў, — Жасмін паціснула плячыма.

— Гэта павінна быць вельмі займальна, — абсалютна не зацікаўлены гісторыяй яе жыцця, Флой дазволіў яе далоні пакінуць ягоную руку з усведамленнем, што ніколі больш не павінен дакранацца да гэтай скуры, такой пяшчотнай, мяккай, далікатнай, але… ён не меў права.

— А чым вы займаецеся, Рафаэль? — яна зноў праскanавала яго глыбокім, уважлівым поглядам.

— Звяртайся на ты, — прапанаваў акцёр. Яго бянтэжыла бура адчуванняў, што ахоплівала думкі і пачуцці.

— Але ўсё ж…

— Здымаюся ў кіно, — на гэты раз ён паціснуў плячыма, сумеўшыся ад меркавання, што ягонае жыццё не было такім займальным, як яе.

— Гэта, напэўна, надта захапляюча, — Жасмін усміхнулася. І Рафаэлю падалося, што дастаткова змрочную шпацырную тэрасу касмічнага карабля нечакана затапіла яркае святло летняга сонца. — Як атрымалася, што ты там апынуўся?

— Жаданне майго бацькі, — Рафаэль пераадолеў хвілінную слабасць, выкліканую нечаканым уражаннем, усміхнуўся ёй у адказ. Яе рука зноў абаперлася аб

ягоную, і ён не здолеў яе адштурхнуць. — Я быў адзіным дзіцём у сям'і з даволі звычайнай гісторыяй. Дзед узначальваў адну з невялікіх абшчын на поўначы і быў вымушаны бегчы з Чарнагорыі ў Аўстралію. Прычыны ўцёкаў не вядомыя дагэтуль, хаця прайшло шмат гадоў. Але тыя, хто яго шукаў, знайшлі і там. Ён мусіў вярнуць даўгі. Сябры і сваякі не пакінулі бабку з маленькім сынам у няшчасці. Бацька падрос і паступіў ва ўніверсітэт у Бялградзе. Калі нарадзіўся я, ён ужо зрабіўся паспяховым прадзюсарам. Бачылі яго дома рэдка. Бацька заўсёды быў заняты справамі. У тыя нячастыя дні, калі ён трапляў пад родны дах, наладжваліся грандыёзныя вечарыны, таму яшчэ дзіцём я паспеў пазнаёміцца з усімі вядомымі рэжысёрамі і акцёрамі, хаця, праўду кажучы, у той час я марыў зрабіцца кандытарам, — Флой залівіста рассмяяўся, калі прыгадаў мару дзяцінства пра белую вопратку, у якой бы ён выходзіў да наведвальнікаў уласнай кавярні, каб спытаць, ці падабаюцца ім ласункі, якія ён стварыў паводле сваіх рэцэптаў, а да яго б прыязджалі знатакі з усіх Трох Планет, каб пакаштаваць піражнае і выхваляцца, што яны наведалі знакамітую кавярню.

— Кандытар — вельмі смачная справа, — Жасмін падтрымала яго па-дзіцячы бесклапотна. Яна прыгадала ні з чым не параўнальныя адчуванні, калі на першую стыпендыю ўпершыню пакаштавала торт «Ленінградскі» ў Новасібірску.

— Пасля Еўпраксіі Брама ў стужку патрэбны быў хлопчык гадоў дванаццаці-трынаццаці, — Кліментавіч прыгадаў, як мара пра белы фартух кандытара разбілася аб суровую рэчаіснасць. — Да таго я здымаўся толькі ў рэкламных роліках, бо бацька сцвярджаў, што сапраўдны мужчына павінен ведаць, як зарабіць на хлеб з маслам. І напэўна, гадоў… — Рафаэль трохі задумаўся. З маленства ён зарабляў рэкламай. Кінаакцёр збянтэжыўся, калі прыгадаў, што спачатку гэта была рэклама падгузкаў, пасля дзіцячага харчавання, а потым… для кожнага ўзросту меліся свае вырабы для дзяцей. Флой сарамліва працягваў. — Бацька надумаў паспрабаваць, зняшчыў кіламетры стужкі і паслаў Рабіне Тук, якая займалася падборам акцёраў для Брама. Мяне сапраўды зацвердзілі. Бацька быў задаволены. Аглушальны пачатак маёй кар'еры ў кіно зрабіў яго бясконца шчаслівым. Фільм дагэтуль карыстаецца поспехам, — ён запытальна паглядзеў на дзяўчыну. Нечакана Флой усвядоміў, што нічога ў сваім жыцці не дасягнуў самастойна. Усё неяк само ішло ў рукі, і ён проста плыў па цячэнні, асабліва не цешыўся, асабліва не засмучаўся, пакуль…

— Мушу прызнацца, — яна разгублена пасміхнулася, — я не гляджу кіно. Увогуле, я вельмі мала ведаю пра забавы, вядомыя на Зямлі. Праца займае ўвесь мой час, хаця… — дзяўчына запнулася, — часам я наведваю бацькоў.

— Любімая дачка? Малодшая, напэўна? — паспрабаваў патрапіць Рафаэль.

— Я старэйшая з дзяцей, — яна падарыла яму кпліва-ласкавы позірк. Інжынеру рэдка даводзілася размаўляць з людзьмі, не звязанымі агульнай працай, тым больш з тымі, хто належаў да вяршкоў грамадства, хаця думка, што гэтыя вяршкі былі трохі пракіслымі, надта насмяшыла інжынера. Жасмін заўсёды была засяроджанай і сур'ёзнай. Яна вельмі добра ведала, што ад яе выпадковай памылкі залежала жыццё тысяч людзей. І ёй здавалася нечакана дзіўным марнаваць час на размову, якая, па сутнасці, была даволі бессэнсоўнай, але за шырмай слоў хавалася…

— Мае бацькі ўвесь час працавалі на ферме, таму мне часта даводзілася клапаціцца пра гаспадарку і малодшых братоў.

— І яны цябе адпусцілі ад хаты? — яго вабіла да Жасмін так, што словы, якія яны прамаўлялі, пачыналі губляць сэнс, але Рафаэля не пакідала маркотнае адчуванне, што яны належаць да розных светаў.

— У мамы найлепшая аранжарэя на Марсе. Ты наведаеш нас, і я пакажу. Там квітнеюць дзівосныя расліны з усіх Трох Планет, і нават гібрыды з Юпітэра. Раней

яна шукала саджанцы і насенне ў розных кутках Сістэмы. Цяпер яе наведваюць, каб прыдбаць не толькі кветкі, але і насенне. Ёсць пакупнікі нават з Ганімеда.

— Як ты ўцякла? — Флой не быў здольны зразумець тых, хто лёгка адпусціў ад сябе гэтае далікатнае, каштоўнае стварэнне.

— Яны мелі дастаткова грошай, каб аплаціць навучанне. А пасля я сама зарабляла, вядома, не з маленства, як ты, — укалола дзяўчына суразмоўцу. — Калі бацька дазнаўся, што Новасібірск запатрабаваў мае дадзеныя, ён быў шчаслівы і нават плакаў.

— Флой, — перад ім з'явілася сакратар-рэферэнт. Арэс варожа гаўкнуў.

— Так, — акцёр незадаволена паглядзеў на Саламею, якая разбурыла бязважкае адчуванне прыгажосці ад размовы з Жасмін.

— Ах, ты пудрыш мазгі чарговаму дзяўчаці, — яна пасміхнулася, нібыта ўявіла, як патрон спакушае, а пасля пакідае спадарожніцу. Ёй не падабалася думка, што шэры верабей, у аблічча якога няма за што зачапіцца воку, быў здольны мець перавагу перад такой шыкоўнай жанчынай, як Саламея Таліба.

— Прабачце, спадарыня, — яна спачувальна ўздыхнула. — Справа ў тым, што ў майго боса кожны тыдзень новая каханка. Я хачу вас папярэдзіць, хаця мне вельмі агідна, што ён пабавіцца з вамі ноч-другую і знойдзе новую…

Рука Жасмін выпала з ягонай.

— Не цешце сябе надзеяй, што вы здолелі прыцягнуць увагу такой экстравагантнай зоркі, як Рафаэль Кліментавіч. Ён проста шукае свежыя адчуванні.

Рафаэль няёмка пачуваўся пад градам з'едлівых нападаў. Акцёр усведамляў, што ён не даў шчасця аніводнай жанчыне, якую сапраўды кахаў.

Жасмін разгублена глядзела то на Саламею, то на Флоя. Яна шукала абвяржэння ў ягоных вачах. І чым далей, тым больш недаверлівымі рабіліся позіркі ў бок новага знаёмага. Але ягоныя вочы не сачылі за ёй. Флой не жадаў абвяргаць прамоўленае і падтрымліваць Жасмін.

— Я спадзяюся, вы захаваеце ваш маленькі інтымны сакрэт, спадарыня, — Таліба пагрозліва ўсміхнулася. — Інакш давядзецца мець справу з прэс-сакратаром.

— Прабачце, калі злоўжывала вашым часам. Было прыемна пазнаёміцца, — абыякава прамовіла спадарыня Бетэльгейзэ, як быццам гэта не яна асвятліла адзінай усмешкай змрочную тэрасу і ягонае жыццё. Інжынер пакрочыла ў бок гасцёўні, але груз знявагі абцяжарыў яе плечы. Жасмін рухалася трохі няўпэўнена, і Рафаэль тужліва сачыў, як яна паволі знікала з далягляду і з ягонага жыцця. Кліментавіч разумеў, што яны не павінны быць разам, і ў думках кляў сябе за тое, што сваёй звычайнай прываблівасцю спакушаў дзяўчыну, якая за апошні час зрабілася блізкай яму і якая зусім не падобная да астатніх. А сэрца імкнулася дагнаць, спыніць, упасці да яе ног, абхапіць калені і маліць прабачэння за маскарад, за ману, у якой ён жыў…

Жасмін спусцілася з тэрасы і знікла.

— Так? — Флой звярнуўся да Саламеі. Ён меркаваў, што гэтак, як яна зрабіла, усё ж будзе лепш для ўсіх. Скончыцца падарожжа. Кожны з іх пакрочыць сваёй сцежкай, і больш яны ніколі не спаткаюцца. І гэтак правільна, але на сэрцы было самотна.

— Цябе шукала Мейбл, — Саламея прылашчыла ягоную шчаку. Йоркі, які зрабіў некалькі крокаў наўздагон спадарыні Бетэльгейзэ, вярнуўся. Рафаэль падхапіў яго і прыціснуў да сэрца. Жанчыны праходзілі скрозь жыццё, заставаўся толькі сабака.

— Яна падабаецца Арэсу, — пахмурна канстатаваў акцёр і накіраваўся за Саламеяй да капітана.

**XVIII**

— Вы не разумееце, — капітан Георг быў надзвычайна цярплівы і карэктны. — Шлях ад Зямлі да Марса можна параўнаць з хуткаснай магістраллю. Усё чыста. Але, калі рухаешся ў напрамку Юпітэра, пачынаецца самае складанае.

Ян Прымак нецярпліва слухаў і ўвесь час намагаўся перапыніць.

— Капітан, працуюць толькі пяць рухавікоў, — нарэшце ён здолеў адкрыць рот, каб напоўніць прастору лічбамі і ісцінамі, зразумелымі любому фізіку. — Гігантык разлічаны на сем рухавікоў.

— Мы яшчэ ўводзім карабель у эксплуатацыю, — запярэчыў Славінскі. — Ён пакуль не аб’езджаны, да таго ж нам хапае магутнасці пяці рухавікоў.

— Але мы з пяццю рухавікамі дайшлі да Дэймаса ўдвая хутчэй, чым любы іншы карабель, — канструктар гарачыўся. — Я малю запусціць хаця б яшчэ адзін рухавік. Вядома, калі б мы запусцілі абодва, Гігантык прыбыў бы на Ганімед у тры разы хутчэй…

— Добра, — мноства лічбаў паўплывала на капітана. Ён мусіў звязацца з электратэхнікамі, каб даць загад запусціць яшчэ адзін рухавік.

— Капітан, вы зробіце імя ў гісторыі касмаплавання, — узрадаваўся Прымак, — як самы перадавы капітан, — ліслівa дадаў, — пасля наступнага абмеркавання вы дасце згоду на ўвядзенне ў эксплуатацыю сёмага рухавіка…

Георг Славінскі насупіўся, усведамляючы, што трэба спыніць патуранне канструктару, які нічога не разумеў у небяспецы, што магла падпільноўваць самы трывалы, надзейны і хуткасны карабель.

— Капітан, відавочна, не мае настрою, — заўважыў Рафаэль, калі трапіў у рубку ўслед за сакратаркамі.

— Што вас прывяло да мяне? — Славінскі павітаўся. Нягледзячы на незадаволенасць Прымаком, ён намагаўся быць ветлівым.

— Мы не будзем займаць ваш час дробязнымі просьбамі, — чароўна пасміхнулася спадарыня Тоўн, — але толькі ад вас залежыць вырашэнне пытання.

— Што здарылася? — прамармытаў капітан, але не паказаў выгляду, што просьбы за сённяшні дзень яму ўжо абрыдлі.

— Вы ведаеце, што спадар Кліментавіч кінаакцёр, — Мейбл намагалася падбіраць мягчэйшыя выразы.

— Мушу згадзіцца з фактам, — капітан не разумеў, чаго яна жадае.

— Апошні фільм яшчэ не выйшаў на экраны, але прэм’ера адбудзецца праз пяць дзён. Вы, напэўна, ведаеце, што пасля кожнай прэм’еры акцёры, рэжысёры ды іншыя прадстаўнікі здымачнай групы даюць інтэрв’ю, — яна спынілася, рыхтуючыся перайсці ў наступленне.

— Да чаго вы хіліце? — перапытаў Славінскі.

— Мы хочам папрасіць дазволу наладзіць тэлемост паміж Гігантыкам і Зямлёй. Вы таксама можаце да нас далучыцца, мы паглядзім фільм, — яна зірнула на Флоя, які зацікаўлена, як малое дзіця ў краме цацак, разглядаў панэль кіравання, — а потым спадар Кліментавіч адкажа на пытанні журналістаў.

— О, як цікава! — узрадаваўся Прымак. Рафаэль паглядзеў на яго з пагардай. Капітан кінуў у ягоны бок злосны позірк. Саламея чароўна ўсміхнулася. Спадарыня Тоўн працягвала:

— Гэта не зойме шмат часу.

— А энергетычныя выдаткі? — Славінскі пільна сачыў за экранам.

— О, гэта акупіцца ў сто разоў. Ваша кампанія можа даслаць рахунак за дадатковую паслугу…

— Добра, дамоўцеся з сувязістамі, я дам ім загад, — капітан думаў пра бяспеку пасажыраў на борце карабля.

— Капітан, — з задумлівага стану яго вывеў зварот Грыгора Вятрака, старшага памочніка з аддзела сувязі. — Мы атрымалі трывожныя звесткі пра актыўнасць астэроідаў.

— Добра, — Славінскі ўзяў радыёграму, — адкуль прыйшлі запыты пра курс?

— Невіль, марсіянскае патрульнае судна, і Бакас, карабель нашага класа, капітан, — адрапартаваў сувязіст.

— Добра, вы вольныя, — Георг не без самазадавальнення пасміхнуўся. Яго цешыла думка, што Бакас стартаваў месяцам раней Гігантыка, і цяпер карабель Георга Славінскага наганяў старага прыяцеля. Але пры з'яўленні Корбута капітан зноў спахмурнеў.

— Я высветліў, што каматознік, Кат Трум, нарадзіўся на Месяцы, сірата, не меў сталага месца жыхарства ці працы. Падпрацоўваў на распрацоўцы кратараў, ці ў порце, альбо проста ў Лунабургу. Жыў, дзе давядзецца, часта з'яўляўся ў зводках паліцыі па справах хуліганства і дробных крадзяжоў. Відавочна, ён страціў надзею адшукаць працу на Месяцы і накіраваўся на Ганімед…

— Зразумела, — капітан хіснуў галавой. Гэтыя звесткі нічога новага не давалі. Набыць білет мог хто заўгодна, у каго меліся грошы.

— У каюце мы знайшлі мінімум асабістых рэчаў і вялікую кіпу банкнот, — працягнуў Корбут.

— Значыць, гэта не было рабаваннем, — факты не ўкладаліся ў галаву Славінскага. Чалавек амаль без сродкаў для існавання з'яўляецца ўладальнікам кіпы банкнот, але грошы забойцу не цікавяць. Звядзенне рахункаў? — гэта было верагодна. — А што ён рабіў на палубе першага класа?

— Мы апячаталі каюту і працягваем расследаванне, — чаканіў Корбут.

— Кат Трум апрытомнеў? — стомлена спытаў Славінскі. Капітан адказваў за ўсіх пасажыраў, нават за няўдачнікаў, бандытаў і п'яніц.

— Не, доктар Розан сцвярджае, што аніводны зямны паралізатар так не дзейнічае, — старшы памочнік быў упэўнены, што дасведчаны капітан усё зразумее.

— Што ты мяркуеш на гэты конт? — капітан Георг задаў нечаканае пытанне. У абавязкі старшага памочніка не ўваходзіла рабіць высновы, а толькі рыхтаваць усё-абдымную інфармацыю для капітана. І хаця Браніслаў Корбут па многіх пытаннях меў свае меркаванні, ён ніколі не выяўляў тое, што выходзіла за рамкі паўнамоцтваў. Меркаванне — прывілея, якой ён збіраўся скарыстацца, калі сам зробіцца капітанам.

— Я не ведаю, што думаць, — няўпэўнена адказаў старшы памочнік. Гэта было праўдай. Ад бравурнай дзелавітасці не захавалася і следу. Яны паглядзелі адзін на аднаго. Якой бы адмысловай не была загадка, яны мусілі знайсці належны адказ.

## XIX

— Я прагульвалася ўздоўж тэрасы і заўважыла, што колькасці выратавальных ботаў на караблі не хапае для ўсіх, хто на ім знаходзіцца, — заўважыла Жасмін, калі Усяслаў Зорыч у чарговы раз распавядаў, як прыйшла думка стварыць Гігантык.

— Карабель вельмі надзейны. Вам не патрэбны выратавальныя боты, — перапыніў Ян Прымак, які імкнуўся ўціснуць хоць якое слова для апраўдання.

— Вядома, на борце дваццаць тысяч чалавек, — Зорыч бездапаможна пасміхнуўся.

— А ботаў хопіць толькі на палову, — абвясціла Жасмін, пакуль з пяшчотай сачыла, як Данька Пырнік гуляе з Арэсам каля ног гаспадара.

Рафаэль узняў вочы, і іх позіркі сустрэліся. Некалькі секунд яны датыкаліся поглядамі. Жасмін пачырванела і паглядзела на капітана.

— Флой, я, вядома, разумею, што ты забаўляешся і заляцаешся да кожнай, хто носіць спадніцу, — прамармытала Таліба так, што яе пачуў не толькі той, да каго яна звярталася, але і тыя, хто былі побач, — але гэтая векавуха табе не падыходзіць.

Рафаэль адказаў ёй халодным, пагардлівым поглядам і зноў звярнуўся да спадарыні Пырнік, якая з імпэтам распавядала пра сына. Акружэнне меркавала, што Астру цяжка залічыць у векавухі, але акцёр ведаў, у чый бок была накіравана пагарда.

— Ён такі кемлівы, — Флой пасміхнуўся тыповай галівудскай усмешкай, але ягоны позірк, нібы магнітная стрэлка на поўнач, утаропіўся ў кампанію на чале з капітанам і канструктарам.

— О, дзеці цяпер усе такія, — Астру ахапіла натхненне ад поспеху. Яна сакатала без упынку, хаця часам яе перапынялі пытанні Мейбл, Таліі ці Крыллі.

— Калі ён у вас пачаў хадзіць? — спытала Талія, якая сама ад дзіцяці далёка не адышла.

— Я не ведала, што канструктары паветраводаў таксама карыстаюцца поспехам, як і кінаакцёры, — Луіза Дэлавэрская капрызліва падціснула вусны. Яна лічыла, што мужчыны мусілі быць больш пільнымі да яе.

— Гэта выдатны канструктар, — правуркатала княгіня, калі адцягнула ўвагу ад Ільі Трэфа, які бестурботна балбатаў усялякую бязглуздзіцу, чым забаўляў маленькую кампанію, і падміргнула Луізе. Яна падбадзёрвала і заахвочвала сяброўку.

— Верагодна, авалодаць ведамі ў галіне тэхнікі можна толькі пры дапамозе руплівасці, — Трэф таксама чароўна ўсміхнуўся спадарыне Цюль. — Але ў яе няма талентаў, каб дасягнуць вышыні на іншай ніве.

— Вы самі, безумоўна, таленавіты, — ягоныя словы дасягнулі вушэй Антуанэты, якая намагалася ўбачыць куміра з-за жанчын, якія яго абкружылі.

— Антуанэта, мала быць таленавітай, трэба таксама валодаць добрым сэрцам, якое маеце вы, — падтрымаў сябра Менахем. Яго турбаваў той жа чалавек, што і Антуанэту, якую ён кахаў, але фінансіста непакоіла пытанне, чаму ён яшчэ жывы. Грын некалькі разоў прыгадваў дробязі размовы з Катам з трэцяй палубы, і прыходзіў да меркавання, што выканаўца, магчыма, не зразумеў дакладна, што ад яго патрабуецца. Прысутнасць Кліментавіча адмоўна адбівалася на псіхалагічным стане фінансіста. Тыя некалькі дзён, пакуль кіназорка адсутнічала ў гасцёўні, Антуанэта вельмі прынадна ставілася да Менахема, але як толькі кінанасланнё зноў з'явілася, падалося, што дзіва забыла адданага рыцара. І прысутнасць акцёра злавала Грына.

— Гэтаму караблю нішто не пагражае, — працягваў выхваляцца Прымак, а капітан незадаволена круціў галавой. Ён скептычна ставіўся да жыцця, а досвед падказваў, што не варта заракацца загадзя.

Жасмін адчувала, як млявыя погляды ахутваюць яе постаць. І ёй здавалася, што трэба павярнуцца і зазірнуць яму ў вочы. Але, калі яна прыгадвала словы адной з сакратарак, якая сядзела побач з Флоем і какетліва пасміхалася, інжынер адчувала сорам толькі ад думкі, што яна магла мець хоць які-небудзь спадзеў… У вушах гучалі з'едлівыя намёкі, і ёй рабілася брыдка. Гэта агіда прыносіла боль. Годнасць не дазваляла трываць, калі яе ганьбавалі. Чалавекалюбства патрабавала дапамагчы яму, удзячнасцю была толькі знявага… Негледзячы на ўсе разважлівыя думкі, Жасмін усім целам адчувала, як дакранаецца ягоны погляд да яе скуры. І гэта дзіўна непакоіла яе.

— Заўсёды марыў апынуцца на Юпітэры, — Ілья Трэф цалаваў руку княгіні, значна вышэй таго месца, якое дазваляў этыкет, на што зайздросліва глядзела Саламея.

— Вы не ўяўляеце, які прыгожы горад Ганімедштадт, — Гвінівера, як свабодная жанчына, дазваляла ранцье шмат вольнасцей у абыходжанні са сваімі рукамі. Адначасова яна працягвала пільна сачыць за Флоем, якога стамляла балбатня спадарыні Пырнік. Княгіня мела свае планы наконт Кліментавіча. Са свайго месца яна бачыла акцёра значна лепш, чым спадарыня Цюль, якую княгіня Ківа-Тыцкая не прымала пад увагу. Дасведчаная ў справах сардэчных, яна добра бачыла, што небарака пакутуе ад кахання. Гвініверы цяжка было вырашыць, а ці варты ён, каб зрабіцца наступнай ахвярай, але цяпер яе мэтай была толькі кіназорка. Яна павольна разглядала пасажырак у кают-кампаніі, мяркуючы, хто здольны зрабіцца саперніцай, каб адразу пазбавіцца ад іх.

— Паглядзім, чаго варты гэты карабель, калі ўвойдзем у пояс астэроідаў, — прамармытаў капітан.

— Карабель устойлівы для любога астэроіда, — адразу адказаў Ян. Ягоны сябар і стваральнік праекта толькі пакруціў галавой, недаверліва пасміхаючыся гарачнасці і запалу Прымака.

— Мы цалкам разлічваем на вас, Ян, — Жасмін намагалася падтрымліваць размову, але ўсім целам адчувала, як той самы погляд лашчыць яе валасы, пальцы, шыю, плечы, пільнуе кожны рух. Яна ўсведмляла, як нешта дзіўнае ўздымаецца ў грудзях, падступае да горла, ад чаго немагчыма дыхаць. Яна была ледзь здольная адцягнуць увагу. Не жадала думаць і зноў думала, што сядзіць у адной гасцёўні з чалавекам, стаўленне да якога яна не здольна дакладна вызначыць.

— Ваш сын робіць поспехі ў галіне выхавання сабак, спадарыня Пырнік, — Флой не меў цяжкасцей з адорваннем кампліментамі прыгажэйшай паловы чалавецтва. Ён машынальна ўсміхнуўся ветлівай усмешкай, і слізгануў стомленым позіркам па тварах сваіх прыгажунь. Спыніўся на Рабіне. Спадарыня Тук непрыхільна глядзела на яго. Ён таксама не ўхваляў сваіх паводзін. Зусім нядаўна загінула жонка… Рафаэль прыкідваў, хто з дзяўчатак варты сёння грэць яму ложак. Саламея катэгарычна не падыходзіла. Ні Крыллю, ні Зорану ён не жадаў. Першая была празмерна эмацыянальная, другая — наадварот. Выбіраў паміж Таліяй і Мейбл. Апошняя здавалася празмерна разважлівай, каб бесклапотна забаўляцца. У выніку ён спыніўся на Таліі. Яны абодва ведалі, як самазабыўна весяліцца.

— О, — зноў зашчабятала Астра, — калі мы вернемся на Зямлю, то абавязкова набудзем Данілу шчанё…

— Няўжо, мам? — адцягнуў увагу ад гарэзлівага Арэса Данька. Маці пагрозліва зірнула на яго, нагадваючы, што перапыняць старэйшых непрыстойна.

— Знаёмства з вамі дае шмат магчымасцей майму сыну, — яна дазволіла спадару Кліментавічу зазірнуць у яе чорныя вочы, на дне якіх ззяла захапленне.

— Так, — абыякава згадзіўся Рафаэль. Ён не заўважыў вачэй Астры. Флой сядзеў сярод прыгожых жанчын і разумеў, што не мае права ні перад людзьмі, ні перад сіламі вышэйшымі сядзець тут і пільнаваць далікатную, нібы праменьчык месяцовага святла, крохкую жанчыну з вялізнымі шэрымі вачыма на бледным ад недахопу сонца і кіслароду твары, якая аддала большую частку жыцця чарцяжам і трубам. Але Рафаэль не быў здольны адцягнуць увагу і не жадаў губляць яе. Якая лухта! Нельга згубіць тое, чым не валодаеш. Кліментавіч страсянуў галавой, нібы намагаўся пазбавіцца ад наслання.

Жасмін пакінула гасцёўню. Спачатку Флой не зразумеў, што адбылося. Ахапіў позіркам усю кают-кампанію некалькі разоў. Людзі ўсміхаліся і працягвалі неістотныя размовы. Рафаэль злавіў загадкавы позірк Гвініверы, што раззлавала яго.

— Флой, дарагі, супакой свайго сабаку, — пачуў кінаакцёр упэўнены і злёгку кплівы голас Рабіны.

— Арэс, — дакорліва і млява прамовіў Рафаэль, чароўна пасміхнуўся ганарліўкам і гарэзам ды падхапіў йоркі на рукі. Паспеў заўважыць, як у спадарыні Пырнік гарэлі вочы. Гэта не была пажаднасць, хутчэй — фанатызм.

Кліментавіч павольна ўстаў, адчуваючы пагляды на сваім маладым, прывабным, зграбным целе.

— Я стаміўся, — нешта незразумелае цягнула яго з гасцёўні. Ён намагаўся супрацьпаставіць усю сілу волі гэтаму прыцягненню. — Спадарыня Пырнік, я бясконца ўдзячны вам за размову.

Астра квітнела, не здольная адвесці ад яго вачэй, нягледзячы на прысутнасць мужа.

— А ты можаш пакінуць Арэса яшчэ трошкі? — ублытаўся з просьбай да акцёра Данька.

— Баюся, што ён таксама стаміўся, — Флой пакудлаціў віхры расчырванелага хлопчыка. Йоркі пагрозлівым рыкам пацвердзіў заяву гаспадара, як толькі юны Пырнік працягнуў да яго рукі.

Жанчыны праводзілі акцёра закаханымі поглядамі, мужчыны — незадаволенымі. Але з ягоным адыходам знікла крыніца ўсеагульнай напружанасці і пажадлівасці.

## XX

Асляпляльная ўсмешка была падаравана яму, як толькі Рафаэль пакінуў гасцёўню. Прывабная княгіня Ківа-Тыцкая з’явілася перад ім нечакана, як чарцяня са скарбонкі. Вейкі ўспырхнулі, а вочы млява і пажадліва прабеглі ўздоўж ягонага цела. Кінаакцёр ведаў, што княгіня не звыкла да адмоў.

— Нас не пазнаёмілі, — Флой усміхнуўся і вярнуў яе пагляд. Празрыстая тканіна адзення ганімедскай прыгажуні варушылася і пералівалася, нібыта дыхала.

— Я спадзяюся, вы выправіце гэтую памылку, — правуркатала Ківа-Тыцкая грудным, аксамітным голасам, і ён зразумеў, які шырокі ў яе дыяпазон.

— Рафаэль Кліментавіч, — акцёр прапанаваў спакусніцы руку, разлічваючы колькі часу спатрэбіцца, каб адвесці княгіню да апартаментаў, каб потым адшукаць Жасмін і папрасіць у яе прабачэння....

— …сябры клічуць мяне проста Гвінівера, — скрозь летуценне мрояў да яго дайшло, што побач з ім знаходзіцца яшчэ хтосьці.

— Я ўпершыню лячу на Юпітэр, — Флой заўсёды быў майстарам у галіне свецкіх размоў.

— Спадар Кліментавіч, магу я зваць вас Флой, — спяваў над вухам голас сірэны.

— Я заўсёды знаходзіў у імені Флой нешта непрыстойна-непрывабнае, — ухіліўся ад прамога адказу акцёр.

— Ведаеце, — выбухнула княгіня. Яе нервавала ягоная ўпартасць і адначасова правакавала на неверагодныя крокі, толькі каб ён таксама быў залічаны ў рэестр яе перамог.

— Я нарадзілася на Юпітэры. Гэты свет такі далёкі ад Сонца, — дэкламавала княгіня з натхненнем. — Ён заўжды змрочны, здаецца халодным і недасягаль-

ным, — яна жадала, каб у гэты момант Кліментавіч усвядоміў яе халоднай і недасягальнай.

— Так, я праслухаў курс прыродазнаўства ў школе, — думкі акцёра былі далёка не толькі ад гэтай жанчыны, але і ад яго самога. Кліментавіч намагаўся злавіць хаця б водар Жасмін.

— Але Юпітэр толькі здаецца такім, — гэта быў далікатны і адмысловы намёк. Раптам княгіня заверашчала, што прымусіла Рафаэля звярнуць на яе ўвагу. Арэс з вантробным буркатаннем ушчаперыўся ў яе нагу.

— О, прабачце, — Флой ледзь не зарагатаў, калі ўбачыў, як па-вар'яцку перакрывіўся твар княгіні. — Ён такі раўнівы.

Рафаэль прымусіў сабаку расшчапіць зубы, не пакідаючы прасіць прабачэння. Але Ківа-Тыцкая рашыла і гэты момант выкарыстаць у сваіх мэтах. Праз імгненне яна прытворна стагнала ад болю ў абдымках акцёра і закочвала вочы ў стане блізкім да непрытомнасці.

— Я лічу, вас неабходна паказаць доктару Розану, — Флой прафесійным поглядам адзначыў яе драматычнае майстэрства і падзякаваў Арэсу, што яму не даводзілася мяняць планы на вечар. Кінасэрцаед правадзіў княгіню да каюты. Флой быў усцешаны, што так трапна пазбавіўся прыгажуні. Пасля наведвання доктара Розана (на гэты раз йоркшыртэр'ер унікнуў каранціну) можна было забыцца на пошукі Жасмін.

У ложка яго чакаў новы сюрпрыз, дакладней, Саламея Таліба, пра што Рафаэль даведаўся, калі ў каюце без паведамлення апынулася Рабіна. Арэс гаўкнуў для парадку, пабурчаў і лёг, каб пачуць кожны шоргат. Флой адчуў, як нечыя рукі абхопліваюць стан, і паводле водару парфумы зразумеў, што гэта сакратар-рэферэнт, якая згаладалася без пяшчоты і ласкі.

— Флой, — спадарыня Тук ахапіла ўчэпістым позіркам коўдры. Рафаэль падміргнуў ёй.

— Прабач, што ўрываюся так позна, але маю да цябе размову больш істотную, чым экранізацыя, і… — яна зрабіла шматзначную паўзу (якую Рафаэль не зразумеў), але падчас якой Саламея, што сціхла, пачуўшы першыя словы Тук, змяніла паставу рук. Флой прыкусіў губу.

— Я нават не ведаю з чаго пачаць, — у Рабіны ніколі раней не назіраўся лірычны настрой. Спадарыня Тук паглядзела на былога пратэжэ. Рафаэль намагаўся зразумець, чаго ад яго патрабуе старая сяброўка бацькі.

— Калі ты жадаеш размаўляць не пра экранізацыю, — ён пакутліва сачыў, як яна механічна перабірала рэчы на століку, і ўсведамляў, што калі цяпер не вызваліцца з абдымкаў Саламеі, потым ужо будзе позна. — Можа, мы прагуляемся. Тут цяжка дыхаць, — Флой узняўся з-пад коўдры і накінуў халат, які адразу захінуў яго.

Рабіну спасцігнуў шок, бо Рафаэль не дазволіў ёй апамятацца, а схапіў за руку і выцягнуў з каюты. Калі дзверы за імі зачыніліся, незадаволеная Саламея выблыталася з-пад коўдры. Сёння яна была так блізкая да таго, чаго жадала. Спачатку яна думала, як адпомсціць спадарыні Тук, але праз хвіліну ўсвядоміла, што Флою ўсё роўна калі-небудзь давядзецца вярнуцца…

— Пра што хацела са мной пагутарыць? — акцёр нарэшце ўздыхнуў з палёгкай.

— Пра дзяўчыну, — спадарыня Тук таксама ўздыхнула. — Я не сляпая. Я бачу, што адбываецца.

— І што адбываецца? — Кліментавічу не падабалася, што нехта мае жаданне ўладкоўваць ягоныя асабістыя справы, асабліва, калі гэты нехта Рабіна.

— Для чалавека, у якога яшчэ не скончылася жалоба па каханай жонцы, ты паводзіш сябе непрыстойна, — усё гэта было вымаўлена павучальным тонам. — Я, вядома, разумею, што ты прывык да такога стылю жыцця, але…

— Ты намагаешся ўзяць на сябе ролю маёй мамы? — спытаў ён. — Хаця нават яна даўно не дае мне парады, як жыць.

— Я хацела пагутарыць не пра гэта, — спадарыня Тук усвядоміла, што адхілілася ад пастаўленай мэты.

— Слухаю, — Флой не жадаў яе крыўдзіць.

— Бачыла, ты зацікавіўся паветраводамі, — яна чакала, калі акцёр сам выявіць тое, пра што Рабіна здагадвалася. Рафаэль спахмурнеў, але не адказаў.

— Ці інжынерам, — прадзюсар пераканалася, што яна патрапіла.

— А гэта істотна? — Флой імкнуўся пра гэта нават не думаць. І вось нехта казаў, што гэта відавочна.

— Баюся, што табе ўсё роўна, але, магчыма, ёй не, — Рабіна сачыла за тым, як робіцца панурым сын сябра і адзначала, што Флой вельмі неабыякава ставіцца да прадмета размовы.

— Адной больш, адной менш, — Рафаэль Кліментавіч вырашыў трымаць сябе ў руках. З аднаго боку ён адчуваў, што наўрад ці здолее без яе, а з другога — яму не хапала нахабства, каб уварвацца ў жыццё таямнічай дзяўчыны і сапсаваць яго. Ён заўсёды разыходзіўся з каханкамі бесклапотна, як і яны з ім. Флой гэта разумеў. З Аўрорай было інакш. Бязлітасная смерць выдрала жонку з ягоных абдымкаў, і апынулася, што ў яго больш нічога і не было. І цяпер Рафаэль яшчэ не зразумеў, што ў жыцці зноў можа адбыцца цуд…

— Цябе гэта кранае значна больш, чым ты жадаеш выявіць, — Рабіна не дазволіла яму перапыніць сябе. — Ты яе занадта моцна кахаеш і баішся гэтага пачуцця. Чаму яна павінна пакутаваць з-за цябе?

— Чаму ты лічыш, што яна кахае мяне? — Кліментавіч раззлаваўся. І яго больш раздражняла менавіта тое, што Рабіна казала праўду.

— Я не першы год жыву, — рэакцыя Флоя выявіла спадарыні Тук, што ўсё значна глыбей, чым яна меркавала. — Я тут не з-за цябе, але з-за яе. Яна нібы дзіця. Я не жадаю, каб ты яе пакрыўдзіў.

— Ты лічыш, я здольны яе пакрыўдзіць? — Флой скарыўся. І Рабіна, і сэрца былі супраць ягонага розуму.

— Як добры хлопчык, ты павінен памірыцца з Жасмін, — павучальна адказала прадзюсар.

— Добра, — яму зрабілася лёгка ад усведамлення, што больш не трэба спрачацца з сабою.

— А цяпер ідзі і паводзь сябе прыстойна, — спадарыня Тук з годнасцю знікла, усведамляючы, што выканала цяжкую місію.

## XXI

— Ведаеце, спадарыня Бетэльгейзэ, — капітан Славінскі прапанаваў руку, як толькі яна пакінула гасцёўню. — Я хачу пагутарыць з вамі пра дзіўную непрытомнасць спадара Кліментавіча. Вы не былі знаёмыя да таго?

— Не, — Жасмін усцешылася магчымасці абмеркаваць з кім-небудзь чалавека, які апошнім часам займаў усе ейныя думкі. — Я бачыла яго аднойчы да таго, як усё здарылася, але нас не пазнаёмілі.

— Так, я памятаю, вы крытыкавалі ўлюбёную цацку спадара Прымака, — капітан падумаў, што прыемна размаўляць з прафесарам, які не выяўляе ўласнай значнасці фанабэрлівым выглядам.

— Ці не здольныя вы прыгадаць, як апынуліся ў адасобленым месцы ў надта позні час? — яму здавалася, што інжынер дасведчана ў здарэнні нашмат больш, чым паведаміла.

— Я раней не лятала на такіх караблях, — яна сама не ведала, як там апынулася. — Дзень выдаўся напружаны. Я не магла заснуць і вырашыла прагуляцца ўздоўж тэрасы, паглядзець на зоркі, — да яе прыйшла думка, што ў той момант у яе ўзнікла адчуванне, што яна мусіць туды трапіць, але Жасмін захавала свае адчуванні пры сабе.

— Так, невытлумачальнае супадзенне, — капітану Георгу было прыемна праяўляць галантнасць. — А вы не заўважылі нічога дзіўнага, магчыма, іншага чалавека ці зброю? Усё што заўгодна.

— Не, іншых людзей да прыходу спадарыні Тоўн я не бачыла, — Жасмін колькі секунд вагалася, пасля вырашыла сказаць праўду. — Але было нешта дзіўнае.

— Так, а менавіта што?

— Як вам растлумачыць? — Жасмін уздыхнула. — Я маю невялікі абярэг, — яна ўзяла пальцамі маленькі люмітрыевы кулон, які выяўляў нейкага марсіянскага бога з вачамі з расплаўленага марсіянскага пяску на ланцужку. Звёны таксама былі злучаны на выключна марсіянскі лад (ніхто з людзей не здолеў дасягнуць марсіянскай дакладнасці ў апрацоўцы люмітрыя — усё тое, што прапануецца ў партовых мястэчках, якія звычайна дэманструюць турыстам, — недасканалыя спробы падрабіць шчырыя каштоўнасці марсіянскіх скарбаў, прыпраўленыя дастатковай колькасцю алюмінія).

— Ён сапраўдны? — капітан дакрануўся да яго. Кулон быў пяшчотна-цёплы.

— Гэта абярэг з аднаго пахавання. Мне падарыў яго Тайяр Лінгу, археолаг, мой найлепшы сябар. Ён больш мне ніколі нічога не дарыў, але, калі знайшоў гэта, прынёс і аддаў. Тайяр казаў — «гэта вякамі чакала ў вільготных марсіянскіх пясках толькі цябе». Ён усміхаўся, і я меркавала, што Тайяр жартуе. Але ён не жартаваў. Гады праз два ён загінуў на Еўропе. У ягонай смерці дзіўная гісторыя, і я не сустракала людзей, якія аднолькава распавядалі пра яе.

— Так, а кулон? — капітан Славінскі незадаволена падумаў, што толькі ўсялякай чартаўшчыны яму не хапала на Гігантыку.

— З тае пары ён зрабіўся цёплым. І захоўвае сваю цеплыню пры ўсялякіх умовах. І яшчэ я веру цяпер, што ён мой. Некалькі разоў толькі дзякуючы яму я не загінула.

— Пра артэфакты з іншых планет часам распавядаюць дзіўныя рэчы, але я лічыў, гэта ўсяго толькі перабольшванне, — у падсвядомасці капітана варушылася даволі непрыемнае адчуванне, што ў яго няма ўяўлення, што адбываецца на ўласным караблі, і прычына гэтага прыемная, шчырая дзяўчына. Капітан пашкадаваў, што яна падарожнічае не іншым транспартам, які накіроўваўся на Юпітэр. Чаму гэта павінна было здарыцца з ім і ў апошні рэйс?

— Мяшты Лат з Каліста перабольшаннем назваць цяжка. Мы здолелі патрапіць у сістэму паветраных шахтаў у Айве толькі дзякуючы талісману. Мяшты Лат перакрыўлівае ўсялякую рэальнасць. Калі трапляеш у прастору, якую Мяшты Лат выбраў пад сваё гняздо, робішся невідушчым і глухім. Нават пачуццё дотыку можа падмануць. Можаш рухацца па ільду і адчуваць падлогу, па якой раскіданы гарох.

— А прылады? — аповед захапляў капітана Георга, але ён намагаўся трымаць у галаве мэту размовы.

— Усюды перашкоды...

— І што зрабіў ваш кулон? — да яго прыйшла скептычная думка, што пачутую лухту немагчыма прыняць на веру.

— Я не ведаю, якім чынам — мы ж мала ведаем пра Марс, — а пра іншыя калоніі яшчэ менш, але ён зняў перашкоды.

— І дзіўнасці, пра якія вы нагадвалі… — капітан ніяк не здолеў ухапіць нейкую вельмі зразумелую думку.

— Так, яна звязана з кулонам, — на імгненне прафесар завагалася. — Справа ў тым, што, калі я набліжалася да таго месца, на тэрасе, кулон выпраменіў асляпляльную ўспышку святла.

— А пасля?

— Свячэнне адразу спынілася.

— А потым вы знайшлі двух мужчын на падлозе?

— Так.

— І пачалі дапамагаць Рафаэлю Кліментавічу, — капітан не без яхіднасці падумаў, што ён ведае, чаму яна адразу кінулася да кінаакцёра.

— Так.

— Што было пасля? — Славінскі ніяк не мог учапіцца за думку, што пульсавала ў падкорцы галаўнога мозга.

— З’явілася спадарыня Тоўн і вы, — Жасмін адчувала, што стамілася, але капітан не збіраўся яе адпускаць.

— Кулон, значыць, свяціўся.

— Хутчэй, шугануў, — яна прымоўкла, намагаючыся сказаць, што хоча вярнуцца ў каюту.

— А ведаеце… Кулон мог зрабіцца прычынай шокуКата Трума, — капітан міжволі сціснуў запясце інжынера.

— Я не думала пра гэта, — Жасмін падалося, што цяпер капітан абвінаваціць яе ў забойстве.

— Вы не супраць, калі мы наведаем доктара Розана, — Славінскі ўзрадаваўся, калі адшукаў нейкую зачэпку. Жасмін не супраціўлялася.

Як толькі яны пакінулі тэрасу, шэрая цень матэрыялізавалася ў Менахема Грына. Пасля таго, як галоўны вораг пабег з гасцёўні, фінансіст рашыў высветліць, чаму ён увогуле не знік за межы карабля, і спусціўся да каютаў трэцяга класа. Ён знайшоў абсалютную адсутнасць саўдзельніка і наяўнасць апячатаных дзвярэй, што выклікала ў яго разгубленасць. Наводзіць даведкі спадар Грын засцярогся. Калі справы ішлі так дрэнна, то лепш было не выяўляць аніякіх намёкаў на магчымыя зносіны з Катам Трумам. Менахем падымаўся наверх уздоўж трапа ў роздуме, каб наведаць Антуанэту. Нечакана ён пачуў імя чалавека, якога шукаў, і з дзіўнай размовы капітана з пасажыркай даведаўся, што ў ягонага памочніка вялікія непрыемнасці. Але ці значыла гэта, што і ў яго таксама праблемы, Грын яшчэ не ведаў.

## XXII

Упершыню за апошнія некалькі тыдняў Рафаэль спаў моцна без мрояў і без жанчын. Упершыню ніхто не бурчаў і не прачынаўся пад бокам. Арэс драмаў ля ног. Калі Флой паварушыў вялікім пальцам нагі, сабака гулліва ўхапіў яго. Кінасэрцаед

пацягнуўся і ўдыхнуў поўнымі грудзьмі. Успамін, што сёння дзень прэм'еры, злёгку засмуціў. Але адразу памяць нагадала ўчарашнюю размову з Рабінай. Ён усміхнуўся, а калі Флой агледзеўся, то зразумеў, што знаходзіцца ў пакоі Саламеі. Рафаэль зарагатаў, калі ўспомніў, што небарака так і не дачакалася яго ўчора.

Адказам на смех было з'яўленне самой спадарыні Таліба.

— Саломушка, як ты своечасова здагадалася прынесці мне адзенне, — ён заўважыў, што сакратарка паспела апрануцца ў адзін з ягоных халатаў.

Яна распранулася і шуснула ў ложак, але Флоя там ужо не было.

— Саломушка, не качайся зашмат, — вымавіў акцёр павучальна, пераймаючы інтанацыі Рабіны, — у нас сёння доўгі дзень. Хіба ты не ведаеш, што ў мяне прэм'ера? Я спадзяюся на тваю працаздольнасць.

— Добра, — ледзь не прараўла спадарыня Таліба, узгадаўшы, што яна ягоны целаахоўнік. О, як яна прагла гэтага цела!

— Ведаеш, Саламея, — Флой павярнуўся да яе на імгненне, перад тым як знікнуць, — усё ж я не выношу тваe навыкі фарбаваць вусны. Звярніся да Таліі, магчыма, яна цябе нешта параіць, — Кліментавіч пакінуў целаахоўніцу вар'яцець.

Праз некалькі гадзін пачыналася трансляцыя, і Мейбл Тоўн упэўнена кіравала тымі, хто апынуўся пад рукой. Яна пакінула знакамітую кіназорку пад пільным прыглядам візажыста і касцюмера, а сама клапацілася пра пераабсталяванне адной з залаў, якая прызначалася для прагляду фільмаў, у прэс-цэнтр. Уся знатная грамада пажадала прыняць удзел у прэс-канферэнцыі, таму даводзілася турбавацца пра размяшчэнне гэтых фанабэрлівых ганарліўцаў. Дакладна апоўдні паводле зямнога стандартнага часу з Гігантыка пачаў выпраменьвацца сігнал у бок Зямлі, які сведчыў пра гатоўнасць здзейсніць тэлемост.

Вялізны экран у кіназале загарэўся, потым пацямнеў.

— Што адбываецца? — Мейбл ні на імгненне не перапыняла кантакту з сувязістамі. — У нас няма карцінкі.

— Хвіліначку. Мы намагаемся перакадзіраваць сігнал на адпаведныя для экранных частот.

— Колькі вам трэба часу? — Мейбл сачыла, як уздоўж экрана пачынаў расплывацца малюнак: плямы і лініі.

— Мы хутка наладзім настройку, — вельмі сур'ёзна адказаў Грыгор Вятрак.

Выява пачала прымаць большую выразнасць. Нарэшце з'явіўся Эміль і заблішчаў Палац-хол, які рыхтаваўся да прэм'еры.

— Зямля, выклікае Гігантык, — звярнулася спадарыня Тоўн да малюнка на экране.

— Прывітанне, Гігантык, — суразмоўца з Зямлі па-галівудску ўсміхнуўся. — Мы рады, што сябры нават у аддаленых кутках Сістэмы сёння прымуць удзел у нашым шоу.

— Спадарыня Тоўн, калі будзе знікаць выява, гэта з-за астэроідаў. Яны трапляюць у поле дзеяння магнітных промняў, — шаптаў ёй у вуха Грыгор, — не хвалюйцеся, як толькі астэроід пакіне зону, сувязь наладзіцца.

У Мейбл ёкнула сэрца, калі яна ўсвядоміла, што карабель знаходзіцца ў астэроідным поясе.

Эміль працягваў сакатаць перад абедзвюма аўдыторыямі, рэкламуючы новы фільм Ігнацiя Барсука «Калі іграеш Рамеа», дзе выдатна сыграў Рафаэль Кліментавіч.

Прэс-сакратар нецярпліва азірала кіназал. Пасля таго, што здарылася некалькі дзён таму, яна палохалася новага замаху. Яе мала суцяшала думка, што ён павінен

з’явіцца разам з Саламеей і Зоранай. Інтуіцыя заўсёды падказвала Мейбл, што аднойчы мужчыны не вытрымаюць ягонай славы і вырашаць пазбавіцца ад такога раздражняльніка. Тое, што адбылося позна вечарам на бязлюднай тэрасе аднаго з самых фешэнебельных касмічных лайнераў, пацвердзіла яе непакой.

Эміль скончыў расхвальваць Барсука і дазволіў фільму пачацца. Мейбл, паводле абавязку, заўсёды адна з першых глядзела ягоныя стужкі, але ейны прагляд быў хутчэй прафесійным, чым аматарскім. Прыкладна на сярэдзіне фільма яна ведала, якія будуць паўставаць пытанні, а да фінальных цітраў у Мейбл заўсёды былі падрыхтаваныя адказы, якімі Флой карыстаўся гады ў рады, але гэта была яе праца.

Напрыканцы цітраў у зале з’явіўся віноўнік урачыстасці ў суправаджэнні ўсіх чатырох дзяўчат. Ён стомлена размясціўся побач са спадарыняй Тоўн. З другога боку ўладкавалася змрочная Саламея.

Экран пачаў міргаць, знік гук.

— Грыгор, што там у вас? — каб не парушаць цішыні шапнула прэс-сакратар.

— Астэроід, — спакойна адказаў Вятрак, — на шчасце, мы не ў зоне маўчання.

Мейбл скрывілася, прыкідваючы, што б адбылося ў такім выпадку. Выява вярнулася на экран.

Рафаэль з дзіцячай цікавасцю сачыў, як хлопец, падобны да яго, як адбітак у люстэрку, рухаўся на другім баку каюты, нешта рабіў, казаў, і нават, здавалася, пра нешта думаў. На пачатку кар’еры ён ненавідзіў двайніка на экране. Яму здавалася, што той робіць усё памылкова, што ён нязграбны, няспрытны і нецікавы. І больш за ўсё акцёра раздражняла тое, што іншыя захапляліся ім. Але з часам Флой прасякнуўся ледзь не матчынай пяшчотай да двайніка. Кожны раз, калі бачыў сябе на экране, то заўсёды здзіўляўся і з дзіцячым захапленнем сачыў за дзеяннем, у якім нязграбны дзівак прымаў удзел.

Але цяпер, калі Флой глядзеў на яго, акцёр адначасова меркаваў, што за гэтым дзіваком таксама назірае Жасмін Бетэльгейзэ. І ён моцна жадаў, каб менавіта сёння двайнік выявіў усю сваю моц, спрыт, годнасць, каб не зняславіў яго ў вачах Жасмін.

Рафаэль павольна агледзеў залу. Астра Пырнік і графіня Дэлавэрская зачараваныя глядзелі на экран. Гвінівера Ківа-Тыцкая пагардліва сціскала вусны, прыслухоўваючыся да дзвюх маладых выпускніц пансіёна, якія абменьваліся ўражаннямі. Яна, відавочна, аддавала перавагу арыгіналу ў ложка. Флой зірнуў на Саламею, якая ўсё яшчэ збіралася ўзяць яго штурмам. Антуанэту Цюль трымаў за руку вядомы фінансіст. З пункта гледжання Флоя, яны былі прыгожай парай. Рабіна Тук рабіла нататкі на кішэнным камп’ютары. Жасмін тут не было. Рафаэль зноў зірнуў на свайго двайніка. Магчыма, дзяўчына ляцела не першым класам? Не. Яна занадта добра ведала тых, з кім мела зносіны ў гасцёўні. Флой зноў агледзеўся. Жасмін проста не было.

## XXIII

— Вы мяркуеце, што мы маем права затрымаць спадарыню Бетэльгейзэ да прыбыцця ў Ганімедштадт? — перапытаў Корбут.

— З аднаго боку, мы можам разглядаць спадарыню Бетэльгейзэ як сведку, — пачаў капітан Георг. — Але з іншай — яна валодае моцнай зброяй, з якой не пажадала расстацца. Такім чынам, мы можам лічыць яе ўскоснай прычынай злачынства. Яна ненаўмысна здзейсніла злачынства, звязанае з прычыненнем цяжкага цялеснага і, магчыма, душэўнага пашкоджання чалавечай істоце, — ён самазадаволена

ўсміхнуўся, калі адшукаў і знішчыў крыніцу небяспекі на караблі. — Доктар Розан згадзіўся, што мы маем справу з невытлумачальным феноменам, і прапанаваў падчас палёту ізаляваць спадарыню Бетэльгейзэ ў памяшканні каранціну, дзе ён здолее асабіста сачыць за яе станам. Ён патлумачыў, што могуць быць наступствы. Прафесар пакорна згадзілася на вымушанае зняволянне.

— А склад злачынства? — штурман намагаўся зразумець, як звязаны паміж сабой тры асобы, якіх закранаў інцыдэнт.

Капітан зноў збянтэжыўся. Здавалася, ён адшукаў віноўніка, але дакладная схема таго, што адбылося, усё роўна не вымалёўвалася. Ягоныя роздумы перапыніла паведамленне сувязіста, што ўзровень актыўнасці астэроідаў павялічваецца.

— Паказчыкі сістэмы арыентавання?

— Сістэма псуецца, — уся энергія моцных экранаў сканіравання прасторы была засяроджана на ўтрыманні тэлемоста. — Радыёбачнасць нулявая.

— Не сезон, — штурман вылаяўся наконт кіношнікаў, якія перашкаджалі рабіць справу.

Пімен і Пракоп, назіральнікі, адным вокам пільнавалі безастэроідную прастору з-за купала агляднай вежы, а другім з захапленнем сачылі за прыгодамі ў фільме. Ім абодвум не падабалася гэтая манерная зорка, Кліментавіч, і фільм таксама падаўся зашмат мудрагелістым.

— Пімен, ты хоць часам паглядай на неба, — Пракоп кінуў у яго біноклем. Той схапіў яго і паставіў лінзамі да калена.

— А на што глядзець? Там усё адно і тое. Сканеры і без нас добра справяцца. Навошта напінацца?

— Гультай ты, — Пракоп зрабіў спробу адабраць бінокль. — А раптам астэроід пойдзе на нас?

— Ціпун табе на язык. Яшчэ накаркаеш, — ён зірнуў праз лінзы на чыстае неба, якое зіхацела безліччу зорак, потым перавёў бінокль на экран.

— Што, лепш бачна? — Пракоп адцягнуў увагу ад экрана і таксама пагледзеў на неба. Выява скажалася. Пімен адняў бінокль ад вачэй і паклаў на прыборную панэль побач з экранам.

— Назіральнікі, паведаміце абстаноўку, — гаркнула з рубкі. Абодва перакрывіліся. Кіраўніцтва ўспаміналa пра іх існаванне гады ў рады.

— Чыста, — не адцягваючы ўвагу ад экрана, паведаміў Пімен.

— Нешта там у іх не тое, — у Пракопа знянацку пахаладнела ў жываце. Ён узяў з панэлі бінокль, прыкладаў да вачэй і выгукнуў. Да іх імкліва набліжалася чорная рваная пляма, якая непрыемна павялічвалася ў памерах.

— Астэроід, прама па курсе, — зароў назіральнік Пракоп.

— Рубка, астэроід, прама па курсе, — выгукнуў на адным дыханні яго напарнік.

— Астэроід, — пачулася ва ўсёй рубцы.

— Усю энергію на пярэднія экраны. Хуткасць карабля. Хуткасць аб’екта. Верагодны пункт перакрыжавання траекторый.

Ззяючая кропка на маніторы, якая вызначала Гігантык, няўхільна набліжалася да пункта, які ўтвараўся перакрыжаваннем дзвюх крывых.

Браніслаў Корбут адштурхнуў малодшага памочніка штурмана ад камп’ютара і сам пачаў перапраграмаванне алгарытму руху.

— Божа, злітуйся, — ён да болю прыкусіў губу. Адна з кропак, якія рухаліся на маніторы, пачала змяняць кірунак.

Гігантык скалануўся ад дотыку з іншым касмічным целам.

Штурман цяжка ўздыхнуў і абцёр пот са лба. Ззяючая кропка працягвала рухацца на экране ўжо па-за перакрыжаваннем крывых.

— Пашкоджанне чацвёртай ступені ў грузавым адсеку, — паведаміў Восіп Восін. З'явілася чатырохмерная графічная выява Гігантыка. Месца пашкоджання пульсавала рванай ранай. Штурмана не цікавіла, што ў гэты момант з вялізнай дзіркі вылятае чыйсьці багаж. На галаграме бачылася, што аблямоўка папрабівана на некалькіх узроўнях. Ён ведаў — праходы да гэтых адсекаў цяпер загерметызаваны. Незразумелым заставалася адно: ці вытрывае Гігантык да Ганімедштадта?

**XXIV**

Нечакана выява знікла з экрана, і пасажыры адчулі, як карабель страсянуўся.

— Грыгор, што здарылася? — звязалася Мейбл з радыстамі.

— Астэроід, — адказаў Вятрак, які адразу зразумеў, што адбылося, хаця раней такія сітуацыі былі толькі вучэбнымі.

— Выява знікла зусім, — па-свойму вытлумачыла ягоныя словы спадарыня Тоўн.

Адзін з афіцэраў запэўніваў Яна Прымака, што яму неадкладна трэба ўбачыць капітана. Усяслаў Зорыч таксама дамагаўся гэтага. Увагу Мейбл адцягнуў адзін са сцюардаў: — Вы маглі б папрасіць людзей не разыходзіцца? — спытаў ён. Мейбл усё больш пачынала нервавацца.

— Флой, можа, правесці прэс-канферэнцыю?

— Добра, — усё, што бачыў і чуў Рафаэль, пачынала складацца ў выразны і бязрадасны малюнак. Кліментавіч выдатна ўсведамляў, што камфартабельнае падарожжа на раскошным лайнеры нечакана ператварылася ў небяспечную прыгоду. І да свайго здзіўлення, ён не спалохаўся. Умольны позірк прэс-сакратара быў апошнім патронам у абойме мужнасці. Ён з пяшчотай падумаў, што двайніку ніколі не даводзілася выступаць у такой ролі без суфлёраў і дублёраў.

Мейбл таропка выйшла перад публікай.

— А цяпер вы можаце запытаць у спадара Кліментавіча ўсё, што вас цікавіць, — калі саступала месца Флою, шапатнула. — Капітан прасіў трымаць усіх разам, — ёй здавалася, што цяпер яна ўсклала гэты абавязак на Рафаэля.

У рубцы вакол галаграмы Гігантыка адбывалася ваенная нарада.

— Рухавікі ў норме. Адсекі загерметызаваны, — капітан спрабаваў пераканаць сябе, што карабель здолее дацягнуць да Ганімеда.

— Альбо аблямоўка была пашкоджана толькі на адным узроўні, — Усяслаў Зорыч пахістаў галавой.

— Калі б карабель не рухаўся б так хутка... — прамармытаў сабе пад нос Браніслаў Корбут.

— З улікам таго, што пашкоджанні зроблены на некалькіх узроўнях, няма ніякіх гарантый, што сітуацыя захаваецца стабільнай, — афіцыёзна заявіў Ян Прымак. Ён чуў мармытанне штурмана, і палохаўся, што цяпер усе звернуць увагу на яго і абвінавацяць менавіта яго, канструктара, у тым, што ў Гігантыка недастаткова трывалая аблямоўка, што ён развіваў максімальную хуткасць, што карабель недастаткова манеўраны, што ў гэты момант у гэтым кутку Сусвету з'явіўся кляты астэроід.

Але ніхто не тыцкнуў у яго пальцам. Іх галовы былі занятыя вырашэннем лёсаў дваццаці тысяч чалавек, якія знаходзіліся на борце Гігантыка.

— Справа ў тым, што ёсць пагроза, аблямоўка можа не вытрымаць ціск, і пралом пачне павялічвацца, — самотна выказаўся Зорыч.

— Мы можам заблакіраваць іншыя адсекі, — вырашыў капітан Георг і прыціснуў кнопкі на пульце. Блакітнымі прамакутнікамі на галаграме засвятлелі блакіроўкі ўздоўж верагоднага руху пашырэння шчыліны.

— Як вы не разумееце, мы можам увогуле згубіць аблямоўку, — з дакорам паглядзеў на яго Усяслаў.

— Можа, паспрабуем залапіць дзірку, — прапанаваў Корбут.

— Добра, — Зорыч няпэўна хістнуў галавой, — але на гэта ў нас часу ў абрэз.

Нарада пільна сачыла, як пляма з чырвонымі краямі паступова павялічваецца. Адзін за другім гаслі блакітныя прамакутнікі.

— Калі не атрымацца…

— Мы пачынаем эвакуацыю, — скончыў замест яго капітан.

Афіцэр аддзела тэхнічнага забеспячэння хвілін пяць глядзеў на галаграму.

— Капітан, баюся, такую вялікую дзірку мы не здолеем залапіць, — вынес ён прысуд. — Не здолеем зліταваць яе, таму трэба ставіць латку, але на караблі няма такіх матэрыялаў, якія можна было б выкарыстаць у гэткім выпадку, — адрапартаваў афіцэр, які ўсё жыццё аддаў службе.

— У вас ёсць жонка? — стомлена спытаў капітан. Цяпер, калі ў яго аднялі апошнюю надзею на выратаванне, ён намагаўся думаць толькі пра эвакуацыю. Пра чужое жыццё.

— Так, капітан.

— А дзеці? — Славінскі рашыў адпраўляць у першую чаргу тых афіцэраў, у якіх меліся жонкі і дзеці.

— Так, капітан.

— Будзеце весці першы бот.

— Капітан?

— Гэта загад. Пачынайце падрыхтоўку да пагрузкі. У першую чаргу — жанчын і дзяцей.

— Ёсць, капітан, — ён дзелавіта накіраваўся выконваць заданне.

— Сувязь, — Славінскі выклікаў сувязістаў, — пасылайце сігнал SOS ва ўсіх кірунках. Гігантык пацярпеў крушэнне, у нас засталося чатыры гадзіны. Потым… — ён перапыніўся, калі прыкінў, што іх чакала «потым».

— Ёсць, капітан.

У імправізаваны канферэнц-зал разам з Янам Прымаком і Усяславам Зорычам вярнуліся сцюарды. Яны праходзілі ўздоўж радоў, ветліва пасміхаліся, нахіляліся да пасажыраў, нешта казалі ім. Адзін падышоў да Рафаэля і яго дзяўчат.

— Спадар Кліментавіч, спадарыні Тоўн, Таліба, Жабіна, Страказа і Клад — вялікая просьба капітана вярнуцца ў каюты і апрануць скафандры, пасля рухайцеся ў бок прагулачнай тэрасы, — сцюард накіраваўся да іншых пасажыраў. Флой назіраў, як яны ўспрымалі падобнае паведамленне.

— Гэта вучэбная трывога? — дастаткова гучна, каб яе пачулі ўсе, запытала княгіня Ківа-Тыцкая. Але пасажыры першага класа паступова пакідалі памяшканне.

— Флой, — яго вывяла з анямення Талія, схапіўшы за руку. — Хадзем.

— Так, — Рафаэль абняў гарэзу і спакойна накіраваўся да дзвярэй.

— Ты ведаеш, што адбываецца? — спытала яна, мімаволі прасякнуўшыся ягоным спакоем.

— Не больш за цябе, — ён цмокнуў Талію ў лоб. Сэрца заныла. Страх за Жасмін засцілаў ліпучым туманам.

## XXV

BT534 — выратавальны бот пятага пакалення трыццаць чацвёртай мадэлі — разлічаны на сто чалавек, кіраванне ручное і аўтаматычнае, стандартная частка экіпіроўкі міжпланетных касмічных лайнераў…

— Няўжо ў вас няма ботаў першага класа? — капрызліва падціснула вусны княгіня Ківа-Тыцкая.

— Гвінівера, першы клас тут, — Рабіна Тук усадзіла яе побач з сабой.

— Поўны камплект, — абвясціў Восіп Восін, які дапамагаў капітану першага бота.

— Зразумеў, — афіцэр змяніў кіраванне на ручное. Сталёвыя створкі сышліся. На пульце загарэлася паведамленне, якое давала дазвол на вылет. Капсула слізганула ўніз уздоўж тунэля і выскачыла ў чарнату космасу.

— Ёсць, — данёсся да капітана бота голас аднаго з сувязістаў, але ён ужо разлічваў курс бота, каб трымаць яго далей ад вялікай колькасці дробных і буйных астэроідаў, якія праносіліся паблізу.

— Гэта самае эратычнае адзенне, якое я калі-небудзь апранала. Ці не так, Флой?

— Не так, — Рафаэль ляпнуў яе па азадку, але нават цень усмешкі не прамільгнула на твары. Стандартны скафандар, які вырабляўся з асаблівага сплаву гумы з металамі, апранаўся на любую вопратку і ў залежнасці ад гэтага набываў форму. Ён быў трывалы і эластычны, але не абцягваў. Усе кнопкі, звязаныя з забеспячэннем жыццёвых функцый размяшчаліся на левым запясці. Адзінай нязручнасцю было тое, што ў скафандры з зачыненым шлемам (высоўваўся купалам з каўняра пры націсканні адной з кнопак на запясці) пратрымацца ў беспаветранай прасторы без дадатковых прыстасаванняў было нельга больш за васямнаццаць гадзін.

— Спачатку жанчыны і дзеці, — Рафаэль пацягнуў сваіх супрацоўніц да прагулачнай тэрасы.

— А ты? — Мейбл сціснула ягоную гумавую руку.

— Усё са мной будзе добра, — ён адказаў на поціск і заўважыў, якой злосцю шуганулі вочы Талібы. Крылля ўсхліпвала. Ад слёз ейны твар рабіўся чырвоным, і на ім выступала рабаціння.

— Вяртайся на Зямлю і выходзь замуж за свайго добрага хлопца, — Флой чмокнуў масажыстку ў лоб. Яна зараўла ўголас. Талія па-дзіцячы парывіста абняла куміра. Рафаэль пяшчотна пацалаваў яе, і Страказа зразумела, што далей ён пакрочыць без іх.

— Я не магу цябе пакінуць, — Зорана ў адрозненні ад каляжанак збіралася знаходзіцца на Гігантыку, пакуль на ім заставаўся яе працадаўца. — Я твой целаахоўнік.

***Заканчэнне будзе.***

*Фелікс БАТОРЫН*

# НЯЗМЕННАЕ Ў ЗМЕНЛІВЫМ ЧАСЕ



***Фелікс Баторын нарадзіўся 5 лютага 1948 года ў Мінску. Скончыў Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут, працаваў урачом. Аўтар пяці паэтычных кніг. Перакладае з ідыш, нямецкай, рускай, польскай моў.***

**НА ТЭРАСЕ**

Даліна рачная нявесціцца,
Сукенку туманную шые.
Каралі Вялікай Мядзведзіцы
Павесіла хмара на шыю.

Няяснае водгулле чуецца.
Лунаюць таемныя токі.
Над рэчкаю пары цалуюцца,
З тэрасы нябачныя ў змроку.

У сала аплылае свечнае,
У крэсла маё на тэрасе
Бязмежжа ўглядаецца вечнае,
Нязменнае ў зменлівым часе.

Даверліва глыбі разгортвае
І сілы ўбірае зямныя.
І будзе бязмежжа не мёртвае,
Пакуль ёсць на свеце жывыя.

* * *

Патушылі святло, зачынілі пакой.
Толькі лічыць гадзіннік зубцы шасцярэнек.
Слізганулі па гладкіх парэнчах рукой,
Паўміналі абцасамі скібы ступенек.

Ноч ім лінула ў вочы, сцякла за каўнер,
Казытнула ільдзіста гарачыя целы.
Бег у касцы рагатай па небе жаўнер,
Кулі знічак выстрэльваў у змрок звар’яцела.

І штокрок цалаваліся прагна, ажно
Прарасталі адно ў аднае праз абдымкі.
І зайздрослівым вокам цямнела акно,
І сарвацца з падмурка карцела будынку.

## У ВЯНОК ГАНУЛІ

* * *

На кветках начных ліхтароў
Самота маркотна варожыць,
А мятлікаў прывідны рой
Пылок жаўтаваты трывожыць.

У смутным і крохкім паўсне
Уздрыгваюць чуйныя зоры.
І ты абдымаеш мяне,
Нібыта павойнік — апору.

* * *

Шэрае ззянне бязмоўна туман вывяргае,
Жоўтае ззянне струменіць
бяссонны начнік.
Ціха ўва сне ты ўздыхаеш, мая дарагая.
Німб да падушкі тваёй
серабрыста прынік.

* * *

У садзе аголеным я блукаў,
Дзе вусціш здранцвення наўкол
І толькі тры ўпартыя яблыкі
Не хочуць упасці на дол.

Зімы набліжэнню не верачы,
Сабе выдумляюць яны,
Нібыта не скончыцца верасень
Ажно да прыходу вясны.

І я, быццам гэтыя яблыкі,
Не веру ў прыход небыцця,
А ты мне — галінай на яблыні
У восеньскім садзе жыцця.

## НА ПЛЕНЭРЫ

### 1. Лясное возера

Лісты лілей — зялёныя бліны.
Запаланілі люстра вод яны,
Даюць прытулак мошкам ды стракозам.
На глыбіні лянівыя ліны
У цішыні апоўдні бачаць сны.
Клюе адзін рыбак панылым носам.

### 2. Скрыжаванне

Трамвай крычыць прарэзліва,
Аўтобус — хрыплавата,
Машыны — ацвярэзліва,
Шафёры — хамавата.
І толькі я стаю, маўчу,
Бо пераходзіць не хачу.

### 3. Узлесак

Перамаўляцца прозаю
З табой я не хачу,
Бо гэтак гай бярозавы
Пярэсціцца ўваччу,
А ў небе столькі сіняга —
Любáя блякне сінь.
Капыцейка ласінае
Зашкліла тонка стынь.
Кілімам лістападавым
Пакрыты дбайна дол,
А з сонца рыфмы падаюць
І зіхацяць наўкол.

### 4. Красавік

Зноў дол зямны абнізіў красавік,
А над зямлёй прыўзняў нябёсы вышай.
І пазяхае драны чаравік,
Нібы мядзведзь, які з бярлогі выйшаў.

### 5. Травень

На ўзараныя дбайна палеткі,
Што разбегліся ад вярбы,
Як пялёсткі вялікай кветкі.
Асыпаюцца вераб'і.

Далячынь дрыжыць у паветры,
Перавітым праменнем дня.
Не кранутая крыллем ветру,
Раскашуе гарачыня.

І адсопваючыся цяжка —
У жыцця ланцугу звяно —
Не здаецца, цягне мурашка
Ледзь не ў пальцы тры бервяно.

Гэты высілак немагчымы
Не гардыні — годнасці знак.
Гэтак хочацца памагчы ёй,
Ды шкада не ведаю, як.

**6. Ваколіца**

Кіпень блакітны з чаінкамі ластавак
Смачна душою ўпіваю.
Рэчка паплёсквае, брычка палясквае,
Коламі рытм адбівае.

Таньчыць пагорак, пагойдвае ліпамі,
Зелені граюць адценні.
Дзякуй, жыццё, табе, што перасыпана
Жэмчугам гэтых імгненняў!

* * *

З падстрэшшаў, і з вецця, і з кабеля
Павіслі празрыстыя пáлі.
Апоўдні з тых паляў закапала,
І кроплі пячоркі капáлі.

А хмара абсыпала птушкамі
І дрэвы, і стрэхі, — а далей
Галіны шпакі паразгушквалі,
І наледзі з дрэваў апалі.

І стала так звонка і весела,
І сэрца для шчасця адкрыта,
І неба вясёлку падвесіла
Да хмары, праменнем прабітай.

* * *

У сукенцы з тканіны,
сатканай з прамення світанку,
Што падсветлена вабным праменнем
твайго хараства,
На тэрасе пустой падлівала ты ў каву
смятанку,
І былі твае плаўныя рухі як рухі баства.

І табою асветлены свет
рассціпаўся наўкола
У дзівосным спляценні дарог
і змяшэнні эпох.
І клубіліся тоўпішчы д’яблаў
і сонмы анёлаў
У цякучым тумане,
што плыў у цябе каля ног.

* * *

Што зорка лёсу? — знічкаю ўпадзе, —
І ляжа між камення новы камень.
І Бог бездапаможна развядзе
Сваімі ўсемагутнымі рукамі.

Але пакуль бясконцы Млечны Шлях
Дзве зоркі нашы зыркія трымае,
Твой кожны шэпт,
твой кожны вейкі ўзмах,
Нібы заклад бяссмерця я прымаю.

* * *

Стаміліся птушкі абмахваць зямлю,
А менець не хоча спякота.
Я выгляд раблю, быццам рыбу лаўлю,
А рухацца мне неахвота.

Прагрэў свае косткі, распарыў душу —
І лазні ніякай не трэба.
Калі адлянуюся, гімн напішу
У гонар ліпнёвага Феба.

Не зловіцца рыба на голы кручок.
Не вынікне з марыва мара.

Тырчыць проста ў неба засохлы сучок,
Вартуе ўчапіцца за хмару.

Ды хмараў пагоншчык у марыве знік,
Зблудзіла за светам залева.
І штось даўгавата ўжо на халаднік
Не кліча мая каралева…

Але апетыту распалены дзень,
Па шчырасці, і не спрыяе.
І толькі няўтомны якісь авадзень
Дадому мяне праганяе.

* * *

У свеце, знерухомелым нібыта,
Замоўк незаціханы лесу шум.
На воблаку, прыліплым да блакіту,
Апруцянеў раскрылены каршун.

А бусел аднанож прырос да кола,
Застыў павук сярод сваіх цянёт.
Усё наўкол здранцвела. Толькі пчолы
І думкі не спыняюць свой палёт.

* * *

Што выглядаеш ты, птушка крумкач,
З дуба, што помніць Міндоўга?
Наша жыццё пралятае як бач,
Колькі ні цягнецца доўга.

Што абвясціла ты, птушка-вястун,
З самай высокай галіны?
Бачыць мы ўмеем хіба за вярсту,
А за стагоддзі ж павінны…

Што паляцела ты, птушка-прарок,
Крыламі цяжка ўзмахнуўшы?
Хто ж бы развеяў, скажы, гэты змрок,
Што напаўняе нам душы?

Нема цямнее пяро на траве
Масці загадкавай — вінаў.
Пэўна, мы з цёмным, што ў душах жыве,
Справіцца самі павінны.

* * *

Замглiў адвячорак за вокнамі сінь,
Ад сонца хтось хіжы аж чвэрць адкусіў.
Хоць можна падумаць, што гэта — віно,
Крывёю заходу сцякае яно.

Ты доўгім паглядам глядзіш на заход.
Балючы і горкі твой сціснуты рот.
І вее біблейскай тугой далячынь.
І холадам цягне ад слова «спачынь».



*Рубрыка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта*

САФІ КЕПЕС

# ВАР'ЯТ ДЛЯ ІНШАГА



***Сафі Кепес нарадзілася ў Парыжы ў сям'і венгра і француженкі. Пісьменніца, перакладчыца, сцэнарыстка. Выкладае крэатыўнае пісьмо ва ўніверсітэце Парыж III — Новая Сарбона, займаецца літаратурнай крытыкай (у асноўным цэнтральна-еўрапейскі і балканскі рэгіёны) і рэдактарскай справай. Выдала адзінаццаць навел і зборнік кароткіх апавяданняў, а таксама адзінаццаць перакладаў з венгерскай на французскую, не лічачы шматлікіх эсэ і артыкулаў. Яе творы перакладзены на англійскую, італьянскую, партугальскую, венгерскую, фламандскую, баснійскую. Гэта першы пераклад Сафі Кепес на беларускую.***

**Дзень першы**

Не паспела я апусціць на палас у гасцёўні сваю падарожную кайстру, як насустрач мне ўжо кінуўся гаспадар дома: ён размахваў часопісам адвачна — ажно за дзесяць крокаў — правай скіраванасці. Урачыста калыхаючы паветра перад маім носам вокладкай, быццам яна была трафеем паляўнічага, кубкам чэмпіянату Еўропы або падвязкай для панчохі з ножкі нявесты, ён прагарланіў:

— Я вельмі хацеў бы мець вось такую дачку!

— Дабрыдзень, тата, — сказала я, зрабіўшы крок наперад, каб яго абняць.

Але ён надта захрас у сваім часопісе, які зблізу выявіўся чытвом хутчэй для неафашыстаў, чым для памяркоўных кансерватараў:

— Зірні сюды, — паказаў ён на дзяўчыну, якую сярод радаснага тлуму нёс на плячах дужы хлопец: натоўп святкаваў перамогу Бушырконі на апошніх выбарах[1]. — Мне б такую дачку.

— Ты ўжо прабач, тата, але маеш тое, што маеш. Не тую, што надрукавана ў чатыры фарбы на глянцавай паперы, апантаную трыумфам. Я проста твая дачка з крыві ды плоці, крыху задыханая з дарогі, але пачуваюся нармалёва, дзякуй. А сам ты як маешся?

І я ўсё ж здолела абняць яго, вызваляючыся адначасова ад падарожнай кайстры. Яна, дарэчы, пастунова рабілася лягчэйшай — з таго часу, як я, натхнёная прыкладам прыроды, якая ладзіць эвалюцыю біялагічных відаў шляхам «спроб і выпраўлення памылак», скараціла візіты да бацькі з тыдня да чатырох дзён, потым трох і, нарэшце, двух: больш яму было цяжка вытрымаць. Што ж да мяне... Я журылася настолькі глыбока, што мусіла шукаць «другое дыханне», каб працягнуць абмен словамі, які здалёк мог выглядаць размовай.

— Назва гэтага часопіса на дзіва трапная, — адзначыў мой 78-гадовы бацька, праігнараваўшы маё пытанне, якое, зрэшты, я задала з ветлівасці.

Гэтым разам я пагадзілася: назва добра адлюстроўвала афарбоўку часопіса.

— Там, усярэдзіне, яны распавядаюць пра каштоўнасці — духоўныя і рынкавыя: гэта напраўду добрая камбінацыя. Неадкладна зноў на яго падпішуся.

— Дзяўчына нейкая расхрыстаная, хоць і прыкрываецца сцягам, — адзначыла я, зірнуўшы краем вока яшчэ раз на здымак. — Тут яны крыху пракалоліся. Для тусовак у сёмай акрузе[2] выглядае не надта густоўна.

— Я ўжо паслаў грошы на падтрымку выбарчай кампаніі... вандэйца, імя падзабыўся.

— Жыль дэ Рэ[3]?

— Ды не, які Жыль... Ты мусіш памятаць...

— А аднавокаму[4] таксама сёлета дасылаў?

— Вядома ж, не, — адказаў бацька пакрыўджана.

— І чаму — ён табе абрыдзеў? Не апраўдаў даверу? Апошнім разам ты быў на ягоным баку, і грошыкі слаў.

— Так, але не.

— У сэнсе? Дык так ці не?

Ён мяне ўжо прытаміў. Я кінула позірк на гадзіннік: прайшло толькі адзіннаццаць хвілін, як я ўвайшла ў дом.

— Добра, хачу павітацца з Маргарытай. Дзе яна?

— У зімовым садзе.

Маргарыта была трэцяй жонкай майго таты, яны жылі разам ужо пятнаццаць гадоў. Яна чытала тыя самыя часопісы, што і бацька — да некаторых з іх, падазраю, яна яго і прыахвоціла, — але характар мела яшчэ больш парывісты. Яна часта паводзіла сябе, як клапатлівая маці, хоць і не мела дзяцей. Ніколі не скар-

---

[1] Маюцца на ўвазе прэзідэнцкія выбары ў Францыі вясной 2002-га, калі перамог Жак Шырак, дзеючы на той час прэзідэнт Францыі, лідар правых. Бушырконі — гэта ўтварэнне ад Буш + Шырак + Берлусконі, адпаведна прозвішчы тагачасных прэзідэнта Злучаных Штатаў, прэзідэнта Францыі і прэм'ер-міністра Італіі. *Тут и далей — заўвагі перакладчыка.*

[2] Сёмая акруга знаходзіцца ў гістарычным цэнтры Парыжа, на левым беразе Сены. Акрамя мноства міністэрстваў і Нацыянальнага сходу Францыі тут месцяцца дыпламатычныя прадстаўніцтвы і шматлікія славутыя мясціны горада, сярод якіх, напрыклад, Эйфелева вежа і Дом Інвалідаў. У сёмай акрузе размешчаны прэстыжныя кварталы, дзе пражываюць заможныя гараджане.

[3] Жыль дэ Рэ (1404—1440) — барон і алхімік, маршал Францыі, удзельнік Стагадовай вайны, паплечнік Жаны д'Арк; быў пакараны смерцю судом інквізіцыі (хутчэй, беспадстаўна) за ведзьмаўство і забойствы соцень дзяцей. Лічыцца прататыпам казачнага персанажа — Сіняй Барады

[4] Маецца на ўвазе заснавальнік і шматгадовы старшыня скрайне правага Нацыянальнага фронту Жан-Мары Лё Пен, які ў бойцы з палітычнымі апанентамі (1956) страціў вока.

дзілася на сваю жаночую долю, і ўсё ж было бачна, што сваіх дзяцей ёй нестае. У першыя гады маіх адведзін бацькі я адмыслова трымалася з ёй настолькі пагана, наколькі магла, каб яна нават не спрабавала падсвядома ўдачарыць мяне. Калі яна кінула тыя спробы, адносіны ў нас значна палепшалі.

Я нарадзілася ў другім шлюбе майго бацькі. Адной маці мне было з галавой дастаткова да скону дзён. Але мачыха — іншая справа, чаму б і не зазірнуць да яе напрыканцы тыдня? Хіба што жыла Маргарыта няблізка: за тысячу кіламетраў ад Парыжа. Бацька заўжды марыў атабарыцца ў пенсійным веку на Лазурным беразе, таму такая партыя была для яго ідэальнай. А мне гэткая адлегласць давала індульгенцыю на выпадак дакораў, што рэдка адведваю новы бацькоўскі дом. Безумоўна, я ведала пра новыя авіякампаніі з таннымі рэйсамі па краіне, але рабіла выгляд, што не чула пра іх...

Па стромкіх прыступках я ўскараскалася ў зімовы садок. Вокны там прыкрыты папяровымі фіранкамі, але яны не замінаюць раслінам купацца ў святле. Маргарыты не было ні ў гэтым пакоі, ні на балконе, ні на тэрасе, дзе гатавалася і падавалася ежа цягам усяго лета, у цёплыя гады нават да Калядаў. Я спусцілася на некалькі прыступак і пагукала ў бок зашклёных дзвярэй ейнага атэлье:

— Маргарыта! Я прыехала!

Калі я ўвайшла, мачыха стаяла да мяне спінай. Паглыбленая ў шафу, якая шмат бачыла, з расчыненымі дзверкамі, яна здавалася цалкам занятай раскопамі на паліцы ў пошуках чагосьці. Яна павярнулася, маленькая трывалая жанчына, апранутая ў чорныя штаны і белую вадалазку. Не без задавальнення я адзначыла, што ў ейных густых кароткіх валасах нарэшце з'явілася сівізна пасля доўгіх гадоў зацятага абясколервання іх да залаціста-жоўтага.

— А табе пасуе гэты колер, — сказала я, абдымаючы яе.

— Так! Я ўжо даўно хацела перастаць іх фарбаваць, але мае сяброўкі лічылі, што мне лепш заставацца бландзінкай, — адказала яна і какетліва пакудлаціла сваю шавялюру.

— Для таты гэта ўжо даўно не праблема, — пракаментавала я, бо чалавек, які імкліва кінуўся мне насустрач у гасцёўні, быў абсалютна лысы. І выгляд у яго быў жахлівы. Ён насіў акуляры ў рагавой архаічнай аправе з заўсёды запэцканымі шкельцамі. У яго былі ўстаўныя зубы, якія вельмі нагадвалі ягоныя ўласныя, тыя, што былі мне знаёмыя з дзяцінства, а яшчэ слухавы апарат з рэгулятарам у выглядзе колца. Гэтыя розныя прыстасаванні час ад часу яму здраджвалі. І тады, карыстаючыся выпадкам, ён, бы той закаранелы самаробкін, бег у сваё логава, каб іх адрамантаваць. У ягоным распараджэнні быў цэлы арсенал прылад: нажы, шрубы, свёрдлы, паяльнікі, рознага кшталту клеі. Усё гэта ён збіраў яшчэ з дапатопных часоў і складваў у скрыні з пластыку, якія былі старанна падпісаныя і акуратна расстаўленыя на беззаганных паліцах. Тут можна было выявіць рэчы, якія ўжо даўно не выраблялія, дэталі, знятыя з усялякіх механізмаў, што выйшлі з ладу, набор электрычнага абсталявання, побач з якім спецыялізаваная крама здавалася нікчэмнай дзіцячай цацкай. Я часта пытала сябе: што будзе з усім гэтым багаццем, калі бацькі не стане.

«Хіба табе не даводзілася выкідаць што-небудзь?» — спытала я аднойчы. Ён задумаўся літаральна на імгненне: «Так. Але перш чым выкінуць рэч, я рамантаваў яе».

— ...Ты была занятая, Маргарыта? Я не перашкодзіла?

— Ды не, я прыбіралася. Гэта мае ўладанні, і я не хачу, каб чужыя датыкаліся да маіх рэчаў.

Я ўважліва паглядзела на яе:

— Што, ён ізноў хоча ўсё перавярнуць дагары нагамі ў доме?

Маргарыта нічога не сказала. Але ў паглядзе чыталася роспач. Я падышла да яе і абняла за плечы.

— Не турбуйся. Гэта ў яго пройдзе. Адзін з ягоных звычайных прыступаў? Але ж ты добра ведаеш, які ён. Калі ты будзеш супрацiўляцца, то ўсё ўрэшце супакоiцца. Да наступнага раза.

— Я ведаю. Але гэта маё атэлье. І таму я ўсё прыводжу ў парадак.

Я азiрнулася вакол. Сапраўды, я заўважыла, што паперы i кашулi лiтаральна вывальвалiся з шафы. У куце грувасцiлiся вiнiлавыя плыткi, некаторыя палотны былi перавернуты, тэчкi параскрываны, i з iх тырчалi эскiзы, выкананыя на фактурнай паперы.

— Ты бачыш гэтыя кнiгi? Час ад часу я перачытваю iх. Гэта дзiва нейкае, што яны яшчэ тут. Я нават не думала, што яны захавалiся. Сорак гадоў. Я пераехала сюды ў шасцiдзясятыя. Ты ўяўляеш?

Я i сама чытала сёе-тое з гэтых букiнiстычных тамоў: эсэ па глыбiннай псiхалогii, тоўстыя раманы выхавання, дзiўныя нарысы пра шаманiзм амерыканскiх iндзейцаў. Я слухала сякiя-такiя плыткi, асаблiва джазавыя. Я вельмi любiла гэты пакой з вузкiмi вокнамi да падлогi, праз якiя вiдаць дахi, такiя блiзкiя, што да iх можна дацягнуцца рукой, сiнiя ўзгоркi, што быццам паснулi. Часам на iх фоне адбывалiся маляўнiчыя заходы сонца з багаццем аблокаў ненатуральна ружовага колеру i марнатраўствам апераэтачнага зiхацення. Пад гэтымi вокнамi выцягнуўся велiзарны працоўны стол Маргарыты. З тых часоў, як яна перастала малячаць, ён служыць ёй пiсьмовым сталом, за якiм яна пiша... мне неяк усё адно, што яна там пiша.

— Глядзi, я схавала кушэтку за фiранкай. Цяпер, калi хочаш, тут можна адпачываць па абедзе, — прапанавала Маргарыта, адсоўваючы фiранку.

— Мiла, — пагадзiлася я. — Але не ўпэўнена, цi будзе ў мяне час скарыстацца тваёй ласкай. У любым выпадку тут пачуваешся добра. Навошта штосьцi мяняць?

Я падышла да сцяны, дзе вiсела карцiна, на якой пазнаваўся краявiд з акна. Гэта была карцiна алеем, напiсаная без адмысловых хiтрыкаў i досыць праўдападобная. Сваёй умеласцю Маргарыта бясспрэчна пераўзыходзiла ўсiх тых аматараў, што малявалi толькi па выходных. Але яна нiколi не хацела быць прафесiйнай мастачкай. Яна аддала перавагу кар'еры ў сферы нерухомасцi. Тут, на Лазурным беразе, апошнiя дзесяць гадоў былi «залатым векам» для такога роду заняткаў.

Маргарыта тым часам працягвала наводзiць парадак у шафе. Неўзабаве яна дастала пару чаравiкаў.

— Трымай, гэта твае тэпцiкi. Кожны раз яны цябе чакаюць. Бяры.

— Што яны тут робяць? Я пайшла разбiраць рэчы. Пабачымся.

Спусцiўшыся долу, я пераканалася, што мой бацька кудысьцi знiк. Магчыма, ён у сваiм кабiнеце, прыляпiўся да манiтора. Менавiта там ён праводзiць большасць свайго часу, за выключэннем поўдня i вечара, калi па тэлевiзары паказваюць iмшу.

«Гэта атэлье Маргарыты», — казала я сабе, выпростваючы сваё барахло, перш чым павесiць яго на плечкi. Гэта творчасць Маргарыты, адлюстраванне i ўвасабленне ейнай асобы. Справа ўсяго жыцця. У доме, дзе я бываю наездамi, муры i дубовыя бэлькi, што прастаялi не адно стагоддзе, пачалi разбурацца пасля таго, як яна тут угняздзiлася i пачала цярплiва набываць, абнаўляць, мэбляваць i дэкараваць. Сюды аднойчы пераехаў мой бацька. Сюды ж прыходзiла процьма народу, каб есцi, спаць, бясконца балбатаць, бо мая мачыха балбатлiвая да знямогi. Сапраўдная пустамеля, асаблiва па вечарах, калi надыходзiць час класцiся спаць. Колькi разоў, стомленая, больш не вытрымлiваючы гэтага, я лавiла сябе на думцы, што хачу яе прыдушыць, люта пакалацiць, выкiнуць за борт у бурлiвае мора, назаўжды пакiнуць ноччу дзе-небудзь на бязлюдным скрыжаваннi. І ўсё праз гэтае невычэрпнае фантанаванне словамi, што знаходзяць сваю крынiцу недзе ў ёй, у ейным занепакоеным iснаваннi для iншых, у жаданнi падтрымлiваць з iмi сувязi, граць хоць нейкую ролю у iх жыццях... Можа, яна проста баiцца iсцi спаць, як усе маленькiя дзецi? І ўсё ж мне здалося, што яна трохi супакоiлася апошнiм часам.

Калі я скончыла з усімі сваімі падрыхтоўкамі, заслала ложак, уважліва разгледзела вільготную пляму на стале, якая пасля майго апошняга візіту зноў змяніла форму і сёння ўяўляла нешта сярэдняе паміж айсбергам у дрэйфе і вірусам падчас мутацыі, — я была гатова выйсці з дому. З вышыні птушынага лёту мястэчка, здавалася, квітнела буйным кветам, і мне захацелася прайсціся. Я ўжо адчыніла дзверы, калі мой бацька раптам выскачыў са свойго кабінета і кінуў мне ў спіну:

— Сёння вячэраем у рэстарацыі. Я замовіў столік на восем дваццаць. Пасля выпуску навін.

— У рэстарацыі? Што святкуем?

— Ты куды?

— Так, падыхаць паветрам. Можа, табе што патрэбна? Хлеб?

— Хлеб не пашкодзіць. У нас яго поўная маразілка.

І ён тут жа знік. З уздыхам палёгкі я зачыніла за сабой дзверы.

* * *

У другой палове дня, седзячы на канапе тварам да вымкнутага тэлевізара, які чарнеў плямай на белай сцяне, мой бацька звычайна чытаў. Ён заўсёды шмат чытаў: раманы, эсэ, дакументальныя расследаванні, біяграфіі, па-французску і па-англійску. Яго цікавіла літаральна ўсё. Але гэта «ўсё» было перамяшана ў ягонай галаве. Я не магла зразумець, куды падзеліся ўсе гэтыя словы, якія ён заглынаў у вялікай колькасці? Здавалася, яны тут жа выходзілі з яго, незасвоеныя. Так яно і было, накшталт таго як некаторыя людзі не ўтрымліваюць кальцый, так і ён не ўтрымліваў нічога з прачытанага.

— Глядзі-тка, вы зноўку памянялі тэлевізар? — заўважыла я.

— Плазмавы экран высокага распазнавання, дыяганаль — 165 сантыметраў, прымае каналы ТНТ[1], убудаваны DVD-прайгравальнік.

— І што ўсё гэта значыць? Ты можаш нармальна казаць?

— Што ты думаеш пра гомасексуальныя шлюбы? — спытаў бацька, загортваючы кніжку.

— Нічога такога. Мяне гэта мала хвалюе.

— І ўсё ж гэта вычварэнства.

— Шлюб?

— Гомасексуальнасць. У слоўніку напісана, што гэта вычварэнне. Я правяраў.

— Калі ў слоўніку, дык я і не спрачаюся. Толькі я не разумею, якое гэта мае дачыненне да гей-шлюбаў.

— Яны гаварылі пра гэта ў навінах. Неяк адзін з сяброў Маргарыты заявіў, што мужчынскі гомасексуалізм — гэта нармальна. І ўсё таму, што ён сустракаецца ў некаторых відаў жывёл. Але ў гэтым няма нічога нармальнага!

— Ты казаў пра гэта ўжо тысячу разоў. Скажы лепш, што ты цяпер чытаеш?

— Нельга ж лічыць гэта *нармальным* толькі таму, што яно існуе ў прыродзе.

— Ты маеш рацыю, тата.

У гэты момант увайшла Маргарыта і села ля майго бацькі. Яна скрыжавала рукі і ў чаканні паглядзела на нас. Бацька павярнуўся да яе:

— Нядаўна твой сябар Шарль распавёў пра аднаго свайго знаёмага, медыка. Ён сам сябе спаклаў, калі ўсвядоміў свае гомасексуальныя схільнасці. Але перад тым гэты акт выклікаў у яго агіду. Я яго цалкам ухваляю. Вось гэта прыклад мужнасці.

Я паднялася:

— Калі б ты кіраваў краінай, тут немагчыма было б нават усміхнуцца... Я пайду на гаўбец, бо мне патрэбен глыток чыстага паветра.

---

[1] Скарачэнне ад *Television Numerique Terrestre*, то бок, лічбавае наземнае (эфірнае) тэлебачанне — разнавіднасць лічбавага тэлебачання з выкарыстаннем для прыёму сігналу традыцыйных антэн (у супрацьлегласць спадарожнікавым і кабельным).

Наверсе я ўселася ў шэзлонг і закасала свае штаны да кален, агаляючы зусім белыя лыткі. Я з задавальненнем выцягнула ногі і дастала з кішэні сонечныя акуляры. Ле-па-та... Для поўнага камплекту мне не хапала хіба што томіка з букіністычнай старызны. Вядома ж, я магла б узяць яго ў бібліятэцы Маргарыты, але я ведала, што яна не замарудзіць далучыцца да мяне, каб пабалбатаць. Таму не варта лішні раз турбаваць яе...

Я пачула ейныя асцярожныя крокі на лесвіцы. Пасля таго, як упала, яна перасоўвалася павольна. Колькі ёй гадоў? Без сумневу, яна маладзей за майго бацьку. Раней яна жвава пераадольвала шматлікія прыступкі ў сваім доме на схіле ўзгорка. Цяпер яе ўжо не турбуюць болі ў спіне, але яна зрабілася асцярожнай. Яна страціла ўласцівае ёй пачуццё лёгкасці і залішняй весялосці, як быццам магла назаўсёды застацца маладой дзяўчынкай, задавакай і жэўжыкам. Я аддала б перавагу ейнаму новаму стану. І я знаходжу яе больш натуральнай у гэтай супакоенай версіі, якая дазволіла нам неяк зблізіцца.

— Ведаеш, Маргарыта, на мінулым тыдні я запрасіла сваіх сяброў на вячэру і прыгатавала лапатку ягняці па тваім рэцэпце. Гэта заўсёды бяспройгрышны варыянт.

— А! Ты зноў яго гатавала? Гэта рэцэпт армянскай кухні. Галоўнае ў ім фенхель, які надае ягняці цудоўны смак. Але фенхель неабходна вельмі тонка нашаткаваць.

— Мо ты хочаш працягнуць уборку ў сваім атэлье? Я магу дапамагчы. Я ўжо цалкам саспела да таго, каб разбірацца з архівам. Мне даводзіцца столькі паперы пераводзіць сваім друкаваннем.

— Ды не, я потым з гэтым разбяруся.

Яна прынесла крэсла і села насупраць:

— Я ужо скончыла разбіраць свае лісты. Ведаеш, у мяне больш не атрымліваецца пісаць. Літары расплываюцца, не магу выбраць патрэбную дыстанцыю. Маё левае вока зусім кепскае, але пакуль правае добра бачыць, я усё ж магу чытаць, на шчасце.

— Ты была ў акуліста? У цябе ёсць акуляры?

— Так, так.

— Я не бачу іх! Дзе твае акуляры?

— Кожную раніцу, калі я прачынаюся, то раблю практыкаванні. Я закрываю левае вока і спрабую засяродзіцца на бэльцы над маім ложкам. Як толькі мэта дасягнута, я падымаюся. І так кожны дзень.

— Але з чым гэта звязана? Няўжо немагчыма зрабіць аперацыю лазерам? Сёння чаго толькі не аперыруюць з яго дапамогай...

— Памятаеш, я ўжо расказвала табе. Я звалілася ў калодзеж, хутчэй, гэта быў склеп без даху. Я спрабавала выбрацца адтуль, ухапіўшыся за канец вяроўкі. Але вяроўка была занадта кароткай. Я скакала і скакала, але у мяне ніяк не атрымлівася ўхапіцца за яе. Я вельмі змучылася. У кутку я добра разгледзела нешта накшталт катла з кіпячай вадкасцю, якая мела агідны пах, сапраўды. Я заставалася там два, тры дні, і мне было кепска, вельмі кепска. Гэта жахліва. Урэшце я ўсё ж наблізілася да катла, каб паглядзець, што там усярэдзіне, і я ведала, што гэта адзінае выйсце. Што рабіць, я нырнула туды, нырнула і паплыла, і я дыхала праз гэты смурод, і вось раптам я выплыла, я была звонку, я апынулася перад дзвярыма, піхнула іх і ўбачыла горад сярод пустэчы, Эг-Морт[1], але я яшчэ не ведала

[1] Эг-Морт (праванс. *Aigues-Mortes*, ад лац. *Aquae Mortuae* — «мёртвыя воды») — старадаўні горад крыжакоў (XIII стагоддзе), які месціцца на поўдні Францыі ў дэпартаменце Гар. Горад цалкам акружаны чатырохвугольнай сцяной з вартавым праходам наверсе, дваццаццю зубчастымі вежамі і дзесяццю брамамі. Раней гэта быў порт на Міжземным моры, цяпер горад знаходзіцца ў 6 км ад мора. Здаўна тут здабываюць соль.

гэтага, таму што ніколі яго не бачыла і ніколі там не была, я выйшла за дзверы і пайшла наперад, і вось я ўжо падлетак, хутчэй хлопчык, але я ў гэтым не ўпэўнена, і ўдалечыні на пляжы я бачу чараду вернікаў, і тады я пабегла да іх, дагнала і звярнулася да першага верніка, які быў галоўным, і сказала яму: *вазьміце мяне з сабой, я прашу вас, вазьміце мяне, я так хацела б паехаць з вамі, я малю вас*, але вернік схіліўся да мяне і паклаў сваю руку мне на плячо, вельмі пяшчотна і вельмі асцярожна, і сказаў: *цяпер гэта немагчыма, я не магу ўзяць цябе з сабой, ты вельмі маладая*.

Я маўчала некалькі хвілін.

— Маргарыта, што здарылася?

Яна ўсміхнулася:

— У яго зноў быў гэты жудасны крызіс, амаль перад тваім прыездам. Ён вырашыў, што нам трэба ехаць, пакінуць дом і перабрацца ў Парыж. Ён сказаў, што яму тут няма чым дыхаць, ён задыхаецца ў гэтым доме.

— Чорт ведае што! — выклікнула я. — Вядома, ён задыхаецца, таму што не можа адарвацца ад свайго манітора і ад свайго тэлевізара. Але пераязджаць цяпер! Урэшце, гэта твой дом, і пасля пятнаццаці гадоў гэта і ягоны дом, ці не так? Мне здаецца, што ў яго было досыць часу, каб усталявацца тут.

— Менавіта так, але ён кажа, што не пачуваецца тут як дома, гэта не яго дом.

Я паглядзела на яе са спагадай:

— Паслухай, Маргарыта, мы ўжо размаўлялі пра гэта. Ты ніколі не будзеш з ім мірна суіснаваць. Гэта чалавек, які не здольны жыць у згодзе.

— Я сказала яму, што, калі хоча, ён можа ехаць сам.

— Ды не, вось убачыш, ён перадумае і супакоіцца, як звычайна.

— Я супрацiўляюся, колькі магу. Але з кожным разам рабіць гэта ўсё цяжэй.

— Не скарайся. Я ведаю яго: ён спрабуе цябе ізаляваць, шукае тваё слабыя месцы, каб лепш цябе кантраляваць. Ён абыходзіцца так з усімі, і са мной, карыстаецца слабасцю і ўразлівасцю чалавека. Нішто не прыносіць яму такога задавальнення, як дабіваць цябе нагамі ў жывот, калі ты ўжо апынулася на зямлі. Ці ёсць у цябе мабільны тэлефон?

— Не.

— Табе патрэбен тэлефон, каб не залежаць цалкам ад майго бацькі. Кожны раз, як я тэлефаную, слухаўку здымае ён. Але гэта ж твой нумар? Трэба, каб тваё сябры маглі звязацца з табой без яго пасярэдніцтва.

— Ён — галоўны. І так было заўсёды.

— Але я і сама магу сёе-тое. Ты магла б патэлефанаваць мне, калі будзе ў гэтым патрэба. Ты ведаеш, Маргарыта, што ты можаш разлічваць на мяне.

— Я больш не магу разабраць лічбы на хатнім тэлефоне.

— Ёсць вельмі простыя мабільныя тэлефоны з вялікімі каляровымі кнопкамі, якія да таго ж падсвечваюцца. Можна ўнесці ў памяць некалькі патрэбных нумароў. І табе неабходна толькі націснуць на адпаведную кнопку, каб выклікаць чалавека, з якім ты хочаш звязацца. Гэта вельмі проста, я пакажу табе.

Маргарыта паднялася і скіравалася ў бок свайго атэлье.

— У мяне ёсць дзённік, куды я ўжо даўно запісваю свае сны. Табе гэта цікава? Ты магла б забраць яго з сабой, калі няцяжка?

— Добра. Без праблем.

Яна спынілася ля парэнчаў і скіравала свой позірк да мора, прыхаваўшы рукой свае зялёныя вочы. Маргарыта была падобная да дзяўчынкі, што выглядае свайго бацьку-марака.

— Акуліст сказаў, што я маю праблемы таму, что не нашу акуляры ад сонца. Сорак гадоў тут, на Лазурным беразе. Можа, мае вочы стаміліся ад гэтага святла?

Як звычайна, мая мачыха знікла, потым зноў з'явілася праз хвіліну.

— Я размаўляла з доктарам Ганцам.

— Ваш кватарант? Той, каго бацька хацеў вярнуць назад?

— Так, ён — доктар. Я казала яму пра крызісы твайго бацькі. Яго назойлівыя станы, яго цыклы. Доктар сказаў мне, што тут нічога нельга зрабіць. І яго стан будзе толькі пагаршацца з гадамі. Гэта нешта накшталт вар'яцтва, маніі.

— Я таксама так лічу.

Яна засмяялася, паказваючы свае ненатуральна белыя зубы:

— Не турбуйся, я не дамся яму. Мяне не так проста адолець.

Гэтым разам яна знікла ў сваім атэлье надоўга. Я чула толькі яе крокі і слабыя ўдары рэчаў, якія перастаўлялі. Яна зноўку пачала прыбірацца. Я выцягнулася ў шэзлонгу, размінаючы сваё здранцвелае цела. Заплюшчыўшы вочы, я адчула шчакой цяпло красавіцкага сонца. Знізу даносіліся крыкі кірляў. Ластаўкі яшчэ не вярнуліся з выраю, але я адчувала, што яны вось-вось з'явяцца.

* * *

Мой бацька ўзяў меню, расклаў яго на стале і пачаў чытаць уголас і каментаваць, бы той генерал свой план бітвы перад атакай. Хоць у нас з Маргарытай было па асобніку, мы ўсё роўна не маглі зрабіць свой выбар. Скончылася тым, што мы сядзелі і пакорліва слухалі. Падышоў афіцыянт, і бацька ўрачыста перадаў яму замову. Потым ён павярнуўся да мяне:

— Калі ты з'язджаеш?

— Заўтра ўвечары.

— Калі не будзе страйку ў аэрапорце.

Я падскочыла на месцы:

— Што?! Пра гэта ўжо паведамілі?

— Пакуль нічога вызначанага, але прафсаюзы абмяркоўваюць гэта пытанне. Прафсаюзныя босы, крэціны... Яны не здольныя нармальна працаваць.

— Таму што людзі, якія працуюць у аэрапорце, усе як адзін начальнікі?

— Большасць маіх сяброўак працуе выкладчыцамі, — умяшалася Маргарыта, — і ўсе яны, вядома ж, левыя. Дык вось яны ўвесь час скардзяцца, што ў іх вельмі шмат працы, нягледзячы на тое, што іх адпачынак у два разы даўжэйшы, чым у прыватным сектары.

— Я думаю, што мой брат — таксама начальнік, — сказала я. — Ты ўзгадваеш пра яго? Твой сын Трыстан, навуковец?

— А, гэтыя прафсаюзы... гэтыя сацыялісты... Адно суцяшэнне, каб як мага даўжэй іх не бачыць! Нарэшце ў нас у парламенце выразная большасць[1].

— Я шкадую, што аднавокі саступіў у другім туры Бушырконі[2], — сказала я.

— А я аддаю перавагу камуністам, — працягнула Маргарыта. — Яны заўсёды ў добрай форме, такія бравыя мужчыны, што па выходных раздаюць улёткі на рынках. І яны сапраўды вераць у тое, што робяць.

— Усе французскія левыя — антысеміты, — заявіў бацька, рэзка мяняючы тэму. — І так было заўжды.

---

[1] На парламенцкіх выбарах 2002-га, што адбыліся адразу за прэзідэнцкімі, большасць месцаў атрымалі правыя сілы.

[2] Адметнай рысай прэзідэнцкіх выбараў 2002-га з'явілася тое, што ў другі тур выйшлі дзеючы прэзідэнт Жак Шырак і лідар Нацыянальнага фронту Жан-Мары Лё Пен, кандыдат ультраправых.

— Леон Блюм[1] быў бы шчаслівы цябе пачуць.

— А праз гэтага наогул Другая сусветная распачалася... І на ім ляжыць гістарычная адказнасць...

— Шлома і Машэ прыходзяць да рабіна Каана і просяць, каб ён разважыў іх ў вельмі важнай спрэчцы. Першым выказаўся Шлома. Рабін уважліва яго выслухаў і зрабіў выснову: «Відавочна, Шлома, ты маеш рацыю».

— А вось і нашыя стравы, — узрадавалася Маргарыта.

— Што ты замовіла?

— Я цяпер ужо не ўпэўнена... Мяркую, тое, што і ты.

— Але Машэ запярэчыў: «Чакай, рабін, ты яшчэ не выслухаў мяне». «І праўда, Машэ, пачынай». І Машэ выклаў свае аргументы. Тады рабін сказаў: «І ты, Машэ, безумоўна, маеш рацыю».

Я атакавала сваё суфле з сельдэрэю з трыма вострымі прыправамі. Мой бацька толькі што скончыў з карсіканскім кумпяком, які быў нарэзаны тонка-тонка, і зазіраў у талерку маёй мачыхі, якая замовіла салат са шпінатам і авернскім сырам.

— Хочаш пакаштаваць? — спытала яна рытарычна.

Бацька ўжо капаўся ў цёмна-зялёным лісці.

— Някепска, — пракаментаваў ён.

— Замоў мне віна.

— Яшчэ? Ты ўпэўнена?

— Не турбуйся, Маргарыта, калі ты нап’ешся, тата і я — мы дапаможам табе вярнуцца дадому.

— Яна прымае пігулкі ад астэапарозу, — адрэзаў мой бацька, — і алкаголь тут не дарэчы.

— Калі ты не супраць, і я не адмовілася б ад келіха віна... Дзякуй... Дык вось, Шлома і Машэ выйшлі ад рабіна амаль што прымiранымі, — працягнула я, пасля таго як расправілася са сваім суфле. — І тут на кухню, бы тая фурыя, уляцела Сара, ягоная жонка: «Я ўсё чула. Ты што, здзекуешся з людзей? Ты прызнаў праўду абодвух, хаця іх пункты гледжання былі роўна процілеглымі! Што ты шмэндрыка[2] з сябе строіш! Гэта ганьба!»

— Ты можаш даядаць, мне ўжо досыць, — сказала Маргарыта і пасунула талерку ў бок бацькі.

— «І ты маеш рацыю, Сара».

Прынеслі асноўныя стравы. Праз пяць хвілін мой бацька, не хаваючы раздражнення, схапіў нож і відэлец Маргарыты і пачаў разразаць ейнае мяса. Яна пры гэтым не прамовіла ні слова. Хвіліну я назірала за імі, а потым засяродзілася на сваёй талерцы. Я спрабавала аднавіць у напластаваннях сваёй памяці былыя часы, калі гэты пляшывы тып, што сядзіць насупраць мяне, расказваў пра дзіўныя дзівы навакольнага свету і пад зорным небам марыў пра наша шале ў гарах. Здаралася, ён нават жартаваў нязмушана. Вось гэты самы. Неверагодна.

### Дзень другі

Я выйшла з дому як мага раней і спусцілася пешкі да мора. У празрыстым паветры адчуваўся тонкі водар лімоннага дрэва. Пухнатая мімоза ўжо адкрасавала, а вось духмяная гліцынія квітнела ва ўсю. Унізе, ля падножжа ўзгорка, на якім

---

[1] Леон Блюм (1872—1950) — французскі палітык, першы сацыяліст і габрэй на чале французскага ўрада (4 чэрвеня 1936 — 22 чэрвеня 1937, сакавік-красавік 1938). У канцы 1946-га кароткачасова ўзначальваў дзяржаву і ўрад.

[2] Шмэндрык (schmendrick) — прастак, як правіла, худы цыбаты няўклюда, крыху коснаязыкі, што не здольны ўладкавацца ў жыцці.

і раскінулася само мястэчка, неяк раптам пачыналася хаатычнае нагрувашчванне сучасных пабудоў. Нібы запэцканыя кавалкі лёду, яны расцягнуліся да мора, перапыняючыся толькі аднойчы — там, дзе шумнае палатно аўтадарогі перасякаецца з рачулкай, што ўбірае ў сябе прытхлы пах бруду. Адзінай плямай, што ўсё яшчэ зелянела на фоне гэтага выродлівага збору з загадкавым планаваннем, заставалася віла Рэнуара[1], месца, дзе мастак правёў рэштку сваіх дзён у атачэнні стагадовых аліў і юных рудавалосых паненак.

Дарога да мора была няблізкай, але я згарала ад жадання прайсціся басанож па буйнай берагавой гальцы. Я павярнулася спінай да сушы і імкнулася не зважаць на бесперапынную плынь машын па трасе нацыянальнага значэння, што праходзіла ўздоўж берагавой лініі, і на прыглушанае вуркатанне самалётаў, што ўзляталі і прызямляліся кожныя трыццаць секунд. Я магла б нават уявіць, што гэта тое самае мора, якое адначасна дакранаецца берагоў Грэцыі, Далмацыі[2], Сіцыліі і Туніса... Здаецца, гэта мора здольнае бясконца гасіць чалавечую агрэсію і ў адказ вяртаць нязменнае характва і супакой.

Я прабадзялася на пляжы цэлую гадзіну, а на зваротнай дарозе зазірнула ў аптэку, каб набыць сонцаахоўны крэм. Правізар пазнаў мяне і пацікавіўся:

— Як справы ў вашага бацькі?

— Дзякуй, вельмі добра.

— Трымаецца малайцом, нягледзячы на свой век?

— Так.

— Як я вам зайздрошчу! Мой жа бацька, лічы, аднаго з ім веку, але ён больш не жадае выходзіць са свайго пакоя. Я прапаную яму падарожжы, экскурсіі, яму і рабіць нічога не трэба. Усё марна. Ён аддае перавагу таму, каб нерухома сядзець перад тэлевізарам, баючыся кожнай магчымай змены. А вось ваш бацька перапоўнены цікавасцю да жыцця.

Я падумала, ці не кажам мы пра аднаго і таго ж чалавека, і ўсё ж пагадзілася:

— Сапраўды, жыццёвых сіл яму не займаць.

Я расплацілася за пакупку і адправілася на рынак, каб купіць кветку ў вазоне для Маргарыты. На пляцы жабравалі некалькі бяздомных. Дзіўна было бачыць іх тут, бо ўлетку, калі натоўпы турыстаў і адпачывальнікаў запаланяюць мястэчка, яны знікаюць — або рушаць унутр краіны, дзе вытворцам садавіны патрабуюцца іх рукі, або іх выганяюць працаўнікі муніцыпалітэта праз залішнюю дэкаратыўнасць. Я села ў маршрутку, якая адным махам пераадолела некалькі крутых заваротаў. Потым яшчэ крыху пасноўдалася, села на лаўку і пачала разглядаць дзяцей, што гулялі ў цені фальшывага замка. Старадаўняе мястэчка ненадоўга рабілася сабой перад нашэсцем сезоннікаў, падчас якога будуць спраўна працаваць толькі рэстарацыі, начныя ўстановы ды гандляры паштовак.

Я вярнулася супакоенай і ў добрым настроі ў гадзіну апоўдні.

* * *

— Яшчэ адзін выбух, — паведаміў бацька, вымыкаючы тэлевізар у той момант, калі я ўваходзіла у пакой. — У супермаркеце. Трое забітых, дзясятак параненых. Ужо немагчыма спакойна выйсці з дому.

---

[1] У 1907 годзе Агюст Рэнуар набыў маёнтак на ўскрайку вёсачкі Кань-сюр-мэр, каля дарогі, што спускалася да мора. Тут, на месцы старой фермы «Калет», ён пабудаваў дом па ўласных чарцяжах. У 1960 годзе маёнтак выкуплены мясцовым муніцыпалітэтам і аддадзены пад Музей Рэнуара.

[2] Далмацыя — гістарычная вобласць на паўночным захадзе Балканскай паўвыспы, на тэрыторыі сучасных Харватыі і Чарнагорыі.

— Дзе выбухнула?

— На поўдні Ізраіля.

— Вось як! Дык гэта досыць далёка ад таго супермаркета, дзе ты звычайна робіш закупы...

Бацька падняўся і накіраваўся ў кухню. Мачыха засталася сядзець, утаропіўшыся ў згаслы экран. Чутна было, як бацька палез у лядоўню.

— Гэтыя арабы, — працягнуў ён з кухні, — яны не супакояцца, пакуль не заб'юць усіх габрэяў і не паскідаюць іх трупы ў мора.

— Ты маеш рацыю, Сара.

— І ў той дзень, калі гэта здарыцца, яны справяць свята... Грандыёзнае свята! Яны толькі і мараць пра гэта апошнія пяцьдзясят гадоў.

— Ты думаеш, і Даліла таксама?

— Даліла — гэта іншая справа. Яна — прыстойная жанчына. Я таксама ведаю двух ейных сыноў, яна іх слушна выхавала.

— І ўсё ж ты павінен сцерагчыся. Саракавасьмігадовая тунізійка, якая двойчы на тыдні прыбіраецца ў доме габрэя, — гэта выклікае падазрэнне. Не спускай яе з вачэй, асабліва калі яна бярэ ў рукі пыласос.

— Маргарыта, ты ідзеш?

Я рушыла ўслед за мачыхай. Бацька стаяў перад кухонным сталом і тонка наразаў гародніну на дошцы.

Я стрымала вокліч здзіўлення: я не сплю? Зусім не, бацька быў выдатны і непараўнальны за гатаваннем.

Мой бацька. Кухня. Я ніколі не бачыла, каб ён хоць мезенцам паварушыў на кухні.

Ён працаваў зладжана і метадычна, як і належыць інжынеру-механіку. Яго масіўныя акуляры спаўзлі на кончык носа. Час ад часу ён зазіраў у кнігу рэцэптаў, што ляжала адкрытай каля дошкі для наразання. Рухі ягоных рук былі хуткімі і дакладнымі, нягледзячы на сапсаваныя артрозам пальцы.

— Маргарыта, ці не прынясеш мяса з маразілкі? — спытаў ён. — Адвараную цяляціну для смажаніны, што мы купілі на мінулым тыдні. Ты зразумела?

— Так, — адказала яна і пайшла на тэрасу, дзе высіўся гіганцкі саркафаг, здольны вывергнуць тону здробленага за секунду лёду іскрыстым феерверкам.

Маргарыта вярнулася праз дзесяць хвілін.

— Я не знайшла. Ты ўпэўнены, што не пераклаў мяса ў лядоўню?

— Добра, я сам схаджу.

Ён хутка вярнуўся з мясам, загорнутым у ружовую паперу.

— Ты зноў не зачыніла маразілку, — сказаў ён незадаволена. — Яшчэ крыху, і лёд пачне раставаць. Не шкодзіла б яе размарозіць. Разагрэеш мяса?

Тым часам я скончыла накрываць на стол да абеду.

— Я магу яшчэ чым-небудзь дапамагчы?

— Не турбуйся. Ты — наша госця, — усміхнулася Маргарыта. — Сядай.

Маргарыта запаліла адну фаерку, потым другую і паставіла рондаль на трэцюю.

Мой бацька працягваў наразаць перцы. Краем вока ён сачыў за тым, што робіць ягоная жонка. Моўчкі ён загасіў дзве фаеркі, паклаў мяса ў шкляную талерку і адправіў яе ў мікрахвалёўку. Маргарыта запусціла рукі ў валасы і хацела сесці да стала:

— Ён не хоча, каб я кіравала яго новым аўтамабілем, — заявіла яна адмыслова для мяне, — кажа, што ён вельмі скаладаны для кіравання. Вось ужо сорок гадоў, як я кірую машынай па гэтых вузкіх вулачках. Павер мне, я ўпраўлялася з вялікімі аўто і ніколі не баялася. З усякімі машынамі... Я ездзіла

нават у горы. Я збіралася правесці выходныя зусім адна, толькі я і Кладзіна, мой сабачка, ты памятаеш яе? Я хацела паехаць куды-небудзь углыб, далей ад узбярэжжа.

Я ледзь не сказала, што Кладзіна, ейны сабачка пароды грыфон, памерла задоўга да нашай з ёй сустрэчы. Але я пільна паглядзела на Маргарыту і не прамовіла ні слова...

* * *

— А. Г.[1], — прамармытаў мой бацька, — будзем называць гэтую хваробу А. Г., добра? Я не хачу, каб яна пачула нас.

Бліжэй да вечара, як ён і прасіў, я знайшла бацьку ў ягоным кабінеце. Гэта быў цёмны і халодны пакой, нейкі безаблічны, нягледзячы на маю ўлюбёную канапу і сямейныя фотаздымкі на сцяне. Белыя ўбудаваныя шафы з коўзкімі дзверкамі, высоўныя шуфляды, усталяваныя суперрацыянальна, камп'ютармастадонт з разнастайнымі перыферыйнымі прыладамі, на падлозе — перапляценне кабеляў. Чым ён тут займаецца ў гэтай змрокавай цемры? Хто яго ведае...

Ён глядзеў у адну кропку, кудысьці праз мяне, і казаў:

— Пасля падзення яна сталася нейкай прыгнечанай. З ёй адбываецца нешта, зусім не ўласцівае. Адзін з нашых сяброў заўважыў, што яна неяк інакш абыходзіцца з рэчамі. У мяне атрымалася пераканаць яе прасканаваць мозг. Я сказаў ёй, што трэба праверыць стан ейнага здароў'я пасля здарэння.

— І які вынік?..

— Неўролаг не знайшоў нічога незвычайнага.

— Тады гэта не Альц... А. Г. Я ўпэўнена, што гэта было б бачна на сканеры.

— Так, але сімптомы... Часам раніцай яна забывае, як трэба апранацца. Яна круціць сваю адзежу і так і гэтак, быццам бачыць яе ў першы раз...

— Магчыма, гэта старэчы недаўсціп.

— Яна больш не здольная пісаць. Тады яна шукае для сябе ўсялякія апраўданні, але справа ў тым... Вось, паглядзі.

Ён высунуў адну з гэтых беласнежных шуфлядаў, дастаў капэрту і працягнуў яе мне.

— Гэта адрас, які яна паспрабавала напісаць.

Капэрта была спярэшчана лініямі, што налазілі адна на адну, малыя літары пераблытаны з вялікімі. На адваротным баку тое ж самае. Я перадала капэрту назад бацьку.

— Праз нейкі час яна адчула сябе лепш, таму што прымала пігулкі, выпісаныя неўролагам. Я пераканаў яе, што гэта пігулкі ад астэапарозу. Толькі вось курс лекавання заканчваецца праз два месяца. Я б хацеў, каб яе паглядзеў іншы спецыяліст і каб ён пацвердзіў альбо адхіліў дыягназ. Але я не дабяру розуму, як угаварыць яе зноўку пайсці да доктара...

Ён паглядзеў мне ў вочы. Выгляд у яго насамрэч быў разгублены, але з маім бацькам ніколі нельга быць у чымсьці ўпэўненай.

— Я размаўляў пра гэта таксама з доктарам Ганцам.

— Ваш кватарант, лекар? — удакладніла я, мімаволі пасміхнуўшыся.

— Так. Ён сказаў, што ў выпадку такіх захворванняў лепш пачынаць лячэнне як мага раней... Але ўсё роўна ейны стан будзе толькі пагаршацца.

---

[1] Хвароба Альцгеймера.

Ён апусціў галаву і зрабіў паўколы на сваім крэсле. Потым працягнуў:

— На мінулым тыдні я спрабаваў угаварыць Маргарыту перабрацца ў Парыж. Там лягчэй заняцца ейным лячэннем. І да таго ж, там месцяцца спецыялізаваныя клінікі, там свяцілы медыцыны... Але яна зрабіла з гэтага такую драму, што я пабяцаў ёй больш не пачынаць гутарку на гэту тэму.

— Ты не сказаў ёй, чаму ты настойваеш на тым, каб пераехаць ў Парыж?

— Не. Таму што яна не ведае пра А. Г.

— Ты не ўлічваеш таго, што яна вельмі прывязаная да гэтага дома, у якім яна жыве ўжо шмат гадоў. Гэты дом для яе ўсё, што ў яе ёсць.

— Але ты не думаеш, што пераезд стаўся б лепшым выйсцем?

Упершыню за дваццаць гадоў, з той пары як бацька выйшаў на пенсію, я зразумела, што ён сутыкнуўся з сапраўдным выпрабаваннем. У асноўным яго праблемы абмяжоўваліся выбарам маршруту круіза класа люкс, куды ён адпраўляўся кожную вясну (фіёрды або тропікі, культурны турызм ці абсалютнае *гультайства*) альбо выбарам мадэлі новага аўто (аўтаматычная каробка перадач, двое або чацвёра дзвярэй?). Да таго ж, што ўжо зусім неверагодна, ён звяртаўся па маю дапамогу ці сама меней прасіў, каб я выказала сваю думку.

— Не, ні ў якім разе, — адказала я. — Тут усе ейныя сябры, усе арыенціры. Яна будзе адчуваць сябе больш упэўненай у сваім уласным доме, чым у любым іншым месцы. Да таго ж менавіта тут прыпадае на квадратны метр плошчы больш за ўсё дактароў... Асабліва герантолагаў. Напэўна яе трэба змясціць у бліжэйшую спецыялізаваную ўстанову, каб яе можна было заўсёды наведваць. Але гэтага замала. Мне здаецца, што ты хочаш адразу вырашыць праблему, а сама праблема яшчэ не вызначылася да канца.

Бацька слухаў, не перапыняючы мяне.

— І потым, тата, каб завесці яе на кансультацыю да неўролага, патрэбна сказаць ёй праўду. Яна ўсё яшчэ паўнавартасная асоба, пакуль не будзе вызначана зваротнае. Паважаная і адказная.

Бацька паспрабаваў мне запярэчыць.

— Добра, ты не абавязаны прамаўляць імя Альцгеймера. Насамрэч яно наганяе жах. Але ты можаш ёй сказаць, што ты непакоішся за яе, што ты хочаш упэўніцца ў тым, што за ёй будуць добра наглядаць. Я таксама ўпэўнена, што яна ўсведамляе свае праблемы. Вось пабачыш, яна не будзе зашмат хвалявацца... Хіба што заплача, гэта магчыма. Але ты павінен абавязкова сказаць ёй праўду, з усёй асцярожнасцю і каханнем, на якое ты здольны.

Бацька маўчаў увесь час.

— Зразумела, што гэта будзе нялёгка і для цябе. Было б лепш, каб ты знаходзіўся ў атачэнні тых, хто дапаможа табе парадай, падтрымае цябе. Але я мяркую, што ты застанешся з Маргарытай столькі, колькі гэта будзе магчыма для цябе, ці не так?

Ён згодна кіўнуў.

— Добра, тата. Калі я магу чымсьці табе дапамагчы... У кожным разе ты можаш разлічваць на мяне.

— Як я магу разлічваць на цябе? — парыраваў бацька, горда выпростваючыся ў сваім крэсле. — У цябе няма грошай. Ты ніколі не жыла на тыя грошы, якія зарабляла.

Удар быў настолькі раптоўным, што я заставалася нерухомай цэлую хвіліну.

— Добра, — сказала я ўрэшце. — Добра!

Я ўсхапілася і пайшла за сваім квітком на самалёт.

— Ты бачыш гэта? Гэта квіток Парыж—Ніца туды і назад. Поўны тарыф. Як ты думаеш, за якія грошы я набыла яго?

Ён засоўгаўся ў сваім крэсле. Я махала квітком перад ягоным носам.

— Дык за якія грошы? Наркотыкі ці, можа, я гандлюю сваім целам?

Ён падняў галаву, але ягоныя вочы заставаліся заплюшчанымі.

— Разлічваць на каго-небудзь — гэта значыцца разлічваць фінансава. Па-твойму гэта не так? Калі апытаць выпадковых людзей, дзевяноста адсоткаў з іх адкажуць менавіта так... Зрэшты, я ўпэўнены, што ў слоўніку...

— Калі ў слоўніку, тады бясспрэчна, што гэта слушна на сто адсоткаў. Але ты не адказаў на маё пытанне. Ты ведаеш, што ў мяне няма палюбоўніка. Тады якімі грашыма я разлічвалася за гэта?

Бацька маўчаў. Я паклала квіток у кішэню.

— І гэта значыць, што я хацела ўбачыцца з табой... Разлічваць на каго-небудзь, уяві сабе, азначае не толькі матэрыяльную дапамогу. Але паколькі ты не маеш ніякага ўяўлення, пра што я гавару... Ніякага...

Я чакала ў адказ рэакцыі, якой не было.

— Мабыць, я пайду. Мне трэба развітацца з Маргарытай.

Уздымаючыся па прыступках ў зімовы сад, я адчувала, як мае кулакі сціснуліся і кроў прыліла да скроняў. Я спынілася і ў рассеяным святле сонца.

— Ты здохнеш у поўнай адзіноце, стары вырадак, — прамармытала я. І тут жа прыгадала, што менавіта такую фразу, слова ў слова, я ўжо кідала яму акурат у твар, калі была падлеткам...

Я глыбока ўздыхнула і пайшла далей. Фіранкі на вокнах у зімовым садзе былі паднятыя.

Маргарыта сядзела на канапе і гартала часопіс.

— Ты адшукала свае акуляры?

— Ты ад'язджаеш?

— Так, але я не хацела цябе турбаваць.

Я нахілілася, каб абняць Маргарыту.

— Ці расказвала я табе гісторыю пра мастака? Я пазіравала для яго, калі мне было шаснаццаць.

— Не памятаю.

— Я прыйшла да яго па пратэкцыі аднаго майго знаёмага. Мастак прапанаваў мне ўладкавацца на кушэтцы. Я распранулася і, як звычайна, легла. Ён пачаў працаваць. Потым мы перапыніліся на кароткі час. Я была дзяўчынка цікаўная і таму прашмыгнула да мальберта, каб паглядзець, што ён там намаляваў: човен. Дзіўна, сказала я сабе. Але так цягнулася і надалей: кожны раз ён прапаноўваў мне ўладкавацца дзеля таго, каб пазіраваць, і потым маляваў толькі чоўны, мора, берагі. Нарэшце ён сказаў мне, што ён — мастак-марыніст і ніколі не маляваў нічога іншага. Ты ўяўляеш, наколькі гэта бязглузда!

Мне было зусім няцяжка засмяяцца разам з Маргарытай. Я зноўку абняла яе, потым сціснула ейныя рукі ў сваіх.

— Табе не абавязкова праводзіць мяне. Я патэлефаную. А ты беражы сябе.

Яна заставалася на месцы і толькі праводзіла мяне позіркам.

— Пачакай! — ускрыкнула яна. — Я забылася аддаць табе свой дзённік сноў. Я схаджу за ім.

— Гэта не важна. Ты аддасі яго ў наступны раз. Тое, што напісана, гэта ж назаўсёды, ты згодна? Да пабачэння. Неўзабаве пабачымся, Маргарыта!

Я падхапіла сваю кайстру, што стаяла каля дзвярэй, і выйшла, так і не развітаўшыся са сваім бацькам.

***Пераклад з французскай Тані ЗАГНІЙ.***

***Пераклад зроблены па выданні Le Fou de l'autre, © Noir sur Blanc, 2010.***

Рубрыка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта

Ян ТВАРДОЎСКІ

# ДА СЭРЦА, А НЕ ДА БЛЯШАНАГА ГУЗІКА



***Ксёндз Ян Твардоўскі — адзін з найбольш вядомых сучасных польскіх паэтаў. Ягоныя творы прасякнуты адначасова глыбокай мудрасцю і дзіцячай прастатой, мяккім гумарам, адмысловай хрысціянскай шчырасцю, любоўю да Бога, людзей і прыроды. Вершы Яна Твардоўскага актыўна перакладаюцца на беларускую мову і вядомыя беларускім чытачам. Але тут мы знаёмім чытача з узорамі ягонай прозы: перакладамі з кнігі «Patyki i patyczki», напісанай для дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі.***

## ГАЛІНКІ І ГАЛІНАЧКІ

Аднойчы летнім вечарам на прыступках з'явіўся дым. Пахла гарам. Нехта гучна, быццам у рупар, крыкнуў:

— Пажар!

Кожны пачаў ратаваць тое, што лічыў самым дарагім і бег з гэтым на падворак.

Худая, высокая жанчына вынесла клетку, а ў ёй папугаі-неразлучнікі. Адбеленая перакісам цырульніца прыціскала да сябе рудое норкавае футра з хвосцікамі. Студэнт-геолаг ўратаваў кошык горных парод, чорнага ў белыя плямкі і шэра-ружовага ў бліскучыя зорачкі крэмня. Паэтка аберуч трымала парцэлянавую лямпу ў чырвоныя макі, а ў яе сяброўкі, вытанчанай жанчыны, праз руку быў перакінуты капялюш з ружовай вуалькай у белыя кропкі. Сівы артыст цырка дзвюма рукамі прытуляў белы высокі цыліндр. Яго перапалоханы сусед масажыст, нацягваў другія порткі з падцяжкамі. Дзве бабулі ўратавалі старэнькі саламяны дыванок з-пад сваіх дзвярэй. Расхваляваны прафесар пераносіў чарапаху. Жаніх вынес на руках цётку нявесты.

Мне, аднак, узгадаўся маленькі хлопчык, які своечасова заляцеў у задымлены дом, каб уратаваць каштоўныя рэчы. Ён не баяўся, бо зрабіў сабе з насоўкі маску. Хутка выцягнуў з-за буфета любімыя галінкі і галіначкі. Яго вочы блішчалі ад шчасця. Ўратаваў свой скарб.

## КАГО ЎБАЧЫЎ ТОЙ, ХТО НЕ БАЧЫЎ?

Каго і што ўбачыў той, хто не бачыў ад нараджэння, і каму Езус вярнуў зрок?
Не бачыў ні матулі,
ні татачкі,
ні нават сваёй сястрычкі.
Не бачыў таго, што апельсіны аранжавыя,
а лімоны жоўтыя,
не бачыў, ці дзень, ці ноч,
ці храпець, ці прачнуцца,
ці есці, ці марудзіць.
Калі Пан Езус паклаў яму на вочы свае рукі,
пачаў бачыць.
Перш за ўсё ўбачыў Езуса, які ўсміхаўся,
потым Яго ўсмешлівых вучняў;
кожны ўсміхаўся па-свойму:
Пётр ад вуха да вуха,
Ян ад носа да барады,
Філіп ад левай шчочкі да правай,
Тамаш — ад часу да часу,
Барталамей ад цяпер і да вечара,
Якуб ад сябе да другога Якуба — бо іх было двое.
Потым убачыў барадатых і зубатых фарысеяў,
у кожнага з іх па Старому Запавету была моцная пяцёрка,
але па Новаму — круглая двойка.
Першы страляў вачамі,
другі стукаў зубамі,
трэці рыпеў сківіцамі,
чацвёрты варушыў вушамі,
пяты топаў нагамі,
шосты палохаў рукамі,
сёмы шорхаў ботамі,
восьмы штурхаўся лакцямі.
Не бойся, Езус жа ўсміхаўся.

## ПРА АДНО ЗЕРНЕ

Адна дзяўчынка, якая заўсёды жыла ў Радаме, упершыню прыехала ў Варшаву наведаць заапарк.

— Што табе там спадабалася? — спытаў тата, калі яна вярнулася і піла гарбату з малаком.

Яна не ведала, як адказаць, таму тата пачаў падказваць:

— Можа, белы палярны мядзведзь з даўгаватым ілбом і маленькімі вушамі, з валасамі на пятках, каб не паслізнуцца на лёдзе?

— Можа, слон, які здаецца голым, хоць сапраўды голыя ў яго толькі падэшвы?

— Можа, кенгуру з торбай на пузе?

— Усё гэта я ведала, — адказала дзяўчынка, — больш за ўсё мне спадабаўся маленькі шэры верабей з чорным горлышкам і белай плямкай пад вокам, які скакаў па сцежцы ў заапарку.

Гэтая дзяўчынка ўзгадалася мне, калі я чытаў, што Пан Езус гаварыў не толькі пра анёлаў і аблокі, але і пра адно малое зерне. Гаварыў не толькі пра святыні ў Ерусаліме, але і пра матулю, якая размешвае цеста, трымаючы драўляную лыжку ў руцэ.

Бо што гэта было б, каб нехта ўзіраўся ў высокія зоркі, але не хацеў есці яечні?

Бо што было б, калі б нехта хацеў паляцець на неба, але не паклаў бы нажнічкі на сваё месца?

## ПРА ПАМЕРЛЫХ, ЯКІЯ ХВАЛЯЦЦА

Можа, памерлыя ў небе хваляцца, хто ад чаго памёр:

— Я памёр ад грыпу.

— А я ад насмарку.

— А я не ведаю ад чаго, бо звычайна паміраюць не ад таго, чым хварэюць.

— У мяне перастала біцца сэрца.

— А мяне конь узбрыкнуў.

— Я выляцеў праз акно.

— Я праглынуў іголку.

— Я папярхнуўся агурком.

— Я памёр, бо не меў лекаў.

— А я памёр, бо іх было зашмат.

— Я пераблытаў грыб і атруціўся.

— А я таму, што гуляў з запалкамі і згарэў дом.

— А я нават не заўважыў, калі памёр.

Усе аднак змаўкаюць, калі ўваходзіць айцец Максімільян Кольбэ, накіраваны падчас вайны Анёлам-ахоўнікам у пекла. Айцец Кольбэ, які нават у цемры не страціў светалага твару, казаў:

— А я памёр таму, што не памятаў пра сябе, але пра іншых.

## АБ ЗНАКУ КРЫЖА

Хацеў бы распавесці, хто і што прыпамінаецца мне, калі раблю на сабе знак крыжа, і кажу: «У імя Айца і Сына, і Духа Святога».

Найперш узгадваюцца мне вашыя матулі і мая таксама. Бо гэта яна першая навучыла мяне жагнацца. Трэніравала маю руку, якой цяпер узношу Найсвяцейшы Сакрамэнт. Камандавала: «На лева, на права». Дакранайся да ілба, а не да носа. Да сэрца, а не да бляшанага гузіка. Да плячэй, а не *шлеек*. Казала таксама, што дзяўчынка, калі мінае прыдарожны крыж падчас канікул, павінна перажагнацца, а хлопец — зняць шапку.

Але аднойчы здарылася так, што праходзіў неяк у ліпені каля вясковага крыжа. Вецер сарваў маю шапку, напоўненую спёкай, у сталь, у якім белыя і жоўтыя гарлачыкі хавалі пад вадой кветкі. Вылаўліваў шапку кіем для папраўляння фіранак і трывала гэта даволі доўга, бо ўвесь час перашкаджаў сіне-зялёны трыснёг, водны трыпутнік і паўзучы аер з трохбаковым, чырванаватым унізе сцяблом — а праходзячы каля вясковага крыжа, жагнаўся, як дзяўчынка.

Як часта цяпер, калі прыходзіцца рабіць знак крыжа, хоць апала ўжо апошняе лісце, а паветра пахне блізкім снегам, стаіць мне перад вачыма гэты стары, вясковы крыж са школьных часоў.

Чырвоны матыль дакрануўся да ран Пана Езуса, а недалёка тры грыбы ўжо пахлі Вігіліяй.

Тое, што было даўно, памятаецца найлепш.

А яшчэ, калі стаў ксяндзом і ад хвалявання нават не еў абеду, хоць падалі мне сыраквашу з бульбай, не мог нават нармальна пеажагнацца, бо ўвесь час трымаў у руках паўтысячы іконак для раздавання. У той дзень сама матуля мяне пеажагнала: «У імя Айца і Сына, і Духа Святога».

Часам робіш знак крыжа хоць як, цяп-ляп, быццам войска насякомых адганяеш, а я гэтак хутка не змагу, бо так шмат мне пры гэтым успамінаецца.

***Пераклад з польскай***
***Вольгі СЕВЯРЫНЕЦ***



Рубрыка кафедры
літаратурна-мастацкай крытыкі
Інстытута журналістыкі БДУ

# ПРАВА НА ПАМЫЛКУ

***Прынята лічыць, што празаік адрозніваецца ад паэта тым, што, каб напісаць па-сапраўднаму моцны, таленавіты, яскравы твор, ён павінен валодаць не толькі густам да прыгожага пісьменства, майстэрствам, тонкім адчуваннем вобразнай сутнасці слова і метафарычным навыкам пераўвасабляць рэчаіснасць у іншасвет, але і — у першую чаргу — глыбокім перажываннем паўсядзённасці, вострым суперажываннем асобнаму чалавеку і чалавецтву наогул, адчуваннем чужога болю як свайго ўласнага, бо мастацкая проза і ёсць тым унутраным, часам хранічным болем, пераасэнсаваным аўтарам і ўвасобленым у мастацкім тэксце. Але як гэтаму навучыцца?***

Пры наяўнасці абавязковых літаратурных здольнасцей празаіку неабходна мець пэўны жыццёвы вопыт, умець і любіць спасцігаць рэчаіснасць да самых глыбінь, не баяцца корпацца ў тым брудзе і смецці, якія часта фарміруюць штодзённае жыццё чалавека. Іншымі словамі, трэба не толькі *пражываць*, але і *перажываць* жыццё, скрупулёзна *перажоўваючы* не толькі мякіш, але і чэрствыя скарынкі экзістэнцыйнай сутнасці. Паказальна, што выбітнымі празаікамі нярэдка станавіліся людзі без спецыяльнай літаратурнай адукацыі. А калі казаць зусім проста, мазгі празаіка закручаны іншым чынам, чым мазгі паэта…

* * *

Яўген Сінічэнка нарадзіўся 25 лістапада 1991 года ў Баранавічах, там жа скончыў сярэднюю школу, атрымаў спецыяльную адукацыю кухара, а потым пераехаў у сталіцу, дзе адвучыўся ў Мінскім дзяржаўным прафесійна-тэхнічным каледжы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва імя Кядышкі і атрымаў будаўнічую адукацыю, бо маці Жэні хацела, каб сын пайшоў па яе слядах і займеў вышэйшую інжынерную адукацыю. Але жаданні і мэты Яўгена былі іншымі: у 2010-м юнак паступае ў Інстытут журналістыкі БДУ на спецыяльнасць літаратурная работа (творчасць). Дарэчы, гэта быў першы набор на спецыяльнасць, замацаваную за нашай кафедрай літаратурна-мастацкай крытыкі. Я дагэтуль добра памятаю сустрэчу выкладчыкаў кафедры з будучымі выхаванцамі: Яўген Сінічэнка сядзеў за сталом побач са сваім бацькам. Субтыльны маладзён (між іншым, адзіны хлопец у групе), апрануты ў класічную сінюю вадалазку, пранікнёна ўглядаўся ў твары выкладчыкаў і ўважліва ўслухоўваўся ў іх словы пра кафедру, універсітэт і адметнасць новай спецыяльнасці. Для ўсіх нас гэта быў надзвычай важны момант: пазнаёміцца і паразумецца, каб пасябраваць, бо, як вядома, размаўляць пра літаратурную творчасць, вучыць і вучыцца ёй без шчырых, цёплых і даверлівых адносін паміж студэнтам і выкладчыкам вельмі цяжка. Як неаднаразова падкрэслівала прафесар Ефрасіння Бондарава, «студэнта, а тым больш творчага чалавека, нельга прымушаць, яго трэба заахвочваць». Менавіта да гэтага мы і імкнуліся.

Нашы заняткі па «Асновах літаратурна-мастацкай творчасці» і па «Асновах паэтычнага майстэрства» ператварыліся ў сапраўдныя творчыя лабараторыі, майстэрні, на якіх дэманструюцца і абмяркоўваюцца літаратурныя тэксты студэнтаў у розных жанрах. Але не толькі. Мы разам спрачаемся наконт аўтарскіх пазіцый і межаў дасведчанасці, імкнёмся намацаць

шляхі і спосабы ўдасканалення твораў, якія, між іншым, могуць быць самымі living рознымі. Часам трэба проста выправіцца на гарадскі шпацыр і паразмаўляць на не звязаныя з творчасцю тэмы. І мы выпраўляемся і размаўляем.

* * *

Літаратар-пачатковец павінен спрабаваць сябе ў розных, дыяметральна супрацьлеглых жанрах, каб вызначыцца з пытаннем «хто я?»: паэт, празаік ці драматург. Далей — болей, бо ў кожным з трох родаў літаратуры існуюць свае жанравыя падзелы і фармальныя адрозненні. Чым болей такіх спроб ажыццявіць малады аўтар, тым хутчэй ён вызначыцца і заявіць пра сябе ў літаратуры. Не трэба баяцца быць незразумелым, трэба баяцца быць не пачутым. Менавіта таму я заклікаю сваіх студэнтаў дзяліцца са мной сваімі задумамі, планамі і спадзевамі, бо час вучобы — гэта той вольны працяг, калі нават самыя, здавалася б, вялікія творчыя памылкі і паразы могуць адыграць станоўчую ролю ў працэсе аўтарскага сталення. Страх нараджае баязлівасць, а баязлівасць, у сваю чаргу, — замкнёнасць і нешта накшталт аўтызму, што пагражае сур'ёзным творчым крызісам. У пяшчотным узросце гэта вельмі небяспечна.

Яўген Сінічэнка піша вершы і малую прозу, якая падаецца мне роўнай, глыбокай і змястоўна вытрыманай. Нядаўна малады аўтар звярнуўся да жанру псіхалагічнай навелы, што не ў апошнюю чаргу звязана з яго зацікаўленасцю класічнай псіхалогіяй. «Уводзіны ў псіхааналіз» Зігмунда Фрэйда сталі нагодай больш уважліва зірнуць на знешнія праявы чалавечых паводзін, каб зразумець сутнасць тых імпульсаў, якія іх нараджаюць. Нездарма аўтар у якасці эпіграфа да свайго апавядання ўзяў знакамітае фрэйдаўскае выслоўе: *«Псіхічныя працэсы самі па сабе несвядомыя, свядомыя толькі асобныя акты і бакі душэўнага жыцця».* Назва апавядання «Без пяці хвілін сямёрка» адсылае да пушкінскай «Пікавай дамы» і знакамітай фразы яе галоўнага героя Германа, які, перажываючы паталагічны стан, на пытанне: «Колькі часу?» адказваў-трызніў: «Без пяці хвілін сямёрка», што з'яўлялася яўнымі прыкметамі шызафазіі. Даследчыкі неаднаразова падкрэслівалі, што Пушкін адным з першых у рускай літаратуры выявіў абсэсіўна-кампульсіўны характар і абсэсіўнае псіхічнае расстройства героя. Лічыцца, што базавы канфлікт у абсэсіўных і кампульсіўных людзей — гэта гнеў (у стане пад кантролем), які змагаецца са страхам быць асуджаным альбо пакараным. Гэты афект не выяўлены, задушаны альбо рацыяналізаваны, словы выкарыстоўваюцца, каб хаваць пачуцці, а не выяўляць іх. Яўген Сінічэнка звяртаецца менавіта да гэтай паталогіі чалавечага характару ў вобразе героя свайго апавядання, маладога чалавека, які, перажыўшы ў падлеткавым узросце траўму, звязаную з няўдалай спробай рэалізаваць сваю сексуальную дэвіяцыю, канчаткова замкнуўся ў сабе. Яму ўласціва хваравітая самарэфлексія. Так, напрыклад, яму «бывае сорамна ў краме», калі ён выкладае «тавар на гэтую жудасную стужку-транспарцёр. Усе вакол глядзяць на цябе, быццам асуджаюць за нешта незразумелае». Яго «быццам сама гэтая стужка асуджае». А далей ідуць успаміны героя пра адзін дзень з яго юнацкага жыцця, які «выдаўся на рэдкасць жахлівым»... У фінале апавядання герой зазначае: «я ненатуральны <...> я вырадак <...> бацькоўства нечакана стала для мяне грахом, бо колькі трэба самалюбства, каб выдраць душу з нябыту сюды і ператварыць яе ў мяса».

Тэма, да якой звярнуўся Яўген Сінічэнка ў сваім творы, не новая ў сучаснай сусветнай літаратуры, можна нават сказаць, што яна папулярная і модная, таму што дэвіянтныя паводзіны чалавека сталі ледзь не нормай у сучасным грамадстве спажывання. Чалавеку ва ўсе часы было ўласціва памыляцца, бо кожны мае права на памылку, але шкада, што часам шнары, якія гэтыя памылкі пакідаюць на сэрцах, робяць душу чалавека стомленай, самотнай, цяжка хворай і невылечнай. Відаць, пра гэта і напісаў Жэня...

***Арцём КАВАЛЕЎСКІ***

Яўген СІНІЧЭНКА

# БЕЗ ПЯЦІ ХВІЛІН СЯМЁРКА



***«Псіхічныя працэсы самі па сабе несвядомыя, свядомыя толькі асобныя акты і бакі душэўнага жыцця».***

Зігмунд ФРЭЙД.
«Уводзіны ў псіхааналіз».

«Ведаеш, часам мне бывае сорамна ў краме, калі я выкладаю тавар на гэтую жудасную стужку-транспарцёр. Усе вакол глядзяць на цябе, быццам асуджаюць за нешта незразумелае. Адзін чалавек купіць больш, другі — менш, у кагосьці памперсы і прэзерватыў, у кагосьці печыва, корм для ката і два літры піва. А я гляджу на свае рэчы і думаю, на якую халеру я ўзяў яйкі, “Orbit” і маянэз? Гэта тупа! Ненавіджу браць несумяшчальныя рэчы. Мяне быццам сама гэтая стужка асуджае: навошта ты ўзяў яйкі і “Orbit”, — ён пацешна надзьмуў вусны і, ківаючы галавой па баках, агучыў касавы транспарцёр. — І ўвогуле, не разумею людзей, якія бяруць памперсы і прэзерватывы. Атрымліваецца, што той, хто купляе гэтыя прэзерватывы, хоча налева пайсці? Ці я чагосьці не разумею?». — Тут ён старанна нахмурыў бровы.

«Не махай рукамі, вочы выб’еш».

«Прабач», — скрыжаваўшы рукі на грудзях, кіўнуў ён.

Дзень выдаўся на рэдкасць жахлівым. Спачатку лёгкі дотык рукой да перадплечча: прабеглі цалкам адчувальныя дрыжыкі па целе, але ўсё згасла адразу ж. Адбылося гэта, калі ўсім класам адправіліся ў лес па ягады. Прыйшлося яшчэ сачыць і за грыбамі, бо быў пачатак жніўня і ўжо трэці дзень як пакрапваў юрлівы дождж. Ад ягоных доказаў, што ягады ядлоўца не атрутныя, нават карысныя, калі не завіхацца з іх паглынаннем, можна было звар’яцець. Ён лічыць сябе самым разумным. Але гэта было далей.

Калі мы вярнуліся назад, увесь час адчуваўся Яго погляд. Ад гэтага рабілася холадна, хоць на ўзгорку, дзе мы разбілі намёты, было бязветрана.

«Ты як, вафлі з шакаладам паважаеш?» — ён схапіў мяне за руку і пацягнуў убок.

«У сэнсе?» — трэба паглядаць за настаўнікам і аднакласнікамі.

«Ну, вафлі. Шакаладныя. Любіш?»

«Ёсць такое».

«На, трымай. У мяне засталася парачка. Нікому не паказвай. Разарвуць». — Гэта быў другі момант невыноснай блізкасці за дзень. Пад Яго пазногцямі ярчэлі тонкія палоскі бруду. Не люблю брудных рук, асабліва чарнаты пад пазногцямі. Але гэтыя заўсёды здаваліся знаёмымі, быццам уласныя. Зноў прабіла дробная дрыготка, але не ад холаду.

Дзень прайшоў у таемнай адзіноце. Калі сонца адчула стомленасць, прыйшлося з’явіцца на вочы, каб не выклікаць шуму. Настаўнік сабраў усіх вакол вогнішча, і пачаліся песні, гісторыі, чытанне вершаў тымі, хто не вывучыў іх на ўрок.

«Скрозь...»

«Сквозь», — настаўнік быў бязлітасны.

«Сквозь, прабачце, туман кремнистый путь лежит».

«Блестит».

«Што блестит?»

«Путь».

«Ой, прабачце, да, блестит. И ночь тиха, пустыня внемлет Богу, и звезда с звездою говорит».

«Слухай, — яго рука зноў кранула перадплечча. — Давай заўтра да мяне на прыстаўку. Будуць Насця, Касцян, Кіслы, Шура і я». Падумаю.

«Хутчэй за ўсё, так».

Яго рука ўцякла ў цемру і сталі прыкметныя куткі вачэй, якія адлюстроўвалі бляск вогнішча. На маёй руцэ застаўся запал ад яго далоні, скура ў тым месцы быццам абвуглілася, валасінкі выгаралі, сэрца ў гэты момант білася пад пяшчотнай ткнінай локцевага згіну. Пара сыходзіць у намёт.

У гэты момант пачалася чарговая гісторыя. Ён распавядаў пра сваю вёску, але палова слоў гублялася ў яго сіметрычных зубных шчылінах. Кажа ён хутка, заўсёды, часам не паспяваючы надаваць сэнс вымаўленаму. Цень яго носа завастрыўся на правай шчацэ. Гэта быў непрыкметны позірк у мой бок і вытанчаная ўсмешка. Ніхто гэтага не заўважыў, бо казаў ён не спыняючыся. Магчыма, ён сам гэтага не заўважыў. Прыйшлося пакорліва сачыць за рухам яго вуснаў, вушнымі ракавінамі, якія так наіўна тузаліся, выразнымі рысамі твару, з налётам юнацкага пушку на падбародку. У мяне таксама пачалі расці ледзь прыкметныя валосікі, на нагах і пад пахамі. Мяне гэта выводзіць з сябе гэтак жа, як і асуджальная стужка ў краме.

Ён скончыў. Хтосьці фальшыва паляпаў у ладкі і свіснуў. Да гэтага часу так не ўмею.

«Цішэй, тут ваўкі водзяцца, — Шура як заўсёды бздзіць, — бабуля распавядала».

«Пайшлі адсюль». Мяне разарве ад Яго дакрананняў.

У намёце ён заваліўся на спіну і раскінуў ногі. Потым злёгку прыўзняўся і пачаў сцягваць красоўкі. У нос ударыў смурод потных шкарпэтак. Мы павінны былі спаць утрох, з намі яшчэ Косця, але ён пасля адбою зліняў да дзяўчынак. Мы расклалі карты, але гэта хутка надакучыла. Ён пачаў вучыць мяне гуляць у тэхаскі холдэм, пра што ўжо была размова неаднаразова. Вось і атрымалася так. Вось і атрымалася...

«Ну, вось глядзі, на флопе туз, сямёрка і тройка. Масці розныя, дзве хрэсці і чэрвы. Так што з тваімі пікамі на флэш ужо не спадзявайся. Але ў цябе ёсць пара сямёрак. Чакай астатнія карты, можа, больш пашанцуе». — Гэты момант здаўся да болю знаёмым. Быццам я ўжо бачыў усё гэта: брызентавыя сцены намёта, мокрыя ад поту шкарпэткі, тры карты на зямлі і — ягоны погляд. Працяг у галаве выбудаваўся сам сабой, як і было ў гэтым сне. Рэзка забалела галава, адна з карт выпала са знямелых далоняў. Другую я схапіў дзвюма рукамі. Паскораны рытм сэрца спыніў дыханне. Я машынальна, каб не абняславіцца, аблізнуў вусны і зрабіў рывок у яго бок. Атрымалася недарэчна.

«Якога хрэна?!» Ён адкінуўся назад у намёт, я, падпарадкоўваючыся, рушыў услед за ім. Выцершы вусны рукавом, ён спалохана глядзеў у мой бок. Пракрычаўшы сваё пытанне зноў, ён ускочыў, забыўшыся, дзе знаходзіцца. Наша хаціна канчаткова страціла ўстойлівасць. Раптам я адчуў востры боль у шыі, і мяне адкінула на зямлю. Па твары ён прамахнуўся. Я зразумеў, што трэба бегчы.

Высунуўшы галаву з бясформеннай намётавай масы, я ўбачыў адзіны шлях да адступлення: лес. Ён накінуўся на мяне ўсім целам і бязладна малаціў нагамі і рукамі. Апошняе, што я памятаў, — настаўнік, які падбег да нас пад бадзёрыя воклічы аднакласнікаў.

Успамінаючы Яго цяпер, мяне ўжо не пранімае ад холаду. Людзі кажуць: астыў. Але як можна астыць, калі ў целе цёпла? У прагнозе надвор'я кажуць «рассеяныя аблокі». Цяпер менавіта так: пастаянна хтосьці асуджае, але ні ў якім разе не касавы транспарцёр. На яго я напляваў. Апошні раз у краме на стужку я выклаў бутэльку «Chardonnay», брытву і некалькі зменных лёзаў, упакоўку замарожанай гародніны, кілаграм яблыкаў, нарэзаны дыетычны хлеб і ўсё. Калі ўзяць больш, цяжка будзе несці да машыны. Ах, яшчэ цыгарэты. І стужка мне нічога не сказала. Я толькі ўспомніў суровы погляд нейкага хлопца на ўваходзе ў краму. Верагодна, студэнт, які быў вельмі падобны да яго. Я ўлавіў гэта ў прарэзаных скрозь далікатную скуру скулах, у лунаючым вакол яго напружанні. Я стаў для такіх мужчын пагрозай, выклікаючы першабытны страх і раздражняючы падсвядомае пачуццё самаабароны. Я ненатуральны, бо на маіх нагах няма валасоў. Я вырадак, які любіць Сартра, дарагія аўтамабілі і белае віно. Ну і, вядома ж, у мяне няма пачуцця гумару. Мы жывём у такі час, калі след памады на недакурку, які ляжыць каля ўрны, нічога не скажа нам пра яе ўладальніка. А вось бацькоўства нечакана стала для мяне грахом, бо колькі трэба самалюбства, каб выдраць душу з нябыту сюды іператварыць яе ў мяса.

Да юбілею Быкава

# КАЛІ АДКІНУЦЬ ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ

***У чэрвені 2014 года Беларусь святкуе 90-годдзе са дня нараджэння народнага пісьменніка краіны Васіля Быкава. Да гэтай даты творца не дажыў: сэрца ягонае спынілася ў 2003 годзе. Але проза і публіцыстка Быкава працягваюць пульсаваць, нібы замяняючы адсутнае жывое сэрца. Яны працягваюць знаходзіць водгук у чытацкіх душах, нараджаць новыя інтэрпрэтацыі, нешараговыя прачытанні і перачытанні. Вялікая літаратура, як прапаноўваў лічыць філосаф Міхаіл Бахцін, пасля ўзнікнення свайго трапляе з уласнага часу ў Вялікі час, дзе ўзаемадзейнічаюць зусім іншыя законы, чым у часе натуральным, лінейным. Розніцу паміж гэтымі падыходамі ў вывучэнні літаратуры — лінейным і нелінейным — часопіс «Маладосць» вырашыў высвятліць у спецыяльнай, хоць і вельмі кароткай анкеце для крытыкаў. У ёй усяго два пытанні:***

***1. У чым, на ваш погляд, палягала спецыфіка творчасці Васіля Быкава ў кантэксце савецкай пасляваеннай прозы?***

***2. Якія сэнсы прадукуе сёння быкаўская спадчына і наколькі актуальныя яны для літаратурнай практыкі XXI стагоддзя?***

Аддзел крытыкі

### *«Проста акцэнты зрушваюцца і сэнсы не ўзмацняюцца»*

### Адказвае Марына ВЕСЯЛУХА

1. Перадусім у шматзначнасці і шматпланавасці героя яго прозы. Калі адкінуць ваенныя дзеянні, што ствараюць аснову экзістэнцыйнасці расповеду, і паставіць такога ж героя ў любы іншы стан выбару (памежнасці), то, упэўнена, можна сцвярджаць, што развязка будзе падобнай. Герой будзе дзейнічаць па тым жа прынцыпе. Маецца на ўвазе перадусім тып чалавечай натуры, які Быкаў як глыбокі псіхолаг-аналітык выдатна разумеў. У творах іншых савецкіх празаікаў гэтага часу герой, вырваны з кантэксту падзей і месца дзеяння, згубіўся б і страціў усялякую значнасць, нават не быў бы зразуметы. А быкаўскія Сотнікаў і Глечык жывыя нават сёння.

2. Для мяне складанасць успрымання прозы Быкава заключаецца ў яе цэнтралізацыі вакол ваенных падзей. Сучаснаму чалавеку досыць складана не тое што паставіць сябе на месца героя, але нават зразумець яго выбар і супераржываць яму. Але нягледзячы на гэтыя акалічнасці, проза Васіля Быкава можа быць актуальнай і сёння. Перад тварам быцця, у стане экзістэнцыйнага выбару чалавек апынаецца не толькі на вайне, але і ў штодзённым жыцці, проста акцэнты зрушваюцца і сэнсы не ўзмацняюцца лёсавырашальнасцю кожнага крока, кожнага рашэння. Зрэшты, войны не адмянілі і ў XXI стагоддзі.

### *«Дэтэктыўны» метад Быкава дае магчымасць па-новаму зірнуць і на сучасную беларускую прозу»*

### Разважае Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

1. Пасля вайны савецкая літаратура, як і літаратуры Еўропы і Амерыкі, зазнала карэнныя змены. Цвёрдалобую маналагічную дактрыну сацыялістычнага рэалізму спасцігла кара: рынуліся новыя творчыя метады, здалеўшы з глебы на прастор прабіцца. Адно што прабівацца ў Савецкім Саюзе даводзілася значна цяжэй, чым у

**Можна даводзіць, што Сцепаніда — тыповая беларуская жанчына, трывушчая і цягавітая, а Пятрок — тыповы мужчына, нясмелы, нерашучы, адзін з тых лузераў, пра якіх некалі пісала Марыйка Мартысевіч. Але ці так гэта?**

Еўропе, і гэта нельга не ўлічваць, пішучы пра каго-кольвек з савецкіх літаратараў: натуральнае стрымліванне ў выглядзе цэнзуры і самацэнзуры, безумоўна, карэнным чынам уплывала на літаратурны працэс, і чысціні метаду ў якім заўгодна ключы патрабаваць ад савецкага літаратара нярварта (альбо ён выяўляўся ў падкрэсленай па-закантэкстуальнасці, адмаўленні ад быцця ў сваім часе і, адпаведна, маргінальным існаванні).

Таленавітыя цягнуцца за таленавітымі: так і Быкаў, убачыўшы і прачытаўшы новую франтавую літаратуру Расіі, а таксама экзістэнцыялісцкія працы і прозу Камю і Сартра, нямецкую прозу Групы-47, істотна пасунуў наперад усю савецкую і, у прыватнасці, беларускую прозу. Ёй, прозе, наканавана было тады заставацца ў палоне савецкай нарматыўнай паэтыкі, якая брала за аснову прымат зместу над формай. Эксперыменты фармальныя лічыліся нечым буржуазным, тым больш — празмернае філасофстваванне. Нормай лічылася «прынятасць», рамкі якой фарміраваліся ў тым ліку літаратурнай крытыкай. Галоўнай была тэматыка: ваенная, вясковая, вытворчая, сацыяльна-побытавая, гістарычная, пазней фантастычная. Метад быў адзін на ўсіх — рэалізм. Рудыменты мадэрністычнай паэтыкі 1910—1930-х гадоў на той час ужо ўплывалі на агульны працэс вельмі слаба, асобныя іх папулярызатары знаходзіліся ў глыбокім літаратурным падполлі. На магістральным кірунку савецкай прозы знаходзілася тэматыка ваенная, вясковая, вытворчая і побытавая. Апошнія дзве галіны знаходзіліся пад уплывам сацрэалістычнай дактрыны; у першых дзвюх тэма дазваляла крыху больш адхіляцца ад «генеральнай лініі» (вядома, пры ўмове, калі аўтар сам хацеў ад яе адхіляцца).

Адсюль і спецыфіка Быкава: знаходзячыся на фармальным магістральным кірунку савецкай прозы, ён, у той жа час, пастараўся выціснуць усё магчымае з такой замкнёнай на сабе тэмы, як вайна. Проза Быкава ўтварала ў нейкім сэнсе і адзінства з гэтым магістральным кірункам, і ў той жа час супрацьпастаўлялася яму, бо прапаноўвала адваротны бок люстэрка, у якое глядзеліся былыя военачальнікі II сусветнай. Можна сказаць, што ўсе непрыемныя для вайсковага афіцыёзу тэмы былі Быкавым у ягоных аповесцях закранутыя: жыццё пад акупацыяй, характар і метады партызанскага руху, энкавэдысты на вайне і іх дзеянні і г. д. Быкаўская проза запаўняла лакуны дзяржаўнай прапаганды, указвала на цьмяныя мясціны і сумнеўныя метады дасягнення, безумоўна, вялікай перамогі над нацысцкай Германіяй. Тыя вострыя куты ў чалавечых стасунках, парадоксы масавай свядомасці, цёмныя пытанні менталітэту пазней вывелі Быкава за межы абранай ім тэматыкі, але калі гэта адбылося, то і магістралі савецкай літаратуры непазнавальна змяніліся. Я кажу пра 1980-я гады. Познесавецкі перыяд у літаратуры нельга нават разглядаць як савецкі, бо лепшыя пісьменніцкія сілы былі скіраваны ў тыя гады на дэмакратызацыю сістэмы і на разбурэнне дактрынальнага імператыўнага маналагізму. Творы Быкава 1980 — пачатку 1990-х трэба разглядаць асобна.

2. Проза Быкава ў XXI стагоддзі будзе актуальнай да таго часу, пакуль будуць узнымацца праблемы нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў. Апошнія гады свайго жыцця пісьменнік прысвяціў аналізу гэтых праблем, і трэба гаварыць пра тое, што ён, не будучы адмыслоўцам у сацыялагічнай або філасофскай навуцы, паставіў важнейшыя для асэнсавання нацыянальнай ідэнтычнасці пытанні. Разглядаючы этапы фарміравання беларускай нацыі, Быкаў з сур’ёзным скепсісам адзначаў недастатковасць і незакончанасць гэтага працэсу, і скепсіс быў тым большы, што сама магчымасць далейшага фарміравання нацыянальнай свядомасці была дастаткова туманнай і, па сутнасці, застаецца такою і цяпер, праз дзясятак з гакам гадоў пасля смерці пісьменніка. З асаблівай трывогай Васіль Быкаў узіраўся ў будучыню, дзе нацыянальнаму пытанню

надаваўся зусім іншы сэнс: XXI стагоддзе, халодны касмапалітычны подых якога Быкаў адчуў, знаходзячыся ў эміграцыі ў Еўропе, не давала яму ніякага суцяшэння. Дапамогі беларусам чакаць не даводзіцца, разумеў ён, як разумеў і слабую зацікаўленасць саміх беларусаў у ярчэйшым праяўленні нацыянальнай ідэнтычнасці.

Іншай сферай зацікаўленняў Быкава была чалавечая псіхалогія ўчынку. Дзеянне, учынак, выхад за пэўныя зададзеныя межы і генезіс гэтага ўчынку хвалявалі пісьменніка ад пачатку, яшчэ ад 1950-х гадоў, і да самага канца. Важнай для разумення яго філасофіі ўчынку была праблема ўлады. Улада ставіць межы, учынак разбурае іх, часам цаною таго, хто ідзе на ўчынак. Вось гэтая зададзенасць сітуацыі і магчымасць яе перадолення найбольш цікавіла Быкава, які мог як сфармуляваць сітуацыю, так і развязаць яе вырашэнне. У нейкай ступені вайсковыя яго аповесці можна параўноўваць нават і з дэтэктывамі, як гэта часта робяць, гаворачы пра раманы Фёдара Дастаеўскага. Сам метад Быкава: недагаворванне, рэтраспекцыі, паступовасць раскрыцця біяграфій герояў (вонкавых і ўнутраных) — трымалі чытача ў напружанні да развязкі, якую было вельмі няпроста прадугадаць. «Дэтэктыўны» метад Быкава дае магчымасць па-новаму зірнуць і на сучасную беларускую прозу, якой бракуе быкаўскай недагаворанасці, прыхоўвання дэтэктыўных метадаў у рэалістычнай (ды і мадэрністычнай) манеры.

***«Кнігі Быкава не дзіўна пабачыць чытанымі чалавекам, вольным ад вывучэння ці выкладання нашай літаратуры»***

## Думкі Алесі ЛАПІЦКАЙ

1. Пакуль мне не даводзілася неяк спецыяльна вывучаць беларускую літаратуру гэтага перыяду, таму адказ будзе прыватным меркаваннем чытача. Пачнём з таго, што Васіль Быкаў — пісьменнік лаканічны. Калі казаць пра тэму вайны, то многім аўтарам кшталту Івана Мележа, Івана Навуменкі, Міхася Лынькова даводзілася ствараць вялікія раманы, заснаваныя на рэальных падзеях: яны размаўлялі з прататыпамі будучых персанажаў, наведвалі мясціны, дзе ішлі баявыя дзеянні, працавалі ў архівах. Іх творы атрымліваліся блізкімі да дакументальнай літаратуры ў тым, што вельмі важна было ўзнавіць пэўны шэраг падзей, якія адбываліся з галоўнымі героямі. Мастацкая задача была прадвызначанай і натуральнай: выявіць жах вайны, сцвердзіць веліч народнага подзвігу. Для прозы Быкава ваенныя падзеі — увасабленне жорсткай, бязлітаснай сілы, але яны важныя не як адлюстраванне рэальных фактаў, а як калізіі, канфлікты, перыпетыі, якія змяняюць, раскрываюць героя. І мэта Быкава была не ў тым, каб праз выпрабаванні прывесці герояў да перамогі, да трагічнага ці гераічнага фіналу, а ў тым, каб сказаць штосьці значнае пра чалавека і вайну. Каб паказаць, як чалавек адмаўляецца падпарадкоўвацца злу ці наважваецца на несумленны ўчынак, дастаткова адной падзеі, а не доўгіх прыгод. Да таго ж Быкаў выдатна ўмеў арганізаваць мастацкую прастору твора.

Васіль Быкаў — адзін з самых сур’ёзных беларускіх празаікаў. Калі «Сэрца на далоні» Івана Шамякіна ці «Палеская хроніка» Івана Мележа аптымальна суадносяцца са школьнай праграмай, то кнігі Быкава не дзіўна пабачыць чытанымі чалавекам, вольным ад вывучэння ці выкладання нашай літаратуры. Яго творы часам супастаўляюць з рэчамі, напісанымі Эрнэстам Хемінгуэем, Эрых Марыя Рэмаркам ці Генрыхам Бёлем, і ў гэтым не адчуваецца нацяжкі, бо Быкаў ведаў еўрапейскую літаратуру і арыентаваўся на адпаведны ўзровень (што, на жаль, было актуальна не для ўсіх беларускіх пісьменнікаў).

Наша проза, здаецца, была і ёсць надта канкрэтнай, для яе вельмі важна, што адбываецца тут і цяпер. Калі казаць пра савецкую літаратуру, то ўсе абагульненні звычайна адназначныя і прадказальныя. Праца селяніна цяжкая, селянін любіць зямлю, адбіраць зямлю ў яго няварта, у горадзе без вёскі сумна. Маці чакае сына ў старой хаце адна. Чаму? Што знітоўвае селяніна з яго зямлёй і працай? Чаму па зямлі не дастаткова проста хадзіць, а трэба мець хоць які надзел? Як атрымліваецца, што дзеці пакідаюць дарагую бацькам зямлю і едуць у горад? Чаму, нягледзячы на смутак і жаль, не вяртаюцца ў родную вёску, чаму не робяць яе лепшай і прыгажэйшай за чужы і халодны горад?

Лічаныя пісьменнікі спрабавалі выблытацца з літаратурнага мэйн-стрыму праз уласныя пытанні і адказы, і Быкаў быў адным з іх. За перастрэлкамі, уцёкамі, паліцаямі, вісельняй заўсёды ёсць штосьці большае за мужнасць і гераізм, ёсць нечакана іншае адчуванне жыцця і самога сябе як чалавека. І канкрэтная падзея — толькі нагода, каб выявіць істотнае.

2. Для сучасных пісьменнікаў Васіль Быкаў актуальны як прафесійны аўтар, які пісаў узорную рэалістычную прозу. Калі ў наш час сталы пісьменнік звяртаецца да тэмы вайны альбо калектывізацыі, то канцэптуальны ўзровень аповесцей Быкава павінны быць зыходным — у іншым выпадку праца над тэкстам робіцца непатрэбнай і, натуральна, не адбываецца развіццё літаратуры.

Развагі пра значнасць спадчыны Быкава сёння атрымліваюцца сумнымі: нягледзячы на многія творы, дзе сцвярджаецца гуманізм, а вайна паўстае самай вусцішнай і прынцыпова недапушчальнай праявай, зброя зноў трапляе ў рукі, іншы, нязгодны з табой, зноў робіцца ворагам, не вартым жыцця. Жах, боль, роспач застаюцца за стужкай тэленавін. І ўсё гэта падтрымліваюць і абгрунтоўваюць адукаваныя, здаецца, адэкватныя людзі ў той час, калі вайну яшчэ добра памятаюць. І гістарычны, і чалавечы вопыт, выяўлены ў тым ліку праз літаратуру, зноў робіцца не істотным, усё зноў пайшло не так…

***«У той час, як адны спрабавалі зляпіць бюст савецкага чалавека, а іншыя — беларуса, Быкаў разглядаў чалавека як такога»***

**Канстатуе Настасся ГРЫШЧУК**

1. Першае і адзінае, што прыходзіць на розум, — гэта па-забеларускасць, а тым больш — па-засавецкасць. У той час, як адны спрабавалі зляпіць бюст савецкага чалавека, а іншыя — беларуса, Быкаў разглядаў чалавека як такога. Можна даводзіць, што Сцепаніда — тыповая беларуская жанчына, трывушчая і цягавітая, а Пятрок — тыповы мужчына, нясмелы, нерашучы, адзін з тых лузераў, пра якіх некалі пісала Марыйка

Выбіраць паміж уласнай кашуляй, што блізка да цела, і нечым прыгожым, але такім, здаецца, аддаленым, даводзілася з таго самага часу, як Адам грымнуўся вобзем. І ўчора, і сёння сэнсы, якія «прадукуе быкаўская спадчына», нязменныя

Мартысевіч. Але ці так гэта? Увогуле, усякі народ любіць знаходзіць у сваіх героях нешта тыповае, гэта адзін з метадаў стварэння нацыянальнага міфа і адна з умоў існавання нацыі ўвогуле. Быкаў, вязнучы ў твані душы чалавечай, не хапаўся за савецкія саломінкі і не ратаваўся на купінах беларускасці. Магчыма, у гэтым — разам са славутай праўдзівасцю і строгасцю — і ёсць прычына вялікай папулярнасці прозы Быкава.

2. Не зраблю адкрыцця, калі скажу, што «быкаўская спадчына» — гэта больш, чым проста набор твораў, напісаных у пэўны час і з пэўнымі адметнасцямі. Само імя — «Быкаў» — быццам бы адасобілася ад чалавека і стала сімвалам высокіх паняццяў, якія нашы пацешныя цынікі пераводзяць у разрад архаізмаў: сумленне, годнасць, мужнасць... Канешне, калі пачынаеш разважаць пра такія рэчы, немінуча становішся закладнікам сумніўнага пафасу, а ўсё ж — без гэтага нікуды. І гэта ёсць у Быкава, бо многія яго героі яшчэ тыя нягоднікі ці слабакі. Гэта ўсё да чаго? Выбіраць паміж уласнай кашуляй, што блізка да цела, і нечым прыгожым, але такім, здаецца, аддаленым, даводзілася з таго самага часу, як Адам грымнуўся вобзем. І ўчора, і сёння сэнсы, якія «прадукуе быкаўская спадчына», нязменныя. І самае цікавае, што кожны сам для сябе іх вызначае — у адпаведнасці са сваімі ідэаламі ці іх адсутнасцю.

Зыходзячы са сказанага, пытанне пра актуальнасць вырашаецца само па сабе: пытанні, якія ставіў Быкаў, ставіліся і будуць ставіцца, пакуль існуе чалавек, і адказы, якія пісьменнік спрабаваў даць, будуць заўсёды адны і тыя ж. Карацей, творы Быкава з іх пытаннямі, адказамі і «сэнсамі» такія ж актуальныя, як сам чалавек.

Міхась ТЫЧЫНА

Да юбілею Быкава

# ДВОЙЧЫ ПЕРАЖЫТАЕ

Беларускі пісьменнік Васіль Быкаў, як сведчаць дакументы і абеліск, «забіты і пахаваны» ў брацкай магіле каля вёскі Севярынка Кіраваградскай вобласці ва Украіне. Яго родныя, бацька і маці, брат і сястра атрымалі пахавальную і аплакалі сына. У асабовай справе пісьменніка знаходзіцца кароткі запіс: «Паранены 7.1.1944 пад Кіраваградам і 17.12.1944 пад Секешфехерварам (Венгрыя)». З архіва Міністэрства абароны СССР пісьменніку пасля вайны даслалі даведку: «Адначасова паведамляю, што ў імянным спісе беззваротных страт 399-га стралковага палка за 1943—44 гг. значыцца: «Камандзір стралковага ўзвода лейтэнант Быкаў Васіль Уладзіміравіч забіты 10.1.1944 г., пахаваны на цэнтральных могілках вёскі Вялікая Севярынка Кіраваградскай вобласці».

Як усё было насамрэч, Васіль Быкаў апісаў у аповесці «Мёртвым не баліць» (1965), цалкам пабудаванай на аўтабіяграфічным матэрыяле. Дакладна і падрабязна прадстаўлена ў тэксце тапаграфія: украінскія вёскі Вялікая Севярынка, Іваніўка, Кіраваград. Прозвішча галоўнага героя таксама абрана невыпадкова: Васіль — Васілевіч. Дарэчы, гэты прыём аўтабіяграфізму, які сагравае апавяданне, неаднаразова сустракаецца і ў іншых мастацкіх тэкстах пісьменніка: Васіль Глечык («Жураўліны крык»), Васюкоў («Праклятая вышыня»), Валошын (ад беларускага: валошка — васілёк, «Яго батальён»). Усё пражыта не толькі малодшым лейтэнантам Васілевічам, але і самім Васілём Быкавым. Ён быў цяжка паранены, выпадкова падабраны сваімі, з санчасткі выратаваўся ў апошнюю хвіліну — выпаўз з хаты, якую пратаранілі нямецкія танкі, у момант, калі гусеніцы прапаўзлі па крысе яго шыняля і парвалі яго — паспеў прыбраць ногі... Усё гэта бачыў здалёк яго камандзір, які і паведаміў родным Васіля Быкава пра яго гераічную пагібель.

Пасляваенная літаратура, і не толькі беларуская, вызначалася асабістай праўдай, выпакутаванай тымі, хто непасрэдна ўдзельнічаў у вайне, памятаў абпальваючы позірк яе крывава-чырвонага аблічча. Васіль Быкаў з кагорты тых пісьменнікаў, у творах якіх усё, што называецца, з першых рук, усё здабыта ўласным вопытам воіна, з тых, хто не мог, не меў права пісаць пра вайну і пра салдата паводле чутак альбо па кнігах. Акрамя «пункта погляду Генштаба», заўважаў пісьменнік, «быў і іншы пункт погляду — салдата з заснежанага поля, залітага крывёю і скалечанага гусеніцамі танкаў».

Менавіта пасля аповесці «Мёртвым не баліць», самай аўтабіяграфічнай і трагічнай у творчасці Васіля Быкава, яе аўтар жорстка паставіў пытанне аб альтэрнатыве, перад якой апынулася літаратура пра вайну, якая ўсведамляла сваю гістарычную місію: «...вельмі значнае і, магчыма, самае важнае пра мінулую вайну або будзе сказана ў бліжэйшыя дзесяць-дваццаць год, альбо наогул ніколі не з'явіцца на свет». Літаратура не можа свяціць адлюстраваным святлом. Вайна не тэма, пра якую пісьменнік, калі пажадае, можа пісаць або не пісаць: «...гэта тое, што прайшло праз яго жыццё, што так ці інакш вызначыла лёс яго пакалення, што невыказным болем увайшло ў сэрцы многіх людзей, — тут маўчаць не дазваляе сумленне».

Васіль Быкаў, аўтар вядомых ваенных аповесцей, дзе пераважала патэтыка подзвігу, цікавіўся аднак больш за ўсё ўнутранымі канфліктамі і падкрэслена чалавечымі праблемамі. Героіка, на яго думку, займала на вайне не так шмат месца, як бязмежны трагізм. Тут ужо дзейнічала тое, што пісьменнік называў «сляпой уладай выпадку».

Татальнае ўздзеянне знешніх, незалежных ад чалавека сіл ператварае яго з суб'екта ў аб'ект і патрабуе немагчымага, таго, што звыш яго чалавечых магчымасцей. Аповесць «Мёртвым не баліць» у асаблівай ступені павернута да комплексу чалавечых і грамадскіх адносін, якія моцна ўплываюць на жыццё наступных пакаленняў. З гэтага часу катэгорыя будучыні пачынае займаць усё большае месца ў свядомасці Васіля Быкава. Апавяданне ў яго творы пра мінулае мяжуе, перакрыжоўваецца з паказам самай актуальнай сучаснасці.

«"Мёртвым не баліць", — пісаў Васіль Быкаў, — стараўся як успаміны, там менш за ўсё выдумкі, там амаль усё, што датычыцца сюжэта і абставін, — дакументальна». У творы зададзены такі ўзровень жыццёвай і мастацкай праўды, да якога чытач сярэдзіны XX стагоддзя, а тым больш тагачасны ідэалагічны апарат Краіны Саветаў, не дарослі.

Узнікла дыскусія вакол праблемы «акопнай праўды» і «праўды Генштаба», у якой яшчэ раз сутыкнуліся супрацьлеглыя погляды на мэты і задачы мастацкай літаратуры. Апаненты Быкава замест маштабнасці гістарычнай праўды разважалі пра «маштабы ахопу» падзей і не прымалі трагічнага пафасу быкаўскіх аповесцей. Выхаваныя на нарматыўнай этыцы і эстэтыцы сталінскага перыяду, крытыкі не разумелі быкаўскага максімалізму і быкаўскага рыгарызму ў паказе вайны. «Гаварыць няпраўду пра яе, — сцвярджаў пісьменнік, — не толькі амаральна, але і злачынна як у адносінах да мільёнаў яе ахвяр, так і ў адносінах да будучыні. Людзі зямлі павінны ведаць, ад якой небяспекі яны пазбавіліся і якой цаной дасталося ім гэта вызваленне».

Аўтара аповесці папракалі ў наўмысным згушчэнні фарбаў, у празмерным нагнятанні трагічнага гучання, у прыземленасці паказу і дэгераізацыі персанажаў, у адсутнасці савецкага патрыятызму, нарэшце, у рэмаркізме, а менавіта ў некрытычным перайманні Э. М. Рэмарка. Так нечакана выявілася паўвекавая адсталасць літаратуры сацрэалізму ад вялікай класічнай традыцыі, якая заўсёды лічыла праўду мэтай рэалістычнага мастацтва. Адгукнулася і тагачаснае высакамерна-чыноўніцкае разуменне мастацкай літаратуры як звычайнай партыйнай прапаганды вобразна-ілюстрацыйнымі сродкамі.

На самай справе Быкаў сваёй аповесцю сцвярджаў элементарнае: пісьменнік глядзіць на свет праз прызму чалавечай душы і гібель аднаго чалавека, яго боль і пакуты азначаюць катастрофу сусветнага значэння. «Чалавек — гэта цэлы свет» (вызначэнне класіка беларускай літаратуры Кузьмы Чорнага, дарэчы, выказанае амаль у адзін і той жа час з вядомым афарызмам Эрнэста Хемінгуэя: «Чалавек — гэта цэлы кантынент»). Мастацтва слова валодае сваімі ўласнымі спосабамі асэнсавання рэчаіснасці, і ўся справа ў маштабах і глыбіні праўдзівага паказу.

Назва аповесці «Мёртвым не баліць» змяшчае ў сабе і працяг: «балюча жывым». Баліць душа малодшага лейтэнанта Леаніда Васілевіча. Ён выжыў, сам не верачы, што такое магчыма. На яго вачах гінулі блізкія і дарагія яму людзі, ад нядаўна жывога чалавека не заставалася нічога, што нагадвала б пра яго існаванне. Горш за ўсё, што ў іх гібелі не заўсёды вінавата была толькі вайна. Непад'ёмны цяжар віны ляжыць на сумленні тых, хто браў на сябе адказнасць за зыход бою, не разумеючы яго сутнасці і робячы стаўку на бязлітасныя адносіны да падначаленых, па вялікім рахунку, не давяраючы людзям. Васілевіч — адзін з нешматлікіх ветэранаў вайны, які не забыўся пра найгоршае, хто ўсур'ёз успрыняў словы паэтэсы-блакадніцы Вольгі Бергольц, узятыя на ўзбраенне афіцыйнай прапагандай: «Ніхто не забыты, і нішто не забыта». У рэальнасці, забытыя многія і многае.

Вось чаму слова і паняцце «боль» у частотным слоўніку аповесці, асабліва ў яе фінале, займае надзвычайнае месца.

«Ну, але што ж зробіш! Што мы ўсе тут, у гэтай хаце, можам зрабіць, апроч як трываць свой боль. Хто большы, хто меншы, хто на дзень-два, хто на доўгія месяцы. Апёкі ж будуць балець да самага канца, пакуль не зажывуць — няма горш болю, чым ад апёкаў... Мы тут — суцэльная канцэнтрацыя болю. Як толькі дагэтуль не дадумаліся выкарыстоўваць яго энергію, акумуліраваць, кансерваваць у іншыя віды? Колькі яе, нечалавечай і пакутнай, прападае бясследна ў гэтай вайне! На жаль, цяпер, як

і тысячы год на зямлі, пакуты — асабістая справа кожнага, бескарысная трата вялізных людскіх намаганняў. Таму плач, баец, не саромся».

Боль — гэта не толькі важнейшы біялагічны фактар, які ператварыўся ў працэсе эвалюцыі арганічнага свету ў сігнал небяспекі і забяспечванне захавання жыцця разумнай істоты. Гэта яшчэ і болевы шок, які з цягам часу трансфармуецца ў востры душэўны боль. Размова можа ісці нават пра так званы фантомны боль, калі жывой істоце здаецца, што баліць і ные адсутная ў выніку раны частка цела, нагадваючы пра мінулае і цяперашняе. Герой Быкава, як і сам аўтар аповесці, адносіцца да таго тыпу людзей, у якіх, паводле выказвання эстонскага празаіка Юхана Смуула, нізкі парог адчувальнасці да чалавечага болю, а менавіта наяўнасць востра прыроджанай адчувальнасці да чужога болю.

Размова не пра ворага, які, атрымаўшы паражэнне, адыгрываецца на слабых тылавых месцах: «Не вайна, а расправа». І яшчэ не раз пра тое ж і тымі ж словамі: «Гахаюць выбухі, і танкавыя кулямёты захліпаюцца ў агнявой ярасці. Наўкола крыкі і лаянка. Не, гэта не бой — гэта знішчэнне». Ветэран вайны Кузьміч, былы камандзір штрафной роты, нагадвае і пра больш страшныя страты: «Адзін камплект роты — дзвесце чалавек... Дзвесце памнож на дванаццаць. Дванаццаць разоў фарміраваліся. Не лічачы частковых папаўненняў. Дывізія!»

Размова нават не пра «штабнога камандзіра» Сахно, які ў кожным бачыць шпіёна і дыверсанта, прымушае застрэліцца цяжка параненага малодшага лейтэнанта Юрку Стралкова, сябра Васілевіча па ваенным вучылішчы, вінаваты ў гібелі санінструктара Каці Шчарбенка, якую прымушае ісці па мінным полі, сам жа здаецца ў палон і прыніжаецца перад немцамі, тымі, у чые рукі абяцаў не аддаць ні ў якім разе сваіх падначаленых. Хаця подласць і шкурніцтва Сахно і падобных да яго і ў вайну, і да, і пасля яе занадта дорага каштавала людзям, і гэта цудоўна разумее Васілевіч. Вердыкт, вынесены пісьменнікам гэтым ахоўнікам асуджанай ходам гісторыі сістэмы гвалту і нянавісці да сябе падобных («мярцвяк», «нябожчык», «пракляты рудымент», «змар-

**Свет, які разрываецца на часткі паміж дабром і злом, лічыў Васіль Быкаў, чакае «не элегічных песняспеваў, а лекара і выратоўцу»**

нелы без людской крыві клоп»), змяшчаў канстатацыю палітычнага і маральнага банкруцтва пароды «новых людзей», якія звыкла лічаць сябе правільнымі і ў новых умовах імкнуцца да рэваншу, увасобленай у вобразе Гарбацюка.

Прырода душэўнага болю, ад якой не можа пазбавіцца Васілевіч, больш глыбокая і складаная. У ёй, у адрозненне ад фізічнага болю, сканцэнтраваліся ўсе супярэчнасці ў сучасным свеце, перарослыя ў драматычны канфлікт: «Праўда, тут вайна. Вялізная, лютая, небывалая на зямлі вайна. У ёй сам д'ябал з богам самым старанным чынам усё пераблыталі. Ніводная заканамернасць тут не з'яўляецца правілам. А самая недарэчная выпадковасць часам робіцца табе лёсам. Разбярыся, што тут надзейна і пастаянна? І нязменна!»

Надзейны, пастаянны і нязменны на вайне, і, як неўзабаве выявілася, пасля вайны, толькі адзін боль. Менавіта боль не дазваляе ўзвысіцца над падзеямі, разважаць пра «маштабнасць ахопу»: «Пэўна, я мог бы штось зразумець, каб не такія пакуты. Боль мне не дае ні аб чым думаць. Ён адбірае сілы. Слабасцю захлынаецца маё сэрца». І яшчэ пра тое самае: «Пакуты робяцца звыш маіх сіл. Я нават не ведаю, дзе і што мне баліць. Боль самаўпраўна гаспадарыць ва ўсім целе, невядома чаго дамагаючыся. Я вельмі зайздрошчу Юрку. Яму не баліць. Ён пераступіў свой апошні рубеж...»

Бессэнсоўна, у выніку нечага недагляду, злачыннай памылкі, гінуць сябры Васілевіча. Бязглуздзіца нагрувашчваецца на такую ж ці яшчэ большую бязглуздзіцу, а ў выніку ездавы Хусаінаў, для якога «куча вашывых ануч» важней за жыццё параненых, страляе ў старшыну, які ўстаў на абарону людзей: «Сапраўды, гэта жахліва: свой — свайго! За што, падумаць толькі!» Палонны немец Энгель страляе з карабіна па нямецкіх жа самалётах, а Васілевіч, схільны

нават у непрадбачаных умовах да самакантролю, ловіць сябе на думцы, што ўжо як бы згадзіўся з пагібеллю свайго сябра Юркі Стралкова і міжволі ўздрыгвае ўнутрана ад падобнага адкрыцця сябе самога. У гэтым свеце ўсё пераблыталася, ператварылася ў сваю супрацьлегласць.

Аднак менавіта тады, калі здаецца, што нічога горшага не здарыцца, бо ўсё дайшло да такога краю, адбываецца нешта такое, што не ўкладваецца ў свядомасць. На мінным полі, куды група байцоў трапіла па віне Сахно, які ад страху не можа скеміць, што робіць, падрываецца і памірае пакутлівай смерцю Каця Шчарбенка, дзяўчына, не дужа прыгожая, якая хавае сваё спачуванне да параненых за вонкавай грубасцю і рэзкасцю, і тым выклікае да сябе сімпатыю: «І тут я разумею: яна памрэ! Але гэта дзіка, гэта жахліва! Гэта злачынна і ненатуральна: чаму гіне дзяўчына, калі мы, трое мужчын і салдат, застаёмся жывыя?»

І ў гэтых, і ў іншых выпадках герой Быкава сутыкаецца з поўнай бяссэнсіцай, растлумачыць якую немагчыма, бо ён жыве і дзейнічае ў свеце абсурду. Васілевіч спрабуе неяк адолець навакольны абсурд і ўтаймаваць стыхію хаосу, і гэта цалкам адпавядае яго чалавечай прыродзе і светламу розуму. Сахно ж, не ўсведамляючы сваёй разбуральнай дэструктыўнай ролі, здаецца, робіць усё дзеля таго, каб павялічыць энтрапію ў свеце і паскорыць працэс распаду асобы: «Я выконваю загад. У арміі палагаецца выконваць загады. Апроч, як праз міны, дарогі ў нас няма. Немцам жывымі я вас не пакіну». Сахно і ў гэтай дзікай сітуацыі, дзе небяспека размеркавана на кожнага пароўну, спрабуе выгадаць, адпраўляючы па мінным полі то аднаго, то другога з малодшых па званні. «Адзінае, чаго сапраўды дасягло ваеннае (у тым ліку і партыйнае) кіраўніцтва ў час вайны, — робіць вывад В. Быкаў, — дык гэта ў безагляднай патрабавальнасці, якая нярэдка даходзіла да сляпой жорсткасці. Менавіта яна, гэтая жорсткасць, была адной з галоўных прычын нашых нябачаных у гісторыі страт, калі жыццё салдата каштавала менш за цынкавую скрынку вінтовачных патронаў...»

Аповесць «Мёртвым не баліць» нагадвае, як цяжка здзяйсняецца ў свеце накапленне чалавечнасці і як хутка можа быць зруйнавана дасягнутае крывавай цаною: «...воля і мір — занадта кволыя дрэўцы, каб іх можна было вырасціць без усеагульнага клопату ўсёй трохмільярднай сям'і. Занядбанне гэтым урокам каштавала б зямной катастрофы».

У пасляваенных развагах Васілевіча шмат публіцыстычнага пафасу і страсці сцвярджэння гуманітарных каштоўнасцей. Адсюль — падкрэслена-асабістая танальнасць апавядання, яго перарывістасць і рух сюжэта «квантамі» разрозненых эпізодаў як аўтарскі спосаб перадаць «стракатасць» і «адрывістасць» самога жыцця. Аўтар, захоплены жаданнем выказацца як мага паўней, час ад часу дагаворвае шмат што за свайго героя і ўступае ў адкрытую палеміку з магчымымі апанентамі.

«Вайна, — пафасна сцвярджае аўтар, — перад усім светам пацвердзіла нашу магутнасць і многім раскрыла вочы на нашы хібы. У сорак пятым мы не толькі здабылі перамогу. За чатыры гады вайны мы, як ніколі, згуртаваліся ў адно цэлае і ўбачылі, на што з немагчымага мы здольныя. Дух свабодалюбства і непадлегласці злу здабыў сабе ў той барацьбе магутныя крылы. Я веру, яны не апусцяцца». Ветэран вайны Васілевіч, якога Сахно і Гарбацюк лічылі «ротным Ванькам», здольным хіба толькі падпарадкоўвацца, нясе ў аповесці менавіта гэты дух супраціўлення і адстойвання сваёй чалавечай годнасці ў любых грамадскіх умовах.

Выпадак выключны, магчыма, нават унікальны, калі адзін з многіх, хто зведаў, што такое вайна «ў яе крывава-пачварным аблічы», так небывала абвострана ўспрымае падзеі і так хваравіта рэагуе на магчымыя наступствы людской забыўлівасці. Вось чаму мы бачым героя аповесці ў яе фінале перад вітрынай кнігарні, дзе сярод велізарнага мноства кніг, якія сканцэнтравалі эмоцыі, страсці, развагі і надзеі ўсіх часоў і народаў, павінна быць кніга, якая перадае яго боль і яго памяць.

Свет, які разрываецца на часткі паміж дабром і злом, лічыў Васіль Быкаў, чакае «не элегічных песняспеваў, а лекара і выратоўцу».





# РОЗГАЛАС ДЛЯ ГОЛАСУ

***«Так і выйдзеш да публікі — у красоўках! Не забудзься змяніць абутак! — маладая класная кіраўніца, замілавана ўсміхаючыся, паглядае на сваіх выхаванцаў. — Хвалююцца хлопцы, дый я за кампанію. Прыйшла „пахварэць“. Гляджу на іх і дзіўлюся: не мітусяцца, у калідорах не шумяць; твары натхнёныя, вочы ззяюць, валасы — як сабалінае футра, манеры шляхетныя! А штодня дык проста свавольнікі: дзеці ж ёсць дзеці, нават калі гэта высакарослыя старшакласнікі». Што ж, тут усё па-даросламу: гальштукі-«матылькі», урачыстыя канцэртныя гарнітуры, якія і пасуюць кожнаму, і дысцыплінуюць, і настройваюць на сур'ёзны лад. А галоўнае, адказная і строгая атмасфера самой падзеі — Рэспубліканскага конкурсу юных вакалістаў імя Фёдара Шаляпіна.***

## ЧАС КЛАСІЧНЫХ «МАТЫЛЬКОЎ»

Творчае спаборніцтва для хлопчыкаў і юнакоў, якія займаюцца акадэмічнымі спевамі, трэці год запар ладзіў Беларускі саюз музычных дзеячаў пры ўдзеле сваіх творчых падраздзяленняў і Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Яго заключны тур сабраў у Мінску канкурсантаў ва ўзросце дзевяці — васямнаццаці гадоў, прадстаўнікоў розных рэгіёнаў краіны. Іх падтрымлівалі родзічы, педагогі, сябры і людзі зусім староннія, але да музыкі неабыякавыя. Зрэшты, каго не прыварожыць тая дзівосная рэальнасць, што нараджаецца ў конкурснай атмасферы! Гадзіны ляцяць незаўважна, калі твае зрок, слых, душа настройваюцца на творчае суперажыванне. Ты прыкмячаеш, як падчас выступлення хлапчука энергічны педагог, «злавіўшы» позіркам вочы свайго гадаванца, пасылае яму эмацыянальны імпульс, нягучна і выразна, нібы суфлёр, дэкламуючы кожны нумар праграмы. Або як усхваляваная маці шукае, дзе б лацвей прыткнуцца са штатывам для відэакамеры, а бабуля ўжо ў зале папраўляе каўнерык ўнукавай кашулі ды непаседлівы «матылёк». У кожным выступленні ты бачыш маленькае адкрыццё і стараешся запомніць імя новай іскрынкі, а, можа, і зорачкі.

У чысціні юных галасоў люстраваліся радкі Багдановічавай «Зоркі Венеры», ужо неадлучныя ад рамантычнай мелодыі Сымона Рак-Міхайлоўскага; узнёслы дух малітвы «Ave Maria» (кананічныя творы заходнееўрапейскіх кампазітараў-класікаў, сучасная версія Ігара Лучанка); акапэльная празрыстасць нашай «Рэчанькі»; песенная лірыка Юрыя Семянякі; вытанчанасць старадаўніх арый; пранізлівая памяць хатынскіх званоў; шчырасць украінскіх народных песень і класічных рускіх рамансаў...

## СЕРБСКАЯ МАГІЯ

Журы, якое ўзначальваў заслужаны артыст Беларусі, лаўрэат міжнародных конкурсаў і самага першага Усесаюзнага конкурсу імя Ф. Шаляпіна, старшыня Шаляпінскага таварыства Беларусі Алег Мельнікаў, вызначыла 16 лаўрэатаў. Дыпломамі I ступені ў розных узроставых групах узнагароджаны вучні Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Мікалай Мінянкоў (педагог Вікторыя Навіцкая), Стэфан Казакевіч і Уладзіслаў Барткевіч (абодва — выхаванцы педагога Ганны Емяльянавай). Сёлета была ўведзена новая намінацыя: «Лепшы канцэртмайстар конкурсу». Гэта слушнае дапаўненне, бо ад прафесіяналізму акампаніятара, ад яго чулай партнёрскай падтрымкі залежыць поспех выступлення саліста. І як лепшага канцэртмайстра журы ўзнагародзіла дыпломам Уладу Шацкую — цудоўную піяністку, якая тонка дапамагала многім юным спаборнікам настроіцца на пэўны эмацыянальна-вобразны лад і годна выканаць праграму.



*Мілан Мілівоевіч — уладальнік Гран-пры.*

Гран-пры атрымаў Мілан Мілівоевіч, навучэнец Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. Глінкі (яго педагог — заслужаны артыст Беларусі Леанід Нікольскі). Уладальніку цудоўнага голасу і такога мілагучнага імя ўручылі памятную вазу, каштоўны набор паштовак з рэпрадукцыямі малюнкаў Ф. Шаляпіна, аўдыядыск «Сусветная опера». А вось кніга-бестселер «Шаляпін супраць Эйфелевай вежы» сталася для сёлетняга лідара турніру юных вакалістаў сапраўды містычным сюрпрызам.

Унікальная манаграфія, прысвечаная жыццю, творчасці, мастацкаму светапогляду легендарнага Шаляпіна, выйшла ў мінскім выдавецтве «Чатыры чвэрці» ў перакладзе на рускую. Яе аўтар — сусветна вядомы сербскі співак і пісьменнік Браніслаў Яціч яшчэ летась, калі прыязджаў у Беларусь на прэзентацыю кнігі, пакінуў у некалькіх асобніках аўтографы з пажаданнямі лаўрэатам нашых наступных шаляпінскіх конкурсаў. Гэтыя фаліянты захоўваліся ў офісе БСМД, чакалі сваіх прызёраў. І хто б мог прадбачыць нейкае чарадзейства? Містычным чынам кніга сербскага спевака трапіла да пераможцы, які аказаўся, паводле нацыянальнасці свайго бацькі, — сербам!

Цырымонію ганаравання лаўрэатаў, якая адбывалася ў сталічнай філармоніі, вянчаў гала-канцэрт. Аснову яго разнастайнай праграмы склалі яркія нумары конкурснага фіналу. А своеасаблівай уверцюрай прагучала выступленне пераможцы спаборніцтва 2013 года — вучня Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі Уладзіслава Вітушкі. Ён саліраваў з Канцэртным хорам Асацыяцыі кіраўнікоў хароў хлопчыкаў і юнакоў (кіраўнік хору Анатоль Варлахін, канцэртмайстар Ірына Калеснікава, дырыжор Лізавета Папова), праспяваў таксама раманс «Шумныя бярозы» Рыгора Пукста на верш Янкі Купалы.

Дарэчы, беларуская песенная класіка ды сучасныя творы айчынных аўтараў надалі адметнасць канцэрту. Трапяткая «Бярозка» (І. Лучанок — А. Вялюгін) у выкананні лаўрэата мінулага конкурсу Глеба Данілава. Лірычны шэдэўр «Явар і каліна» (Ю. Семяняка — Янка Купала) ад юнага сэрца лаўрэата пяці рэспубліканскіх конкурсаў, вучня мінскай СШ № 159 Цімура Курбатава (педагог Ірына Мілічэнка). Актуальны матыў «Не бывае неба лепшага» (А. Атрашкевіч) з рэпертуару вучня Навадворскай СШ Мінскага раёна Ільі Куцішчава (педагог Уладзімір Куксянкоў). Трэба было і слухаць, і глядзець, як спраўна косіць «Сена маладое» (музыка Алега Чыркуна, верш Валянціна Мысліўца) самы маленькі, 10-гадовы лаўрэат Ягор Тамела. У таленавітага вучня (Рэспубліканская гімназія-каледж пры БДАМ, педагог В. Навіцкая) даволі ўражлівы, каб не сказаць зорны, пачатак сольнай кар’еры. Апроч дыплома ІІ ступені сёлетняга шаляпінскага конкурсу ён мае званне лаўрэата пяці міжнародных творчых турніраў, сярод іх — «Славянские встречи», дзе Ягор заваяваў Гран-пры...

На завяршэнне вялікай праграмы прагучаў маляўнічы і пранікнёны голас уладальніка Гран-пры Мілана Мілівоевіча: прыгожая і тужлівая беларуская народная песня «Ой, сівы конь бяжыць» ды італьянская класіка — «Pueta singore» А. Страдэлы.

## ПЕРАЗАГРУЗКА?

Ёсць пераможцы, ды няма пераможаных: конкурс узбагачае духоўным, творчым, прафесійным досведам, адорвае радаснымі эмоцыямі ўсіх, каму выпадае трапіць у хвалю яго пазітыўнай энергіі. Ён сцвердзіў сябе як важная акцыя, скіраваная на выхаванне высокай культуры і мастацкага густу ў новага пакалення, на захаванне традыцый беларускага вакальнага выканальніцтва хлопчыкаў, папулярызацыю класічнай музыкі ў асяроддзі дзяцей і падлеткаў. Ён стымулюе любоў да айчыннага і сусветнага мастацтва. Спрыяе стасункам калег, абмену

досведам паміж выкладчыкамі. А яшчэ яго арганізатары рупяцца пра падтрымку маладых талентаў. Уладальнік Гран-пры мінулага Рэспубліканскага спаборніцтва Уладзіслаў Вітушка ў тым самым 2013 годзе быў накіраваны на Міжнародны конкурс вакалістаў імя Ф. Шаляпіна ў Ялту (Крым). І там наш паспяховы саліст заваяваў званне лаўрэата І ступені.

А далей — абнаўленне! Ідэя змяніць фармат спаборніцтва лунала ў яго кулуарах яшчэ летась. І вось вырашана: штогадовы рэспубліканскі спеўны турнір адыходзіць у гісторыю, творчы іспыт юных шаляпінцаў будзе ладзіцца раз на два гады і ўжо як міжнародны, каб кола ўдзельнікаў павялічвалася і новыя галасы атрымлівалі шырэйшы розгалас. Багаты досвед, годны ўзровень арганізацыі трох конкурсаў дазваляюць правесці адэкватную «перазагрузку» праекта.

Зразумела, для самых маленькіх удзельнікаў такі конкурс — акенца ў сур'ёзнае мастацкае жыццё, для старэйшых — прыступка да прафесіі. Але як бы ні склаўся іх лёс, можна не сумнявацца: высокая музыка ўжо ніколі не пакіне душы тых, каму ў юныя гады пашчасціла прытуліцца да яе і сэрцам, і думкай, і голасам.

***Святлана БЕРАСЦЕНЬ,***
***фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ***

## ПАРТНЁРЫ-ІНФА

### OPEN-AIR «КІНЯМО»

Слова «сінема» знаёмае ўсім. А што значыць «Кінямо»? Гэта — назва мастацкага свята, што ўжо другое лета запар разгортваецца ў сталіцы. Яго ладзіць Асацыяцыя маладых беларускіх кампазітараў БСМД разам з Мінгарвыканкамам, Мемарыяльным музеем-майстэрняй З. І. Азгура, «Кінавідэапракатам» і праектам «Cinemascope». Другі open-air фестываль нямога кіно і сучаснай музыкі «Кінямо» працягваецца з 19 чэрвеня па 17 ліпеня. Кожны чацвер з 21.30 на свежым паветры ва ўнутраным двары музея дэманструюцца нямыя стужкі пачатку XX стагоддзя. Суправаджае паказы жывая музыка, напісаная маладымі беларускімі аўтарамі адмыслова для гэтай нагоды. Сярод іх — Кацярына Матох, Максім Круглы, Андрэй Цалко, Ягор Забелаў, Вольга Падгайская, Канстанцін Яськоў, Алена Гуціна ды іншыя. Фэст завершыцца марафонам кароткаметражных фільмаў пад музыку беларускіх гуртоў.

### ПРАВІЛЫ ДЫХАННЯ ETC.

Якія 10 асноўных правілаў дыхання? Чаму ад практыкаванняў няма куды дзецца? Што значыць самакантроль падчас ігры? Адказы на многія пытанні, актуальныя для маладых музыкантаў-кларнетыстаў, усемагчымыя парады, рэкамендацыі, творчыя сакрэты ад прафесіянала з багатым досведам ёсць у кнізе «Майстар-клас прафесара У. Скараходава». Гэта паглыблены працяг папярэдняй працы выдатнага беларускага педагога — «Майстэрства кларнетыста. Парады настаўніка». Новую кнігу Уладзімір Скараходаў прысвяціў сваім вучням і вядзе на яе старонках сур'ёзную і па-сяброўску шчырую, захапляльную, творчую размову. Адрасаваны «Майстар-клас...» даволі шырокаму колу музыкантаў: тым, хто яшчэ вучыцца, хто выкладае і займаецца выканальніцкай дзейнасцю. А развагі майстра пра музыку ў сённяшнім свеце вартыя ўвагі самых розных чытачоў.



Рубрыка гістфакаў краіны

# «ПРЫШЛІЦЕ МНЕ ПАСЛЯ ІГОЛКУ З НІТКАЙ — ГІМНАСЦЁРКУ ПАРВАЛА»

***«Добры дзень, шаноўная рэдакцыя!***

***Дасылаю вам матэрыялы нашых студэнтаў 3-га курса спецыяльнасці «Інфармацыя і камунікацыя» факультэта гісторыі, камунікацыі і турызму. Вельмі хацелася б надрукаваць на старонках вашага часопіса гэтыя творчыя рэпартажы. Яны прысвечаны ўшанаванню ў фармаце «Рэтрагісторыя» 90-гадовых ветэранак Вялікай айчыннай вайны. Надзвычай удзячныя будзем вам я і мае дзяўчаты-студэнткі, бо не перадаць, як свяціліся вочы гэтых маладых асоб, калі распавядалі яны пра сваіх ветэранак, як захоплены былі іх рамантычным максімалізмам...***

З павагай,
Аліна Эдмундаўна Сабуць,
дацэнт кафедры
беларускай літаратуры
ГрДУ імя Янкі Купалы,
член Саюза пісьменнікаў
Беларусі».

***ЭСЭ ПЕРШАЕ***

*«Гартаць старонкі мінулага іншага чалавека аказалася справай няпростай, але такой патрэбнай, такой неабходнай. Каб спаўна ўсвядоміць подзвіг нашых бабуль і дзядоў. І толькі цяпер я зразумела, што жыццё чалавека вымяраецца не колькасцю прамільгнулых гадоў, а колькасцю маршчынак на твары. Яны могуць многае нам адкрыць-распавесці. Трэба толькі пажадаць».*

Дзіяна БАРАНОЎСКАЯ

## З ВЯЛІКАЙ ЛІТАРЫ, З ВЯЛІКІМІ ВАЧЫМА

***Прысвечана Антаніне Дзмітрыеўне Зобнінскай***

*Дзявочае сэрца ў хвіліне так важнай*
*Ад жаху мацней не заб'е,*
*А буду не менш за цябе я адважнай,*
*Каб сілы дадаці табе.*

Ларыса Геніюш





Вочы могуць многае паведаміць — трэба толькі зазірнуць у іх. Нібы пара ласкавых цёплых агеньчыкаў, яны растапілі маё сэрца… яе дзявочыя вочы. О, гэта сапраўды так, я не памылілася — дзявочыя, юнацкія, маладыя, але ніколі — стомленыя, сумныя, старыя. Яны бываюць зялёным лісцем, блакітным небам, талым снегам і зямелькай-карміцелькай, заўсёды і назаўжды беларускай. Яны адны, але іх шмат. Кожны па-асабліваму ўспрымае іх нястомную моц. Колькі жудаснага ўбачылі яны, нам і не снілася. Але, нягледзячы на тое,

Антаніна Дзмітрыеўна, зноў і зноў дорыць сваю любоў, мацярынскі клопат і добразычлівасць.

Вось і цяпер жыццярадасная гаспадыня ветліва сустрэла нас на парозе сваёй хаты. Ужо праз хвіліну мы ў цёплым, утульным пакоі. Гэта нібы напамін пра дзяцінства: надзвычай прыемны пах шчасця і адчуванне таго, што бабуля — гэта твой галоўны скарб. Яе добрыя рукі, якія калісьці былі чароўным эліксірам для разбітых каленак, яе чулае сэрца — крыніца пяшчоты і глыбокай любові да ўсяго чалавечага. Бабуля частавала мяне смачнымі наліснікамі з грыбамі, капустай ці тварагом… У кожнага з нас яна — бабуля — была, ёсць і будзе.

І ў гэтай кватэры пад нумарам 72 жыве ЗАКАХАНАЯ Ў ЖЫЦЦЁ БАБУЛЯ. Высокі ложак займае палову пакоя, прыгожая кніжная шафа зачароўвае шматлікай колькасцю рознакаляровых томікаў, а мяккі пуфік так і запрашае прысесці ды паслухаць гісторыю дзіўных старонак жыцця яго ўладаркі.

Мае рукі самі цягнуліся да алоўка, яны фіксавалі кожнае сказанае слова. Так і пачалася Яе гісторыя пра мінулае.

Стрэльна, сядзіба Пятра Вялікага, калісьці там была школа. Вось стаіць яна, маладзенькая Тонечка, і задумліва глядзіць на сняжынкі за акном. Потым вучні з настаўнікамі пабеглі па снезе глядзець на адважных мараплаўцаў. Было вельмі марозна, але жаданне ўбачыць герояў усё пераадолела.

У 1937-м памёр тата, і яны засталіся з мамай адны. Тады яшчэ зусім юная Антаніна пайшла на завод. Працаваць было цяжка, але моладзь нічога не баялася, нават працы. 8 верасня пачалася блакада Ленінграда. Валяліся забітыя коні, машыны. Людзі — таксама… Ідзеш — чалавек ляжыць скурчаны, у нязвыклай позе, яго ўжо нават снегам замяло, і разумееш, што ён ніколі больш не расплюшчыць вочы. Зіма 1941-га і вясна 1942-га — самыя марудныя былі. Налёты, абстрэлы. Чалавек жыў адным днём, таму што не ведаў, ці будзе для яго «заўтра». Але кожны хацеў прачнуцца, кожны хацеў жыць. Верылі ў перамогу: немцу ніколі не быць каля сцен Ленінграда. Многія гінулі, многіх забівалі, але не здаваўся ніхто. Паміралі са словамі на вуснах: «Не здавайцеся, людзі!».

**Рукі самі цягнуліся да алоўка, яны фіксавалі кожнае сказанае слова. Так і пачалася Яе гісторыя пра мінулае. Стрэльна, сядзіба Пятра Вялікага, калісьці там была школа**

…Медаль «За абарону Ленінграда» не дае забыць суровыя гады маладосці. У 1946-м маладая Антаніна паехала аднаўляць пасляваенны Гродна. Ужо тут яна скончыла педвучылішча, педінстытут, а затым і рэспубліканскую партыйную школу.

Пётр Машэраў, Аляксандр Аксёнаў, Леанід і Марыя Кляцковы, Сяргей Кабяка, Алена Карбышава — кожны з іх у розны час адыграў важную ролю ў жыцці Антаніны Дзмітрыеўны як камсамольскага і партыйнага работніка. А. Д. Зобнінская працавала другім сакратаром гаркама камсамола, сакратаром абкама ЛКСМБ па школах. З 1962-га па 1980-ы яна — сакратар Гродзенскага гаркама партыі. Усе гэтыя гады клапатлівая жанчына старанна займалася жыццём горада. Адукацыя, медыцына, культура, пытанні прапаганды і агітацыі — няма нічога, пра што б яна не ведала. Кожны дзень яна спяшалася ў школы і бальніцы, цікавілася, як жывецца людзям, як вырашаюцца бытавыя пытанні працаўнікоў шматлікіх прадпрыемстваў. Мацярынскі клопат, ветлівасць і адказнасць згадваюць многія яе былыя студэнты і супрацоўнікі. Антаніна Дзмітрыеўна была ў ліку стваральнікаў гарадскога савета ветэранаў, узначальвала жансавет горада. Па сённяшні дзень яна па меры магчымасці прымае ўдзел у грамадскай працы ветэранскай арганізацыі. Яе жыццё б'е ключом — і гэта не цуд. «Жыццё ў руху» — галоўны дэвіз Антаніны Дзмітрыеўны. І толькі трохі сумныя вочы адлюстроўваюць трагічнае мінулае. Ёй і цяпер здаецца, што ўсё было толькі ўчора… Але час бяжыць, і пражытыя гады ляцяць, як жалуды ў траву. Іх не спыніць.

Дзякуй Вам, Антаніна Дзмітрыеўна, за бясцэнны падарунак нам, нашчадкам, — неба блакітнага колеру. Нізкі Вам паклон, ЖАНЧЫНА З ВЯЛІКАЙ ЛІТАРЫ, З ВЯЛІКІМІ ВАЧЫМА!

***ЭСЭ ДРУГОЕ***

*«Магчыма, мы — апошняе пакаленне, якое мае ўнікальную магчымасць пачуць гісторыю вайны з першых вуснаў. Нядаўна мне пашчасціла пагутарыць з ветэранам Вялікай Айчыннай вайны, 90-гадовай юбіляркай Валянцінай Пятроўнай Баранавай».*

Аляксандра ГАЛАВАЧ

## ТАКІ БЯСКОНЦЫ ПАЗІТЫЎ

***Прысвячаецца***
***Валянціне Пятроўне Баранавай***





Ішла ў госці да Валянціны Пятроўны і, вядома, хвалявалася. І да чаго ж была здзіўлена, калі мяне сустрэла маладжавая, падцягнутая жанчына.

Наша гераіня нарадзілася 8 лістапада 1923 года ў вёсцы Вялікая Ніцма Мінусінскага раёна Краснаярскага краю. Большую частку дзяцінства правяла ў старадаўнім Мінусінску. У 1930-м сям'я пераехала ў Абакан, тады яшчэ малады, толькі адноўлены горад. Там Валянціна скончыла школу. Дарэчы, у школьныя гады марыла пра музыку, але гэтыя мары не маглі спраўдзіцца, бо чарговым захапленнем сталі танцы. Яркімі ўспамінамі праз гады сталі таксама і любімыя дзіцячыя гульні ў двары гарачым летам, і пасвячэнне ў акцябраты: «Я нават цяпер успамінаю вогнішча, як мне павязалі чырвоны гальштук і працягнулі канцы праз кантакт, з выявай факела...»

Школьныя гады праляцелі, і 21-га чэрвеня 1941 года клас тады юнай Валянціны прыйшоў на выпускны вечар, які запомніўся ёй, як і любому выпускніку. Яны дзяліліся думкамі пра вучобу ва ўніверсітэце або тэхнікуме, пра будучую працу. Хлопцы марылі пра гераічныя прафесіі: хтосьці марыў стаць лётчыкам, хтосьці — мараком і нават геолагаразведчыкам. На маё пытанне, чаму ўсе выбіралі гераічныя прафесіі, Валянціна Пятроўна няспешна адказала: «Час быў такі, гэта нас захапляла…» Ніхто з іх нават не здагадваўся, што дакладна чакае наперадзе. А наступная раніца азмрочылася паведамленнем пра пачатак невядомай і нязведанай, страшнай вайны.

Прайшло каля трох дзён, пакуль апамяталіся, а потым усім класам прыйшлі ў ваенкамат. Позву Валянціне Пятроўне выслалі не адразу: перш чым гэта адбылося, ёй давялося прыйсці ў ваенкамат яшчэ не раз. Толькі ў 1942-м, пасля чацвёртай спробы яна змагла адправіцца на фронт. На маё пытанне, ці не было страшна ісці на вайну — у пекла — такой маладой дзяўчыне, Валянціна Пятроўна запэўніла: «Ісці на фронт было нястрашна, мы былі так выхаваны...»

З Абакана акрамя Валянціны Пятроўны на фронт ехалі яшчэ дзве дзяўчыны. Па прыездзе ў Краснаярск трапілі ў каранцін. «Калі каранцін закончыўся і нас выпусцілі, мы выйшлі, а на вуліцы так светла, так грэе-расслабляе сонца… Нам адразу ж выдалі новенькую ваенную форму. А потым — прысяга…»

Далей пачалося бесперапыннае, мэтанакіраванае навучанне майстэрству перадачы паведамленняў па апараце Морзэ. Сама вучоба была складанай і напружанай, але за паўтара месяца ўсе бездакорна авалодалі тэхнікай працы. Пасля іспыту — размеркаванне па воінскіх часцях: Валянціну размеркавалі ў 63-і асобны батальён сувязі, які фарміраваўся для 34-га гвардзейскага стралковага корпуса III Украінскага фронту.

У красавіку 1943-га Валянціна з таварышамі адправілася ў горад Старабельскі. Дарога запомнілася

доўгай і цяжкай, шлях заняў 41 дзень. Дзесьці заміналі маразы, а дзесьці — варожая авіяцыя. Па прыездзе чакала яшчэ адна дарога, але ўжо пешшу. За ноч салдатам трэба было прайсці больш за 30 кіламетраў. Ішлі дзве ночы запар. «41 дзень без руху — і адразу прайсці цэлыя 75 кіламетраў, і менавіта ноччу. Таму што лютавала нямецкая авіяцыя, якая ганялася нават за адным чалавекам».

Па прыбыцці на месца пачалася сапраўдная ваенная служба. Першая спроба працы з апаратамі Морзэ ў спецыяльна абсталяваных бліндажах. Службу неслі ў тры змены, часу на асабістае практычна не хапала, таму яго маглі выкройваць толькі з начной змены. Як пераканала Валянціна Пятроўна, «вайна вайной, а каўнерык прышыць трэба». Шчыра прызнацца, мне надоўга пасля запалі гэтыя быццам звычайныя, але такія ўражлівыя «каўнерык» і «трэба». Якія ж далёкія мы сёння ад гэтага і да гэтага…

Больш за ўсё Валянціне Пятроўне запомніўся трэці дзень па прыездзе. Тады прыйшоў камандзір корпуса і даў заданне падрыхтаваць канцэрт. А ў роце сабралася шмат таленавітых хлопцаў і дзяўчат. «Менавіта такія рэдкія моманты і застаюцца ў памяці». Але ж сіламі 34-га гвардзейскага стралковага корпуса былі вызваленыя такія гарады, як Славянск, Днепрапятроўск, Запарожжа, Нікалаеў, Харкаў, Адэса. У складзе Першага Украінскага фронту Валянціна Баранава прымала ўдзел у вызваленні Польшчы, Усходняй Германіі, Чэхаславакіі. «Па просьбе чэхаславацкіх улад наш корпус быў накіраваны на дапамогу Празе. Гэта была цяжкая бітва, шмат нашых там загінула, але Прагу мы адстаялі. Там і сустрэлі Перамогу! Сустракалі пазнаму: і плакалі, і смяяліся, хто шапкі кідаў, салдаты стралялі».

Валянціна Баранава ўзнагароджана ордэнам «Чырвонай Зоркі», медалямі «За баявыя заслугі», «За вызваленне Прагі», «За вызваленне Украіны» і многімі юбілейнымі медалямі.

Пасля вайны жыццёвы шлях прывёў нашу гераіню ў Гродна, дзе яна паступіла ў вячэрнюю музычную школу і ажыццявіла сваю даўнюю мару: навучылася граць на фартэпіяна, закончыла вячэрнюю музычную вучэльню. Пасля была праца загадчыцы студыі і выкладчыка ігры на фартэпіяна, музычнага кіраўніка ў дзіцячым садку, куратара і выкладчыка ў музычным вучылішчы ажно 25 гадоў.

Сёння Валянціна Пятроўна працягвае актыўны лад жыцця. Яна з'яўляецца старшынёй Савета ветэранаў пры ЖЭС № 5 горада Гродна. Спявае ў гродзенскім хоры ветэранаў вайны і працы. З задавальненнем працуе на лецішчы, скончыла нядаўна камп'ютарныя курсы для пенсіянераў.

За некалькі гадзін размовы я пачула не толькі шмат жыццёвых гісторый і ваенных прыгод, але і песні, і музычныя творы ў яе выкананні. Такі бясконцы пазітыў чалавека, які прайшоў праз жах вайны, не можа пакінуць абыякавым нікога. І я — не выключэнне.

***ЭСЭ ТРЭЦЯЕ***

*«Кожны з маленства ўсведамляе, што вайна — гэта жудаснае пекла. Удзельнікі вайны не могуць забыць пра яе таму, што ўсё гэта адбывалася на іх вачах, усё гэта прымусіла ласкавыя жаночыя рукі трымаць зброю…»*

Вольга ГАЕЛЬ

**ЗАСТАВАЛІСЯ МЭТАНАКІРАВАНЫМІ**

***Прысвячаецца Галіне Якаўлеўне Пруднікавай***





Ветэраны — сведкі, людзі, ад якіх можна даведацца, што такое вайна. Але мы, сучаснікі, ніколі не зможам цалкам зразумець іх пачуцці і эмоцыі, жаданні і перажыванні. Гераіня майго аповеду — Галіна Прyднікава (Мардвінава) — да вайны працавала наборшчыцай у друкарні. На пачатку 1942-га друкара забралі на фронт — і дзяўчына заняла яго месца. Прыходзілася нялёгка — асноўная праца вялася ноччу. Пры гэтым Галіна, як многія дзяўчаты, бясконца хадзіла ў ваенкамат, прасілася на фронт, вечарамі займалася на курсах санінструктараў. Нявольна спрабуеш уявіць, як паступіла б сама ў такім выпадку. Спадзяешся, што хапіла б духу, баязліўкай не была б.

2-га ліпеня 1942-га прынеслі павестку. Гэты дзень Галіна Якаўлеўна памятае да драбніц. На зборы — некалькі гадзін. Маці плача, а дачка не можа схаваць радасці. Памятае, што, развітаўшыся, маці не вытрымала — знепрытомнела. Дзяўчына вярнулася, зноў развіталася з мамай і шчаслівая пабегла ў ваенкамат. Накіравалі ў Кіеўскае ваеннае вучылішча сувязі імя Калініна, якое пасля эвакуацыі знаходзілася ў Краснаярску. Там рыхтавалі тэлефаністак, тэлеграфістак і тэхнікаў, якім пасля заканчэння давалі званне малодшага лейтэнанта. Дзяўчатам у Краснаярску выдалі ваенную абмундзіроўку: спадніцы, гімнасцёркі і боты 40-42-га памераў. Нягледзячы на жаданне хутчэй уключыцца ў ваенныя дзеянні, дзяўчаты стараліся вучыцца, каб паспяхова вытрымаць іспыты. Восенню 1943-га адбыўся выпуск, Галіна і астатнія атрымалі званні малодшага лейтэнанта і былі накіраваны ў Маскву. Дабіраліся 15 сутак. Умовы былі цяжкія: спаць холадна, ад печкі ўсе чорныя — толькі зубы і вочы блішчаць, спалі на другім паверсе, у цеснаце, паварочваючыся па камандзе. Але заставаліся мэтанакіраванымі і таму задаволенымі.

Галоўнае ўпраўленне сувязі накіравала дзяўчат у дзеючую армію ў 956-ы асобны батальён сувязі, які фарміраваўся пад Масквой. Галіна стала камандзірам узвода сувязі. У снежні батальён накіравалі ў 120-ы стралковы корпус на Заходні фронт, у пачатку 1944-га — на I Украінскі фронт. «Толькі пераехалі Днепр, як наляцелі нямецкія самалёты, пачалі бамбіць эшалон. Вось дзе было жудасна. Ноччу выскачылі хто ў чым быў, скаціліся па высокім насыпе... Усё гудзіць, шуміць, узрываецца. Было вельмі страшна».

Ішло шырокае наступленне савецкіх войск. І сувязістам заўсёды хапала работы. Ва ўзводзе, якім камандавала Галіна, былі адны дзяўчаты, але ніколі не чулася адказу: «Не магу». Адзіным, заўсёды і ўсюды, было: «Ёсць!» Пад агнём, пад разрывамі снарадаў або ў жудаснай, падступнай цішыні ішлі, паўзлі яны са сваімі катушкамі за спіной, праводзячы ад камандавання ў дывізіі, палкі і батальёны той нерв, што дапамагаў вырашаць задачы бою, служыў узаемадзеянню часцей і ажыццяўленню плана наступлення. «Храбрасці маім дзяўчатам было не займаць, — кажа Галіна Якаўлеўна. — Ды іншыя і не пайшлі б у сувязісты! Многія з нашага ўзвода ўзнагароджаны за выкананне баявых задач медалямі і ордэнамі». Бывала, па некалькі сутак без сну і адпачынку працавалі дзяўчаты. І, здавалася, ужо падалі ад стомы, але маладосць брала сваё: знаходзілі час — спявалі, танцавалі, жартавалі, марылі пра тое, як будуць жыць пасля вайны. Галя Мардвінава асабліва сябравала з Ганнай Дадычэнка. Дзяліліся ўсім, як згадвае: было, што і адным шынялём накрываліся. Асобны аповед пра Шуру Іванову. Якая была бясстрашная! Асабліва праявіла сябе пры фарсіраванні Віслы. Бой ішоў жорсткі, немцы супраціўляліся, Вісла амаль што кіпела ад разрываў снарадаў і мін. Але трэба было абавязкова выканаць баявую задачу. Тады сувязь праклалі па дне рэчкі. Шмат давялося дзяўчыне папрацаваць на плацдарме, ліквідуючы пад жорсткім агнём прарывы лініі. Галіна Якаўлеўна з усмешкай і хваляваннем успамінае, як Шура, толькі разгарнуўшы сувязь, даклала сваім спакойным, пявучым голасам: «Усё добра. Але… прышліце мне пасля іголку з ніткай, гімнасцёрку парвала». Жанчына і на вайне застаецца жанчынай. Шуру ўзнагародзілі за подзвіг на Вісле ордэнам Айчыннай вайны. Галіна Якаўлеўна ўзнагароджана ордэнам «Чырвонай Зоркі» за бездакорнае выкананне задач камандавання і забеспячэнне бесперапыннай працы. Ордэн быў уручаны ёй у Германіі.

У студзені 1945-га ў Польшчы, у мястэчку Парады, немцы атакавалі штаб корпуса, які знаходзіўся пад абаронай стралковага батальёна. Завязаўся бой. Дзяўчат-сувязістак змаглі вывезці на машыне, а афіцэры, у тым ліку і лейтэнант Мардвінава, занялі абарончую пазіцыю. Быў ранены палкоўнік Альтгоўзен. Яму Галіна аказала першую

дапамогу — прафесійна зрабіла перавязку. Толькі на другія суткі прыйшла дапамога. Сярод тых, хто спяшаўся дапамагчы, быў капітан Пруднікаў. Убачыўшы Галіну жывой і непашкоджанай, заззяў ад шчасця. Многае тады стала зразумелым без слоў…

Колькі яшчэ было здарэнняў, небяспечных сітуацый? Ніхто іх, канешне, не лічыў. Але застаўся ў памяці радасны дзень, калі байцы і афіцэры, стомленыя, запыленыя і бязмерна шчаслівыя, палілі ў неба, расказваючы ўсяму свету пра сваю Перамогу. Праўда, для Галіны і яе баявых таварышаў вайна працягнулася — давялося ліквідаваць апошні ачаг супраціўлення фашыстаў у Празе. «Нас размясцілі ў памяшканні былой школы СС. Раптам прыходзіць чэх і кажа, што бачыў, як школу мініравалі. Нас эвакуіравалі, а мінёры сапраўды знайшлі механізм, які б узарваўся праз тры гадзіны».

Сімвалічным было іх з капітанам Пруднікавым вяселле ў свабоднай Празе. Пасля Галіна Якаўлеўна пятнаццаць гадоў працавала ў Гродне загадчыцай аддзела ЗАГСа па вуліцы Ажэшкі. Бывае і цяпер, што да яе падыходзяць і кажуць: «А вы нас распісвалі! Дзякуем за словы, стараемся іх памятаць і выконваць». Такое шанаванне — як узнагарода за святасць і светласць жаночай душы, ранімай на пачуцці і трывалай на пакуты.

Галіна Якаўлеўна Пруднікава прымала ўдзел у вызваленні Украіны, Польшчы, Чэхаславакіі. Узнагароджана ордэнам «Чырвонай Зоркі», ордэнам Айчыннай вайны 2-й ступені, медалямі «За ўзяцце Берліна», «За вызваленне Прагі» і многімі юбілейнымі медалямі. Але не толькі гэтым вымяраецца подзвіг сённяшняй 90-гадовай ветэранкі-юбіляркі. Найперш — захаванымі ўспамінамі, балючымі і павучальнымі, а таксама кожным падораным ёю мірным днём для нашчадкаў. Каб помнілі, бераглі і любілі жыццё, дадзенае аднойчы…

***ЭСЭ ЧАЦВЁРТАЕ***

*«Мы ішлі да яе з сяброўкай сонечным, але даволі халодным восеньскім днём. Ішлі і думалі-гадалі: якая яна? Званок у дзверы. Момант напружанага чакання. І вось — маленечкая, з яркімі, уважлівымі, шчырымі вачыма. Складана было ўявіць, як яна, такая далікатная, ішла некалі па франтавых дарогах…»*

## *Кацярына КАСЦЮШКА*

## ШЧАСЦЕ ВЯРТАННЯ ДАМОЎ

***Прысвячаецца***
***Тамары Рыгораўне Ларыёнавай***

*Худенькой нескладной недотрогой*
*Я пришла в окопные края,*
*И была застенчивой и строгой*
*Полковая молодость моя.*
Юлия Друнина





Тэлефаную, каб дамовіцца аб сустрэчы. Напружана думаю, што сказаць жанчыне, ад якой мяне аддзяляюць ажно два пакаленні. Чую бадзёры, упэўнены голас. Не, напэўна, не яна! Можа, я нумар пераблытала?..

— Паклічце, калі ласка, Тамару Рыгораўну! — прашу.

— Гэта я…

Здзіўляюся вельмі. Няўжо яна?

Так пачалося маё знаёмства з жанчынай, якой ёсць што ўспомніць і расказаць, ёсць чым падзяліцца, — ветэранам Вялікай Айчыннай вайны Тамарай Ларыёнавай.

**Вельмі было прыемна, што пра яе памятаюць. І не дзіўна — як жа можна забыць пра яе? Яна паіла нас кавай, частавала цукеркамі, задавала пытанні. А потым стала распавядаць сама**

Наша сустрэча адбылася ў сярэдзіне кастрычніка 2013 года, пасля дня нараджэння Тамары Рыгораўны. У яе кватэры яшчэ панаваў святочны настрой — паўсюль жоўтыя кляновыя лісты, прынесеныя з парку. Жанчына расказвала, як шмат людзей яе павіншавала, паказвала кветкі і падарункі. І вельмі было прыемна, што пра яе памятаюць. І не дзіўна — як жа можна забыць пра яе?

Яна паіла нас кавай, частавала цукеркамі, задавала пытанні. А потым стала распавядаць сама.

Усё даваеннае жыццё Тамары Рыгораўны можна змясціць у некалькіх радках. Нарадзілася 11 кастрычніка 1923 года ў Ніжагародскай вобласці, у вялікай і дружнай сям'і. У школе была актыўнай піянеркай, уступіла ў камсамол, з энтузіязмам займалася спортам. У 1940-м, не маючы нават сямнаццаці, па камсамольскай пуцёўцы з роднага Горкага выехала на працу на Урал — на Ніжнетагільскі вагонарамонтны завод. Аднак працаваць тут давялося нядоўга — вайна перакрыжавала планы.

Настойліва прасілася на фронт. Але ёй, як і шматлікім яе равесніцам, адмаўлялі, абгрунтоўвалі тым, што трэба яшчэ падрасці, падвучыцца. Дзяўчына паспяхова скончыла курсы медыцынскіх сясцёр і ў студзені 1942-га пачала працаваць у шпіталі. Там даглядала за блакаднікамі, якіх вывозілі з Ленінграда на самалётах. З чэрвеня 1943-га Тамара — санінструктар маршавай роты запаснога палка 8-й гвардзейскай арміі, з лістапада і да заканчэння вайны — у дзеючай арміі. Спачатку — у 27-й гвардзейскай дывізіі, а затым — у 130-й стралковай дывізіі 28-й арміі. Як згадвае гераіня, у запасным палку самымі цяжкімі былі начныя маршы, калі прыходзілася без адпачынку доўга ісці без агеньчыка.

Шмат чаго яшчэ давялося перажыць гэтай далікатнай і мужнай жанчыне. І пешыя начныя маршы, і выгляд цяжка параненых і памерлых, і разбураныя, спаленыя гарады. Аднак карціны болю і страху не засталіся ў яе памяці такімі выразнымі, як тое шчасце, якое перажыла Тамара Рыгораўна ўжо пасля вайны — шчасце вяртання дамоў.

Гераіняй яна сябе не лічыць. Кажа, што вайна была агульнай справай і проста нельга было заставацца збоку. Пасля вайны галоўным для жанчыны было вярнуцца да сапраўднага жыцця — не толькі стаць жонкай і маці, але і быць актыўнай, патрэбнай людзям. Гэта атрымалася ў яе паспяхова, бо не магла яна быць абыякавай, заўсёды вылучалася актыўнасцю. Выступала на радыё і тэлебачанні, у школах і воінскіх часцях, уваходзіла ў Савет ветэранаў, удзельнічала ў стварэнні Музея сясцёр міласэрнасці. З мужам Мікалаем Фёдаравічам, былым ваенным пракурорам, яны пражылі сорак шчаслівых гадоў, выхавалі двух сыноў. З пераможнага 1945-га Тамара Рыгораўна жыве ў Беларусі. Спачатку — 6 гадоў у Баранавічах, пасля — у Гродне, дзе на працягу 37 гадоў працавала медсястрой у абласной паліклініцы.

Расказваючы, Тамара Рыгораўна паказвала фотаздымкі, газетныя артыкулы, чытала вершы, прысвечаныя ёй. Яна і сама захаплялася сваёй прагай да жыцця, непакорнасцю лёсу і сілай.

За ваенную і мірную працу Тамара Рыгораўна атрымала нямала ўзнагарод: ордэн Айчыннай вайны 2-й ступені, шаснаццаць медалёў, шматлікія граматы, падзякі (толькі ў працоўнай кніжцы іх каля шасцідзесяці!) і прэміі, якія заўсёды пералічвала ў Фонд міру.

Тамары Рыгораўне дзевяноста, але, гледзячы на энергічную, жыццярадасную жанчыну, складана ў гэта паверыць. Таму, збіраючыся ўжо дадому, мы запыталі: як яна здолела не згубіць маладзевы запал і прыгажосць, вабную жаночую абаяльнасць? Тамара Рыгораўна, усміхаючыся, адказала, што ніякіх сакрэтаў няма. Напэўна, лёс бярог яе дзеля дзяцей, унукаў і праўнукаў. А яшчэ дзеля тых, каму трэба расказаць пра тую жахлівую вайну. Каб помніць і любіць жыццё як каштоўны Божы дарунак.

Эдвард Тамаш МАСАЛЬСКІ

Рубрыка гістфакаў краіны

# З УСПАМІНАЎ (1799—1824)



***Сяргей Шыдлоўскі — кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры айчыннай і ўсеагульнай гісторыі Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, аўтар манаграфіі «Культура прывілеяванага саслоўя Беларусі 1795—1864 гг.», эсэіст, перакладчык з польскай — прапануе новай рубрыцы «М» свой пераклад успамінаў Эдварда Тамаша Масальскага. Падрабязнасці пра апошняга — у прадмове перакладчыка.***

Эдвард Тамаш Масальскі (1799, м. Рудаўка — 1879, Лювен, Бельгія), мемуарыст, аўтар першага айчыннага сацыяльнага рамана «Пан Падстоліч» (1831—1833), паходзіў з княжацкага некалі праваслаўнага роду. Гэта чалавек быў сведкам і, паводле схільнасцей характару, дзейсным удзельнікам самых інтрыгуючых перыпетый краёвага беларускага жыцця першай чвэрці XIX стагоддзя.

Успаміны Масальскага разгортваюць перад чытачом шырокую гістарычную панараму: падзеі вайны 1812 года, закрыццё Полацкай езуіцкай акадэміі, дзейнасць таемных маладзевых суполак Віленскага ўніверсітэта, пераслед і суд над філаматамі. Геаграфія аповеду: Міншчына, Магілёў, Полацк, Вільня. Перад намі праходзяць постаці дзясяткаў знакамітых і малавядомых персанажаў айчыннай гісторыі: Вялікі князь Канстанцін і Мікалай Навасільцаў, Ігнат Даніловіч і Міхаіл Баброўскі, Тамаш Зан і Юзаф Масальскі, Станіслаў Шантыр і Андрэй Тавянскі — дзяржаўныя дзеячы, навукоўцы, літаратары, авантурысты, дзівакі, геніі.

Эдвард Тамаш Масальскі вучыўся ў Полацку з 1816 года і да закрыцця Акадэміі ў 1820-м. Пасля накіраваўся ў Віленскі ўніверсітэт. Параўноўваючы гэтыя дзве ўстановы, аўтар мемуараў адзначаў больш сучасны ўзровень выкладання ў Вільні, аднак падкрэсліваў, што ў Полацку існавала прывабная маральная атмасфера як сярод студэнтаў, так і сярод выкладчыкаў. Менавіта ў рэакцыі на дэмаралізацыю акадэмічнага асяродка Вільні Эдвард Тамаш Масальскі бачыў прычыну стварэння філарэцка-філамацкіх суполак. Масальскія прынялі актыўны ўдзел у гэтых нефармальных структурах і неўзабаве трапілі ў эпіцэнтр падзей, звязаных з урадавым праследам.

Мемуары гэтыя могуць і здзівіць, і ўразіць чытача, выхаванага на сучасных катэхізісах беларускай гісторыі. Падзеі першай чвэрці XIX стагоддзя паўстаюць на гэтых старонках у некананічнай трактоўцы. Вядома, нататкі Масальскага не ставяць апошняй кропкі ў разгадцы таямніц беларускай мінуўшчыны пачатку XIX стагоддзя, аднак яны дадаюць ёй эмацыйную глыбіню і запрашаюць да новых доследаў і адкрыццяў.

*Пераклад зроблены з выдання: Massalski, E. Z pamiętników (1799—1824) / E. Massalski // Z filareckiego świata : Zbiór wspomnień z lat 1816—1824 / Wyd. H. Mościcki. — Warszawa : Inst. Wydawniczy «Bibl. Polska», 1924. — S. 207—302.*

***Сяргей ШЫДЛОЎСКІ***

I

Мой бацька Ануфрый[1], маёр польскага войска, служыў у другой пяцігорскай брыгадзе[2], а пасля разбору краю ў маладым яшчэ веку асеў на вёсцы ў Слуцкім павеце на землях маёнтка Нача[3], уладанні майго дзеда Тамаша[4], палкоўніка польскага войска. Маці мая, Кацярына, была дачкой Леона Корбута, які ў выніку ваенных нягод прадаў свой маёнтак Друцкаўшчыну[5] ў Наваградскім павеце і пакінуў пасля сваёй смерці жонку Элеанору з Мацкевічаў і двух дачок (старэйшую, якая пабралася потым з Яхневічам на Украіне, і маю маці) на апеку свайго пляменніка, якога сам гадаваў, Юзафа Корбута, пазней наваградскага маршалка[6], што жыў у наваградскім павеце ў набытым ім паезуіцкім маёнтку Рудаўцы[7] пад Нясвіжам. Маці майго бацькі паходзіла з роду Ахотніцкіх, з сям'і памешчыка Аўгустоўскага павета, яе сваякі Гардынскія і Альшэўскія жылі ў Наваградскім павеце. Мае бацькі пабраліся шлюбам у Рудаўцы. Пасля чаго пераехалі жыць у Гадлеўшчыну, што знаходзілася на землях маёнтка Нача і была перададзена бацьку дзедам. Перад маім нараджэннем бацькі пераехалі ў Рудаўку, і там я нарадзіўся 12 верасня ў 1799 годзе[8] ў афіцыне[9], якая была збудавана на ўзор кляштара з калідорамі, келлямі і капліцай пасярodку. Мае хрэсьбіны адбываліся з вялікай пышнасцю, пра што сведчыць колькасць кумоў, запісаных у маёй хроснай метрыцы. Мой дзядзька Корбут удаваў з сябе пана, гаспадарлівы ды спрытны, любіў паказаць сябе, збіраць гасцей, нязводных у Рудаўцы, і ставіўся да маёй маці з шчырай прыязнасцю, нібы родны брат.

Не ведаю, калі мяне перавезлі да Начы ў Гадлеўшчыну; і дзеда памятаю толькі з-за белых вусоў, якія мяне ўразілі, калі ён ляжаў у труне на катафалку, было мне тады гады тры. Яшчэ адна дэталь прыкладна з таго ж часу: я стаю ў куце за печкай таму, што не магу вымавіць гук «z», калі мяне вучаць чытаць. Тая пакута пачалася для мяне ў канцы другога года жыцця; у чатыры меў ужо дарэктара[10], Апановіча, які вучыў мяне лаціне і арыфметыцы, адначасова бона Ганыжован катавала мяне нямецкай граматыкай Готшэда. Праз два гады вышкаліў яе, але так адахвоціўся ад нямеччыны, што пасля ўжо аніводзін настаўнік не патрапіў мяне да яе прыгарнуць. Лепей пайшла французская мова: у шэсць гадоў у мяне быў гувернёр Віторскі, ад якога шмат навучыўся як у мове, так і ў арыфметыцы і геаграфіі. Меў добрую памяць і жывы розум. Але быў надзвычай свавольны і жвавы, праз што зазнаў шмат прыгод з сабакамі і аднагодкамі, якія не аднойчы мяне валтузілі, хоць збольшага і апасаліся, бо я гатоў быў біцца з-за дробязі. У чатыры гады выправіўся з бацькамі ў падарожжа

[1] *Масальскі Ануфрый* (1769—?) — кавалерыйскі маёр, ад'ютант генерала Ясінскага (*тут і далей каментарыі перакладчыка*).

[2] *Другая брыгада Нацыянальнай кавалерыі ВКЛ* — сярэднеўзброеная конніца — называлася Пяцігорскай або Пінскай. Была ўтворана ў 1776 годзе, кватаравала ў Пінску і ваколіцах. Удзельнічала ў паўстанні Т. Касцюшкі. У розны час складалася ад 600 да 1200 кавалерыстаў. Першапачаткова пяцігорцамі называлі лёгкаўзброеных коннікаў каўказскага паходжання.

[3] *Нача* (Нача Брыдзоўская) — вёска ў Ляхавіцкім раёне Брэсцкай вобласці (Начаўскі сельсавет).

[4] *Масальскі Тамаш* — (?—памёр пасля 1791), палкоўнік літоўскіх войск (1766).

[5] *Друцкаўшчына* — вёска Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці.

[6] *Маршалак дваранства* (прадвадзіцель дваранства) — выбарны кіраўнік дваранскай карпарацыі губерні або павета на беларускіх землях за часамі Расійскай імперыі.

[7] *Рудаўка* — вёска Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці, месца нараджэння Эдварда Тамаша Масальскага.

[8] У энцыклапедыі «Мысліцелі і асветнікі Беларусі» (Мн., 1995) дата нараджэння Э. Т. Масальскага падаецца іншая — 29 верасня 1799 г., польскі даследчык Г. Масціцкі падае яшчэ адну дату — 23 верасня 1799 г.

[9] *Афіцына* (лацін. *Officina* — майстэрня) — службовы будынак, які звычайна выкарыстоўваўся як жытло для прыслугі або кухня, пральня, пякарня, стайня і іншае.

[10] *Дарэктар* — хатні настаўнік.

на Украіну да Карастышава[1], дзе Яхневіч, швагр майго бацькі, быў сакратаром у Алізара. З таго падарожжа памятаю толькі, як дзесь за Пінскам закапвалі ў канавы саранчу, у Карцы на фабрыцы парцаляны[2] набылі мне нейкія парцалянавыя забаўкі, а ў Карастышаве ў першы ж дзень па прыездзе ў госці дастаў я добра розаг за тое, што пабіў стрыечнага брата Фелікса Яхневіча, старэйшага за мяне на два гады, пасварыўшыся з ім за нашу бабулю, якую кожны з нас хацеў называць выключна сваёй.

У 1806 годзе мае бацькі, здаўшы перад тым Начу ў арэнду Аколаву, перадалі цяпер і Гадлеўшчыну Каралю Масальскаму, пляменніку Яўхіма, што разам з братамі Робертам і Юзафам жыў у той час у другой Начы, сваім спадчынным уладанні, што месцілася па суседстве з нашай. Самі ж, узяўшы з сабой мяне, брата майго Юзафа, сястру нашу Саламею і гувернёра Віторскага, пераехалі восенню на жыхарства ў Вільню. Чуў потым ад родных, што нагодай таго пераезду быў спадзеў бацькі на пасаду сакратара пры Міхале Агінскім[3], які папярэдне, яшчэ за польскім урадам, атрымаўшы прызначэнне амбасадара ў Галандыю, абраў майго бацьку сабе ў сакратары, але да пасольства справа так і не дайшла. У тым падарожжы да Вільні мы заехалі да Альшэўскіх у Старынкі, што пад Слонімам. Альшэўскі быў пабраны з Ахотніцкай, цёткай майго бацькі; ад таго шлюбу нарадзіўся Ануфрый, раўналетак і вялікі сябра майго бацькі. Па смерці Ахотніцкай Альшэўскі ажаніўся з іншай, прозвішча якой не памятаю, і з ёй пакінуўшы сыноў Ігната і Вінцэнта памёр. Падчас таго прабывання ў Старынках мы з'явіліся сведкамі старасвецкай гулянкі, калі захмялелая шляхта піла з чаравікаў пані Альшэўскай і маёй маці за іх здароўе, а нам і маладым Альшэўскім было загадана цалаваць дамам ножкі. Потым былі мы ў Жыровічах ля цудоўнага абраза Маці Божай[4], адтуль рушылі праз Слонім паштовым трактам да Вільні, безупынку абмінаючы расійскія вайсковыя абозы, якія спяшаліся тады ў Прусію супраць Напалеона.

У Вільні мы спыніліся ў доме, які належаў у той час Дамброўскім, на рагу Свята-Міхальскага пляца, амаль насупраць універсітэцкага корпуса, у якім пазней месціліся хімічныя аўдыторыі. Жылі мы на другім паверсе з боку пляца. У тым жа доме на першым паверсе жыў адвакат Гарэцкі, які быў без нагі, з ім пазнаёміліся мае бацькі, а мы — з яго сынамі Антонам і Юзафам, старэйшымі за нас. Былі ў Гарэцкага і дочкі, адна пабралася з Мельхіёрам Ваньковічам, уладальнікам Калюжыцы[5] ў Ігуменскім павеце, з якім пазней мы знаходзіліся ў суседстве, жывучы ў Белічанах, другая — спачатку з Высогердам, а потым з блізкім сваім сваяком Людвікам Зубрыцкім[6], які памёр у Парыжы ў 1832 годзе. Другое знаёмства, якое захавала з тых часоў памяць, было з сям'ёй Струмілаў. Струміла[7] быў сакратаром Шляхецкай Дэпутацыі[8]; жонка яго славілася пекнасцю і вельмі сябравала з маёй маці, адзіная іх дачка, панна Юзэфа, на два гады за мяне старэйшая, гуляла з намі ў вайну і ў коні. Пазней, у 1820 годзе, прыбыўшы ў Віленскі ўніверсітэт, я паспяшаўся наведаць тую сям'ю; паняй Струмілавай была ўжо іншая жанчына, бо першая жонка памерла, а панна Юзэфа не надта пацешылася з прыгадвання забаў 1806 года.

---

[1] *Карастышаў* — цяпер горад у Жытомірскай вобласці Украіны, да 1873 года — уладанне Алізараў.

[2] *Карэц* — горад у Ровенскай вобласці Украіны. У Карцы Чартарыйскімі была закладзена парцалянавая мануфактура (1783—1832).

[3] *Агінскі Міхал Клеафас* (1765—1833) — дыпламат, кампазітар, сенатар Расійскай імперыі.

[4] *Цудатворная ікона Маці Божай Жыровіцкай* — цудатворная выява на камні, была знойдзена ў канцы XV ст., ушаноўваецца праваслаўнымі і каталікамі Беларусі.

[5] *Калюжыца* — вёска ў сучасным Бярэзінскім раёне Мінскай вобласці (Ушанскі сельсавет). У маёнтку Калюжыца нарадзіўся жывапісец Валянцін Мельхіёравіч Ваньковіч.

[6] *Зубрыцкі Людвік Тадэвуш* (1803—1834) — дзеяч польскай «Вялікай эміграцыі», удзельнік шляхецкага паўстання 1830—1831 гадоў на Віленшчыне.

[7] *Струміла Юзаф* (1774—1847) — сакратар віленскай Шляхецкай дэпутацыі, садавод, батанік, аўтар папулярнай гаспадарчай кнігі «Паўночныя сады» («Ogrody północne», 1820).

[8] *Шляхецкая дэпутацыя* (дваранскі дэпутацкі сход) — губернскі і павятовы карпаратыўны орган дваранскага самакіравання на беларускіх землях за часамі Расійскай імперыі.

У той час Вільня выглядала заможнай і гаманлівай; цэны на прадукты былі нечуваныя: бочка жыта каштавала трыццаць рублёў, кадушка масла — пятнаццаць рублёў. Панства з усіх далучаных да Расіі правінцый з'ехалася на зіму ў Вільню, дэманструючы раскошныя экіпажы і строі; адных крам з дыяментамі налічвалася дзевяць, самая славутая з іх належала Рэйзнеру; на вуліцах і плошчах знаходзілася некалькі сотняў наёмных карэт; у карчме Мілера стаяў штодня стол накрыты на двухсот асоб; абед па дукату, а прабіцца было цяжка. Калі пані Мілер выязджала на падвячорак да якой вілы за горад, яе суправаджала некалькі дзясяткаў карэт. У кожным доме стаяў стол, засыпаны золатам, бесперапынку ішла шалёная гульня ў фараона[1]. Калі дукат падаў на падлогу, яго ніхто не падымаў, ён належаў ужо лёкаям; за калоды карт апошнім плацілі дукатамі, дык яны азалаціліся. Наш Піліп, рудаўскі прыгонны, сабраў за зіму сем тысяч дукатаў, даў увесну драпака за Нёман у Аўгустаў, дзе, як пазней чулі, набыў зямлю і стаў памешчыкам. Браць пазыкі тады было вельмі добра: на слова давалі вялізныя сумы, ніхто не ашчаджаў; з-за чаго пасля падзення цэн, якія падтрымлівала кантынентальная сістэма[2], калі раптоўна ў Літве зніклі грошы, большая частка шляхты абцяжарылася даўгамі, якія раней лічыліся за нішто, бо маёнткі ацэньваліся адпаведна аграмадным цэнам на прадукты, у выніку падзення цэн і коштаў маёнткаў амаль уся Літва збанкрутавала, пачаліся ганебныя разарэнні. Блізу ўсе вялікія ўладанні былі падзелены ў той час на часткі, якія праз пэўны час расцягалі на яшчэ меншыя кавалкі. Але ў канцы 1806 і ў 1807 годзе ніхто яшчэ такога заняпаду не прадбачыў. Шляхта выкідвала золата найперш на карты, шляхцянкі — на прыбіранне, транты, дыяменты. Замежныя купцы і яўрэі абагачаліся, просячы казачныя грошы за свае тавары. Памятаю, маці купіла нейкі паркаль на сукню, які называўся персам, заплаціўшы дваццаць злотых за локаць. На падставе гэтага можна меркаваць, колькі каштавалі матэрыі, шалі, карункі, газы ды іншае павуціння. Вільня ўражвала пышнасцю, несупыннымі балямі, асабліва калі прыехаў туды цар Аляксандр, ахвотнік да забаваў, малады, галантны. Не забываў ён праўда і на свае інтарэсы, пакуль лашчыў літвінаў. Сабраў і давёў шляхце, што на вайну патрэбны грошы, прасіў выплаціць за адзін год падаткі ў такім жа памеры, які збіраецца ў іншых губернях Царства. Літва мела падатковыя паслабленні, якія атрымала яшчэ пры разборы краю ад Кацярыны з абяцаннем, што падаткі ніколі падвышацца не будуць, а былі яны нязначныя: здаецца, па злотаму з дыма[3]. Прысутная шляхта згадзілася на царскую прапанову. Не спытаўшы адсутных, зраўнялі ва ўсіх далучаных губернях памер падаткаў з агульнарасійскімі, якія налічваліся з колькасці душ прыгонных. У той час, яшчэ пры збытку грошай, такія ўмовы не здаваліся цяжарам; але потым, калі ніхто не чакаў прадаўжэння ахвяры, урад самавольна пакінуў на другі год і надалей тыя самыя падаткі. Даходы з уладанняў зменшыліся, тады і застагнала Літва пад ярмом, якое засталося назаўсёды.

Хутка пасля першых бітваў у Польшчы і Прусіі ўбачылі мы французскіх палонных у Вільні; праўда, у малой колькасці, паказаных нібы для пробы. Усе, хто жыў у горадзе і ў ваколіцах, дамагаліся гонару частаваць французаў. Абсыпалі іх грашыма і папярэджвалі ўсе прыхамаці, бо мелі ў сувязі з французамі і Напалеонам надзеі на вяртанне Польшчы. Які дух панаваў сярод старэйшых, такім агарнуліся і малыя. Нашай забавай было расстаўляць на вялікім стале ў зале шэрагі цынкавых жаўнерыкаў у два войскі: французскае і рускае, каб даваць баталіі. Французскае войска ўзначальваў Напалеон, большы за іншых цынкавы жаўнер са сцягам, а расійскае — нейкі карузлік з бубнам, якога называлі Бенігсенам[4]. Мы з братам па чарзе выбіралі сабе войска і білі па

[1] *Фараон* — азартная банкавая картачная гульня.

[2] *Кантынентальная сістэма* — палітыка Напалеона I, накіраваная на падрыў гандлю Англіі з астатняй Еўропай. Яна заключалася ў забароне завозу англійскіх тавараў у краіны кантынентальнай Еўропы і дзейнічала да 1813 г.

[3] *Дым* — асобная сялянская гаспадарка.

[4] *Бенігсен Левін Аўгуст Тэафіль* (1745—1826) — расійскі ваенны дзеяч. У час вайны з Францыяй у 1806—1807 гадах камандаваў рускім корпусам, атрымаў перамогу каля Пултуска.

ворагу кулямі з морквы са стрэльбаў, зробленых з гусіных галёначных костак. Тое войска цярпела паразу, у якім больш жаўнераў было збіта кулямі праціўніка. Але здаралася ў запале стралец рускага войска дапамагаў праціўніку, а ў Напалеона ніхто пацэліць не наважваўся.

Адзін выпадак падчас той забавы ледзь не прынёс неяк нашым бацькам вялікага ліха. Калі мы бавіліся сваімі баталіямі, нехта пацэліў у Бенігсена. Усе: «Ура! Бенігсен забіты! Маскаль, шэльма, Бенігсен забіты!..» Аж у той час адкрываюцца дзверы вітальні і ўваходзіць жывы Бенігсен. Ён часам бываў у нас, бо бацька збіраўся набыць яго маёнтак Савейкі, што межаваў з Начай. Пачуўшы нашы крыкі, генерал пакрыўдзіўся, і не ведаю, якім спосабам бацька яго ўлагодзіў, адвёўшы ў гасцёўню. Аднак Савейкі бацька не купіў, праз што потым вельмі шкадаваў; не атрымалася і з другім маёнткам пад Вільняй, што належаў Кантрымам: бо некалькі дзясяткаў тысяч, якія бацька пазычыў на кароткі час нейкаму Лугайле, не былі тады аддадзены і потым праз Лугайлу іх пераказалі на жырмунскіх Радзівілаў, што і скасавала праекты набыцця маёнткаў. Мяркую, той нешчаслівы выпадак паглынуў рэшту капіталу, што быў узяты наперад за шматгадовую арэнду Начы і Гадлеўшчыны, і, здаецца, нават яшчэ з лішкам у крэдыт. Потым па вясне 1807 года, калі і дамова з Агінскім не спраўдзілася, выехалі мы з Вільні да Гадлеўшчыны, якую арандар Караль Масальскі саступіў бацьку назад, задаволіўшыся распіскай за неатрыманы капітал, які бацька потым вярнуў з даходу.

Перад выездам з Вільні адбыўся са мной і братам яшчэ адзін выпадак, які зрабіўся прадвесцем будучага нашага лёсу. Мы былі надта свавольнымі, праз тое часта мелі прачуханку ад бацькоў, якія выдумлялі розныя хітрыкі, напрыклад, страшылі нас тым, што аддадуць у рэкруты[1]. Аднойчы, калі мы перабралі ў нечым меру, бацькі зрабілі выгляд, што збіраюцца спраўдзіць свае пагрозы: апранулі нас, зарумзаных, у нейкія куртачкі і загадалі запрагаць коней, каб завезці да каменданта рэкрутаў. Слёзы і ўпрошванні не дапамагалі, сцягнулі нас з прыступак, і толькі ля экіпажа маці «выпрасіла» ў бацькі скасавання кары, каб даць нам магчымасць выправіцца. Не памятаю, як мы выправіліся, але потым у 1823 годзе тая бацькоўская пагроза сумна спраўдзілася для Юзафа, а я ледзь ацалеў, пра што пойдзе размова пазней.

Нача засталася ў арандатара Аколава, пры сынах якога знаходзіўся ў той час гувернёрам Ачапоўскі, пазней прафесар эканомікі ў Вільні і дырэктар інстытута на Марымонцы[2]. Хоць знаёмасць мая з ім пачынаецца з Начы, але там мала яго памятаю, мы зблізіліся пазней. Навучанне наша пры Віторскім у Гадлеўшчыне ішло адным парадкам, а свавольства і бойкі з аднагодкамі — другім. Нашая дзіцячая кампанія была вялікай: Аколаў меў некалькі сыноў, з другой Начы было двое Ваўкоў, Караль і Мартын, сваякі Караля Масальскага, аднаго блізу з намі веку; крыху далей, у Навасёлках, жылі Парадоўскія. Парадоўскі быў тады слуцкім спраўнікам, паходзіў з Беларусі, адстаўны ротмістр расійскіх уланаў, прыгожы і спрытны, ён падабаўся сястры майго бацькі, Кацярыне. Дзед не хацеў выдаваць яе за рускага афіцэра, але цётка збегла і пабралася з Парадоўскім шлюбам. За тое дзед пазбавіў яе пасагу, ужо пасля яго смерці мой бацька саступіў ёй у заклад Навасёлкі за суму пасагу, які назначыў дзед у Юзафа Радзівіла[3], троцкага ваяводы. У выніку Парадоўскія ўступілі ў валоданне Навасёлкамі, што пазней перайшлі да іх з закладу пад простую распіску. А тая сума да сёння захраснула ў клецкай масе[4] Леона Радзівіла[5], гэтаксама як і пасаг другой маёй цёткі, Антаніны, якую дзед мой выдаў за старога Вярэйскага з Урведзі, што за Клецкам. Вярэйскія мелі чатырох сыноў і дачку, Парадоўскія

[1] *«Аддаць у рэкруты»* — аддаць у рускае войска салдатам.

[2] *Ачапоўскі Міхал* (1788—1854) — аграном, прафесар Віленскага ўніверсітэта ў 1836—1853 гадах, дырэктар Інстытута сельскай і лясной гаспадаркі на Марымонцы (раён Варшавы).

[3] *Радзівіл Юзаф Мікалай* (1736—1813) — вялікі літоўскі пісар з 1764 г., менскі ваявода з 1773 г., троцкі кашталян (1784—1788), троцкі ваявода (1788—1795).

[4] *Маса* — камісія, сфарміраваная для вырашэння пытання з радзівілаўскімі даўгамі.

[5] *Радзівіл Леон Іеранім* (Леў Людвігавіч Радзівіл) (1808—1884) — расійскі ваенны і дзяржаўны дзеяч.

трох сыноў і дзве дачкі прыкладна адных з намі гадоў. Як зборы паміж нашымі сем'ямі здараліся часта, дык і паміж намі — забавы і бойкі. Сам род забаў вымагаў ад нас сутычак: звычайна гулялі мы ў муштру; мелі драўляныя палашы і карабіны; трэба было выпрабоўваць штыкі, палашы, а вынікам таго былі сінякі і гузы. Зімой любімымі рабіліся снежкі, а ўвесну, калі снег пачынаў таяць, мілай забавай было штурхаць адзін аднаго ў яміны з вадой, што былі пад снегам. І як жвава, са смехам мы выскоквалі з такой ванны.

Недзе напачатку 1808 года Парадоўскі пасля вяртання з Менску пачаў намаўляць бацьку купіць у ігуменскім павеце Белічаны[1]. Распавядаў, які гэта выгодны маёнтак, залаты яблык, валок трыста зямлі, з якой большая палова пад таварным лесам; трыста з лішкам мужыцкіх душ, ды багатых, маюць колькі дзясяткаў коней, але фальваркавая гаспадарка занядбана; бо маёнтак той забралі некалі ў віленскіх базыльян, што не прысягнулі пасля адыходу Менскай губерні да Расіі, і аддалі спачатку казацкаму генералу Селунскаму, сын якога прадаў маёнтак Мезенцаву, сакратару менскага губернатара Карнеева[2]; але Мезенцаў слабы гаспадар, не можа ацаніць той залаты яблык і хоча набыць большы маёнтак — Ленчыцы ў мазырскім павеце; таму і прадае Белічаны танна ў параўнанні з сапраўднай вартасцю маёнтка, за бясцэнак — толькі за чатырыста тысяч злотых, калі адзін таварны лес у тым маёнтку каштуе значна больш. Калі прадаць яго яўрэям, можна вярнуць за год усё выдаткаванае на куплю маёнтка. Парадоўскі быў прывязаны да майго бацькі, не думаю, каб ён раіў тое праз нейкі свой асабісты інтарэс; аднак ён быў даверлівы, а тады знаходзіўся пад уплывам губернскага сакратара, ад якога скланалася ў той час уся губерня. Мусіць, ён паверыў яму і хацеў зрабіць паслугу і бацьку, і Мезенцаву, прапануючы той праект. Бацька палічыў гэта шчаслівым шанцам выправіць свае справы, якія так заняпалі ў Вільні, і паехаў паглядзець на Белічаны. А там прыстаўлены да яго паверены Мезенцава Златаглоў (*Złotogłów*), таксама расіянін, дапамог ашуканству. Паказаў бацьку мноства коней, на якіх сяляне былі багатыя, маючы вялікія лясныя заробкі ў тых краях; паказаў зручныя сплавы на Ушы[3] і Бярэзіне, і на карце — вялізную лясную прастору. Але калі дайшло да агледзін іх на мясцовасці, павёз бацьку па чужых пушчах, якія сыходзіліся сямю клінамі ў адной кропцы пад фальваркам Вядрэцкім, што адносіўся да Белічанаў. Там стаяла шмат таварнага лесу, але вызначыць белічанскія межы зімой новаму чалавеку нават з картай было складана. Ад роспытаў суседзяў Златаглоў здолеў засцерагчыся. Больш таго, адзін з іх, важны мясцовы дзеяч, які нібыта выпадкова, не ведаючы пра намеры бацькі, завітаў у Белічаны, запрошаны, мусіць, Мезенцавым, найбольш прычыніўся да пацвярджэння іх легенд; ён пачаў перамовы з Златагловым, выказваючы жаданне набыць маёнтак і лясы, не падаўшы сумненняў у іх існаванні. Такім чынам бацьку і дацiснулі.

З разлікам, каб той сусед ці хто іншы не апярэдзіў, бацька паспяшаўся ў Менск на праходзячыя ў той час кантракты[4] і заверыў умовы з Мезенцавым. У выніку, на тых кантрактах бацька дамовіўся на трыста тысяч адразу і яшчэ сто тысяч — праз год. Каб знайсці грошы аддаў пад залог Начу з Гадлеўшчынай Ксаверыю Чарноцкаму за 260 тысяч, свой фальварак ля Начы Гулічы залажыў Пацкевічу за 16 тысяч, запазычыў яшчэ ў Корбута 30 тысяч і ў Нядзведскага, з якім разам у войску служыў, 20 тысяч. Выплаціў такім чынам Мезенцаву 300 тысяч, рэшту ад запазычанага аддаў за ўрадавыя пошліны і за паручыцельства Златаглову. Спадзяваўся, што праз год, прадаўшы лес, атрымае грошы на выплату ўсіх даўгоў і зробіцца поўным панам Белічан і Начы. Існавала вялікая верагоднасць поспеху, балазе, перад гэтым падобнае атрымалася правярнуць пакупнікам маёнткаў у Ігуменскім павеце, а менавіта Лукашэвічу з Бродцамі, Паўлікоўскаму з Нясецямі, Рагоўскаму з Асмолаўкай і іншым. Але там сапраўды былі лясы, у Белічанах жа іх спустошыў яшчэ Селунскі.

[1] *Белічаны* — вёска ў Бярэзінскім раёне Мінскай вобласці.

[2] *Карнееў Захар Якаўлевіч* (1748—1828) — тайны саветнік, сенатар, менскі губернатар (1796—1806).

[3] *Уша* — рака ў Мінскай вобласці, правы прыток Бярэзіны.

[4] *Кантракты* — гандлёва-фінансавыя імпрэзы, якія адбываліся рэгулярна ў буйных гарадах краю.

Бацька, жвава зладзіўшы тую негацыяцыю, у добрым гуморы ад павелічэння, як меркаваў, сваёй фартуны вярнуўся дамоў рыхтаваць пераезд у Белічаны. На тую спешку і вынік здзелкі наракалі нам спачуваючыя, перадусім Вярэйскія, Гардынскія, брат бацькі Ксаверы, які пасля падзелу набыў сабе ля Начы невялікі фальварак Керножычы, і асабліва яго жонка з Ласкоўскіх, якая сябравала з маёй маці, вельмі разумная жанчына; хоць яны зыходзілі хутчэй з прадчуванняў і недаверу да меркаванняў Парадоўскага. Аднак былі і больш інфармаваныя адносна беліčанскіх краёў і Мезенцава, а сярод іх Корбут, якія таксама прадракалі злы канец той справе. Корбуту можна было верыць больш за іншых, быў ён чалавекам практычным і празорлівым, меў значную фартуну[1], сам дасягнуў узорных поспехаў у гаспадаранні, хоць урэшце і абмахнуўся, занадта даверыўшыся Радзівілам. Але на той час і праз усё жыццё да катастрофы з Радзівіламі быў ён кшталту аракула для шляхты гарадзенскай і менскай губерняў. Рудаўку заўжды асаджвалі ахвотнікі атрымаць у яго параду ў дзелавых і нават асабістых пытаннях. Аднак на думку бацькі, усе тыя перасцярогі і намовы былі запозненыя; справу зладзілі, не існавала спосабаў адступіцца, заставалася толькі выконваць умовы і пераязджаць у Белічаны. Бацькі заняліся рыхтаваннем да пераезду, прыехаў сын Ксаверыя Чарноцкага Міхал, якому потым Нача дасталася, каб спраўдзіць карту з грунтамі, а таксама для нагляду за пасевамі ў Гадлеўшчыне яравых, якія ўжо яму належалі. Нача ж мусіла яшчэ заставацца ў арэндзе ў Аколава...

Ваколіцы Начы напярэдадні нашага ад'езду былі месцам вясёлым са шматлікім суседствам; людзі ў большай частцы думалі пановаму, аднак жылі паводле старасвецкіх звычаяў, сціпла, без раскошы, без мяккай мэблі: лавы, простыя сталы, крэслы хатняй работы, і кухня простая, хоць і шчодрая. Гэтай шчодрасцю Літва вылучаецца. Ведаю цяпер усе правінцыі даўняй Польшчы і магу засведчыць, што нідзе няма такой разнастайнасці страў, нідзе так смачна, хоць і проста, не частуюць. Гэта невычэрпнае мноства страў малочных, вяндліны, дзічыны, цудоўнай садавіны, скрозь рыба; толькі на Літве гаспадыні дбалі аб запасах. Спіжарні[2] там невычэрпныя. Зборы суседства здараліся тады вельмі часта; то імяніны, то хрэсьбіны, то дажынкі, то з разнастайных іншых прычын адбываліся з'езды цэлых сямей, і часта працягваліся ў адным доме па некалькі дзён, аднак нідзе не спустошылі спіжарні. Зіма ад Божага Нараджэння да запустаў — амаль бесперапынныя кулігі[3]: цэлы натоўп пераапранутых з музыкамі аб'ядаюць двор, скачуць, гуляюць, уночы спяць покатам і, нагуляўшы ў адным доме ўволю, забіраюць гаспадароў — і далей да другога. У найбагацейшых дварах, і асабліва ў Радзівілмонтах[4] у князя ваяводы троцкага і ў Нясвіжы ў князя Дамініка Радзівіла[5] зборы бывалі выключнымі і таксама часта. Толькі тая розніца паміж тымі дварамі, што ў Радзівілмонтах былі старасвецкія асамблеі[6] і паважныя банкеты, хоць і з гучнымі забавамі, а ў нясвіжскім замку ўсё было больш распусна і бязладна. Малады князь Дамінік падабаў атачаць сябе шалёнай моладдзю, любімай яго забаўкай была стайня і раз'езды. Здаралася, гоніць з замка да Альбы[7] за сенам некалькі дзясяткаў запрэжаных чацвёркамі вазоў; князь сам на першым возе, а за ім шляхецкая моладзь, і, набраўшы сена ў Альбе, вязуць назад фуры ў замак.

Калі мы жылі нейкі час у Нясвіжы з маці, якая там лячылася, то часта гулялі з Міхалам і Карнелем Корбутамі на манер

---

[1] *Фартуна* — маёнтак.

[2] *Спіжарня* (камора, кладоўка, свіран, клець) — гаспадарчая пабудова, якая служыла для захоўвання збожжа, прадуктаў, бытавых рэчаў, адзення.

[3] *Кулігі* — шляхецкая зімовая забава.

[4] *Радзівілмонты* — цяпер вёска Красная Звязда Клецкага раёна Мінскай вобласці.

[5] *Радзівіл Дамінік Геранім* (1786—1813) — князь, прадстаўнік роду Радзівілаў, удзельнічаў у вайне 1812 года на баку французаў.

[6] *Асамблея* — танцавальныя вечары.

[7] *Альба* — паркавы комплекс на паўднёвай ускраіне Нясвіжа.

князя ў фурманкі. З-за той забавы аднойчы ледзь не заплаціў жыццём у Рудаўцы, калі перашкаджаў братам запрагаць кіі ў вазок, жадаючы, зразумела, быць фарэйтарам, што лічылася ганаровым, а яны, штурхаючыся са мной каля става, спіхнулі мяне ў ваду. На шчасце, нехта са старэйшых паспеў мяне выратаваць.

Паміж знаёмых, што пакінулі з былых часоў у маёй памяці след, было два арыгінальных тыпа, якіх цяпер не сустрэнеш. Адзін быў сусед наш, Яцыніч, уладальнік шляхецкай часткі Саловаў, маларослы, хударлявы, вусаты, з рэдкімі валасамі, але чалавек дужа пачцівы і такі рахманы, так кожнаму кланяўся, і нават да сваіх прыгонных інакш не звяртаўся як з паклонам і пашанай. Збіраючы іх на паншчыну, сам бегаў ад хаты да хаты і пад вокнамі прасіў выйсці на работу, а сяляне так з ім трымаліся, што неаднойчы, здаралася, адганялі яго з лаянкай. Неўзабаве пасля разбору краю, калі грамадству загадалі выбіраць чыноўнікаў, і на паліцэйскую службу ніхто ісці не хацеў, памешчыкі слуцкага павета выбралі Яцыніча спраўнікам. Потым апавядалі дзіўныя байкі пра тую яго службу: як, напрыклад, гэты небарака не мог нікога з сваіх падначаленых упрасіць развесці па павеце ўрадавыя загады, сам ехаў конна ў мундзіры з серпанцінам, развозіў і ўпрошваў, каб тэрмінова прачыталі.

Другі быў пан Баніфацы Пласкавіцкі, высокі, тоўсты, лысы, чыста паголены, у светлажоўтым капоце, усмешлівы і багаты на смешныя, але нясціплыя анекдоты. Меў нейкую вёску, але прадаў яе і грошыкі свае размясціў у розных знаёмых. А там, дзе пакідаў грошы, замаўляў сабе «свіронак» або, калі яго не было, які пакойчык для перахоўвання рухомасці і адпачынку. Выязджаючы іх зачыняў і звязку ключоў ад тых сховаў з сабой заўжды насіў. Ездзіў на каламажцы, сам правіў адным конікам; і скрозь, куды завітае, ці то ў карчму, ці праз вёску едучы, ці ў двары якім, збіраў усялякую старызну: выкінуты абутак, клёпкі ад старых бочак, жалеззе і іншае ламачча; ладаваў усё гэта на сваю каламажку і цягнуў да якогась свайго «свіронка». Усе тыя яго склады былі напханыя падобнай старызнай, з якой ён цацкаўся, парадкаваў, чысціў і сартаваў. Паміж таго хлуду хаваў і грошы свае, атрыманыя з працэнтаў, якія ў яго, упільнаваўшы, неаднойчы выкрадалі слугі.

Здараліся з-за працэнтаў розныя прыгоды і з панамі. Памятаю, як сваяк наш, Гардынскі, чалавек надзвычай вясёлы, прыняўшы ад яго на размяшчэнне сто дукатаў, даў яму распіску на сто бізуноў; і калі Пласкавіцкі праз год потым нагадаў аб працэнтах, Гардынскі загадаў падвучаным слугам з бізунамі разаслаць дыван і схапіць Пласкавіцкага. «Што гэта? За што? Як гэта?» «А як працэнты выплаціць ад ста запазычаных бізуноў, якія маеш у распісцы». Той за папернік, і тады толькі прачытаў, што ў распісцы запісаны не дукаты, а бізуны. Скончылася смехам, і ён сам той жарт усюды расказваў. Любілі яго ўсе за весялосць, а найбольш мы, дзеці, вельмі яго ўпадабалі, бо заўжды прыдумваў нам нейкія забаўкі, байкі пацешныя і гуляў з намі, як дзіця. Асабліва любіў прыдумваць розныя жахі, таму ўвесь час з ім гулялі ў страхі. Пераважна даставалася ад нас ноччу мужчынам, часам вельмі непрыемна, бо страх як любілі абліваць вадой, абсыпалі попелам або сажай. Але і Пласкавіцкі даставаў ад іншых, і яго страшылі, спакою яму не давалі. На працягу доўгіх год бачыў яго і ў Начы, і ў Белічанах, куды прыязджаў штогод, маючы тут нейкую суму, размешчаную ў майго бацькі.

Тым часам у Белічанах у нас пачалі завязвацца адносіны з людзьмі. Самыя добрыя стасункі ўсталяваліся найперш з сялянамі, бо бацькі абыходзіліся з імі па-людску; народ гэта быў патрыярхальны, звыклы да бацькоўскай улады ксяндзоў базыльян; потым яго прыгняталі Селунскі і ўпраўляючыя Мезенцава; таму рады былі патрапіць пад апеку добрых паноў і выказвалі нам сваю прыхільнасць патрыярхальным спосабам. Кабеты інакш не віталіся з маёй маці, як толькі цалуючы яе ў твар, а мужчыны, старэйшыя гаспадары, былі з маім бацькам як прыяцелі, як браты; гэта засведчыць і помнік бацьку, які пастаўлены на могілках у вёсцы Дубаўручча на складкі разам з сялянамі.

Суседства наша было нешматлікае; самыя блізкія — у адлегласці мілі. У двух Логах: у адных Вінцэнт Машынскі, нядаўна ажаніўшыся з Есьманоўскай, у другіх — арандарка пані Барсукова з дому Бачызмальскіх, удава з трыма малымі дочкамі. З другога боку Ушы — Феліцыян Машынскі, брат Вінцэнта, з маці і двума сёстрамі, крыху старэйшымі ад нас. Побач у Калюжыцах, што належала Мельхіёру Ваньковічу, жонка ў яго была з Гарэцкіх, гаспадары ў той час не жылі, што

нам было невыгодна, бо ў іх было два сына: Валянцін[1], пазней мастак, і Караль, прыкладна аднаго з намі ўзросту. Далей ужо нікога блізка, бо ад астатняга свету адсланялі нас з аднаго боку землі любошанскіх Патоцкіх, з іншага — ігуменскія, раздадзеныя рускім генералам, якія тут не жылі. З трэцяга боку: Раванічы[2] за нашай вёскай Дубаўруčча, што належалі малалетняму Людвіку Слатвінскаму[3], які гадаваўся ў Вілейскім павеце ў свайго дзядзькі Гечэвіча[4], пазней менскага губернатара. З чацвёртага — Князёўка Станіслава Ваньковіча, які таксама ў ёй не жыў. За мілю ад Князёўкі была наша Крушына з вёскай Чарневічы, а за вёскай Белічаны, па дарозе на Калюжыцы, наша вёска Баровіна. Такой была геаграфія нашага закутка, пазбаўленага хлопцаў, роўных нам па становішчы і ўзросце. Толькі ва ўніяцкага святара Папейкі ў вёсцы Белічаны было два сыны, з якімі мы хутка ўсталявалі стасункі і нават разам пачалі вучыцца, бо бацька неўзабаве запрасіў да нас гувернёра Казельскага, да якога на лекцыі прыходзілі і тыя паповічы, Ян і Базыль.

Завязаліся хутка знаёмствы і з аддаленымі ваколіцамі, а менавіта з Рагоўскімі ў Асмалоўцы, дзе былі старэйшыя ад нас два хлопцы, Раман і Роберт, апошні пазней ажаніўся з маёй сястрой Саламеяй; з Шэмешамі з Баратычаў, дзе былі тры хлопцы, але значна маладзейшыя за нас, і паміж імі Адам, пазней мой калега ва Універсітэце; з суседзямі іх Латкоўскімі, Ігнатам і Леонам, нашага ўзросту; з Клачкоўскімі ў Купчы, дзе былі нашага ўзросту хлопцы, Эразм і Фелікс; з Юрыем Масальскім у Прыборках, якога наш бацька называў братам, а мы дзядзечкай, хоць ён быў другая вада на кісялі і з іншай лініі. У яго жылі пляменнікі Акулічы, Станіслаў і Юзаф, таксама нашы аднагодкі. З усімі хутка мы пазнаёміліся, нас пачалі адведваць, і ніколі без госцяў не было. Мы аднак не мелі блізка таварышаў для забаваў і таму менш сваволілі, і магчыма праз гэта больш карысталіся з навукі. Таксама і Казельскі быў добрым настаўнікам; менавіта ён заклаў падмурак нашых навуковых ведаў; каля яго падвучылі мы лаціну і гісторыю, якія праз грунтоўнае і добрае выкладанне, хоць пазней трохі і занядбаныя, вельмі дапамаглі нам у школах. Быў ён пры нас два гады, да восені 1810 года. Пасля яго ад'езду бацька запрасіў да нас Карніловіча, сына ўніяцкага святара са Змітравічаў, вёскі, што месцілася прыкладна за мілю ад мястэчка Бярэзіна, на мяжы барысаўскага староства, сярод глухіх лясоў. Таму згадваю пра яго становішча, што ў той ваколіцы вядомы быў тады разбойнік Грыша; ён паходзіў са шляхты, і яго нібыта святар Карніловіч аддаў у рэкруты замест сваіх сялян, якіх меў у царкоўным фундушы некалькі дзясяткаў дымоў. Грыша ўцёк з войска і хаваўся ў пушчы каля Змітравічаў, пастаянна пагражаючы святару; але ніколі яму нічога злога не зрабіў, нібыта з-за сыноў святара, якіх любіў. Разбой яго абмяжоўваўся выключна яўрэямі, але і іх не забіваў, а толькі рабаваў. Пад яго кіраўніцтвам была шайка збеглых і розных лотраў, якія без яго часам і забівалі пры рабунку. Земская паліцыя намагалася іх злавіць, але доўгія гады выкараніць гэтых разбойнікаў не магла. Сам Грыша, колькі разоў схоплены, уцякаў заўжды ў свае схованкі пад Змітравічамі і хутка збіраў новую банду.

Наш гувернёр нядоўга заставаўся з намі, і навукі ад яго мы атрымалі няшмат. Вясной 1811 года ён завербаваўся ў войска і, здаецца, даслужыў да генерала. Нас жа бацька адвёз да Прыборак, дзе знаходзіўся наш новы гувернёр Мусніцкі, брат езуіцкага ксяндза, аўтара «Палтавы»[5]. Ён быў наняты на агульны кошт пана Юрыя і бацькі, таму мы павінны былі палову года займацца ў Прыборках, а другую палову — у Белічанах. Кампанія вучняў была досыць шматлікая, бо апроч двух Акулічаў і сястры іх Вікторыі, было нас двое і сястра наша Саламея, сын

[1] *Ваньковіч Валянцін* (1800—1842) — беларускі мастак. Вучыўся ў Полацкім езуіцкім калегіуме, Віленскім універсітэце (1824) і Пецярбургскай мастацкай акадэміі (1827).

[2] *Раванічы* — вёска ў Чэрвеньскім раёне Мінскай вобласці.

[3] *Слатвінскі Людвік Антонавіч* — маршалак шляхты Мінскай губерні (08.11.1853—30.10.1859).

[4] *Гечан-Гечэвіч (Гецэвіч) Вінцэнт* (1770—1840) — менскі губернатар (1818—1831).

[5] *Мусніцкі Нікадзім* (1765—1805) — паэт, драматург, гісторык, педагог. З 1800 года выкладчык тэалогіі ў Полацкай езуіцкай калегіі. Аўтар эпічнай паэмы «Палтава» (Полацк, 1803).

і дачка Амецінскіх і сын Івашкевіча, які тады арандаваў нашы Крушыны. Мусніцкі, чалавек паважны, відаць, і вучоны, займаўся з намі аднак без практычнай мэты. Навука яго грунтавалася на французскіх, нямецкіх і лацінскіх слоўнічках з Наменклатора[1]. Было там трохі геаграфіі і арыфметыкі, але агулам больш працы, чым пажытку, а свавольства яшчэ больш, чым працы.

Любімымі забавамі нашымі былі: рыбалка з вудай на рацэ, якая бегла каля двара, стралянне з лука і кіданне ядра. Лукі нашы былі кшталту падоўжанага самастрэла, насаджанага на дрэўка з раўком па версе для размяшчэння стралы з затворам і прыкладам, як у стрэльбы. Стрэлы ж замест наканечніка мелі на канцы тоўстую іголку. У тым стралянні дасягнулі мы вялікага спрыту, хвацкі патраплялі ў цэль. Аднак біць на лёце птушак не атрымлівалася. Нашым галоўным памкненнем было зраўняцца ў майстэрстве з нашым дзядзькам Юрыем, які з каня ў галопе біў птушак на лёце з пісталета. Затое ўсё, што хадзіла па зямлі: свойскае птаства, свінні, сабакі і асабліва выгадаваны на двары мядзведзь нашпігаваныя былі нашымі іголкамі. Дарослыя нам гэта забаранялі, найперш у дачыненні мядзведзя, бо апасаліся яго помсты. Аднак, калі мы бачылі, што мішка праходзіў дзесь воддаль і не мог угледзець стральца, то страла адразу ж утыкалася ў яго. Кіданне ядра з разбегу спрыяла развіццю моцы рук. Мы станавіліся двума камандамі адна супраць другой — усе з вялікімі дручкамі. Адна каманда адкідвала другой драўлянае ядро, вялікае як галава, а другая мусіла пераняць яго дручкамі і адбіць. Калі не атрымлівалася яго спыніць, беглі за ядром і станавіліся там, куды яно адкацілася. Ужо адтуль адбівалі яго назад. Перамагала тая каманда, якая надалей заганяла сваіх сапернікаў.

Да гульняў тых часта далучаліся блізкія суседзі Снітко з Казловага Берага, Ян і Юзаф, з якімі пазней мы калегавалі ў школах. Снітко быў новым памешчыкам таго ж гатунку, што і Мезенцаў, і Мерынскі, і мноства іншых, якія пасля забрання Расіяй Літвы ішлі абадранцамі з Расіі ці з Беларусі[2] пешшу да літоўскіх зямель[3]. Яны аднак валодалі рускай мовай і мелі давер урада. Былі гэта скрозь мяшчане ды паповічы. У Літве на дзяржаўных пасадах яны дaслужыліся да дваранскіх правоў, абагаціліся і панабывалі маёнткі, асеўшы тут.

Увосень уся прыборская кампанія пераехала паводле дамовы ў Белічаны. Тут, пад прыглядам нашай богабаязнай маці, кантроль над нашымі паводзінамі быў мацнейшы, мы больш дбалі аб навуцы. Хоць яна заставалася такой жа бессістэмнай і пустой. Навучанне не замінала частым гасцяванням і суседскім забавам. Відаць, па ўсім краі тады шал забаў быў настолькі вялікі, што нават у той глухой старонцы шляхецкія зборы адбываліся бесперапынна пад рознымі нагодамі: то імяніны, то агляд збожжа, то паляванне. З той толькі розніцай ад Случчаны, што тут кожны з’езд мусіў працягвацца некалькі дзён, бо збіраліся не толькі з блізкага суседства, але і з далёкага, а прасторы лясныя вялізныя, дарогі па лесе і брадам цяжкія, і двары далёка адзін ад аднаго па пушчах параскіданы. Самыя пышныя ў той ваколіцы імяніны бывалі ў Асмалоўцы ў Рагоўскіх, у Логах у Барсуковай, у Баратычах у Шэмешаў; і паляванні ля Ушы ў Машынскіх і ў нас у Вядрэцку. Акрамя таго звычайна ў мястэчку Беразіне[4] на Аб’яўленне Пана і Тры Каралі ладзіліся балі ці як іх называлі — рэдуты[5].

Бывалі тут і маскарады па местачковых дварках, дзе кватаравалі, ладзілі па чарзе тлумныя абеды, хоць звычайна і не цырымонныя, бо галоўным было сумесная бяседа. На этыкет і далікатнасць не надта зважалі. Агульнае сталовае начынне, напрыклад, па чарзе пераходзіла па-братэрску з аднаго абеду на другі, і скокі, калі надвор’е дазваляла, ладзіліся на лужку перад домам,

---

[1] *Наменклатор* (Ks. Wojciecha Wiiuka Kojałowicza Herbarz szlachty Wielkiego Księstwa Litewskiego zwany Nomenclator) — гербоўнік шляхты ВКЛ.

[2] Аўтар тут мае на ўвазе тэрыторыю Беларускага Падзвіння і Падняпроўя, якія раней адышлі да Расіі па першым падзеле Рэчы Паспалітай.

[3] Пад Літвой тут разумецца тэрыторыя Мінскай, Гродзенскай, Віленскай і Ковенскай губерняў.

[4] *Беразіно* — цяпер горад у Мінскай вобласці, адміністрацыйны цэнтр Бярэзінскага раёна.

[5] *Рэдуты* (ці рэсурсы) — танцавальныя вечарыны, як правіла, камерцыйныя.

што і ў вясковых дварах практыкавалі, калі ў залі бракавала месца. Нават паляванню заўсёды спадарожнічалі танцы, бо з'язджаліся на іх не толькі мужчыны са стрэльбамі, але і жанчыны. Зранку, як пачынаўся дзень, мужчыны зыходзілі ў глыб лясоў на мацёрага звера, а жанчыны прыбіраліся і гатавалі абед; пасля абеду выязджалі і жанчыны на меншыя ловы ў бліжэйшыя да двароў і вёсак лясныя мясціны. На падворак ля галоўнай кватэры вярталіся ўсе, і адразу — музыка ды скокі, звычайна на лужку. Стральцы, служба, коні і сабакі нават, усе карысталіся гасціннасцю. Ніколі не было на Літве, каб слуг і коней гасцей адсылаць у карчму. Братэрства было ўсеагульнае. Праўда, часта здараліся і сваркі, даходзіла нават да боек, але часцей тое адбывалася, калі ў кампанію трапляў нехта чужы, асабліва расійскія афіцэры. Тыя звычайна любілі звяртаць на сябе ўвагу, а шляхта ў той час не была яшчэ дужа рахманай. Паміж сабой нават суседскія спрэчкі працягвалі вырашаць старасвецкім звычаем — наездамі з удзелам слуг.

Памятаю адну такую спрэчку паміж маім бацькам і Мельхіёрам Ваньковічам. Бацька вырашыў пабудаваць млын на сваёй рачулцы Беліцы; абодва яе берагі з усімі лугамі належалі бацьку, але грэбля, якую трэба было насыпаць для ўтварэння сажалкі пад той млын, адным канцом краналася калюжыцкай зямлі. Ваньковіч меў там паблізу вялікі даходны млын на рэчцы Ушы. Калі яму паведамілі пра новы беліцкі млын, які, зразумела, мог нанесці страты ў яго млынавых прыбытках, ён пачаў пратэставаць супраць намераў бацькі; абодва, мусіць, не хацелі саступаць, бо дайшло да сутычкі, якая амаль не скончылася крывёй. Калі наш млын быў амаль гатовы, перад самым завяршэннем Ваньковіч прыехаў і сабраў людзей з рыдлёўкамі з намерам раскапаць нашу грэблю; аднак на сваім беразе ён не мог так глыбока раскапаць, каб спусціць стаў. Тады Ваньковіч у запале заявіў, што раскапае не толькі грэблю, але зруйнуе і сам млын, і неадкладна паслаў за сялянамі з сякерамі і стрэльбамі, каб адбіць нашых атакай і зруйнаваць млын. Бацька таксама сабраў стральцоў і сякернікаў, а таксама некалькіх дворскіх конна з пісталетамі і шаблямі. Падрыхтаваліся абодва атрады да бойкі, і ўжо павінна была пачацца баталія. Сапраўдная прычынай той звады быў Шлёма, арандар калюжыцкага млына. Апасаючыся канкурэнцыі і збіраючыся ад яе пазбыцца, ён пляткарыў перад Ваньковічам, нібыта мой бацька вінаваціў яго ў абдзіранні сялян за памол у яго млыне. Калі ўжо мераліся пачаць бойку, суседзі, сябры абодвух бакоў, заняліся той справай і выкрылі інтрыгу Шлёмы. Астыў тады Ваньковіч, можа, разважыў, што гэты інцыдэнт для яго беспакарана не скончыцца. У той час быў ён сам старшынёй Галоўнага Суда ў Менску. Падаў урэшце бацьку руку і памірыліся. Уся гэтая мітрэнга скончылася багатым пачастункам абодвух войск у гонар новага млына, Шлёму, натуральна, ад арэнды калюжыцкага млына адсунулі.

## II

Адукацыя наша пры Мусніцкім скончылася з уварваннем французаў. Будучы ў Прыборках, мы ўжо бачылі іх эмісараў, ці выведнікаў, якія пад выглядам ксяндзоў ці купцоў ездзілі па краі, збіралі статыстычныя звесткі і здымалі планы ваколіц. Нашы старшыя ведалі, што гэта за людзі, і земская паліцыя, якую ў той час выбіралі з шэрагаў мясцовых памешчыкаў, сама палягчала ім вывучэнне краю. Наш дзядзечка Юры ў той час быў ігуменскім спраўнікам, і ў сваіх Прыборках меў падобных гасцей. Сам іх развозіў у розныя месцы, і сакрэту з таго не рабіў, бо нават мы, дзеці, пра тое ведалі. У Мураве, белічанскім валоданні, фальварку, закладзеным ля Бярэзіны, жыў граф Клермон Танер (*Clermont Tonner*), француз, нібыта эмігрант, і займаўся гандлем він. Бацька мой пазней разважыў, што гэта быў напалеонаўскі агент. З ім быў нейкі Вебер, нібыта паверану, які безупынна ездзіў па краі пад выглядам гандлёвых інтарэсаў і з маім бацькам быў у прыяцельскіх адносінах. Увесну 1812 года, калі пачала распаўсюджвацца пагалоска пра блізкую вайну з Напалеонам, Клермон знік. Застаўся толькі Вебер, які, здаецца, тую Мураву, перад тым Клермонам набытую, бацьку назад прадаў.

Мусніцкі наш, не ведаю, ці з-за набліжэння войск, ці з іншых меркаванняў, але спасылаўся менавіта на вайну, развітаўся з намі, і наша кампанія раз’ехалася. На яго месца бацька, праўда, знайшоў нейкага Антонія Масальскага, невядомай нам лініі, родам са Жмудзі, які мусіў быць нашым гувернёрам. Аднак і ён пабыў нядоўга, і пасля прыйсця французаў хутка завербаваўся ў полк Канопкі[1], які месціўся, здаецца, каля Слоніма. Як толькі пайшоў розгалас, што французы ўжо на падыходзе, усё суседства з жанчынамі і дзецьмі сабралася ў нашым Вядрэцку. Апошні знаходзіўся ў лясной глушы, сярод балот, таму доступ быў толькі з аднаго боку — ад вёскі Дубровішча, і тое праз грэблю, якая праходзіла праз лес. Яе лёгка можна было разабраць і ахоўваць. З усяго суседства звезлі туды самае каштоўнае. Сабралася мноства стральцоў з намерам бараніцца ад расіян, калі, як чакалася, тыя вырашылі б, уцякаючы, рабаваць і пустошыць край. Кіраўніком усёй той сілы выбралі, зразумела, маёра польскага войска, майго бацьку. Памятаю, як маці з кампаніяй паняў гуртам выбраліся ў Ігумен[2] вітаць Даву[3] і князя Панятоўскага[4]. Прыфранціўшыся як мага павабна рушылі. Але за мілю да Ігумена спаткалі знаёмых, што трэсліся на адным вазку. Тыя затрымаліся і расказалі, як ледзь выскрабліся з Ігумена, страціўшы коней. Французы іх выпрагалі ва ўсіх, хто ім трапляў, на вачах Даву, які таго не забараняў, а Панятоўскага там яшчэ няма. Нашы ўражаныя пані зараз жа пагналі назад хаваць свае дыяменты, у якія перад тым прыбраліся, каб зрабіць прыемнае французам.

Даву і Панятоўскі са сваімі карпусамі шыбка рушылі з Ігумена малымі дарогамі праз мястэчка Беразіно, Прыборкі[5], Бялынічы[6] да Магілёва з намерам перахапіць ля Дняпра Баграціёна[7], які пасля прарыву з-пад Нясвіжа імкнуў паштовым трактам праз Слуцк і Бабруйск таксама ў напрамку Магілёва для злучэння з галоўнай расійскай арміяй, што была каля Віцебска. Ведалі мы пра ўсе перасоўванні войск з газет, якія ў Менску ў той час пачалі друкаваць неўзабаве пасля прыходу французаў, іх чыталі з прагнасцю нават мы, падлеткі, і верылі таксама, як і дарослыя, што ўсе змешчаныя ў тых газетах навіны пра перамогі і наступ Напалеона — праўда, і канчаткова разбітыя расіяне ўцякаюць, і хутка вернецца Польшча. Запал паміж памешчыкамі і сялянамі быў агульны, усюды маладыя панічы запісваліся ў войска; суседзі нашы Феліцыян Машынскі, Роберт Рагоўскі, наш гувернёр Антоні Масальскі, адным словам, усе, хто быў малады, ускочылі на коней. Мы плакалі, што нас не пускаюць. Сяляне з ахвотай ішлі ў рэкруты, ці, як тады казалі, у кантаністы, якіх трэба было сабраць ад Літвы дзевяць палкоў. Але «ваколічная» шляхта[8] вагалася. Калі іх намаўлялі ў войска, яны адказвалі: «Навошта нам? Чым нам горш пад расійскім імператарам? Ніякіх падаткаў не плацім, абавязкаў ніякіх не маем; сядзім як у Пана Бога за печкай. А калі хто з нас хоча ісці ў вайсковую службу, то расіяне прымаюць нас як і панічоў у юнкеры і хутка робяць афіцэрамі, не так, як у палякаў, якія вярбуюць нас у шарагоўцы».

[1] *Канопка Ян* (1777—1814) — нарадзіўся пад Слонімам, французскі генерал, удзельнік напалеонаўскага паходу 1812 года ў Расію.

[2] *Ігумен* — цяпер горад Чэрвень у Мінскай вобласці, адміністрацыйны цэнтр Чэрвеньскага раёна.

[3] *Даву Луі Нікаля* (1770—1823) — маршал Францыі, падчас кампаніі 1812 года ўзначальваў Першы корпус Вялікай Арміі Напалеона.

[4] *Панятоўскі Юзаф* (1763—1813) — маршал Францыі, пляменнік польскага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Падчас кампаніі 1812 года ўзначальваў Пяты корпус арміі французаў.

[5] *Прыборкі* — цяпер вёска Старыя Прыборкі ў Бярэзінскім раёне Мінскай вобласці.

[6] *Бялынічы* — гарадскі пасёлак у Магілёўскай вобласці, цэнтр Бялыніцкага раёна.

[7] *Баграціён Пётр Іванавіч* (1769—1812) — рускі генерал ад інфантэрыі, герой вайны 1812 года. Узначальваў 2-ю Заходнюю армію.

[8] *Ваколічная шляхта* — дробнамаёнткавая шляхта.

***Пераклад з польскай і каментарыі Сяргея ШЫДЛОЎСКАГА***

***Працяг будзе.***



# Бярозка

№ 6/2014(1033)









**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**





# Ты пішаш, што дзякуеш Богу



## Улетку

Ззяе сонейка ў блакіце,
Лашчыць промнямі зямлю.
Як прыгожа, паглядзіце!
Вельмі лета я люблю!

Кветкі луг расфарбавалі,
Лес у госці кліча...
Мы на ўзлеску назбіралі
Ягадак-сунічак....

## Рамонак і воблачка

Быў летні спякотны дзень. Па небе плыло лёгкае воблачка. Яно радавалася ўсяму, што бачыла: і рэчцы, і дзецям, і кветкам на лузе. Раптам воблачка ўбачыла на сухім узгорку маленькі рамонак. Кветачка апусціла галоўку і ледзь чутным голасам шаптала: «Піць... Піць...»

Воблачку так шкада стала гэтую маленькую кветачку, што яно ад смутку хутка пачало перетварацца ў цёмна-шэрую хмарку. А потым, спыніўшыся над сухім ўзгоркам, хмарка заплакала.

Узрадаваўся рамонак. Прыўзняў свае лісточкі ўгору, каб падзякаваць хмарцы. А яна ўжо паспела выплакаць свае слёзкі і зноў ператварылася ў белае лёгкае воблачка.

— Дзякуй за вадзічку, — прашаптаў рамонак.

— Да пабачэння, прыгожая кветачка! — адказала воблачка.

*Лізавета САЕВІЧ,*
*5 клас, гімназія № 29, Мінск*

## Рэчка

Як добра сядзець летнім днём ля рэчкі, якая блакітнай стужкай цягнецца між лугоў. Так і хочацца ступіць босай нагой у ваду, якая сустракае цябе прыемнай прахалодай. Вада такая празрыстая, што выразна бачыцца на дне кожная пясчынка, ракавінка. А зверху вакол цябе пырхаюць стракатыя верталёцікі-стракозы. Яны садзяцца на сцяблінкі траў і на хвілінку заміраюць, нібы



любуюцца сваім адлюстраваннем у рачным люстэрку. Ля берага ў вадзе сабралася стайка пужлівых малькоў. Дзе-нідзе зробіць след па рачной гладзі жук-плывунец. На хвалях пагойдваюцца сярод лапушыстых лісцяў белыя лілеі. Бліжэй да берага жаўцеюць гарлачыкі, зачапіўшыся сваімі доўгімі вяроўкамі-сцяблінкамі за глей.

Раптам бліснула срабрыстай лускою рачная рыбка. З надзеяй на ўлоў крыклівыя чайкі праімчаліся над ракой, кранаючы крылом паверхню вады.

Па блакітным небе павольна плывуць бялюткія аблокі і гэтак жа павольна плывуць іх адлюстраванні ў вадзе. Заглядвае ў раку і сонейка, а ноччу — цікаўны месяц.

Раскідзістыя вербы таксама глядзяцца ў рачное люстэрка. Хочацца зноў і зноў прыходзіць сюды, каб пакупацца, пазагараць і адпачыць.

***Валерыя КАЛАМІЕЦ,***
***5 клас, СШ № 10, Барысаў***

## Раскажу аб Беларусі

**(*Ліст да сябра, для якога Беларусь стала другой радзімай*)**



Ці лёгка быць бежанцам, дружа?
Не! Удумайся ў слова — і сцюжай,
І болем напоўніцца сэрца:
Жыццё ж нам на радасць даецца.
Ты пішаш, што дзякуеш Богу,
Які дараваў табе ласку —
Да Белай Русі шлях-дарогу.
І гэта не сон, і не казка.
Так, так: ёсць краіна на свеце,
Дзе лёгка і радасна дзецям,
Дзе смачны ёсць хлеб «Нарачанскі»,
Дзе ходзіць сам зубр пушчанскі.
А дуб-патрыярх на прадвесні
Спявае адвечную песню.

Здавён тут традыцыі маюць
І папараць-кветку шукаюць.

Ты ведаеш, нашу краіну
Чарнобыльскай хваляй накрыла?
Тут кветкі ў жалобе паніклі,
Ды ўсмешкі людскія не зніклі.
Не зніклі спагада і шчырасць,
І гумар, і добразычлівасць.
Зноў жніўныя песні гучаць,
Буслы ў свае гнёзды ляцяць...



Ты можаш спакойным быць, дружа!
Цябе не кране крыўды сцюжа.
Тут людзі стараннаю працай
Умеюць з бядою змагацца.
Квітнеюць лугі і палеткі,
Працуюць з бацькамі іх дзеткі.
Тут помняць сівых ветэранаў,
Увагаю лечаць іх раны.
А мараць аб тым беларусы,
Каб зніклі баі, launch пературсы
На ўсёй на блакітнай планеце
І дружба была б ва ўсім свеце!

*Руслан МАЛЧАНКОЎ,*
*11 клас, Вялічкавіцкая СШ,*
*Салігорскі раён*



## Аблокі

То белая вата,
То шэранькі цень...
Ляціце кудысьці
Цалюсенькі дзень.
То плачаце вы,
А то з сонцам гуляеце.
То дождж альбо снег
На зямлю дасылаеце.
Сябры вашы верныя —
Птушкі ды вецер.
Ляціце кудысьці
Вы з імі па свеце.

## Бывае час, бывае дзень...

Бывае час, бывае дзень,
Калі душу надвор'е ачышчае,
Калі павольна вечар надыходзіць,
Лісточкі не калышацца пад ветрам,
І на душы становіцца святлей...

І адступаюць тыя ўсе нязгоды,
Што ў сэрцы назбіраліся за дзень.
І хочацца зрабіць такое штосьці,
Каб людзям зажылося шчаслівей!

*Аляксандр РАДЗІХОЎСКІ,*
*8 клас, Дворнасельская СШ, Міёрскі раён.*
*Малюнкі Аксаны ЮЧКАВІЧ*

● **Погляд**

# Мінулае — памятаць, будучыню — ствараць…



Вельмі часта чую ад розных людзей, што свет дэградуе, што раней было лепей, паіншаму. Не ведаю, як было раней, але вельмі сумняваюся, што людзі гэтак хутка і рэзка змяніліся, ды яшчэ ў горшы бок. З гэтым можна і паспрачацца.

Так, свет мяняецца. Але ён не дэградуе. Ва ўсе часы былі неразумныя і неадукаваныя, грубыя, подлыя і абыякавыя да ўсяго людзі. Ва ўсе часы таксама было нямала добрых, чулых, шчырых, ветлівых, разумных, інтэлігентных людзей. Так было, так ёсць і так будзе: сто гадоў таму, у наш час, яшчэ праз сто гадоў...

Проста ўсё залежыць ад успрымання. Так ужо чалавек створаны, што ў яго памяці лепш адкладваюцца адмоўныя моманты, рысы характару, учынкі людзей. Што ж зробіш, нават матэматыка вучыць нас, што мінус на плюс дае мінус — гэтая аксіёма, на жаль, мае не толькі матэматычны, але і практычны сэнс.

Калі мы бачым вакол сябе подлых людзей, то неяк губляемся, пачынаем думаць, што ўсе людзі такія. Ды і ў мяне самой даўно склалася такое ўражанне, што добры чалавек — з’ява даволі рэдкая. Але да гэтай фразы не варта дадаваць «у нашыя дні», бо не магло такога быць, што людзі, якія жылі сто і дзвесце гадоў таму, усе былі шчаслівыя, што побач з імі былі толькі добрыя людзі, што яны адчувалі толькі станоўчыя эмоцыі. Не было такога ніколі, ды і не магло быць. Для таго каб пераканацца, дастаткова адкрыць любую добрую кнігу. Персанажы ў ёй маюць свае адмоўныя і станоўчыя якасці. Абсалютна добрыя людзі ці альтруісты сустракаюцца даволі рэдка, як у кнігах, так і ў жыцці. Не ведаю, ці было ў тыя далёкія часы чутно на кожным кроку, што свет коціцца кудысьці пад адхон.

Заўсёды знойдуцца тыя, каму ёсць з чым параўнаць сённяшняе жыццё. Частка з іх, бясспрэчна, скажа, што калісьці было лепей. У асноўным таму, што з мінулым у іх звязаны добрыя ўспаміны, дарагія ім, а штосьці новае прымаць заўсёды складана — не хочацца развітвацца з тым, што было для чалавека каштоўным. І нават калі новае будзе лепшым за старое, чалавек можа знайсці ў гэтым мінусы, калі захоча, — раскрытыкаваць, сказаць, што ўсё змянілася ў горшы бок, сапсавалася. А насамрэч усё проста стала па-іншаму, не так, як было.

Чалавек не хоча прыкмячаць плюсы, ён хоча вярнуць назад тое, што ўжо адышло ў мінулае. Але няўжо, калі вы купляеце сабе прыгожае паліто, сукенку ці якую-небудзь іншую рэч, якая вам вельмі падабаецца, вы карыстаецеся ёю ўсё жыццё, ніколі з ёй не расстаючыся?.. Вядома, гэта не так. Калі-небудзь гэтая рэч становіцца непрыдатнай, яе прыходзіцца выкінуць, купіць новую. Так, канешне, чалавек купляе сукенку самастойна, па сваім гусце, а змены ў жыцці часам адбываюцца незалежна ад яго. Але і ў гэтым выпадку трэба пачынаць з сябе. Я не хачу даваць агульнавядомыя і агульнапрынятыя парады накшталт «трэба змяняць стаўленне да свету, шукаць ва ўсім пазітыў» — усе і так разумеюць гэта. Хоць гэта карысная парада. Так, часам складана глядзець на ўсё пазітыўна, і не трэба радавацца ўсяму, што ёсць у жыцці. Але з няўдач можна здабываць досвед, а на рэчы глядзець не праз ружовыя акуляры, але і не праз шэра-карычневыя. Глядзець аб'ектыўна, нейтральна, не крытыкаваць рэзка штосьці або кагосьці. Такім чынам можна навучыцца і плюсы знаходзіць, і чужую працу паважаць...

Горш, калі людзі, не ведаючы, як было раней, кажуць, што не трэба было нічога мяняць. Яны не могуць параўнаць, яны не жылі ў той час. Але ім чамусьці здаецца, што было, бясспрэчна, лепей. Але як можна ўвогуле нічога не мяняць? Ніколі? Змены, якія адбыліся, не ўзяліся з ніадкуль. Нішто не выпадкова. Некаторыя людзі любяць негатыўна выказвацца пра гістарычныя падзеі, меркаваць, што было б, калі б тая ці іншая падзея не адбылася. А нічога б не было. Проста яна б адбылася на некалькі гадоў пазней. На год, на два, на дзесяць... Але гэта ўсё роўна здарылася б.

Вось чаму замест таго, каб асуджаць ці ўсхваляць мінулае, лепш звярнуць увагу на тое, што адбываецца сёння. Што можна зрабіць, каб было лепш? Што можа зрабіць кожны чалавек, дзеля таго, каб палепшыць сваё жыццё ці жыццё свайго народа? Не трэба заставацца ў тым, чаго ўжо не змяніць і не вярнуць. Было так, як было. Адбылося тое, што адбылося. І мы нічога з гэтым не можам зрабіць, што б мы ні казалі, як бы мы ні ўсхвалялі або ні крытыкавалі мінулае. Затое, мы можам зрабіць сваю будучыню. Збудаваць яе. А для гэтага трэба адарвацца ад мінулага. Гісторыю — памятаць. Паважаць. Прызнаваць. Не адракацца ад яе.

І ў той жа час ісці наперад.

***Алена МАРЦІНОВІЧ,***
***11 клас, СШ № 11, Мінск***

● **Конкурс**

# Казкі школьнага ранца

*Умовы абвешчаны ў вераснёўскім нумары «Бярозкі».*
*Дасылаць свае казачныя гісторыі можна на паштовы адрас:*
*220034, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыя часопіса «Маладосць»*
*(з пазнакай «Бярозка»), на электронны —*
***bjarozka@mail.ru.** альбо **maladost@bk.ru***

## Знішчаная прыгажосць



Я прачнуўся раніцай ад таго, што хтосьці казытаў мае пялёсткі. Расплюшчыўшы вочы, я ўбачыў што гэта сонейка і што расту я на невялікай лясной палянцы.

— З днём нараджэння, Рамонак! — сказала Сонейка і з гарэзлівай усмешкай памахала мне сваімі праменьчыкамі.

Дзень быў цудоўны і ўсё наваколле сустракала яго, як доўгачаканнае свята. Весела і бесклапотна спявалі птушкі. Яны ўзнімаліся ў вышыню і губляліся недзе ў бясконцым блакітным небе. Цёплы летні ветрык калыхаў верхавіны дрэў і падбадзёрваў заспаныя кусты ляшчыны, гулліва гойдаючы іх. На невялічкім узгорку казюлькі завялі дружны карагод, і толькі адны працавітыя пчолкі, нібы нічога не заўважаючы вакол, упарта працягвалі збіраць пылок і нектар. Яны пералятталі ад адной кветкі да другой і абуджалі іх сваім нечаканным наведваннем.

«Якая прыгажосць, якое хараство вакол!» — міжволі падумаў я,назіраючы, як расплюшчвалі свае заспаныя вочкі мае сяброўкі-кветачкі. Зусім побач са мной распусцілася блакітная Валошка і мы пазнаёміліся.

Раптам пачуўся нейкі дзіўны гук, і я заўважыў, як штосьці вялізнае і чырвонае імчыцца да мяне. Ад жаху я заплюшчыў вочы, а калі адважыўся іх зноўку расплюшчыць, то ўбачыў, што гэта аўтобус, які, на маё шчасце, своечасова спыніўся.

Але я зарана ўзрадваўся. З аўтобуса выбеглі дзеці, якія адразу ж пачалі скакаць, гуляць у розныя гульні. Пры гэтым яны нават не заўважалі, што змінаюць траву, наступаюць на кветкі, прыгінаючы іх да зямлі. Я з жахам чакаў, што ж будзе далей...

А далей стала яшчэ горш, бо раптам усе дзеці вырашылі назбіраць кветак для сваіх матуль і хуценька ўзяліся за справу. Кожны хацеў, каб яго букет быў самы вялікі і прыгожы, і таму ўсе дзеці, нібыта спаборнічаючы, стараліся нарваць як мага больш кветак. Некаторыя кветкі дзеці кідалі на зямлю, а замест іх ірвалі ўсё новыя і новыя…

І вось ўжо лясная паляна ператварылася ў штосьці няўяўнае. Усё хараство, якое панавала вакол так нядаўна, было знішчана. Я стаяў разгублены і больш не мог глядзець на гэты здзек над маімі сябрамі.

— Спыніцеся, людзі! — што ёсць моцы крычаў я. — Што ж вы робіце? Не губіце нас!

Але дзеці мяне не чулі. А праз імгненне я ўбачыў, як хтосьці з іх сарваў маю сяброўку Валошку для свайго букета. А потым тая ж самая рука пацягнулася да мяне і праз імгненне я ўжо нічога не бачыў і не адчуваў.

Апрытомнеў я ў вялікай шкляной вазе з вадой, дзе побач са мной сумна стаяла мноства самых разнастайных кветак. І мне таксама стала сумна, асабліва калі я не ўбачыў сярод іх сваёй сяброўкі Валошкі.

А яшчэ праз некалькі дзён вады ў вазе ўжо не засталося зусім, і кветкі пачалі засыхаць, хутка губляючы пялёсткі. А значыцца, усіх нас хутка выкінуць на сметнік.

*Дзмітрый ПРАСНЯКОЎ,*
*4 клас, СШ № 10, Барысаў*

## Пра сяброўства

Зайцы Міцька і Моцька былі сябрамі. Разам скакалі, гулялі, забаўляліся. Яны дамовіліся заўсёды сябраваць і ва ўсім дапамагаць адно аднаму.



Аднойчы яны гулялі ў хованкі. Моцька схаваўся за куст, а Міцька пайшоў яго шукаць. Раптам, адкуль ні вазьміся, выскачыў воўк і хацеў схапіць Міцьку. Перапужанае зайчаня кінулася наўцёк. Воўк за ім, вось-вось дагоніць.

— Моцька! Дапамажы! — закрычаў Міцька.

Яны абодвы ведалі, што калі другі заяц выскачыць раптам з-за куста, ён тым самым адцягне увагу ваўка, і ў іх будзе потым магчымасць уцячы.

Але Моцька спужаўся, стаіўся за кустом і не стаў дапамагаць сябру. Ледзь-ледзь удалося Міцьку ўратавацца ад ваўка і ўцячы.

Але на гэтым іх сяброўства скончылася. Чаму? Тое вы, напэўна, і самі зразумелі!

*Валерыя КАЛАМІЕЦ,*
*5 клас, СШ № 10, Барысаў*

## Самая патрэбная фарба

Аднойчы дзяўчынка Вольга вырашыла намаляваць малюнак. Яна дастала аркуш паперы і фарбы, але ў гэты момант маці папрасіла яе схадзіць у краму. Чакаюць фарбы, калі пачнуць імі маляваць, і разважаюць.

— Я намалюю зялёны луг, — сказала зялёная фарба.

— А над зялёным лугам будзе свяціць жоўтае сонейка, — прамовіла жоўтая фарба.

— Спачатку патрэбна намаляваць сіняе неба, — уступіла ў размову сіняя фарба. — А на зялёным лузе будуць прыгожа выглядаць мае званочкі.

— Не, самым яркім упрыгожаннем на лузе будуць чырвоныя суніцы, — заявіла чырвоная фарба.

Фарбы ўяўлялі сабе незвычайныя малюнкі, якія намалюе Вольга, калі прыйдзе з крамы. Але дзяўчынкі доўга не было, фарбы стаміліся і замаўчалі. У гэты час адазваўся белы аркуш паперы. І чамусьці звярнуўся ён да белай фарбы.

— А што б ты хацела намаляваць на маёй паверхні? — запытаўся ён у яе.

Белая фарба ўсміхнулася і адказала:

— Я магу намаляваць белыя рамонкі ці ландышы, белыя воблачкі ці лебедзяў.

Пачуўшы такое, усе астатнія фарбы засмяяліся. Яны не маглі зразумець, як на белай паперы можна заўважыць белую фарбу.

Белая фарба хацела нешта растлумачыць, але ў гэты час у пакой зайшла дзяўчынка Вольга.

Фарбы нецярпліва чакалі, якую з іх дзяўчынка возьме першай. Яны былі вельмі здзіўлены, калі Вольга першай узяла белую фарбу.

— Як жа добра, што ў мяне есць беленькая фарбачка, таму што для майго малюнка патрэбна шмат адценняў: і ружовы, і блакітны, і фіялетавы.

Дзяўчынка пачала змешваць фарбы: сінюю з белай для блакітнага неба, зялёную з белай для сакавітай травы, чырвоную з белай для руж.

Калі малюнак быў ужо гатовы і белай фарбы заставалася няшмат, Вольга ў свой малюнак дадала некалькі прыгожых белых рамонкаў.

З таго часу ўсе фарбы пачалі жыць-пажываць у згодзе і з павагай адносіцца адна да адной.

***Валерыя ПУЛЬКІНА,***
***5 клас, гімназія № 12, Мінск***

## Вадзяное царства

Раскажу я вам, сябры, цікавую і павучальную казку. Было гэта даўным-даўно... У тыя часы ўсе навокал сябравалі: і людзі, і звяры, і міфічныя істоты. Кожны меў сваю тэрыторыю — так званае «царства», дзе правіў самы разумны і самы справядлівы Цар. Усім жадаючым дазвалялася наведвацца ў госці ў



любое царства, але трэба было абавязкова ведаць правілы паводзін на гэтай тэрыторыі.

Так і жылі ўсе побач адзін з адным у міры і сяброўстве, прытрымліваючыся адпаведных правіл і паводзін. Але аднойчы здарылася вось што...

Зімой, калі пачалася адліга, адзін непаслухмяны хлопчык вырашыў наведаць вадзяное царства. Дарэчы, у кожным царстве былі перыяды, калі нельга было туды прыходзіць дзеля сваёй жа бяспекі. У вадзяным царстве гэта быў перыяд адлігі, калі яшчэ на вадзе ляжаў лёд, але ўжо вельмі тонкі, на яго нельга было ступаць. Бацькі хлопчыка неаднаразова пра гэта сына папярэджвалі, але той быў вельмі ўпарты і не слухаў іх.

А ў кожным царстве на перыяд «адпачынку» назначаўся дзяжурны. У гэты перыяд у вадзяным царстве быў дзяжурным вадзянік Буль. Ён і ўявіць не мог, што ў перыяд «адпачынку» ў вадзяное царства можа хтосьці завітаць. Раніцай абышоў усю тэрыторыю і са спакойнай душой лёг трошкі падрамаць.

Раптам пачуўся нейкі тупат, хруст, а затым смех. Прачнуўся вадзянік Буль і пачаў сачыць за тым, што адбываецца. А адбывалася наступнае: наш непаслухмяны хлопчык з усяго разгону забягаў на замерзлую рэчку, некалькі разоў падскокваў, затым сачыў, як трэскаецца лёд, і звонка рагатаў. Потым выбягаў на бераг і, упэўніўшыся, што нічога не здарылася, паўтараў тое ж самае. Буль, калі гэта заўважыў, увесь пасінеў ад злосці. Такога за ўсё яго жыццё ніколі не было! Што ж рабіць?! Трэба і хлопчыка ратаваць, і сон жыхароў царства аберагаць.

Зноў хлопчык з разгону забег на лёд і пачаў скакаць. Буль стараўся падстаўляць сваё плячо туды, дзе трэскаўся лёд. Ён пагражаў кулаком хлопчыку, але той нават і не думаў пра небяспеку.

І тады Буль вырашаў правучыць неслуха. У чарговы раз, калі той забег на лёд, Вадзянік не падставіў плячо — і хлопчык праваліўся. Ён клікаў на дапамогу, але, на жаль, яго ніхто не чуў. Буль ахутаў хлопчыка сваімі магутнымі хвалямі і ў знак пакарання зрабіў яго сваім прыслужнікам.

Доўга бацькі шукалі сваё дзіця, але знайсці не змаглі. Толькі вясной, калі ў вадзяным царстве скончыўся перыяд «адпачынку», малодшы брат неяк выпадкова ўбачыў пад вадой зніклага хлопчыка. Ён пабег да бацькоў і паведаміў ім пра гэта. Людзі на чале са сваім Царом прыйшлі ў вадзяное царства і расказа-



лі вадзяному Цару, што адбылося. Той выклікаў вадзяніка Буля, які ва ўсім шчыра прызнаўся. Але, нягледзячы на гэтае прызнанне, вадзяны Цар вельмі разгневаўся на Буля, выгнаў яго са службы і вярнуў людзям іх сына. Буль жа вельмі на тое пакрыўдзіўся і паабяцаў адпомсціць людзям за сваё прыніжэнне.

Кажуць, што Буль з таго часу ў самых глыбокіх месцах хаваецца. Каб яго ніхто не заўважыў, пераплывае з аднаго вадаёма ў другі і цярпліва чакае сваю ахвяру.

Дзе-нідзе знаходзяцца такія ж непаслухмяныя дзеці (ды і дарослыя таксама), якія не жадаюць прытрымлівацца правіл паводзін на вадзе, за што і плоцяць сваім жыццём. Тыя, хто стараўся дапамагчы гэтым небаракам, але не змог, казалі, што пасля таго, як ахвяра знікала пад вадой, яны чулі злавеснае: «Буль-буль-буль...»

Такая вось казка, хочаце верце, хочаце не верце... Ёсць той Буль цяпер ці няма, я не магу дакладна сказаць. Але хачу вам параіць: ведайце, што правілы паводзін на вадзе — гэта правілы нашага жыцця!!!

***Марыя ГУД,***
***8 клас, Навасельская СШ, Мінскі раён***

## Новыя прыгоды Калабка

Усе ведаюць сумную гісторыю пра бесклапотнага і даверлівага Калабка. Усе яго шкадуюць і спачуваюць. Але не ўсе ведаюць, што Лісіца Калабка не з'ела, бо ён жа выпечаны быў пасля таго, як вымелі ўсе закуткі ў клеці, а там жа смецце, рэшткі бітага шкла ляжалі. Таму Лісіца яго толькі паспытала, ды адразу ж язык сабе параніла. Выплюнула яна Калабка і пабегла далей.

Калабок пасля гэтага доўга лячыўся, але, урэшце ачуняў.

...Прайшлі гады. Калабок ажаніўся, у яго нарадзіліся дзеці. Ды ўсё не пакідала яго жаданне адпомсціць Лісіцы за яе падман. Ён жа пачаў ёй песеньку спяваць, а яна яго замест падзякі так за бок ухапіла!

Разведаў Калабок усё пра Лісіцу: дзе жыве, чым займаецца...

Нягледзячы на злосць да даўгахвостай падманшчыцы, было ў Калабка адно слабае месца: вельмі ўжо ён сваю сям'ю любіў і таму не хацеў рызыкаваць. Але, падумаўшы, што нягодная Лісіца можа гэтак жа і ягоных дзетак падмануць, Калабок усё ж адважыўся на помсту. Прабраўся аднойчы да лясной хаціны Лісіцы і хацеў яе падпаліць.

Ён ужо запалкі выцягнуў, як раптам з дальняга пакоя хаціны пачуліся дзіцячыя галасы і смех. Калабок асцярожна зазірнуў у акно і ўбачыў там двух маленькіх лісянят, якія гулялі разам са сваёй маці-Лісіцай. Раптам ён успомніў сваіх малых дзетак, якія таксама любілі гуляць і забаўляцца, і зразумеў, што не зможа зрабіць нічога кепскага гэтым бездапаможным лісянятам... ды і іх маці таксама. А яшчэ ён успомніў, што сам быў занадта даверлівы, калі скочыў Лісіцы на зубок... і выходзіць, у тым, што здарылася, ёсць і ягоная віна.

Уздыхнуўшы, Калабок схаваў запалкі і, вярнуўшыся дадому, пяшчотна прытуліў да сябе сваіх дзетак і жонку. І больш ніколі Калабок не ўспамінаў пра Лісіцу.

*Дзяніс МАСЛЯКОЎ,*
*10 клас, СШ № 2, Міёры*

## Буду жыць на Беларусі

Жыў-быў у адным з беларускіх куточкаў непаседлівы верабей Янка. Усім ён быў незадаволены, усё яму не падабалася, усё было не так.

І вось аднойчы ён сабраў вакол сябе сяброў-вераб'ёў і сказаў ім:

— Гаварылі мне, што Беларусь завецца сінявокай краінай, а чаму? На самай справе тут толькі адны балоты і больш нічога. Таму я вырашыў паляцець за мора. Там, кажуць, жыць лепш, чым тут. Калі хто хоча са мной, дык ляцім разам!

Усе вераб'і прамаўчалі, старэйшыя толькі з дакорам паківалі галовамі. І Янка паляцеў адзін.

Доўга ці каратка ляцеў ён, аднак дасягнуў той заморскай краіны. Але мясцовыя птушкі не вельмі радасна і прыветна сустрэлі вераб'я: наляцелі ўсе разам і пачалі дзяўбаць нашага падарожніка. Ледзьве ўцёк ад іх Янка. Заляцеў на высокую пальму, паміж галінкамі схаваўся і сядзіць, назірае за птушкамі. І раптам чуе:

— Сярод нас завёўся чужынец. Ён прыляцеў сюды не таму, што яму няма дзе жыць, а таму, што шукае лёгкага і прыгожага жыцця. Ён — здраднік, не месца яму сярод нас!

Пры гэтым мясцовыя птушкі кідалі такія пагрозлівыя погляды ў бок дрэва, на якім сядзеў Янка, што наш герой са страху не ведаў у які бок уцякаць. Але вырашыў ён падацца ў суседнюю краіну, потым — яшчэ ў адну... Аднак, нідзе і нікому ён быў не патрэбны, усюды ён быў чужы.

Змучаны і галодны, Янка вырашыў вярнуцца дадому. Доўга ён ляцеў і вось прыляцеў на радзіму. І што за дзіва! Бачыць наш верабей навокал прыгожыя блакітныя азёры, зялёныя абсягі лугоў, шырокія прасторы палёў, знаёмыя да болю балоты — і ўсё такое роднае, блізкае, дарагое.

«Як я мог не заўважаць прыгажосці роднага краю раней?» — са здзіўленнем падумаў Янка.

А тут падаспелі знаёмыя і сябры, якія прыветна сустрэлі нашага падарожніка і ўпэўніліся ў тым, што ён адумаўся, зразумеў, што лепш на свеце нічога няма, чым родная старонка, сінявокая прыгажуня Беларусь. А верабей Янка, вясёлы і шчаслівы, голасна паўтараў:

— Буду жыць на Беларусі і ніколі-ніколі не пакіну яе!

*Настасся ФЕДАРЭЦ,*
*7 клас, Слабадская СШ, Мядзельскі раён.*
*Малюнкі Аксаны ЮЧКАВІЧ*

● **Школа журналістыкі**

# Страх у баі знікаў



***Арляня — так называлі ў партызанскім атрадзе імя Фрунзэ брыгады імя Кірава Георгія Арлова.***

***Упершыню пра Георгія Васільевіча я даведалася ад бацькі, калі яны разам працавалі над песняй «Сойди, братишка, с пьедестала». Немагчыма абыякава аднесціся да слоў гэтай песні, напісанай Георгіем Васільевічам. 8 мая 2013 года мне давялося сустрэцца з гэтым таленавітым чалавекам. Ён вельмі добры, уважлівы і цікавы суразмоўца.***

Георгій Васільевіч нарадзіўся 19 жніўня 1924 года. Дзяцінства яго прайшло ў лясніцтве Неманіца Барысаўскага раёна Мінскай вобласці, дзе бацька працаваў ляснічым, маці — настаўніцай.

Некалькі дзён таму ў Доме ветэранаў адбылася чарговая сустрэча з Георгіем Васільевічам.

**— Якім застаўся ў вашай памяці пачатак вайны?**

— Напярэдадні я скончыў 1-ю сярэднюю школу ў Барысаве. 15-га чэрвеня адбыўся выпускны вечар. Я адправіў дакументы на паступленне ў вышэйшае ваенна-марское вучылішча ў горадзе Кранштат на штурманскае аддзяленне. І чакаў выкліку на вучобу.

Яшчэ да вайны, у 1922 годзе, бацька змайстраваў радыёпрыёмнік паводле схемы ў часопісе «Хачу ўсё ведаць». Гэта быў адзін з двух радыёпрыёмнікаў у раёне. Другі знаходзіўся ў сельсавеце. Вось з гэтага радыёпрыёмніка мы і даведаліся пра пачатак вайны.

Перад тым маці прысніўся жудасны сон: быццам яна выняла сваё сэрца з грудзей, а яно развалілася ў яе руках. Гэта яе вельмі ўсхвалявала. Яна прадчувала нейкую страшэнную падзею. І вось па радыё прагучала злавеснае слова «вайна».

Вёска наша была ў кіламетры ад шашы Мінск — Масква. І ўжо раніцай 22-га чэрвеня па гэтай дарозе рухаўся вялікі паток адступаючых нашых войск і бежанцаў. Іх бамбілі з паветра нямецкія самалёты. Калі фашысцкія снарады сталі падаць на лясніцтва, мы пайшлі ў лес, далей ад дома. Ноччу нямецкія самалёты-разведвальнікі навешвалі вялікія палымнеючыя ліхтары ў небе. Калі бамбёжка скончылася, мы вярнуліся ў лясніцтва. Тут упершыню ўбачылі немцаў. Яны ехалі ў грузавых машынах, трымаючы вінтоўкі між кален.

**— Як вы сталі партызанам?**

— Улічваючы, што мне не было васямнаццаці, у армію мяне не прызвалі. Партыйнымі органамі былі пакінуты людзі для арганізацыі партызанскага руху. Калі пачалося адступленне нашых войск, была згублена іх сувязь з цэнтрам. Старшы лейтэнант з некалькімі салдатамі часта прыходзіў да майго бацькі, каб паслухаць радыёпрыёмнік, даведацца, што робіцца на фронце і ў краіне. Бацька зрабіў вятрак і падзараджаў акумулятары для рацый партызанам.

Летам 1941 года быў арганізаваны партызанскі атрад, у складзе якога былі гэты старшы лейтэнант і яго таварышы. Мы выконвалі іх заданні: хадзілі ў Барысаў, адносілі міны, зводкі інфармбюро давераным людзям. У горадзе дзейнічала падпольная сетка. Партызаны праз наш радыёпрыёмнік прымалі радыёграмы. За слуханне радыё немцы расстрэльвалі. Таму свой радыёпрыёмнік мы хавалі ў засценак.

Калі адна з нямецкіх воінскіх частак была расквартавана ў вёсцы Неманіцы, многія яе жыхары апынуліся на вуліцы, у тым ліку і наша сям'я. Прыёмнік мы паспелі схаваць, але правады засталіся. Так фашысты здагадаліся пра нашу сувязь з партызанамі.

Мой таварыш па падпольнай рабоце Мікалай Палякоў тэрмінова паведаміў мне пра спісы, якія ён бачыў у нямецкай управе. Гэта быў пералік людзей, якія падлягалі арышту. У гэтую ж ноч 20 сямей пайшлі ў партызанскі атрад. Да гэтага мы загадзя рыхтаваліся. Напярэдадні адыходу некалькі надзейных чалавек запрасілі да сябе найбольш заўзятых паліцаяў, добра іх пачаставалі і напаілі. А мы з таварышамі тым часам вывезлі ўсю нямецкую зброю з паліцэйскага апорнага пункта ў нашай вёсцы. Гэта была вялікая дапамога для партызан, бо зброі ім не хапала.

Група партызан дапамагла нам дабрацца да базы атрада. Неманіцкія арганізавалі ў ім трэці ўзвод. Мы выконвалі баявыя заданні: хадзілі ў разведку, здзяйснялі падрыўныя работы. Вельмі дапамагла мне ў гэты час нямецкая мова, якую вывучаў у школе.

На шашы Мінск — Масква байцы нашага атрада часта рабілі засады, расстрэльвалі і падпальвалі нямецкія машыны. Да прыкладу, напярэдадні кастрычніцкіх свят, толькі за адзін дзень яны знішчылі 27 адзінак нямецкай тэхнікі.

**— Хто з вашай сям'і яшчэ ваяваў?**

— Бацька, маці, сястра пайшлі ў партызанскі атрад. Кожны дапамагаў набліжаць перамогу.

**— Якіх людзей вы сустрэлі ў партызанскім атрадзе?**

— Сумленных, адважных, упэўненых у перамозе.

У кастрычніку 1943 года ў наш атрад прыбыў вельмі таленавіты чалавек. Гэта быў беглы ваеннапалонны, мастак. Звалі яго Аляксей. Вяртаючыся з чаргова задання, у закінутай школе мы знайшлі акварэльныя фарбы. Ён вельмі ўзрадаваўся такой знаходцы і стаў маляваць усіх членаў атрада. Намаляваў і мяне. Ён мог маляваць не толькі фарбамі, але і вугалькамі ад вогнішча.

**— А раскажыце, калі ласка, пра сваё першае баявое заданне.**

— Мы са школьным таварышам атрымалі тол, замініравалі грунтовую дарогу і пашкодзілі праводку, з дапамогай якой нямецкае камандаванне звязвалася з заходнім фронтам. За гэта нам з таварышам аб'явілі падзяку з наступным прадстаўленнем да дзяржаўнай узнагароды «Партызану Вялікай Айчыннай вайны I ступені».

**— Вам было страшна?**

— Сказаць, што не страшна, — не скажу, але страшна было да першага стрэлу, а потым сам сабе не належыш, б'ешся, як і ўсе, страляеш, як і ўсе. Дзейнічаеш па абставінах. Страх у баі знікаў. Мы верылі ў перамогу. Гэта было галоўнае, што нас вяло і падтрымлівала.

**— Раскажыце пра самы шчаслівы дзень у вашым жыцці.**

— Летам 1944-га наша брыгада імя Кірава адыходзіла з баямі да возера Палік (Бярэзінскі запаведнік). Скончыліся боепрыпасы, харчаванне, медыкаменты. Нам аб'явілі: заўтра ідзём на прарыў. Але тут радыст пачуў, што пачалася аперацыя «Баграціён». Выйшлі біць немцаў, але замест гэтага сустрэліся з часцямі Чырвонай арміі. Гэта было свята.

**— Дзе для вас скончылася вайна?**

— Пасля сустрэчы з Чырвонай арміяй мы цэлы месяц ачышчалі лясы ад немцаў. Потым пешшу прайшлі ад Халопеніц праз Крупкі, Барысаў і Лошыцы ў штаб партызанскага руху. Там адбылося расфарміраванне нашага атрада і нас пачалі накіроўваць на працу. У мяне захавалася копія атэстата, і я прасіўся ў знішчальніцкае лётнае ваеннае вучылішча.

«Тэхніку любіце? — спытаў афіцэр, які вёў размову. — Будзеце працаваць на чыгунцы. Гэта загад! Зразумела? Чыгунка — гэта таксама фронт».

Бацьку прызначылі ў супрацьтанкавую артылерыю, і ён дайшоў разам з дзеючымі часцямі Чырвонай арміі да Кенігсберга. Затым быў камісаваны, служыў на франтавых аэрадромах, дэмабілізаваўся пасля Дня Перамогі.

**— Якім быў Мінск пасля вайны?**

— Мост праз раку Свіслач быў спалены. Мінск ляжаў у руінах. Ацалела толькі некалькі будынкаў, у якіх раней размяшчалася нямецкая камендатура і іншыя службы акупантаў. Мінск бамбілі два разы: першы раз — немцы ў сорак першым, другі — нашы, у сорак чацвёртым, выкурваючы захопнікаў.

**— Я ведаю, што вы з’яўляецеся салістам хору ветэранаў. Якія песні вы спяваеце?**

— Адна з іх — песня «Сойди, братишка, с пьедестала», гэта песня з майго трэцяга дыска.

**— А якія песні спявалі ў час вайны? «В землянке», «Катюшу», «Синий платочек»?**

— І іншыя. Вяртаючыся з задання, не толькі спявалі, але і танцавалі, хаця і не да танцаў было! Былі ў нас і гармонікі трафейныя. «Барыню», «Лявоніху» танцавалі, польку, вальс.

**— Пра што быў ваш першы верш?**

— Пра вайну, баі і баявых сяброў.

**— Які наказ вы маглі б даць будучым воінам?**

— Наша дзяржава робіць усе намаганні, каб пазбегнуць вайны, але паважаюць моцнага, таму трэба, каб армія была моцная і кожны чалавек у арміі быў моцным і адукаваным, быў сапраўдным воінам і па ўменні, і па духу. Вам — памятаць, паважаць, любіць сваіх бабуль і дзядуль, добра вучыцца. Ад таго, наколькі вы будзеце пісьменнымі, наколькі ўмела будзеце працаваць, залежыць багацце дзяржавы. А чым дзяржава багацейшая, тым яна мацнейшая і тым больш гарантый, што ніхто не адважыцца развязаць з намі вайну.

**— Якія ў вас творчыя планы?**

— Мне 89, але творчых планаў у мяне столькі, што хопіць яшчэ на цэлае жыццё. Працую над песняй «Учитель». Там ёсць такія словы: «Понимаешь, мама, ведь ребята — это продолжение меня». Вось такія адносіны і ў мяне да вас, маладое пакаленне. Я жадаю вам удачы, поспехаў, жыць і працаваць так, каб былі задаволены вашы бацькі, бабулі, дзядулі, якія ўсё для вас зрабілі.

***Гутарыла Лізавета САЕВІЧ,***
***вучаніца 5 класа гімназіі № 29, Мінск***



● **Зубронак**

# «Вось вам лагер "Зубраня"», вось важацкае імя!.. (+ прапанова для чытачоў і чытачак)»



Павел Пятроўскі.

Хто ён?

Адкуль?

Дзе і чаму я сустрэла яго, калі наведала «Зубронак» у адзін з тых дзён, калі вясновае сонца з усіх сіл намагалася сагнаць апошнія прыкметы — шматкі снегу.

Я прыехала тады, калі ў лагеры быў час невялікага перапынку паміж зменамі і можна было знайсці важатых у адкрытым доступе. «У адкрытым доступе» — азначала «ўжо» альбо «пакуль» не ў атачэнні дзяцей і падлеткаў.

Прайшоўшы за вароты, я змагла пранікнуць на тэрыторыю лагера «Зубронак», каб правесці там невялікае даследаванне-расследаванне. А што можна ўбачыць у лагеры тады, калі прыязджаеш не падчас змены? Каго і што?

Гэта было маё другое пранікненне на тэрыторыю «Зубронка», бо аднойчы мне давялося пранікнуць туды і затрымацца на цэлых 30 дзён верасня-кастрычніка. Хто б мог падумаць, што маё першае пранікненне ў «Зубронак», вучаніцай 7 класа адбывалася тады, калі спадкаемца з майго другога пранікнення — Павел Пятроўскі толькі распачынаў сваю кар'еру.

Вось пра гэту важацкую, а потым зразумееце, чаму «зубранёўскую», кар'еру я і хацела б вам распавесці.

Тады, падчас майго першага пранікнення ў «Зубронак», у маім яшчэ дзіцячым сэрцы нарадзілася адно пытанне, якое працягвала мучыць мяне на працягу ўсяго школьнага жыцця, потым крыху падзабылася ў студэнцкім і ўсплыло зноў, калі пайшла на прастор штодзённай працы: хто яны, тыя вясёлыя чалавечкі — важатыя, якія маюць атрады спакойных ці крыху шалёных школьнікаў, і якім чынам яны трапляюць у «Зубронак». Некаторыя на некалькі месяцаў, некаторыя на год-два, а некаторыя, як Павел Пятроўскі, і на больш доўгі перыяд?

З чаго ўсё пачыналася і як цягнецца?

Кулісы важацкага жыцця і адказ на пытанні, якія мучылі мяне ўжо 12 год, я пастаралася знайсці:

Павел Пятроўскі: «Я працаваў значны прамежак часу важатым, пакуль не стаў кіраўніком кружка па выпальванні, выпільванні і маляванні». Потым Павел дадаў, што нягледзячы на свой, ужо не важацкі ўзрост, ён выходзіць на атрад, каб не забыцца, «як яно». Хоць, канешне, важатаму са стажам хапае працы з дзецьмі, якія наведваюць яго кружок-майстэрню ў яшчэ большых колькасцях і канцэнтрацыях, чым колькасць і канцэнтрацыя аднаго атрада.

Сам жа Павел прыехаў на бераг Нарачанскага возера ў «Зубронак» са Стоўбцаў, спачатку скончыў індустрыяльна-педагагічны каледж, а потым завочна педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка.

Напэўна, яго імя вядома шматлікім дзяўчынкам і хлопчыкам, якія адпачывалі ў лагеры ўжо з 2003 года. Хто можа прызнацца, што прыязджаў у лагер, у «1-ы Лясны», бо там быў важатым не хто іншы, а Павел Пятроўскі?

Падчас размовы з ім я сама ўзгадваю тых важатых, якія верасень-кастрычнік 2003 года былі праваднікамі майго атрада і майго пранікнення на тэрыторыю лагера.

Кажу: «Людміла...»

— Прозвішча? — пытае Павел.

Я прыгадваю, як чытала імя і прозвішча на яе бэйджу, у першы дзень і дзівілася — два імені: Борыс Людміла!

Памятаю, што на той час, мая важатая вувучала псіхалогію. Узгадваюцца яе ўсмешка, ясныя вочы і тонкія вусны, падведзеныя алоўкам. Чамусьці мне менавіта гэта прыгадваецца. Чаму? Можа быць таму, што ад яго, алоўка, усмешка была вельмі выразнай і запомнілася мне назаўсёды.

Падчас размовы з Паўлам у мяне ўзнікае адна думка і пытанне-прапанова да вас, дарагія чытачы і чытачкі: вы — хто быў калісьці ў «Зубронку» — ці памятаеце сваіх важатых? А якія моманты памятаеце найбольш ярка? Цяпер менавіта той час, каб распачаць дзяліцца сваімі ўспамінамі пра сваіх важатых на старонках «Бярозкі». Пішыце, прыгадвайце імёны і дасылайце іх фотаздымкі. Пароль для пошты: «Слова для майго важатага...»

Пішыце пра іх, бо калі, як не цяпер?

Шчыра чакаем.

*Прапануе так рабіць Аксана Ючкавіч, натхнёная размовай з Паўлам Пятроўскім, пра якога, спадзяёмся, таксама з’явяцца ўспаміны на нашых старонках. Чакаем!*

***Аксана ЮЧКАВІЧ***

● **Заяўка на Парнас**

# Водар палявых кветак

***У рубрыцы друкуюцца мастацкія творы юных аўтараў. Не роздумы, не замалёўкі, не асобныя невялічкія вершыкі, а менавіта сапраўдныя мастацкія творы.***

Сёння Міхась і Ганна прачнуліся рана, каб усё прыгатаваць да прыезду любімага ўнука Сяргея, якога яны даўно не бачылі. Сяргей вучыцца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі, і ў яго так шмат спраў. Таму дадому хлопец прыязджае не так часта, як гэтага хацелася б. Праўду кажуць: «Студэнты — народ занятыя».

А тут з'явілася свабодная хвілінка, і Сяргей вырашыў завітаць да дзядулі з бабуляй.



*Малюнак Аксаны ЮЧКАВІЧ*

Пакуль Міхась тапіў печку, Ганна прыбралася ў хаце, але, гатуючы ежу, успомніла, што скончылася мука. А як жа без яе спячы пірог, які так падабаецца Сяргею ды Міхасю.

Вырашыўшы не траціць часу, Ганна хутка апранулася і накіравалася ў краму. «Мабыць, паспею да прыезду Сяргея», — падумалася ёй.

Але, як гэта не прыкра, Ганна памылілася. Бо не прайшло і пяці хвілін пасля таго, як яна адышла, а дзверы хаты шырока расчыніліся, і пачулася радаснае: «Здарова, дзед!»

Міхась жвава падхапіўся з месца, і яны з унукам моцна абняліся.

— Прывітанне, Сяргейка! Чаму не патэлефанаваў, што раней прыедзеш? — запытаўся ўзрадаваны Міхась.

— Хацеў зрабіць вам сюрпрыз. Думаю, што ў мяне атрымалася! А дзе бабуля?

— Пайшла ў магазін па муку, каб прыгатаваць які ласунак. Ды ты сядай, у нагах праўды няма!

Сяргей апусціўся на канапу, Міхась сеў побач... Сяргей расказваў, як вучыцца ва ўніверсітэце, што новага ў сталіцы, а дзед паведаміў унуку, што ў вёсцы будуюць новыя хаты, і жартаўліва адзначыў, што іхнія Капланцы хутка будуць не горшымі, чым які-небудзь горад. А можа, нават і лепшымі...

Так яны жартавалі, смяяліся, але нечакана гутарцы перашкодзіла гучная мелодыя мабільнага тэлефона.

Сяргей падскочыў, зірнуў на экран мабільніка — і ўміг пачырванеў. Потым прыклаў тэлефон да вуха і хуценька выбег у другі пакой.

— Нешта здарылася? — запытаў Міхась у Сяргея, які праз нейкі час вярнуўся радасны і зачараваны.

— Не, гэта так... Нічога асаблівага! — адказаў Сяргей і яшчэ больш пачырванеў.

— Але ж гэта «нічога асаблівага» за хвіліну так цябе ў фарбу ўвагнала! — засмяяўся Міхась.

— Дзед, ты як заўсёды са сваімі жартамі! — усміхнуўся Сяргей.

— Не крыўдуй на мяне! — паляпаў унука па плячы Міхась. — І як жа зваць тую, якая «нічога асаблівага»?

— Лена... — апусціўшы вочы, прагаварыў Сяргей. — Мы разам вучымся. І я...

Ён памаўчаў крыху і дадаў:

— І я, здаецца, вельмі кахаю яе...

— Разумею, во гляджу на цябе і сябе маладога ўспамінаю, — уздыхнуў Міхась.

— Дзед, а ты мне ніколі не расказваў пра сваё першае каханне! — Сяргей перавёў зацікаўлены позірк на твар Міхася. — А яно ж у цябе таксама было, хіба не так?

— Вядома, была і ў мяне першая любоў, як і ў кожнага з нас, — пачаў Міхась. — Мне было 16 год, калі я ўпершыню яе сустрэў. Мы вучыліся ў адной школе, але ў розных класах. Як цяпер памятаю: актавая зала. Сцэна. І яна спявае. Дзяўчынка з блакітнымі вачыма ды са светлымі валасамі. Глянуўшы на яе, я нібыта адчуў водар свежых палявых кветак. Гэта было так незвычайна для мяне, хлопца, які ніколі не надаваў значэння пачуццям, асабліва такім незвычайным.

Я вырашыў пазнаёміцца з ёй на адным з вечароў, якія адбываліся ў нашай школе. Памятаю, як запрасіў яе на павольны танец. Цудоўныя былі імгненні...

З гэтай сустрэчы ў маім жыцці ўсё перамянілася. Мы разам хадзілі ў школу, я заўсёды праводзіў яе да дома, дарыў ёй кветкі. Але аднойчы (гэта была першая зіма нашых з ёю адносін), калі я збіраўся яе правесці, яна адмовілася. Я не разумеў, думаў, што надакучыў ёй, але потым яна прызналася, што вельмі хвалявалася за мяне, бо да яе, у суседнюю вёску, шлях пралягаў праз



лес і назад мне трэба было вяртацца аднаму. Гэты клопат так мяне ўзрадаваў, што я не мог знайсці сабе месца. Я быў упэўнены, што мае пачуцці да яе былі ўзаемныя.



Гады ішлі. Пасля школы мяне забралі ў армію, а яна паступіла ва ўніверсітэт. Яна заўсёды марыла стаць настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. Памятаю, гэта быў самы цяжкі час для мяне, бо вельмі сумаваў па сваёй каханай. Я не мог пражыць і аднаго дня, каб не напісаць ёй паштоўку, не запытаць, як яе справы і не сказаць, як моцна яе кахаю.

Час, які я адбыў у арміі, яшчэ раз даў мне зразумець, што гэту дзяўчыну нельга адпускаць ні на хвіліну...

— І ты не адпусціў яе, дзядуля? — спытаў Сяргей. — Ці ўсё ж адпусціў?

— Адпусціў! — засмяяўся Міхась. — Але толькі ў краму за мукой для любімага ўнука!

Нечакана дзверы адчыніліся, і на парозе з’явілася Ганна.

— Прывітанне, унучак! А я ж думала, што паспею да твайго прыезду! — сказала яна, пераступаючы парог.

— Прывітанне, бабуля. Гэта я проста раней выехаў, каб вас парадаваць, — спахапіўся Сяргей, ускокваючы з канапы.

— А пра што вы тут гутарылі, пакуль мяне не было? — зацікавілася Ганна.

Міхась з Сяргеям па-змоўніцку перазірнуліся.

— Дзед расказваў, як упершыню адчуў водар свежых палявых кветак, — выкруціўся Сяргей.

Ганна апусціла вочы ўніз — ясная ўсмешка разумення засвяцілася на яе твары.

***Святлана ЧЫЖЫК,***
***11 клас, СШ № 3, Беразіно***





Часопіс «МАЛАДОСЦЬ»
лепш за ўсё набываць
праз падпіску —
гэта не толькі беражэ час,
але і эканоміць грошы.
Пасрэдніцтвам «Белпошты»
або пры дапамозе паслугі
«да запатрабавання»
ў крамах «Белсаюздрук»
можна падпісацца
нават на адзін нумар часопіса,
прычым, якой заўгодна колькасці
экзэмпляраў.

*Яшчэ сустрэнемся?!*



***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 56 200 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 22 900 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 71 200 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 16 200 руб.***

Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19.
Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 09.06.2014. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 14,81. Тыраж 2241 экз. Заказ 1596. Кошт нумара ў розніцу 19 100 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/106.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**